


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**2** (988)

ЛЮТЫ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2012**

# *ЗМЕСТ*


3 **Васіль МАКАРЭВІЧ. Нашчадак Машэкі.** Вершы.

11 **Уладзімір ЛІПСКІ. Ідзі і радуйся. Лісты да ўнука.** Заканчэнне.

42 **Алесь МАСАРЭНКА. ***Цемру доўжыць марозная стынь... Юшка. ***Жніўня жоўтая мройва... ***Ад раніцы... ***Воўк адчайна ўзвые ўначы... Старасць.** Вершы.

45 **Юліян ВЫСОЦКІ. Двое з пякельнага бамбардзіроўшчыка.** Дакументальная аповесць.

61 **Рагнед МАЛАХОЎСКІ. Сузор'і. Палёты ў вышынях пачуццяў. Споведзь аркушу. Блуканні. Расстанне. Пагоня.** Вершы.

66 **Янка СІПАКОЎ. Мая бібліятэка.** Кніга пра кнігі.

91 **Аркадзь ЖУРАЎЛЁЎ. Салдацкая зорачка.** Апавяданне.

96 **Уладзімір МАРОЗ. Свая філасофія вайны.** Апавяданне.

101 **Алесь МАКОЎСКІ. Акварыум.** Апавяданне.

112 **Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА. Мастацкае ўвасабленне айчыннай гісторыі ў творах канца XX стагоддзя.**

119 **Ягор КОНЕЎ. Лепшае, што дорыць нам гісторыя.**

125 **Людміла КАРПАВА. Прызнанне ў любові.**

133 **Сяргей ЧЫГРЫН. Варшаўскія пісьмы Гальяша Леўчыка.**

144 **Мікола МІКУЛІЧ. З ідэяй свабоднай дзейнасці духу.**

158 **Віктар ГАРДЗЕЙ. Лань — рака паэтычная.**

163 **Уладзімір МАСТКОЎСКІ. Ад свайго — да агульналюдскога.**

167 **Юрась МЕЛЬЧАНКА. Балючая, жорсткая праўда.**

171 **Кацярына ГІГЕВІЧ. Сваё слова дзецям і дарослым.**

175 **Генадзь АЎДЗЕЕНКА. Апантаным рыфы не страшныя.**

182 **Васіль ТКАЧОЎ. Хадзіць па іх сцежках.**





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



**Васіль МАКАРЭВІЧ**

# НАШЧАДАК МАШЭКІ

*Памяці Уладзіміра Караткевіча*

**1**

З хрушчоўскаю адлігаю
Грымелі твісты з шэйкамі.
Пад локаць хітра тоўхалі: з душы ты накіп скінь!
Хто ведаў, што лічыў сябе унукам ён Машэкавым,
Хоць жыў не ў пушчы воўчае,
А ў тлуме гарадскім?!

З гісторыяй імглістаю,
Праз безліч сіт працэджанай,
Ён знаў, напэўна, тысячы замоў і розных змоў.
Фацэтна, ладна скроенай дзесь шубаю мядзведжаю
Ў сталіцы снежнай вуліцы,
Нібыта княжыч, мёў.

Быў рад ён старадаўнасці
Скарынцы ссохлай чэрствае.
Як па сібірскім прыіску, ледзь перавёўшы дых,
Хадзіў падземнай лаўраю, той, Кіева-Пячэрскаю,
Дзе шчыра мошчам моляцца
Угоднікаў святых.

Начамі карту зорную
Чытаў з Авенам, з Вегаю,
Глядзеў на Шляху Млечнага святы іканастас.

---

*Макарэвіч Васіль Сцяпанавіч нарадзіўся 15 ліпеня 1939 года ў вёсцы Купленка Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1964). Працаваў у газеце «Чырвоная змена», на Беларускім радыё.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Вогненная камета» (1963), «Мерыдыяны і паралелі» (1966), «Ліставей» (1971), «Вечнае дрэва» (1974), «Радоўка» (1977), «Праталіна» (1983), «Відушчы посах» (1987), «Сумежжа» (1989), «Квадратура круга» (2000) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1994).*

У замках раззалочаных за брагаю з Сапегамі
Спрачаўся, нават загрудкі хапаўся,
І — не раз.

Быў хватам, апівохаю,
Любіў і жарты з кпінамі.
Ды не жадаў і слухаць ён пра модны авангард.
Цярпенне ўзяў у спадчыну ад летапісца Пімена,
Ну а ў Скарыны роднага — дапытлівасць
І гарт.

Калі вы крэмзаць хочаце,
Вам стол падайце з шафаю!
І ў крэсле ўміг патонеце, нашчадак крывічоў.
А ён у пуньцы дзядзькавай на сене том нашахае
Ды пазірае здзіўлена на горад
Рагачоў.

Хадзіў загонам аркуша
За пёркам, як за сеялкай,
Каб рунню ўсталі літары пра княствы і князёў.
Дыскутаваў, здавалася, у сеймах ды і сейміках,
І чуў з вякоў аддаленых віск
Звонкіх палазоў.

Ішоў ён у мінулае,
Па дзеі, ды не дробныя.
Да веку мог прымерацца, як трэба, і, між тым,
Блукаў ён па гісторыі, з акрасай непадробнаю.
На даты мог аперціся, як на паркан
Ці тын.

Умеў ён і прыкінуцца
То блазнам, то дуронікам,
Хоць ненавідзеў клоунаў з майстрамі паказух.
Не на кані, на восліку, ў капелюшы вандроўніка
Вярхом, як дэрвіш, трухаў ён
Дарогай на Гурзуф.

І трызнілася-снілася —
Плыла нявестай шыбельня.
Край поўніўся пажарамі і здзекам да краёў.
І ў Вільні Каліноўскаму праз лёд бліскотнай шыбіны
З палаца вузкай шабелькай
Гразіўся Мураўёў.

Дні, крыламі-качотамі
Рыпіце ўдумна, рыпайце!
Вунь бусел распранаецца ў гняздзе, хітрун-пазёр.
А ён плыве да вечнасці па нескончонай Прыпяці
З Харонам, як з напарнікам, фантаст
І фантазёр.

**2**

На лаўцы, пад бярозаю,
Усесціся б ямчэй!
Ды хоць крычы, а бронзавых
Не разгарнуць плячэй.

Ноч сыдзе і зашыецца
У травах неўпрыкмет.
Адкуль ён над Аршыцаю
Узяўся, манумент?

Хто знаў, што пад нябёсамі,
Сцадзіўшы каламуць,
У бронзу стогалосую
Па пояс закуюць?!

Устаўшы думнай глыбаю,
Пад лёгкі пошум крон
Удалеч ён заглыблена
Глядзіць, як Цыцэрон.

Каб жыў, то з жартам-звычкаю —
Навошта пахвальба? —
Паспрбаваў бы пстрычкаю
Моц бронзавага лба.

Хаця і знаўся з тостамі,
Спытаў бы ўсё адно, —
А можа, ў ранг апосталаў
Узведзен ён даўно?

Куды была абронена,
Як бліскаўка руна,
З дугі брыва іроніі
Пушынка-перына?

Агонь у светлым вырысе
Патух і не патух.
Няўжо уціхаміўыўся
Душы бунтоўны дух?

Нібыта з казнакрадамі
Не сутыкаўся, не!
І ад любові ўрадавай
Дасюль не прадыхне.

Быў талентам надзелены,
Як вечным дзівам з дзіў, —
Ды ўсё-ткі ў ненадзейныя
Залічаны хадзіў.

Пяро атрутай поячы
І ладзячы адлоў,
Штурхалі на абочыну,
Збівалі з капылоў.

І ўмела пацуковую
Схаваўшы слепату,
Ледзь толькі не нацкоўвалі:
Узяць яго! Ату!

Імчаў дарогай пыльнаю
Ці клаў на раны шво, —
А вока, больш чым пільнае,
За ім услед ішло.

Ды быў не з роду кволага, —
Не толькі знаў шарбет.
Ён гартаваўся ў полымі
Грымот і розных бед.

Эпоха — ідал з ідалаў —
Бы ў іскрах галаўню,
Яго няшчадна кідала
З далоні ў даланю.

І з бомбаваю фугаю,
Як самацвет-карал,
Вайною-цэнтрыфугаю
Шпурнула пад Урал.

І там, сярод аболтусаў,
У водблісках камет,
На шыі ў века боўтаўся,
Як матчын амулет.

Цярпення ніткай клятаю
Дні-бежанцы ўгрунём
Прарэхі бедаў латалі,
Грымелі перуном.

Вагоны вылі ўтулкамі,
У вочы дождж хвастаў.
Як толькі беспрытульнікам
У тыя дні не стаў?!

З буханкай свежай выпечкі,
Праз тысячы дымоў,
Яго цягнік на дыбачках
Сцярожка нёс дамоў.

За край, з жалейкай шчыраю,
Дзе знойдзеш лепшы, дзе?!
Ды птах, пабыўшы ў выраі,
Ці ўседзіць у гняздзе?

Па волі, пэўна, скініі
Лёс, нібы вал марскі,
То прыбіваў да Кіева,
То нёс у вір Масквы.

— Сын, дзе ты?
— Мама, тутацькі! —
Быў адгукнуцца рад.
Бязладдзе інстытуцкае!
Гарласты інтэрнат!

Не быў анёлам з крыльцамі.
А прыйдзе ноч — знарок
Ён прымаўкай акрыецца,
А злыбеду — пад бок!

Наедак — з бульбы тоўчанка,
Ды кніга, хлеб і соль.
І — ямбы ў палітончыку
З прапаленым крысом.

Калі імпэт надарыцца, —
Бы ў санках палазы,
Закруціць рыфму-ўдаліцу,
Аж крэкнуць маразы!

Хоць голад, і бясхлебіца,
І — рэшатам страха,
А слова к слову лепіцца
І да стрфы — страфа!

І дзядзіна-метафара —
Жамчужыны радня —
Узблісне, быццам амфара
З глыбінь марскога дна.

А ледзь кране паперыну
Пяро — радкі бруяць.
І з-пад яго — то перліна,
То коціцца брыльянт.

Ну а світанне роснае
Папросіць: — Фугані! —
І сцелюцца барознамі
Радкі да Ферганы.

А часам пастараецца
Адзін амаль за трох —
Трашчыць алітэрацыя,
Як прэжаны гарох.

Каб сілаю памерацца
Ці рыфмы смак спазнаць, —
Два словы абшчаперацца,
І так, што не разняць!

А ўслед не пабірахамі
Ішлі, каб весці рэй,
Анапест з амфібрахіем
І вёрткі чорт-харэй.

Калі на ногі ўсхопяцца
У яго радках грамы,
То водгулле дакоціцца
Да самай Калымы.

Пад пільнаю апекаю
Жалейкі і цымбал
Для музы, панны пекнае,
Не раз ён ладзіў баль.

Яна ж, як беспасажніца,
Так паглядзіць з-пад вей, —
У рост рвануцца саджанцы
Ці ўзвые сто завей!

Як ні глушылі фізікаў
І лірыкаў грамы,
Хоць і з аглядкай рызыка,
А клалася ў тамы.

Ён гнуўся па-над рэбусам
Жыцця з лам'ём дарог.
І знаў — баладу з эпасам
Адштукаваць бы мог.

Да мэты не аб'ездамі,
Дзе вольхі з сасняком,
А па-над самай безданню
Ён браўся праміком!

З жыццёвай куламесаю,
Па ўхабах і карчах,
Нёс сілу геркулесаву
У грудзях ды і плячах.

Пасля сустрэч з Лучосаю
І з ведуном Дняпром
Устаць мог з небачосамі
Ён да брыва брывом.

Ну а ў дзвярах павернецца,
Крутнецца убакі, —
Ажно трашчаць — паверыце? —
Стагоддзя вушакі.

Дзе ён — там і дыскусія,
Застолле з гаманой.
І кроіцца, дыскуецца
Любы падвох з маной.

А вымусіць палеміка —
Яршысты, быў гатоў
Сагнаць і з акадэмікаў
Не менш, як сто патоў.

Хто знаўся з аферысткамі
Ды слыў за мацака, —
Ён па-аршанску выспятка
Даваў без мацюка.

І падцінаў ён тыпусаў,
Тых пестуноў выгод,
Што на багемных выпасах
Пасліся кожны год.

Страхоцце бельмы вырачыць,
Ды, як герой з былін,
Каб памагчы ці выручыць,
Разбіцца мог у блін.

Хацеў з турботаў грудамі
Намацаць веку дно
І загрудкі з Бермудамі
Схапіцца заадно.

Ці справіўся б з прапашчаю
Ён прорвай сатаны?!
Ды звалі ўголас прашчуры
З далёкай даўніны.

І, ветрам веку схвошчаны
Амаль з усіх бакоў,
Ён лез у кнігасховішча —
Углыб былых вякоў.

У перуновых водблісках,
Сярод густых ільноў,
Стаялі замкі ў воблаках
Калматых туманоў.

Крычалі совы, войкалі.
Пахаджвалі звяры.
Ды каля хат, пад вокнамі,
Кружыліся віры.

Дзе час у пушчы бавілі
З дзён даўніх багуны,
Паданні, казкі баялі
Да рання байдуны.

Калі гадзінай шараю
Зарой дзень датляваў,
Каваль лясны ў вяршаліне
Сасновы ствол каваў.

Над пасекай бяздомныя
Прыпыняцца вятры:
— На мёд тут пчолы ўдойныя?
— Даюць па тры вядры!

Маліннік цвіў з ажынаю.
Дзень ззяў, нібы абраз.
І выязджаў з дружынаю
На паляванне князь.

Умеў ён пад ляшчынаю
Пень клінам расчапіць
Ды мішкі лапу ў шчыліну
Намёртва зашчаміць.

І ля смалістай просекі
Ён, звер з усіх звяроў,
Ратунку ў князя просячы,
Аж на паўсвета роў.

А ўзімку паляўнічыя
Вялі цераз масты
Абозы са здабычаю
Удоўж на тры вярсты.

І ранне, куцай выкрайкі,
Як і спакон вякоў,
Пад жарты і пад выкрыкі
Смаліла вепрукоў.

І ад шчаціны спаленай
Праз кужаль завірух
Наўпрост аж да Іспаніі
Плыў пахкі водар-дух.

І, покуль вецер лодарам
У гурбы снег змятаў,
Ён лордам ажно ў Лондане
Нос чуйна казытаў...

І недзе ля Карэлічаў,
З тых даляў ідучы,
Самога Караткевіча
Будзіў сярод начы.

Без слова аніводнага,
З душой у пісягах,
Як з бездані падводнае,
Наверх ён высягаў.

Ляцелі гусі-лебедзі
Ў край сініх васількоў.
А ён багацце ў невадзе
Цягнуў са дна вякоў.

І, ўчуўшы крык бакасавы
І пошум баравы,
Дзярзанне ўміг закасвала
Па локаць рукавы.

Сарока правакатаркай
Трашчала з году ў год,
Што стол пісьмовы — катарга
І з плахай эшафот!

А ён, няўседа колішні,
Спазнаўшы слова смак,
Аскому ледзь спатоліўшы,
Па слову зноўку смаг.

Яму, як творцу з магіяй,
Быў трэба стол з пяром,
Як для Сахары смаглае
З бруістым ліўнем гром!

Прасеку-сцежку торачы
Праз непралазь падзей,
Не знаў за мукі творчыя
Нічога саладзей.

Імчалі дні над пушчаю,
Гулі, як ветракі.
А ён пяро відушчае
Хапаў у дзве рукі.

І полем роўным белага
І аркуша, і дня
Яно імкліва бегала
З відна і да відна.

Лятала, бы з абцасікам,
Павольна, то рыўком.
Яму: — Нашто пра пасеку?
Ты лепей — пра райком!

Тамоў, як дроў паленніца,
Пад срэбрам абразоў.
Яму: — Ты нам пра ленінцаў!
А неслух — пра князёў!

Ды з мінаю упартаю
Чаляднік-славаблуд:
— Ты адштукуй пра партыю!
А ён — пра дворны люд!

На сцэну часам рынуцца,
Галёкаюць з трыбун.
А творчасць хіба рымарства,
А не спрадвечны бунт?

Ці ж за смугі заслонаю
Не ўгледзіць неўспадзеў,
Як век на век наслоены
З гармідарам падзей?!

Хоць і абыдзен званнямі,
Шмат зведаў грымакоў, —
А стол яго завалены
Раллёй чарнавікоў.

Пад зорнаю галактыкай,
Крануты сівізной,
Як прагнуў ён рамантыкі
І навізны зямной!

На голас птушкі пеўчае
Аксціўшыся як след,
Хацеў, як у капейчыну,
Пусціцца ў белы свет.

А свет з густымі ліўнямі,
Са звонам капяжоў
Ды з казкай і былінаю
Сам да яго ішоў.

Тут жарты з закідонамі,
Там горны край, бы рай, —
З арламі Македонія
Ды з вежамі Тракай.

Дні ходзікамі чэкалі,
Дыміў, гарчыў кальян.
Насустрач бегла Чэхія,
То Ціхі акіян.

Цераз нябёс імперыю
На авія-крыле
Прыносілі прапелеры
І пах з Па-дэ-Кале.

І днём, што, як настурцыя,
Ад краю ў край палаў,
Вятрыска ажно з Турцыі
У фортку заплываў.

Снягі з нябёсаў падалі,
Мароз, як дзед, крактаў,
Калі Скарына з Падуяй,
Як земляка, вітаў.

Спяшалі піхтаў скопішчы
І плынь рабой Югры…
Хто ведаў, што хваробішча
Хадзіла па двары?

І замест даляў з высямі
Ды з ружамі вятроў, —
Палата ў лечкамісіі
І плойма дактароў!

Да музы ён прытуліцца,
Маўчыць, нібы сцяна.
Хто вінават? Пітуліца!
А хто ж яшчэ? Яна!

Хоць дактарам усё-такі
Ён верыў, што багам,
Ды, як мядзведзь, употайкі
Ад іх дамоў збягаў.

А ўслед — паштовак рэзгіны
І просьба: — Не забудзь! —
Тут у сяброў на хрэсьбінах,
Там у гасцях пабудзь!

А за сталом без хітрыкаў
З кілішка, бы кунак,
Каўказскай даўняй вытрымкі
Падміргвае каньяк.

Душа, хоць і абвуглена, —
Жыві і не гавей!
А там і дата круглая —
Уласны юбілей!..

Пакуль прамоўцы штатныя
Грымяць, таўкуць ваду,
У воплескаў пад шатамі
Стой слупам на віду!

І слухай, як па звычаі
Вучоныя кіты
У класікі залічвалі,
Падносілі кветы!

Ішоў ён, надакучлівы
Скразны афіцыёз, —
Як бульбы корч, акучвалі,
Ўзнімалі да нябёс.

І, як у роднай курыі,
Дзе ні раўоў, ні ям,
Са славай, нібы з фурыяй,
Курылі фіміям.

І пад далоняў ляскaнне
Узблісне назнарок
І, як лісток, на лацкане
Прысядзе ардэнок.

А ўслед за пастаральнаю
Ідыліяй кругом —
Застолле рэстаранная,
Банкетны гул і гром.

І над смакоцця грудамі
З гасціннай калядой
Вясёлы чмут арудаваў
Застольным тамадой.

Такія меў амбіцыі,
Што часам пад «ура»
Мог напаказ ён выцадзіць
Не менш, чым паўвядра.

Ды меў ён, ліха матары,
Дармо што малады,
І хітрасць дыпламатыі
І лоўкасць тамады.

Рэй вёў, як воз нагружаны
Каціў праз гаць наўпрост.
Галёкаў глоткай луджанай
За тостам новы тост.

І вечар гэткі выдаўся —
У круг, як на пажар,
І сам рашуча кідаўся
Шаноўны юбіляр.

Рукамі, нібы пудзіла,
Махаў адно як дуж.
А пад нагамі пудзелем
Круціўся капялюш.

Каля яго, няўклюднага,
Бачком ішоў, бачком.
Ды сярод віру люднага
Кружыўся ён ваўчком.

— Вазьму рукамі голымі! —
І з крэсла, быццам туз,
Нібы з агню ды ў полымя,
Ішоў і зух-картуз.

І з сілай нерастрачанай,
Бы ў крыгаход рака,
Гула, вірыла, танчыла
Людская талака.

І моўчкі, нібы змоўшчыкі,
Падлогу таўкучы,
Хадзілі лакіроўшчыкі
І проста рыфмачы.

Хоць і знаёмцы даўнія, —
Вазьмі ды разбяры,
Дзе дружбакі адданыя,
А дзе ілжэсябры!

І з горкаю пітуліцай
Ён, танец-ягамосць,
Выкочваўся на вуліцу,
А з ім — і весялосць!

І да Палесся, ў прынцыпе,
Было падаць рукой.
А там вандроўка Прыпяццю —
Лясістаю ракой.

І каля яблынь з вішнямі
Браў вышай і далей!
І, пэўна, дзесь і выйшаў ён
Пад зорны Вадалей.

І з вераю бязмернаю
Да чыстых зор прыпаў.
І там, дзе паралельныя
Сусветы, знік, прапаў.

Душа яго відушчая
Ў бязмежжы неўпрыкмет
Злілася ўмомант з душамі,
Што трапілі ў сусвет…

А на зямлі з эпохаю
Бяда, то зноў канфуз —
Чарнобыль з катастрофаю,
Развалены Саюз.

Хоць і сярпы зубіліся,
А гэткі час прыйшоў, —
Імя ледзь не згубілася —
Ні кніг, ні тыражоў!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Край зазвінеў асокамі
З лісцём, бо нездарма
З трыбуны найвысокае
Назвалася імя.

З чаротаў верацёнамі,
Здаецца, хвіляй той
Было і асвянцонае
Яно вадой святой.

І над разлогам высмаглым
І сотняй розных рэк
Ён аж па грудзі высягнуў
У наш акрутны век.

Глядзіце — можа, містыка? —
Вунь цягнецца рука,
Каб адшчыкнуць паўлісціка
З ягонага вянка.

Студэнты з бакалаўрамі
Вакол — як гурт братоў.
Вянок чыгунны з лаўрамі
Ён ім аддаць гатоў.

Былыя аднакласнікі
Глядзяць з-пад голля дрэў, —
Што ні радок, то — класіка,
І што ні твор — шэдэўр!

І ратай гэтай знакавай,
Нібыта з-пад грамоў,
Бач, узыходзяць замкамі
Аж дваццаць пяць тамоў!

Ім з сілаю падступнаю
Пад крыламі буслоў
Прываражыць наступнікаў
Магічным кодам слоў!

А нам дзівіцца з помніка,
Што ўстаў і — дзецюком
Плынь веку як супольніка
Вунь рэжа плечуком.



Уладзімір ЛІПСКІ

# ІДЗІ І РАДУЙСЯ

*Лісты да ўнука*[1]
*(год трэці)*

**71**

Анатоль Леанідавіч!

Першую ноч на трэці год ты праспаў на дачы, у нашым сельскім доміку. Можа, у цябе некалі будуць шыкоўныя апартаменты, а ў нас усё сціпла. Але я вельмі люблю гэты лапік зямлі і жоўта-зялёную хатку, якую некалі перавёз сюды ажно са старажытнага Полацка. Падобна, што і табе тут люба, прывольна, утульна.

Як толькі прачнуўся, мама прыадзела цябе па-летняму, і ты пакрочыў на вуліцу. А там — агарод, кветкі, яблыкі, гушкалка, кусты парэчак, градка суніц, ветрачок, сажалка і машына, ключы ад якой табе давяраюць. Усё гэта ты па-гаспадарску агледзеў, абхадзіў. Бачыў бы ты свае вочы і твар. У іх, як на экране камп'ютара, высвечваецца твой сайт настрою. А ён — акрылены, нахтнёны, узвышаны і вельмі ж сонечны, як і сам летні дзень 3 ліпеня.

Так здарылася, што ў той жа дзень, у другой яго палове, я прагульваўся па парку Горкага, па цэнтральным праспекце Мінска. Людзі дагульвалі Дзень Незалежнасці. Пілі піва, жмакалі шашлыкі, спрабавалі танцаваць, лянiва слухалі песні самадзейных артыстаў. Бачыў і ўсмешкі, і святочныя ўборы, і сямейныя застоллі, і прынародныя пацалункі юных закаханцаў. Толькі не давялося, Толік, убачыць такіх вачэй, такога твару, як у цябе. Позіркі ў людзей нейкія шараватыя, стомленыя, сытыя. Няма ў іх тваёй зіхатлівасці, твайго шчырага захаплення ўсім-усім, з чаго складваецца наваколле.

Мне хацелася прыпыняць гулякаў і кідаць ім выратавальны круг:

— Будзьце, як Дзеці!.. Вучыцеся святкаваць дні жыцця, як гэта робіць Толік!.. Пазірайце на свет вачыма адкрывальніка!..

Бачыш, Толік, табой павучаю людзей. Дык жа заставайся іскрыстым і на ўсе наступныя гады!..

*Твой верны сябар*
*03.07.2007 г. (нядзеля)*

---

[1] Заканчэнне. Пачатак у № 5, 2010 г., № 1, 2012 г.

**72**

Дарагі мой унук!

Мы зноў з табой на адлегласці. Ты — у Мінску, я — на Віцебшчыне, у санаторыі. Вакол мяне чароўная аўра: два вялізныя возеры, саснова-бярозавы лес, ролерная дарожка, на якой катаюся на веласіпедзе. Кормяць сытна, робяць масаж, вакол цішыня.

Што яшчэ трэба для адпачынку?

А каб жа і на душы было спакойна! Стараюся ўсцешыць сябе, што не пакінуў даўгоў ні ў «Вясёлцы», ні ў начальнікаў, ні дома. Але поўнага спакою ўсё роўна няма.

Вось сёння сёмае чысло. Сёмы месяц. І год сёмы. Тры сямёркі вызначаюць новы Божы дзень. Гэткае супадзенне рэдкаснае, адзін раз у сто гадоў. Нейкі знак Неба, бо лічба сем, лічаць астролагі і навукоўцы, па энергетыцы самая моцная, нездарма, відаць, тыдзень утвораны з сямі дзён. Столькі часу Бог ствараў Зямлю з усім жывым на ёй. З сямі зор зіхаціць на небе сузор'е Вялікай Мядзведзіцы. Што яшчэ? 7 студзеня — Раство Хрыстова, 7 красавіка — Благавешчанне, 7 ліпеня — Раство Іаана Прадцечы, Купалле.

Усе чакаюць, што сёння адбудзецца нешта неардынарнае: цуд ці катастрофа, страта ці прыбытак, радасць ці смутак.

Чым жа стаўся гэты дзень у прыродзе і свеце?

Было холадна. Неба хмурнае. Зранку да вечара нудзіў дождж. На маёй Гомельшчыне буяніў вецер. Паваляў высакавольткі. Без электрычнасці засталіся 99 вёсак, 33 фермы. І каля нашага санаторыя маланка ляснула ў бярозу. Аблупіла з яе бела-чорны «сарафан» і месцамі парасколвала «тулава». Мы чулі гэту грымоту, паўскоквалі, як перад канцом свету, давай выцягваць штэпселі з разетак, закрываць форткі, адключаць мабільнікі…

У гэты дзень грымелі баявыя снарады і кулі ў Іраку, Палесціне, Пакістане, Афганістане. У аўтакатастрофе пад Талачыном загінулі чатыры чалавекі, двое з іх — дзеці. У Віцебску людзі гуляюць на «Славянскім базары». У Гомелі «адкрылі» мільярдэра. За мінулы год ён «зарабіў» 21 мільярд беларускіх рублёў…

У Полацку людзі гадзінамі выстойвалі ў чарзе, каб на секунду дачыркнуцца да найвялікшай святыні — Каўчэга з чэснай главой святога апостала евангеліста Лукі.

А па ўсёй Беларусі святкавалі юбілей Янкі Купалы. Яму было б сёння 125 гадоў. Чым далей час аддаляе нас ад яго, тым бліжэй, радней ён нам, тым больш высвечваецца яго прароцтва, геніяльнасць і вернасць радзіме.

Янка Купала не проста сын сваіх бацькоў, а сын Беларусі. І ён гэтага звання дасягнуў сам, сваёй творчасцю, сваім жыццём. Дык давай, Толік, раўняцца на Янку Купалу. Не будзем чакаць міласці ад прыроды, не будзем схіляцца перад магічнымі лічбамі, а хаця б нават перад трыма сямёркамі. Давай, Талян, вучыся рабіць цуды сам. Толькі перад тым, як нешта важнае вырашыш, сем разоў адмерай, сем разоў узваж, а адзін раз адрэж. І толькі тады ўсё будзе добра: і ў дзень буянны, і ў дзень сонечны, і ў дзень з трыма сямёркамі, і ў дзень радавы. У прыроды няма дрэннага надвор'я. Хай жа ўсе Божыя дзянькі будуць табе ў радасць.

*Твой дзед — Уладзімір Ліпскі*
*07.07.2007 г. (субота)*

## 73

Дарагі Толік!

Звоніць мне твая мама. Голас у яе звонкі, малады. Як бы з космасу:

— Дзядуля, твой унук толькі што злавіў карасіка!..

— Дзе гэта адбылося?

— Пад Мінскам, на копанцы, у накірунку Ракава…

— Як жа гэта адбылося?

— Выехалі з горада адпачыць. Лёня закінуў сваю вуду. І Толіку маленькую даў патрымаць. Толікаў паплавок «клюнуў», ён шмаргануў вуду, а там… карасік.

Навіна прыляцела да мяне на возера Бобрыца, пад Лепель. Я сяджу ў лодцы, заякараны, у вадзе — дзве вуды, а клёву няма.

От, Толік, абскакаў дзеда-рыбака!

Віншую цябе з удачай. Гатоў крычаць на ўсё вялізнае возера, што прыедзе сюды некалі мой Толік і вам, рыбам-фанабэрам, будзе хана. О, здаецца, дайшла мая пагроза да вадзяных насельнікаў. Паплавок мой пайшоў пад ваду. Сэрца ёкнула. Цягну леску ўверх. На кручку — акунёк.

Рыбацкае шчасце ўсміхнулася і мне.

Давай, Толік, навучымся лавіць удачу. Яна такая ж рэдкая і вёрткая, як і рыбка ў азёрнай прасторы. Не ведаеш, дзе яна жыве, на якой глыбіні, але прагнае жаданне і нястомны пошук заарканьваюць на кручок і вёрткіх плавуноў. Давай будзем настырнымі на шляху да ўдачы.

*Твой дзед — Уладзімір Ліпскі*
*11.07.2007 г. (серада)*

## 74

Цікаўны мой!

У мінулым пісьме я нагадаў табе пра ўдачу. І хочацца прадоўжыць размову пра гэту загадкавую штуку.

Удачы бываюць розныя.

Выцягнуў шчупака з возера і радуйся ўдачы і хваліся ўсім, як табе пашанцавала аднойчы.

Купіў білет на перадачу «Ваша лато» і выйграў машыну. О, барометр радасці зашкальвае!

«От удачна з’ездзіла ў Слуцк, — хвалілася некалі мая цешча. — І парася купіла, і Вольку Хведзькаву пабачыла…»

У бацькі майго быў удачлівы дзень, калі ён выгадна прадаваў зробленую бочку ці цэбар, калі знаходзіў у лесе клёнік для палазоў, калі смаліў і свежаваў парсюка-ўкормыша.

Кожны чалавек можа назваць сваю ўдачу: выгадна жаніўся ці ўдала развёўся, знайшоў грашовую службу ці пабачыў егіпецкія піраміды, набыў жаданае футра ці збудаваў хату...

Але далёка не кожны на схіле гадоў можа прызнацца, што яго жыццё было ўдачлівым. Дык што ж гэта такое жыццё-ўдача?

Вось сёння газета «Звязда» ў рубрыцы «Даты» паведаміла, што сто гадоў да нашай эры нарадзіўся Гай Юлій Цэзар. Прыкінь, Толік, калі жыў гэты чалавек, колькі зменаў перабачыў свет, а нам, беларусам, цікава ведаць пра стваральніка Рымскай імперыі. Вырасцеш, абавязкова зацікаўся гэтай асобай.

Той Юлій Цэзар кожнага інтрыгуе сваёй эрудыцыяй, энергіяй, выхаванасцю і тым асабістым укладам у росквіт і магутнасць сваёй радзімы. Далёка не пра кожнага кіраўніка нацыі захоўваецца такая трывалая і паважлівая памяць.

Мяне ж асабліва кранае, што Цэзар упэўнена ішоў да вяршынь чалавечай дасканаласці, праз вывучэнне літаратуры, філасофіі, гісторыі і красамоўства. Дык вунь якія прадметы вывелі Юлія Цэзара да бессмяроцця. Яго жыццё з поўным правам можна назваць удачлівым. І найперш таму, што праз дзве тысячы гадоў мы помнім яго самога, яго справы, яго імянінны дзень.

Рабі дабро, унук, для бацькоў, для людзей, для сваёй Айчыны, і ўсе яны абавязкова прыкмецяць цябе, і ты ўзрадуешся пражытымі гадамі. Гэта гаворыць табе дзед, які стартаваў з ціхай шоўкаўскай хаты і якога цяпер крыху ведае ўся Беларусь. Гэтым тайна цешуся і нястомна муштрую сябе.

Бачыш, Толік, сапраўдныя ўдачы наведваюць чалавека толькі праз яго пот і бяссонне, любоў і каханне, веру і духоўнасць.

Пакуль што ты на правільнай дарозе. Ідзі і далей па жыцці з радасцю!

*Твой дабрадзей — Уладзімір Ліпскі*
*13.07.2007 г. (пятніца)*

**75**

Мой забаўны мужычок-з-нагаток!

Пазіраю ў акно.

Тры сасны і бяроза ўтыркаюцца ў блакітны парасон неба. Сосны, як антэны, вострымі верхавінамі хочуць лавіць касмічныя тайны. А бяроза галінамі-косамі ўзіраецца ў зялёны дол.

Соснам цікава, куды плывуць-спяшаюцца аблокі з белай воўны, хто іх запусціў у далёкую вандроўку, што іх чакае ў дарозе, дзе іхні прычал?

У бярозы, здаецца, свой розум: што людзі шукаюць каля яе каранёў, грыбы ці ягады, колькі доўжыцца ландышавая паляна, якая пачынаецца пад яе «нагамі», як жывецца яе сяброўкам на беразе суседняга возера Шчыбет?

Зямля і неба. Яны па-рознаму таямнічыя, па-свойму заманлівыя. І для дрэў. І для людзей.

Пра гэта падумаў, пра гэта захацелася напісаць табе, Толік. Ты ад мяне цяпер далекавата, але сотавы тэлефон злучае нас, як бы арганізоўвае жывыя спатканні.

Іду па лесе і чую ў трубцы мелодыю твайго голасу. Праразаецца ў цябе басавітасць, з’яўляецца ўпэўненасць у голасе. І я бязмежна рады: уздымаецца сапраўдны мужык, волат, сілач. Гэта пацвярджае і мама:

— Ездзілі ў клініку. У Толіка бралі аналіз крыві з пальчыка.

— Плакаў? — перабіваю яе аповед.

— Ты што?.. Нават не ўздрыгнуў… Толькі здзівіўся, што з яго пальчыка цёця нешта чырвонае забірае…

Правільна, Талян, нам, мужыкам, слёзы не да гонару. Часцей узірайся ў неба, умей усё бачыць пад нагамі, і табе адкрыюцца тайны жыццёвыя. І ты зразумееш, чаму слёзы бываюць салодкімі і горкімі, як плачуць кракадзілы, бабры, людзі, чаму Масква слязам не верыць.

Табе, Толік, пракалолі тонкай іголкай пальчык. У цябе бралі кроў для аналізу. Прызнаюся, я, дарослы, калі мне такое робяць, кожным разам напружваюся, страшуся, хочацца ўскрыкнуць. А ты разглядваў свой паранены пальчык, дзівіўся, што робіць медсястра.

Хай жа твайго цярпення хопіць на ўсе жыццёвыя выпрабаванні. Вучыся ва ўсім у прыроды. Бяры прыклад з антэнных сосен, якія пры любых вятрах узіраюцца ў неба. Вучыся ў бярозак з зялёнымі косамі, якія нястомна наталяюцца зямным хараством.

*Твой дзед — Уладзімір Ліпскі*
*19.07.2007г. (чацвер. Лепель)*

**76**

Толік!

Называю цябе «дарагім», «слаўным», «мілым» унукам. А якім жа ты вырасцеш, якім станеш?

Чытаю ў «Звяздзе» крымінал: унук забіў дзеда, унук абакраў бабулю. Суседскі ўнук па дачы крычыць на бабу. Хто яму даў права павышаць голас на тую жанчыну, якая падаравала яму маму?

Сяджу каля кветніка, каля прыроднай прыгажосці, а думкі стукаюцца трывожныя і насцярожаныя. Мы з надзеяй ідзём у заўтра. Мы з верай пазіраем на ўнукаў. А гэтыя вера і надзея як бы з прыгожага шкла. Тое шкло можа вечна служыць у аконнай раме. А можа быць разбітым ад ветру, ад нязгрэбы-чалавека, ад нечаканай выпадковасці.

Як жа хочацца, Толік, каб ты спраўдзіў нашу веру і надзею. Гатоў гэта паўтараць у кожным сваім пісьме. Пакуль ты радуеш усіх нас. Расцеш паслухмяным, хочаш усё пазнаць і ведаць.

Сёння ты адкрываў для сябе дзіва прыроды: як цвітуць і завязваюцца маленькія гурочкі, чаму на адной сцябліне ёсць зялёныя і чырвоныя памідоры, адкуль на кветках жывыя матылькі, чаму без вады рыбка пазяхае?

А ведаеш, Толік, дзеці могуць быць і вялікімі, унікальнымі адкрывальнікамі. Вось газеты разнеслі вестку пра хлопчыка Андрэйку Хлопіна з Краснадарскага краю. Ён патлумачыў дарослым, чаму ноччу на небе з'яўляюцца «срабрыстыя воблакі». Ён здагадаўся, што на вялікай вышыні ўся вільгаць ператвараецца ў ледзяныя крышталікі. Яны і адлюстроўваюць святло. Над гэтай загадкай вучоныя ламалі галаву 150 гадоў. Яе разгадаў дзесяцігадовы хлопчык Андрэйка. Яго навуковую гіпотэзу занеслі ў Кнігу рэкордаў Гінеса. Так што, дружок, рыхтуй сябе да вялікіх адкрыццяў. І ведай, што гэта можа здарыцца не ў сталасці, а ўжо заўтра.

А сёння мы правялі з табой урок малявання. Ты размашыста накалякаў розных рысачак. Я супыніў твой імпэт мадэрніста і пачаў цярпліва паказваць, як малюецца чалавечак. І ты задумаўся. Вывеў крываваты авал, падобны на галаву, паставіў у ім рысачкі-вочкі. І ў самога цябе загарэліся вочы, бо пачаў тварыць.

Во, Толік, што самае галоўнае для чалавека, каб адчуў, што ён тварэц. Хай сабе ў самым маленькім, але тварэц, стваральнік, адкрывальнік. А гэта і ёсць яго крылы. Дык хай жа з дня ў дзень мацнеюць твае жыццёвыя крылы. Рабі ўсё новыя крокі. Радуйся сам. І радуй нас.

*Твой дзед-падказчык — Уладзімір Ліпскі*
*29.07.2007 г. (нядзеля)*

**77**

Дарагі Толік!

Пашчасціла ўбачыць узыход сонца. І ў гэты ж дзень мілаваўся поўнай вясёлкай на ўсё неба. Відаць, болей прыгажэйшых цудаў у прыродзе няма, чым узыход сонца і вясёлка на небе.

На сонца, мой сябар, трэба ўсім нам раўняцца. Яно — нястомны працаголік. Што б ні здарылася на нашай Зямлі — войны ці пажары, цунамі ці землятрусы, вывяржэнне вулканаў ці спаўзанне лавы снегу з гор — сонца заўжды на сваім пасту. Яно ўзыходзіць, пасылае на зямлю свае промні і заходзіць, дае людзям адпачыць. Мы яго не заўсёды бачым, а яно — пастаянны вартаўнік неба. Заўсёды на вахце, на працы.

Мне часам здаецца, што сонца і ёсць наш Бог. Яно роўнае для ўсіх. Яно хоча аблашчыць кожнага, але не кожнаму яе даброты для лагоды. Як і Божая ласка, не на карысць грахоўнікам.

Толькі ніколі, мой унук, не ўздумай узяць у галаву, што ты можаш стаць зямным сонцам. Такіх дурняў ужо колькі было-перабыло. Сярод іх — цары і манархі, генералісімусы і прэзідэнты. Не буду іх называць, вырасцеш, сам даведаешся. Толькі зразумей іх памылку. Чым вышэй яны ўздымаліся па лесвіцы кар’еры, чым больш верылі ў сваё праведнае княжанне, у сваё панства над людзьмі і іх лёсамі, тым большы недавер яны выклікалі ў Бога і Сонца.

Ёсць старажытная легенда, як людзі ўздумалі збудаваць лесвіцу на неба. Ужо, здаецца, вось-вось маглі зазірнуць у недасягальнае царства, але раптам тая лесвіца рухнула. І майстры ад сполаху пачалі гаварыць на розных мовах. А паколькі яны перасталі разумець адзін аднаго, то і не змаглі будаваць новую дарогу да неба. Туды, як я разумею, пракладвае шлях толькі наша душа. Вось пра яе выхаванне, Толік, і трэба старацца.

Во якія думкі ўзварушылі ўва мне сённяшнія ўзыход сонца і вясёлка на небе. Аб чым я і паспяшаўся напісаць табе. Заставайся здаровенькім і целам, і душой.

*Твой дзед — Уладзімір Ліпскі*
*01.08.2007 г. (серада)*

**78**

Мой нашчадак!

Табе ў спадчыну падрыхтаваны лёсы тысяч Ліпскіх розных пакаленняў. Разбярыся з імі. Выберы сабе ўсё самае лепшае з іх характараў, прынцыпаў, мудрасці.

Табе ў спадчыну — уся гісторыя Зямлі, усе краіны свету. Бяры! Спасцігай! Карыстайся!

Табе ў дар і ўсе трагедыі, якія адбыліся з таго часу, калі людзі абжылі сваю планету.

Сёння каляндар нагадвае, што такім жа днём, 9 жніўня 1945 года, амерыканскі лётчык скінуў атамную бомбу на японскі горад Нагасакі. Уяўляеш, Толік, мамы люлялі дзетак, каханыя цалаваліся, дарослыя адпачывалі ці працавалі, а ў гэты міг па волі вар’ятаў на іх галовы ляцеў «гасцінец». Ад яго ў горадзе, у радыусе 12 квадратных кіламетраў, былі разбураны ўсе будынкі. Тэмпература ўзнялася да пяці тысяч градусаў. Імгненна загінулі трыста тысяч бязвінных людзей, а яшчэ дзвесце тысяч атрымалі раненні, апёкі, апраменьванне.

Вось гэту трагедыю ты таксама атрымліваеш у спадчыну. Як і наш Чарнобыль, і асушаныя балоты, і прамысловыя трубы-капцілкі, і армію дзяцей-сірот, і родную мову-сіротку…

Ох, дружок, зноў пачаў цябе запалохваць. Успрымай маю трывогу з аптымізмам. Ты, ведай, ідзеш у свет са сваёй місіяй. Калі не перакуліш яго, то хаця б па-добраму «наслядзі» ў ім, каб Анатоля Леанідавіча Ліпскага помнілі і шанавалі.

Пакуль жа ты прыгожа, з гумарам уваходзіш у жыццё. Вось толькі што пакляпаў па клавішах камп'ютара, узяў «мышку», як тэлефонную трубку, паднёс да вуха і сказаў:

— Да!.. Да!.. Да!..

Некаму даў знаць, што на экране «ма», няма карцінак, што вы, маўляў, партачы, не паказваеце нічога.

Пачуў на вуліцы гуд матацыкла, прыпыніўся, падняў угору пальчык і патлумачыў мне:

— Там!.. Мананан!..

Не можаш выгаварыць «каша», якую ўжываеш штодня. Не адолееш «сок», які хлебчаш са сваёй кружкі. З двума вушкамі. Цяжкія для цябе словы «хлеб, «малако», «суп». А вось «мананан» — жадаемае і вымаўляемае.

Падпісваю табе, Толік, сваю новую кнігу «Прыгоды Нуліка». Спасцігай новыя словы роднай мовы. Жадаю табе казачных прыгод, дзівосных адкрыццяў, натхнёных крылаў у зямным раі.

*Твой сябар — Уладзімір Ліпскі*
*09.08.2007 г. (чацвер)*

**79**

Даражэнькі Толюсь!

Хто б падумаў, што мы сустрэнемся з табой у бальніцы. Сазвоньваліся. Ты ў тэлефонную трубу расказваў мне пра сваё жыццё. Твае кароткія словы гаварылі пра многае: «Да…Не…Ма…Там…» Твая размова перабівалася кашлікам. Вось ён і давёў цябе да бальніцы.

Еду па Мінску, вязу табе цёплы супчык, сырнікі, «ананы» і машынку. Сэрца стогне ад несправядлівасці: чаму павінны хварэць дзеці? Божа, уратуй іх ад балячак, дай стаць на ногі, узмацні іх.

Выходзіш ты з мамай да мяне на спатканне. Калідор шырокі, пустынны. Ты скачаш, як конік на лузе. Смешна атрымліваецца: адну ножку падымаеш угору, а другую як бы падцягваеш. Скок ды скок — і глухое рэха разносіцца па бальнічным калідоры. Такое ўражанне, што табе ўсё роўна дзе быць, абы побач была мама. Разумею цябе, дружок, і вельмі зайздрошчу. І радуйся, што твая мама Марына ўсё болей становіцца падобнай на маю маму Марыю.

Па бальнічнай канапе ты пачаў «ездзіць» на машынцы і гудзець. І раптам да мяне дайшло, што ты гуляеш не для сябе, а забаўляеш мяне. Весяліш мяне. І скакаў ты па калідоры для мяне. Дык вунь які ты разумнік! Суцешваў мяне: усё будзе добра, дзядуля, не хвалюйся!..

Мы развіталіся. Я выйшаў на вуліцу. Неба высокае. Дрэвы паціху апранаюцца ў восеньскі ўбор. Свеціць сонейка. Госпад мілы, чаму хварэюць дзеці?

Тры дні запар шнураваў са свайго дому ў бальніцу на вуліцу Якубоўскага. Адтуль ехаў у Сухарава наведаць Машу. Яна не ходзіць у школу, таксама пра-

студжаная. З ёй мы ўжо гаварылі на дарослыя тэмы: урокі, сэмэскі, хлопчыкі-дзяўчынкі. Аднойчы я не вытрымаў, кажу:

— Маша, хадзі да мяне на калені, пашкадуемся…

І адчуў, якая яна яшчэ дзіцё. Ды ў любым узросце чалавек хоча і ласкі, і спагады, і ўвагі. Незабывайма пра гэта, людзі.

У апошні мой прыезд у бальніцу Марына перадала мне твой, Толік, малюнак. Відаць, па тваёй волі яна падпісала карціну «Кран будуе дом». Уверсе — ружовыя воблакі, як бы вясёлкавыя. А ніжэй, на зямлі, — дарогі, дом і кран. Дарогі фіялетавыя. Дом чырвоны. Кран чорны, як зямля.

Дзякуй, Толік, за падарунак. Выходзь хутчэй на прастор жыцця, дзе неба, сонца і воля.

*Твой дзядуля — Уладзімір Ліпскі*
*20.09.2007 г. (чацвер)*

**80**

Мой слаўны гаварунок!

Хочацца табе гаварыць, пра многае расказваць нам, але не хапае слоў. Нешта па-своему вымаўляеш. Толькі бацькі могуць перакласці сэнс тваіх слоў, тваёй размовы. Як жа я чакаю таго часу, калі з табой не проста паразумеемся, а і пажартуем, падумаем, памарым.

А пакуль што пішу табе чарговае пісьмо.

Якія навіны?

Неўпрыкмет закончылася лета. Наступіла залатая восень. Веснікамі яе сталі пажоўклае лісце на дрэвах, шэрыя валуны хмараў на небе. Ды яшчэ — зябкая прахалода. Ездзім на дачу без цябе, аберагаем твой нос, каб не замёрз.

У Машы, тваёй сястрычкі, быў дзень нараджэння. Ёй — трынаццаць гадоў! Я, на жаль, не змог прыехаць і павіншаваць яе, паслаў тэлеграму:

«Маша, ты нарадзілася залатой восенню, і сама ты залатая. Жадаю табе здароўя. Хай кожны дзень твайго жыцця будзе святам. Для гэтага трэба добра вучыцца, шмат працаваць. Я веру ў цябе!»

Я і ў цябе веру, мой дарагі Толік. Веру, што спаткаеш у жыцці ўсё, чаго жадае табе мая душа.

Прачытаў нядаўна казку Аскара Уайльда, мудрага англічаніна, якая называецца «Рыбак і яго душа». Вельмі ж павучальную аповесць намаляваў пісьменнік.

Уяўляеш, адзін юны Рыбак выцягнуў сеткай Дзеву марскую, дачку Марскога цара. Хлопец адпусціў яе з умовай: калі ён пачне лавіць рыбу, яна павінна падплыць да яго і спяваць свае песні. Так і было. Калі спявала Дзева, рыбы збіраліся да лодкі Рыбака, і ён лёгка напаўняў здабычай свой човен.

Аднойчы Рыбак перастаў лавіць рыбу, толькі слухаў чароўныя спевы Дзевы і сказаў ёй:

— Міленькая Дзева марская, я кахаю цябе. Будзь маёй жонкай!

А тая Дзева адказала яму:

— У цябе чалавечая душа. Прагані яе, і тады я змагу быць тваёй.

Пайшоў Рыбак да святара і пра ўсё паспавядаўся яму. Ведай, Толік, што сказаў яму айцец:

— Душа ёсць самае святое ў чалавека. Яна даравана самім Богам і даражэй за ўсё золата на свеце. Як жа ты думаеш жыць без душы?

І не даў благаславення Рыбаку.

Пайшоў юнак на базар да купцоў, просіць:

— Купіце ў мяне душу.

Але купцы толькі пасмяяліся з яго:

— Навошта нам твая душа? Яна не варта ломанага грошыка. Прадай сваё цела ў рабства, і ты станеш багатым…

«Хто ж забярэ ў мяне душу?» — пачаў думаць Рыбак. І тут падвярнулася на яго шляху злосная Вядзьмарка. Яна пагадзілася забраць душу юнака, але прапанавала пры гэтым патанцаваць з ёй пры поўным месяцы.

Усё так і адбылося.

Рыбак пачаў развітвацца са сваёй Душой, а яна ўзмалілася:

— Калі ты ўжо вырашыў жыць без мяне, то аддай мне і сваё сэрца. Свет жорсткі і мне страшна.

— Не, — адказаў Рыбак, — маё сэрца аддам марской Дзеве. Як жа я буду любіць яе без сэрца?

Юнак нырнуў у марскія хвалі, там яго сустрэла Дзева, абвіла яго шыю рукамі і пацалавала ў губы.

А Душа засталася на беразе, горка плачучы.

Праз год, як і дамовіліся, Душа і Рыбак сустрэліся ў тым жа месцы каля мора, дзе і развіталіся. Душа паведала хлопцу, што блукаючы па свеце, яна адшукала Люстэрка Мудрасці. Хто валодае ім, ведае ўсе сакрэты, яму падуладна ўся мудрасць свету.

— Дазволь мне зноў увайсці ў цябе, быць тваёй рабыняй, і ты станеш мудрэйшы з мудрэйшых, — прапанавала Душа.

— Каханне лепш за мудрасць, — адказаў юнак і зноў кінуўся ў мора да сваёй Дзевы.

Праз год Душа і Рыбак зноў сустрэліся.

— Я знайшла чароўны пярсцёнак, — прызналася Душа. — Хто ім валодае, той багацейшы за ўсіх цароў на свеце. Вазьмі яго!

— Каханне лепш за багацце, — крыкнуў юнак і пагрузіўся ў марскую хвалю.

Яшчэ праз год Душы ўдалося выманіць Рыбака на бераг. Яна выпрабоўвала яго дабром і злом, усялякімі спакусамі, але ён не спакусіўся ні на што.

Каля марскога берага чакала яго бяда. Рыбак убачыў у пеннай вадзе сваю мёртвую Дзеву. Яна не вытрымала разлукі. Рыбак кінуўся яе абдымаць, цалаваць. Сэрца яго разарвалася. Душа ўвайшла ў яго. І мора накрыла сваімі хвалямі Рыбака і Дзеву…

Во, Толік, якую гісторыю я пераказаў табе. Вырасцеш, сам прачытаеш гэту казку. Па-свойму ўпусціш яе ў сваё сэрца. А пакуль запомні адно: каханне — самае дарагое і мудрае, што ёсць на свеце. Каханне — гэта сам Бог.

Спазнай Каханне і палюбі Бога!

*Твой дзядуля — Уладзімір Лінскі*
*09.10.2007 г. (аўторак)*

**81**

Добры дзень, Унук!

Пішу табе з Масквы. Тут столькі людзей жыве, колькі ва ўсёй нашай Беларусі. Кожны раз па-новаму адкрываю Маскву. Тут, здаецца, жыве самая сівая гісторыя, тут шмат помнікаў, музеяў, тэатраў. Тут людскі букет Расіі, у якім усе знакамітасці і славутасці.

От і дзед твой Вова тут. Жыву ў асобным нумары гасцініцы «Салют». Сёння выступаў у Калоннай зале Дома Саюзаў. Велічная, прадаўгаватая зала. Па ўсіх чатырох баках — мармуровыя, белыя калоны. Са столі звісаюць раскошныя люстры. У крэслах гэтай залы некалі сядзелі дэлегаты Дваранскага сходу Расіі. Тут бывалі Аляксандр Пушкін, Уладзімір Ленін…

Цяпер тут мы — дэлегаты Міжнароднага з'езда валанцёраў дзяцінства. На сцэне вісіць просты, але ж вельмі вобразны і ўражлівы плакат: у гняздзечку сядзяць трое птушанят. Чырвоныя іх роцікі шырока раскрыты. Яны чакаюць і ежы, і падтрымкі, і спагады. Яны хочуць вырасці, аперыцца і ўзляцець!

А ў зале якраз усе тыя, дарослыя, хто верна служыць дзецям. Яны сябе называюць валанцёрамі дзяцінства. Але гэта сапраўдныя рыцары дзяцінства. Аддаюць свае сэрцы, сваю душу, каб дзеці адчулі сябе абароненымі. Сёння ў іх свята — дваццаць гадоў іх дабрачыннай арганізацыі, якая называецца Дзіцячы фонд.

Такую арганізацыю, Толік, узначальваю і я ў Беларусі. Вось ужо амаль дваццаць гадоў выціраю слёзы сіротам, інвалідам, чарнобыльцам, усім дзецям, заложнікам бяды.

І мяне выклікалі на велічную сцэну. І ўручылі вышэйшую ўзнагароду Міжнароднай асацыяцыі дзіцячых фондаў — дыплом і залаты медаль Льва Талстога. Апладзіравалі рускія, украінцы, узбекі, армяне, азербайджанцы, чэчэнцы, туркмены, казахі, малдаване, японцы, фіны, балгары… А я ледзь не заплакаў. Я не чакаў узнагарод. Я проста шчыраваў, каб абараняць дзяцей, часам забываючы пра сваё здароўе…

А яшчэ, Толік, трэці чалавек у Расіі, Старшыня Савета Федэрацыі Сяргей Міронаў падышоў да мяне пасля майго выступлення і ўручыў імянны гадзіннік са сваім подпісам. Дарагі падарунак!

Ну, я зусім расхваліўся перад табой. Прабач. Я ж ведаю, што чалавек-хвалько крыху смешны. Я ж проста падзяліўся з табой сваёй радасцю.

Назапашвай і ты свае радасці, перадавай іх мне. Я буду імі шчыра цешыцца і буду збіраць у капілку твайго жыцця.

*З любоўю твой дзед*
*14.10.2007 г. (Масква, нядзеля)*

**82**

Дарагі цыркачок!

Кажуць, ты быў у цырку. І гэта твой першы выхад у шматлюддзе. Нават гардэробшчыца цябе апазнала:

— Відаць, што хлопчык першы раз у нас…

Усёй сям'ёй сядзелі недалёка ад арэны. І ты ўпершыню бачыў гімнастаў, клоўнаў, дрэсіраваных звяркоў. Моцна ўразілі цябе месяц на купале цырка, конікі, дзядзі на арэлях. Ну, а па-за канкурэнцыяй былі твае любімыя матацыклы. Табе падабалася, як яны тарахцелі, як дзядзі-цёці ездзілі на іх. Толькі не вельмі доўга былі яны на арэне. Ты нават развёў ручкамі:

— А дзе мой мананан?..

Мама была гатова вывесці цябе з цырка, калі б ты нечага забузіў, калі б табе стала сумна ад відовішча. Але ты цярпліва выседзеў два аддзяленні. Нават навучыўся пляскаць у ладкі і хрумстаць пячэнне пад музыку аркестра.

Малайчына! Прайшоў выпрабаванне і цыркам.

*Твой — Уладзімір Ліпскі*
*15.10.2007 г. (панядзелак)*

**83**

Мой светлы Толік!

Вось мы з табой памяняліся ролямі. Цяпер я ў бальніцы. У мяне «кашаль» больш сур'ёзны. Мне, унучак, збіраюцца рабіць аперацыю. Адкрыюць жывоцік, зірнуць, што там да чаго, дый выражуць, што хірургам не спадабаецца. Во, такія справы, дружок.

А ведаеш, у ноч перад аперацыяй, я маліўся. Звяртаўся да Бога і вымольваў усё тое, чаго хацела мая душа ў той момант:

«Божа любы! Дай здароўя маім унукам Толіку, Машы, Антону. Ратуй іх і падмагай, бо ім жа дарабляць усё за нас, ім жа прадаўжаць род Ліпскіх.

Божа любы! Не крыўдзі маіх дзетак Марыну і Ігара, іх каханых палавінак — Лёню і Таню. Хай жа яны спаўна адчуюць жыццёвую радасць, хай доля не крыўдзіць іх ні ў чым.

Божа любы! Дай сіл, цярпення, здароўя маёй жонцы Ніне. Падтрымлівай яе, калі спатыкаецца, уключай ліфт, калі падымаецца. Навучы яе берагчы сябе. Падкажы ёй, каб цаніла кожны міг жыцця.

Божа любы! Калі ў цябе пасля ўсёй гэтай адраснай падмогі застануцца сілы і рэсурсы, падсабі і мне, каб удала прайшла аперацыя. Я ж не ўсё яшчэ зрабіў на гэтай Зямлі. Хачу ўручыць пісьмы, якія цяпер пішу Толіку, калі яму споўніцца 18 год. Да гэтага часу Маша і Антон займеюць свае сем'і. І я пабачу праўнукаў! У тым прамежку часу мы з Нінай справім залатое вяселле. А я ж, Божа, паназадумваў напісаць шмат новых кніжак. Хачу, каб убачылі свет і мае выбраныя творы, хаця б у трох тамах. У наступным годзе — юбілей Дзіцячага фонду, шосты Усебеларускі фестываль народнага гумару ў Аўцюках. Як жа гэтыя святы без мяне?

О, Божа, колькі клопатаў. А ў мяне праз гэту ноч, раніцай — складаная аперацыя. Дык ці дазволіш ты хірургам дрэнна правесці яе?..»

Во, Толік, якая была мая начная малітва. Ухапіў валідол і толькі пасля яго звёў вочы перад боем за жыццё.

Бой, дакладваю, пакуль што выйграны. Было гэта 23 кастрычніка 2007 г. Аперацыя доўжылась адну гадзіну пяцьдзясят восем хвілін. А цяпер, паміж уколамі і кропельніцамі, пішу табе гэтае пісьмо…

Мацуйся, Толік, і не кашляй.

*Твой дзед Вова — Уладзімір Ліпскі*
*25 кастрычніка 2007 г. (чацвер)*

**84**

Дарагі Талян!

Марына званіла мне, што ў цябе з'явіўся новы занятак. Складваеш у пакет свае лепшыя цацкі, садзішся ў сваю машыну і кажаш маме:

— Еду да дзеда Вовы!..

— Мой хлопчык, як бы я хацеў пабачыць цябе, пагаварыць з табой. Кажуць, з твайго язычка адлятаюць амаль усе словы. Толькі не ўсе разумеюць іх.

Дарагі мой Толік, я падняўся ўжо з бальнічнага ложка. Вучуся па-нармальнаму сядзець, хадзіць. Усё ідзе на папраўку. І мы сапраўды хутка ўбачымся. Я гатоў нават зняць з дзвярэй свайго хатняга кабінета шыльдачку:

«Время моей работы — это время одиночества, нарушать которое никому не дозволяется. Паскаль Киньяр».

Табе, Толік, дазваляецца ў любы час уязджаць, уваходзіць, улятаць у свет маёй адзіноты.

Люблю цябе!

*Твой верны сябар — Уладзімір Ліпскі*
*30 кастрычніка 2007 г. (аўторак)*

**85**

Мой мудры філосаф!

Ты перадаў мне сёння свой новы мастацкі шэдэўр. Сіне-зялёнымі фарбамі стварыў складаны лабірынт дарог. А мо гэта невядомая зямная расліна ці схема нейкай касмічнай цывілізаванай клеткі? А мама выразала з паперы твой малюнак пад форму шапачкі з кутасом наверсе і кажа, што ты прыдумаў новую мадэль галаўнога ўбору.

Мама Марына яшчэ і найлепшая перакладчыца тваёй цяперашняй мовы. Засведчым яе для гісторыі, для тваёй біяграфіі.

Ну, хто б здагадаўся, што «туой» — гэта глазураваны сырок, твой любімы наедак?

Для цябе «тека» — гэта хамяк, якога гадуе Маша, які жыве ў клетцы на вашай кухні. А «мома дрына» — гэта машына, якая прыязджае забіраць смецце з кантэйнераў.

«Можна, пайду на вуліцу?» у цябе атрымліваецца скарочана: «Мона ду ітю?»

У працяг гэтай просьбы, гучыць новая:

— Дену тютю, тапаку, таніні і ду!

Гэта азначае:

— Адзену куртку, шапку, штаны і пайду!

Ды і гэта яшчэ не ўсё. Ты просіш:

— Дай сюму, там дені. (Дай сумку, там грошы)…

Мне крыўдна, што ў тваёй мове пакуль няма беларускіх слоў. Прашу цябе:

— Толік, скажы «бульба».

Ты пазіраеш на мяне сваімі вялікімі здзіўленымі «вішнямі». Маўчыш. Я думаю, што ты збіраешся з сіламі, пракручваеш у памяці ўвесь свой слоўнікавы скарб і зараз парадуеш дзеда. А ты здзівіў мяне. Замест таго, каб неяк вымавіць незнаёмае слова «бульба» і задаволіць маю просьбу, ты ашаламіў мяне пытаннем:

— Тё етя?

Я і без перакладу здагадаўся, ты спытаў:

— Што гэта?

Божа, твой камп’ютар зацікавіўся новым словам «бульба». Гэта здорава!

Табе сёння якраз два з паловай гады. Хацеў бы ведаць, што выдасць твая душэўная кібернетыка праз дваццаць гадоў?

Загадкавы мой, на гэтым заканчваю табе пісьмо і кладуся спаць. Ужо далёкая поўнач. Патухлі многія гарадскія ліхтары. Густы туман засланіў нябесныя зоркі.

Спакойнай ночы.

*Твой дзед — Вова*
*02.12.2007 г. (нядзеля)*

**86**

Дарагі мой!

Знарок задаю табе новы рэбус, эмацыянальна даводжу:

— Толік, ты — беларус і я — беларус. У цябе — белы вус і ў мяне — белы вус. Зразумеў?

— Не, — адказваеш ты.

Я прапанаваў табе сур’ёзную гульню, псіхалагічную. Ты, я ведаў, што не гатовы да яе. Але мяне ўсцешыла, што ты прыняў яе, разабраўся ў правакацыі дарослага і чэсна адказаў, што не разумееш сказанага мною. Малайчына!

Далей ты захапіўся машынкай, падобнай на «джып». Гэта і мая любімая цацка. Мне падарылі амерыканцы. Яна ўмее рэзка набіраць хуткасць. Для яе не існуе перашкод. Ты вазіў яе па мяккім крэсле. Паспрабаваў праехаць па падлакотніках, узабраўся па вертыкальнай спінцы на самы верх і адтуль, перадыхнуўшы, павольна з’ехаў уніз.

Што ж круцілася ў той міг у тваёй галаве? Мо ты ўяўляў сябе выпрабавальнікам «джыпа», правяраў яго магчымасці? Мо ехаў куды далёка, а куды, і сам не ведаў? Мо пачуў, што тата хоча купіць «джып», і асвойваў яшчэ нязведаную машыну на маёй, цацачнай?

Твая гульня з машынкай доўжылася хвілін пятнаццаць, і ўвесь гэты час, зачараваны тваёй працай, я з горыччу думаў, што зусім не ведаю цябе. Мы, дарослыя, хочам, каб твая фантазія, твае думкі супадалі з нашымі, выверанымі часам і крыху ўстарэлымі, і не заўсёды ўлічваем, што ты ідзеш у жыццё са сваім уяўленнем, сваёй дарогай. Ты поўны паэзіі ў гульні, а дарослы радуецца, што ты забавіўся і ён, нянька, вольны пры гэтым.

Гуляю з табой, Толік, сур’ёзна і з асалодай. І, здаецца, з табой зразумеў даўно выпісаны афарызм нямецкага паэта і філосафа Шылера: «Чалавек павінен гуляць толькі з прыгажосцю… Толькі тады, калі чалавек гуляе, ён з’яўляецца чалавекам у поўным сэнсе слова, — і ён можа гуляць толькі тады, калі ён з’яўляецца зусім чалавекам».

Толік! Ты — чалавек. Ніколі не адфутбольвай мяне ад сваіх гульняў. Хачу пранікнуць у таямніцу твайго дзяцінства. Хачу вярнуцца ў сваё дзяцінства. Веру, гульня не знікае з пераходам чалавека да сталасці. Карані дзяцінства вельмі глыбокія. Яны — у сярэдзіне нас, у нашай душы.

Да наступнай гульні, Толік!

*Твой дзед Вова*
*04.12.2007 г. (аўторак)*

**87**

Анатоль!

Бацька твой Лёня паведаў мне цікавую размову між вамі.

Пачалі збірацца на вуліцу. Ты знарок усунуў ножкі ў бацькавы чаравікі. Табе запярэчылі:

— Толік, гэта ж мой абутак.

— Не, мой, — адказаў ты рашуча.

Усцягнуў на галаву бацькаву шапку і кажаш:

— Мая!

Абвязаў шыю дарослым шарфам і зноў сцвярджаеш:

— Маё!

Раптам Лёня абураецца:

— Толік, усё, аказваецца, тваё. А што ж тады маё?

— Я, — адказаў ты і тыркнуў пальчыкам у грудзі.

Божа, ды гэта ж філасофскі адказ!

Мой хлопчык, колькі ж твайму «Я» давядзецца яшчэ засвоіць усяго-ўсяго, што і ёсць сучаснае жыццё.

Мне ўяўляецца: кожны новы чалавек знаходзіцца на самым высокім паверсе небаскроба. І каб будаваць яго, яшчэ вышэй (а без гэтага як жыць?), трэба ведаць, як ствараліся ўсе паверхі пад табой, з якога матэрыялу, па якім праекце. Значыць, кожнаму новаму пакаленню ўсё цяжэй. Павялічваецца аб'ём патрэбных ведаў, ускладняецца працэс сацыяльна-псіхічнага ўзраслення. Ці гатовы ты, унук, каб «стать с веком наравне»?

А ты ўсміхаешся. Ты ўцягваеш мяне ў новую гульню. Ні ты, ні я яшчэ не ведаем ёй назвы, але абодва верым, што цацачная гульня будзе прыроўнена да рэальнага жыцця. Значыць, наша з табой дзяцінства прадоўжыцца. Адбудзецца ўрок пазнання свету, урок выхавання таго «Я», якое называецца і Толікам, і дзедам Вовай.

*Твой паштальён Печкін*
*09.12.2007 г. (нядзеля)*

**88**

Слаўны Толік!

Не крыўдуй, але малыя, такія як ты цяпер, у дарослым узросце забываюцца амаль пра ўсё што было ў маленстве.

Таму часам і нагадваю табе для памяці пра самае адметнае.

Сёння, напрыклад, у дзень Раства Хрыстова мы гулялі з табой у тэлефоны. У цябе — соtавы, у мяне — гарадскі. Кажу:

— А давай-ка, Толік, пазвонім у цырк.

Ты ў знак згоды тут жа націскаеш на першую, трапіўшую пад пальчык, кнопачку і пытаеш:

— Цік?

— Ага, гэта цырк, — адказваю я. — Вам, можа, білецік патрэбен?

— Да-а! — крычыш ты, хаця я ад цябе ў якім-небудзь метры, у адным пакоі мы.

— Добра, прыходзьце ў касу, я прадам вам білецік. Толькі вазьміце грошы…

Ты з тэлефонам бяжыш да мамы і просіш у яе «дзені». А яна недаўменна пазірае на цябе.

— Навошта табе дзені, Анатолій?

— Цік!

— А-а, у цырк пойдзеш?

— Да-а!

Мама дае табе сторублёўку, ты радасны вяртаешся да мяне. Вось чым абярнулася наша прыдумка. Цяпер мне не выкруціцца, трэба ісці ў цырк па білецікі. Малых жа падманваць нельга.

Мы зноў звонім па тэлефонах. Цяпер я ўжо болей асцярожна выбіраю адрасатаў. Звонім тату Лёню, бабам Ніне і Валі. Ва ўсіх пытаемся: «Як справы?.. Як здароўе?..» Размова, якая не вымагае ніякіх далейшых дзеянняў, толькі знак павагі і ўвагі да блізкіх людзей. Але ж і гэта важны момант выхавання.

Вось так, дружок, праходзіць твой другі этап дзяцінства, які вучоныя-педагогі называюць «раннім». Перад гэтым быў «цяжкі» перыяд.

У раннім дзяцінстве, кажуць, закладваюцца асновы асобы, як падмурак дома. Божа, малю Усявышняга, дай жа патрэбных «матэрыялаў»для жыццёвага «падмурка» нашаму Толіку, дай жа цярпення ўсім дарослым «будаўнікам».

Калі праўда, што вы, дзеці, не ўсё разумееце, што адбываецца з вамі ў раннім дзяцінстве, то і мы, дарослыя, не заўсёды разгадваем вашу тонкую, ранімую душу. Вось і атрымліваецца, як кажа прафесар Васілій Зяньkоўскі: «Сляпыя правадыры сляпых». Як жа мы павінны ўважліва кранаць ломкую душу дзіцяці, каб, не дай Бог, не асеў у яе яд трывогі, крыўды, несправядлівасці, злосці, нервовасці, бо яны ж калі-небудзь у дарослым жыцці абавязкова адгукнуцца. Так і хочацца ва ўсіх кутках кватэр і хат, на ўсіх людных вуліцах, у парках і дзіцячых садках, у школах і магазінах, усюды-ўсюды павывешваць ушчувальныя заклікі: «Дарослыя, будзьце людзьмі, вакол вас — Дзеці!»

Я з табой, Толік, не магу болей ні пра што думаць, як толькі пра цябе. Я не маю права займацца нечым іншым, як толькі тваёй асобай. Можа, таму і табе падабаецца быць са мной. А гэта ўжо ўзнагарода мне. Дзякуй за «ордэн»!

*Твой верны служака — дзед-ваяка…*
*07.01.2008 г. (панядзелак)*

**89**

Таляй!

Не гуляй, а сядай ды паслухай, што дзед упусціць у тваё вуха.

Пяцьсот гадоў таму жыў на свеце мудры чалавек. Звалі яго Францыск, а прозвішча меў Скарына. Ён нарадзіўся ў старажытным Полацку, у сям'і купца Лукі. Даўней купцы былі ў вялікай пашане. Яны вандравалі па розных мясцінах. Набывалі тавар і прадавалі яго. Вось і вырашыў купец Лука даць свайму сыну Францыску самы дарагі «тавар» — глыбокія веды. Не шкадаваў для гэтага грошай. Вучыўся яго нашчадак у Полацку, Вільні, Кракаве, Італіі.

І сёння, Толік, мы з гонарам шануем Францыска Скарыну, беларускага асветніка, мысліцеля, вучонага, пісьменніка. А галоўнае — першадрукара. Ён некалі наладзіў у Празе і Вільні друкаванне першых кніжак на нашай мове. Гэта былі рэлігійныя выданні — «Біблія», «Малая падарожная кніжыца», «Апостал», усяго дваццаць тры кніжкі. Да кожнай з іх ён напісаў сваю прадмову. Вырасцеш і прачытаеш Скарынаву мудрасць, і зразумееш, які духоўны скарб пакінуў усім нам сын купца Лукі з Полацка.

Во, браток, якое багацце, — духоўнае — не гіне ў вяках, не гніе і не ржавее, не знікае бясследна, не топіцца ў вадзе, не згарае ў пажары. Такое багацце надае людзям і крылы, і ясны позірк, і веру ў будучыню. Такі наш духоўны волат, апостал святы Францыск Скарына!

З прозвішча Скарына я склаў дваццаць новых слоў. І што ж атрымліваецца? Скарына наш Арык, з якога п'ём чыстую вадзіцу, ён Раса, якой мыемся на ўзыходзе сонца, ён Рыс і Сыр, якія патрэбны для творчых сіл, ён Рака, па якой плывём у вечнасць, ён Сын сённяшняй Беларусі, якая будуе свой незалежны, суверэнны лад. Ці ж не марыў пра гэта Францыск Скарына ў далёкім шаснаццатым стагоддзі?

Толік дарагі, імя нашага слыннага продка ўвасоблена цяпер у высокую дзяржаўную ўзнагароду — ордэн Францыска Скарыны. Сёння я атрымаў гэту

ўзнагароду пад № 109. І хвалююча, і радасна. Але не думай дрэнна пра дзеда. Не задраў я нос. Кулік ведае сваё месца. Жыву, як павучаў прарок Скарына:

«Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возъдуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих, — тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають».

І ты, мой унук, займей вялікую ласку да той зямелькі, якая табе матка, да сваёй светлай і святой Беларусі.

*Твой дзед Вова*
*14.01.2008 г. (панядзелак)*

**90**

Яршысты мой!

Як цяжка табе ў гэтым свеце. Мы — Гуліверы, ты — Ліліпут. Жывеш у краіне Веліканаў, якія ўсё маюць, усё ведаюць. А ты ж, на самай справе, мысліш больш за нас. Ты — адкрывальнік, а мы — спажывальнікі. І не трэба сумнявацца, ты спасцігнеш усё нашае і пойдзеш далей, да Свайго. Якіх тайнаў дачыркнецца твой мозг? Якія вятрыскі прашумяць над тваёй галавой?

Мяне цешыць, што ты ўжо цяпер рыхтуешся да вялікіх выпрабаванняў, выхоўваеш і гартуеш свой характар.

Мама Марына расказала пацешную гісторыю. Шлёпнула цябе за тое, што на Машу замахваўся, хацеў яе біць.

Ты, як пеўнік, адскочыў ад мамы. Замахаў на яе рукамі-крыламі і паказаў язык.

— Ах, дык ты яшчэ і крыўляешся!

Мама ласкава шлёпнула яшчэ раз па тваіх зяленых калготках, якія шчыльна абцягвалі попу.

Ты адбег на бяспечную адлегласць ад мамы, стаў у позу ваяра і заявіў:

— Бось не дам попу біць!..

Рукамі абхапіў свой «аб’ект». Мама ледзь стрымала смех. Ёй трэба было ў строгасці закончыць выхаваўчы ўрок.

З тваіх паводзін можна пасмяяцца. А калі ўспрыняць іх усур’ёз?

Тваё дзіцячае філасофскае мысленне выдала абсалютна рэальны ўчынак. Ты нагадаў маме, што дзяцей біць нельга, што ты не дазваляеш аддаваць сваю попу на экзекуцыю. А гэтым самым даў зразумець, што правільна ацэньваеш і свае паводзіны. Ты пастараешся болей не гневаць маму, тваю найпершую любоў у жыцці. Як жа тут не прыгадаць словы мудрага педагога і псіхолага Васілія Зяньkоўскага:

«Кожнае дзіця ёсць новая, непаўторная падзея ў свеце і ўсялякае дзіця трымае ў цёмнай глыбіні сваёй душы шмат розных сіл… Любячая маці бачыць у сваім дзіцяці тое, чаго не бачаць іншыя людзі, вось чаму маці ў агульнай ацэнцы дзіцячай асобы бліжэй да ісціны, чым тыя, хто пазірае на дзяцей раўнадушна».

Марына расказвала пра канфлікт з табой і з гонарам, і з гумарам. Ведай жа, Толік, якая чароўная выхавальніца побач з табой. Ніколі-ніколі не ўздумай крыўдзіць яе.

Малюся за цябе.

*Твой сябар, як ты цяпер называеш мяне, — дзед Ваёдзя*
*19.01.2008 г. (субота), дзень Хрышчэння Сына Божага*

**91**

Мой слаўны Талян!

Месяц люты крочыць па нашай зямлі, а ты прыкрочыў-прытупаў у «Вясёлку». Першы твой візіт да дзеда на працу.

Увайшоў з мамай, асвяціў мой кабінет промневай усмешкай, працягнуў ручку для здароўкання.

— Прывет, дзед!

Я на радасцях падарыў табе матацыкл, які купіў у Жлобіне, будучы ў камандзіроўцы.

— Мананан! — абрадаваўся ты і пачаў ездзіць ім па падлозе.

Табе яўна падабаўся мой прасторны вясёлкаўскі кабінет — з цацкамі, кніжкамі, карцінамі. Але найбольш цешыў цябе срабрысты матацыкл з наезнікам, які зрабілі ў далёкім Кітаі. Пагуляўшы з ім, ты прысеў ка мне на калені і сказаў:

— Дзед, дзіба мананан!

Божа, ты ацаніў мой гасцінец. Табе ён спадабаўся. Ты яго абкатаў на маёй падлозе-палігоне. І толькі пасля такой экспертызы сказаў «дзякуй». Ну і сучасны ж ты вундэр. Не адразу падзякаваў, а як пераканаўся, што «мананан» клёвы.

Цалюткі дзень, Толік, жыву пад уражаннем твайго прыходу ў «Вясёлку».

Пройдуць гады. Да цябе пастукаецца такі ж узрост, як цяпер у мяне. Прашу, прыйдзі ў тую далёкую будучую «Вясёлку», паглядзі, якой яна стане і тым, хто будзе ў ёй гаспадарыць, раскажы пра свой першы візіт сюды. Адбудзецца гэта па маіх падліках у 2072 годзе, у лютым месяцы.

Не забудзь, Толік, выканаць маю просьбу.

*Твой дзядуля, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка» Уладзімір Ліпскі*
*18.02.2008 г. (панядзелак)*

**92**

Дарагі Толік!

Сёння дзень абаронцаў, а мы з табой працуем на трактары. Я загружаў у коўш жука, яшчарку, каўчуковыя шарыкі, а ты іх вазіў. Тарахцеў, як трактар, прыпыняўся, скідваў кручок з каўша і груз падаў на дыван. Ты радаваўся, што ўмееш кіраваць складанай машынай. А я быў шчаслівы, што ты прыняў мяне ў сваю брыгаду, даверыў быць грузчыкам.

Мы доўга бавіліся гэтым заняткам. Пасля ты мне намаляваў карціну. Паказаў у кнізе літару «А». Табе я дазваляў рабіць усё, але ты рабіў толькі тое, што можна і што можаш.

Калі леглі спаць, ты пранікнёна слухаў маю казку-прыдумку пра дзеда, бабу, курачку Рабу, коціка Мяўкалу і сабачку Гаўкалу. Пад мой аповед ты соладка заснуў.

Прачынаўся па-дваранску, няспешна і далікатна, даючы мне знак, каб і я ўставаў. А я, Толік, не спаў і бачыў, адчуваў, як ты мяне будзіў. Ціхенька пашкрабаў ручкай па падушцы. Я як бы не чуў. Праз нейкі час ты лёгенька дачыркнуўся да маёй рукі. А калі я павярнуў галаву да цябе, ты тут жа заплюшчыў вочы. Хітрунок!

Станьце як Дзеці, вучыў Хрыстос. І гэта пажаданне на любы ўзрост чалавека. Наблізім жа сваё духоўнае жыццё да ідэала, які ёсць у малога. Хачу, Толік, каб залаты час твайго дзяцінства стаў і маім залатым часам. Хачу

разам з табой нанова авалодаць «душой» мовы — думкамі, роздумам дзіцяці, і яе «целам» — гукамі. Хачу ўдасканаліць тваю аднаслоўную гаворку. Хачу праз тры акны дзяцінства — любоў, сорам, сумленне — наталіць сваю душу чысцейшымі маральнымі пачуццямі.

Цэлага паўдня купаўся ў тваёй аўры. Цешыўся святлом тваіх вачэй, святлом у акне і святам дня. І час ад часу думалася: кім жа ты вырасцеш?

Чытаў у гэты дзень Каляндар памятных дат Беларусі на 2008 год. Адзначаюцца імяніны: Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, класіка беларускай літаратуры, — яму 200 гадоў; Паўла Шпілеўскага, аўтара выдатнай кнігі «Падарожжа па Палессю і Беларускаму краю», — яму 185 гадоў; Кастуся Каліноўскага, кіраўніка паўстання, нацыянальнага героя Беларусі, — яму 170 гадоў; Язэпа Драздовіча, мастака, этнографа, пісьменніка, — яму 120 гадоў…

Праходзяць гады, а памяць пра Сыноў Беларусі мацнее, узбагачаецца.

Толік! Стань і ты гэткім жа шаноўным сынам нашай зямелькі. Твой дзедлапташ працерабіў табе сцяжынку. Выходзь на бальшак!

Будзь пры гэтым здаровы, мудры, мужны, цярплівы, спагадлівы, добры.

*Твой дабрадзей — Уладзімір Ліпскі*
*23.02.2008 г. (субота)*

**93**

Таляха!

Клёвы ты мужычок. Толькі пераступіў парог нашай кватэры, гаворыш:

— Дзед Вова, давай работаць!

Мы ганялі з табой па паркеце машынкі. Перавозілі на трактары цацкі. Надувалі шарыкі. Ой, напрацаваліся!

Але ж сёння свята жанчын. Накрыты сямейны стол. За ім мы, мужыкі, ушаноўваем бабу Ніну, тваю маму Марыну, сястру Машу, Ігараву жонку Таню. Пайшлі, далучымся да іх урачыстасці.

За стол садзімся. Табе дзіўна, як звіняць чаркі ў дарослых. Табе не зусім зразумелыя іх прамовы, тосты. Ты наярваеш курыную катлету з бульбай, а з другой рукі не выпускаеш матацыкл, які падарыў табе дзядзька Ігар.

Дружа, сёння вялікае свята. Хай яно і прыдуманае і крыху надуманае, але вельмі важнае. Жанчыны прадаўжаюць Божую справу на зямлі. Бач, твая мама нарадзіла цябе і ўжо трэці год курачкай-наседкай квокча каля цябе. І квактаць будзе ўсё жыццё, бо ты — галоўны яе скарб, як і дачка Маша.

Чым жа аддзячыць ёй за такую самаахвярнасць?

Выпадкова бяру з паліцы томік вершаў Канстанціна Бальмонта, выпадкова адкрываю яго на 137 старонцы і знаходжу адказ-пажаданне табе:

«Люби!» — поют шуршащие березы,
Когда на них сережки расцвели.
«Люби!» — поет сирень в цветной пыли.
«Люби! Люби!» — поют, пылая, розы.

А далей у вершы ёсць такія словы: «Страшись безлюбья», «Люби любовь».

Кто не любил, не выполнил закон,
Которым в мире движутся созвездья,
Которым так прекрасен небосклон…

Толік, любы, зразумей і павер, з любові ты пачаўся як чалавек. Не адпускай яе ад сябе. Хай яна стане тваёй вечнай спадарожніцай, закладніцай і адзінай хваробай у жыцці. Напаўняй душу любоўю, як лёгкія паветрам.

Кто любит, счастлив. Пусть хоть распят он…

Я люблю цябе, мой хлопчык. І хачу пераліць гэты Божы нектар са свайго жыццёвага сасуда ў твой. Бяры мой дар і нясі далей!

*Твой шчырадзед — Уладзімір Ліпскі*
*08.03.2008 г. (субота)*

**94**

Мой разумнік!

Ведай, вучоныя пранiклі ў глыбокі космас. Ёсць пэўная інфармацыя пра вялізную прастору — каля мільярда светавых гадоў у дыяметры. А светавы год роўны шляху, які праходзяць промні за год. Гэта астранамічная лічба роўная 9.460.000.000.000 кіламетрам. Як гэту лічбу назваць я і сам не ведаю. А такіх адлегласцей трэба праляцець мільярд. Во ў якую нябесную далячынь зазірнула сучасная навука.

Цяпер вернемся на Зямлю.

Наша планета ў дыяметры ўсяго 12.800 кіламетраў. Уяўляеш, на якой касмічнай пясчынцы мы жывём? А ты нарадзіўся, каб прадоўжыць гэта жыццё, можа, каб сігануць сваім розумам у яшчэ большы касмічны свет. Толькі пры гэтым, Толік, не згубі свой самы дарагі скарб — Душу. Мне здаецца, яна, як пароль, як датчык для сувязі з самім Уладаром, які стварыў такія прасторныя, заманлівыя Нябёсы.

Мой унук, часцей узірайся ў Неба, тады табе захочацца асвоіць Малітвы, вядомыя людзям ужо тысячы гадоў. Упусці ў душу светлыя словы самай папулярнай малітвы:

«Ойча наш нябесны! Свяціся імя тваё, прыйдзі валадарства тваё, ды станься воля твая як у небе, так і на зямлі…»

Во чаго просяць Людзі. Во што трэба нам усім. Тады, калі заваладарыць воля Ойчы нашага як у Небе, так і на Зямлі, тады будзе парадак у душах нашых, у сем’ях і краінах нашых, на ўсёй Зямлі. І ва ўсім Сусвеце, як і ў Нябёсах.

Сёння быў сведкам, як ты прачнуўся. Як тое сонейка раніцай. Стаў на каленкі, працёр кулачкамі вочкі і пачаў моўчкі пазіраць у акно. Шчочкі ружовыя, губкі банцікам, вочы — лазеры. Усім тварыкам сваім ты як бы фатаграфаваў неба, хмаркі на ім і той далёкі космас, які бачыўся толькі табе.

Пасля мы займаліся звычайнымі будзённымі справамі: машынкі, маляванне, танцы, пералік пальчыкаў на руцэ, вывучэнне літар алфавіта.

А з маёй памяці не выходзіў твой пранікнёны позірк у неба.

Ойча наш нябесны, дай хлеба штадзённага твайму зямному касманаўціку Толіку. Не ўвядзі яго ў спакусу. Збаў ад злога!

Такое вось пісьмо-малітву дасылаю табе, мой залаты чубчык. Апраўдай маю надзею. Не падвядзі!

*Твой дзядуля*
*25 сакавіка 2008 г. (аўторак, 90 гадоў БНР)*

**95**

Наш дзетсадавец!

Во, дачакаліся! Цябе, Толік, мама ў восем раніцы адводзіць у дзіцячы садок, у ясельную групу.

Так і хочацца пашкадаваць цябе, так і хочацца сказаць: «Закончылася, браток, тваё хатняе дзяцінства».

З мамінага сынка-сысунка ты становішся аб'ектам выхавання ў дзіцячым гурце. І пойдзеш далей па этапах жыцця: дзіцячыя яслі, садок, школа, інстытут, працоўны ці навуковы калектыў. Абавязак перад Айчынай — армія. Свая сям'я — жонка, дзеці, цешча. А там, глядзіш і да пенсіі рукой падаць.

Я доўгі час верыў, што дзіця трэба выхоўваць. Цяпер веру ў новую мудрасць: нельга стварыць нічога новага ў душы дзіцяці, калі не ўлічыць усё тое, што ў ёй ужо ёсць, існуе. Во ў чым загадка, таямніца!

Ты прынёс з ясляў новае слова — «кабада». Скажаш — і смяешся. Што ж гэта азначае? Чаму табе смешна?

Мама дапытваецца:

— Толік, скажы, што такое «кабада»?

— Ну, кабада, — упэўнена адказваеш ты і табе зноў весела.

І мне, дружок, весела ад таго, што ў цябе праразаецца пачуццё гумару. З ім лягчэй гараваць.

Не хачу, Толік, каб ты быў проста сасудам, у які ўліваюць павучанні, пажаданні, гатовыя веды. Не хачу, каб ты быў толькі дыктафонам-прыёмнікам, які запісвае любыя гукі. Не хачу, каб ты быў ліфтам, на якім усе ездзяць. Не хачу, каб ты быў дыванком, аб які выціраюць ногі. Хачу, каб ты стаў маторам і выпрацоўваў сваю энергію. Гэта і будзе тваім поспехам у жыцці. «Палівам» для такога матора, як мне здаецца, павінны стаць Здароўе, Розум і Характар. Здабывай усё гэта, развівай і ты станеш Чалавекам!

Званок з вашай сям'і. Мама дае табе трубку, і ты кажаш мне:

— Дзед Вова, спасіба машынку. Буду спаць машынкай…

Божа, я і прызабыўся, што Лёнем перадаў табе маленькае аўто. А ты дзякуеш за падарунак, будзеш спаць з ім. І я пачынаю верыць у цябе!

Ты ходзіш, Толік, у дзіцячы садок «Ліхтарык» у мінскім мікрараёне Сухарава. Хай жа зыркі ліхтарык асвячае табе ўсе жыццявыя пуцявіны, абшары. З ім і з «кабадой» прабівайся туды, дзе людзі чэрпаюць натхненне.

*Твой Вова*
*20.04.2008 г. (Вербная нядзеля)*

**96**

Складаю для сябе і для цябе, Толік, хроніку Велікоднай раніцы.

5.40. На ўсім чысцютка вымытым небе — адна хмурынка. Як бы спецыяльна затрымалася, хоча паназіраць, як і я, за ўзыходам Сонца.

Там, за пазелянелымі дрэвамі парку, за гарадскімі дамамі пачынаецца светлы ўсход вялікага Дня — Вялікадня. Якія ж фарбы падабраць, каб перадаць тое відовішча?

Там колеры золата, полымя, жаўтка, белага бэзу і лугавых незабудак. Пакуль падбіраю фарбы, з-за дрэва і каменнай будыніны выплывае вогніва на

нябесную прастору. Серп. Маладзічок. Балюча глядзець на іх, а ў душы спее радасць, узбуджанасць, непакой. Ды вось і ўся поўня Сонейка на небе. Гуляе, пераліваецца, цешыцца як бы з самога сябе.

Залаты шар мосціцца на высокі трон і з кожнай хвілінай усё больш упэўнена завалодвае Космасам і нашай Зямлёй. Ад лагодных промняў, здаецца, пачынае па-новаму дыхаць уся прырода, усё жывое і нежывое. Перад маім акном праляцелі два галубы. Скіравалі свой маршрут за Свіслач, у бок ранішняга Сонейка. І хмарка на небе зрушылася з месца, пачала свяцлець, адмывацца ў сонечнай ванне.

6.00. Велікоднае свяціла ўжо на метр ад верхавін дрэў і дахаў. Яно — уладар сусвету. Яно — жыццё, абуджэнне, вястун чаканага свята.

Яно — Бог. І я нібы чую голас таго святочнага Сонца: «Людзі, Хрыстос уваскрос!»

Як жа добра, што я не праспаў гэта ранішняе вітанне, гэту чарадзейную навіну.

Сонца валадарыць на небе, і мне здаецца, што яно рэнтгеніць кожнага з нас. Яно бачыць і сучасных Пілатаў, і тых, хто гатоў загнаць цвікі ў жывое цела Дабрыні, і тых, хто радуецца гэтаму, і хто плача, моліцца.

Сонейка-сонца пасылае нам святло, цяпло, надзею. Бярыце ўсё гэта, людзі, і хрыстосуйцеся. Хрыстос уваскрос! Уваскрэсне і дабро. У гэта трэба паверыць. Гэтага жадаць.

А ты, Толік, соладка спіш. Упэўнены, што тваё сонейка яшчэ ўзыдзе, спеласць настане. Хай жа ты будзеш запатрабаваным на нашай грэшнай зямельцы. Навучыся ўладарыць над сабой, як гэта ўмее рабіць сонейка. Яно нястомна слугуе людзям і не чакае пахвалы. А людзі самі моляцца яму.

Хрыстос уваскрос, Толік!

Адбыўся цуд! Пачаўся — Вялікдзень. Расплюшчвай вочкі ды айда мыцца чырвоным яйкам.

*Твой дзед-будзільнік.*
*27.04.2008 г. (нядзеля)*

**97**

Мой спадчыннік!

Хочацца перадаваць табе, Толік, свае пажаданні. Ідзе дробны дожджык. Пазіраю на яго і ўсплываюць думкі пра пражытае, вечнае. Можа, спатрэбяцца табе калі-небудзь мае развагі. А можа, і не табе аднаму…

* * *

Ты жывеш у XXI стагоддзі. Ці твой гэта час? Пажывём — пабачым. Помні адно: час мяняецца, мудрасць — вечная. Развівай свой розум да мудрых межаў.

* * *

Пішуць, Гай Юлій Цэзар, рымскі дыктатар, пастаянна насіў лаўровы вянок на галаве. Нібыта сенат даў яму такое права, бо такі вянок надзявалі толькі па ўрачыстасцях. Аказваецца, такім чынам ён хаваў сваю лысіну. Ці трэба хаваць свае недахопы? З імі трэба змагацца.

* * *

У кожнага свой кумір. У аднаго — званні, ордэны, медалі. У другога — грошы, у трэцяга — уцехі. Вазьмі, Толік, сабе кумірамі Людзей з добрым-добрым сэрцам, маральна чыстых, бескарысных і верных сваёй Айчыне. Шукай такіх куміраў. З імі лягчэй ісці па жыцці. Яны — крылы, з якімі можна лягчэй пераадолець нягоды…

* * *

Не імкніся ахапіць усе веды. Трэба нешта адно ведаць глыбінна. І слугаваць яму: ці будзе гэта нейкая прафесія, ці навука, ці грамадская дзейнасць. Усё астатняе — для пашырэння, узбагачэння асноўных ведаў. Мысліць разумна — дар Божы. І тваё стаpaнне.

* * *

Моль можа з’есці кажух, у якім ты ходзіш. Глядзі, каб «моль» не з’ела ўвесь каштоўны час, адведзены табе на белым свеце. Бойся пустаты ў вачах, у сэрцы, у душы. Пані ўдача любіць адчайных, аптымістычных. А ты любі ўдачу і будзь яе любімцам.

* * *

Навучыся берагчы сваю прыродную крынічку, з якой выпраменьваюцца розум, сумленне, чысціня душы. Бойся, не дапусці, каб тая крынічка змялела. Валодай сабой у любой жыццёвай сітуацыі…

* * *

Чалавек той цікавы, які ў кожным дні адкрывае нешта новае. І сам навейшы ад гэтага. Важна не пачаць нешта з шумам і пампезнасцю, а ЗАКОНЧЫЦЬ са славай і прызнаннем. Будзь жаданым і запатрабаваным у сваім часе і пасля яго.

* * *

Вада цякучая не псуецца. Так бывае ў моры, рацэ, крынічцы. Стаячая вада перасыхае, пакрываецца цінай, раскай, робіцца балотам. Вучоныя даказваюць, што і балоты патрэбны прыродзе. Але не разумею, для чаго патрэбен чалавек-балота?

* * *

Навучыся думаць, мысліць, аналізаваць, зазіраць наперад, азірацца назад. Усё гэта дапаможа ўпэўнена жыць сёння. Асцерагайся, калі хваляць, не бойся, калі ганяць. Будзь верным самому сабе і свайму сумленню. Дурноту лёгка прыклеіць да сябе. А як ачысціцца ад яе?

* * *

Адзін мой добры знаёмы, якому 82 гады, сказаў: «Крыху стаміўся жыць. Ува мне цяпер змагаецца дух і цела. Дух цягне ў неба, цела — ў зямлю. Дух патрабуе аптымізму, цела — спакою. Хто з іх мацнейшы, той і пераможца…»

Толік, родны, ніколі-ніколі не стаміся жыць.

* * *

Адных людзей месца ўпрыгожвае. Іншыя ўпрыгожваюць месца. Я б хацеў, Анатоль Леанідавіч, каб ты выбраў сваё месца ў жыцці і ўпрыгожыў яго сваімі справамі, годнасцю. Будзь жаданым і паважаным чалавекам!

* * *

Ёсць чорныя дні, небяспечныя. Ад іх не ўцячэш. Іх трэба перажыць, вытрымаць, адолець. І тады парадуешся сонейку, якое вызірнула з-за хмары. Павер, адны ўдачы не могуць наведваць цябе. Цярпліва трымайся на хвалях жыцця: уверх-уніз, туды-сюды, так-не так, ёсць-няма, смех-слёзы, радасць-пакуты, дзень-ноч… Трымай удачу за хвост і за грыву, калі яна дасца табе. Гані чорны дзень на сухі лес, далей ад свайго лёсу.

* * *

Пчала шукае салодкія краскі. Гадзюка прыпадае да горычы, шукаючы яд. Мядзведзь любіць мёд, воўк — авечку, акунь — чарвяка, камар — кроў…

У людзей па-іншаму: што ні чалавек, то свае густы, норавы. У кожнага па-свойму працуе мозг. Дзень на дзень не выпадае быць разумным. А ты, мой унучак, здолей адрозніць хлусню ад праўды, сутнасць ад абману. Умей слухаць парады мудрых, не лянуйся вучыцца. Авалодай мастацтвам вывучаць, распазнаваць людзей. Тады ты абавязкова сустрэнеш верных сяброў. Па іх будуць меркаваць і пра цябе.

* * *

Развівай мову. Разумнасць праяўляецца ў гаворцы, пажаданнях, тостах, віншаваннях.

Звоніць вясковая бабця ў Мінск, да сваёй унучкі, у якой юбілей:

— Тасечка!.. Гэта ж я прачнулася, каб у печы выпаліць і цябе павіншаваць. Будзь жа ты і далей вязучай у нашым родзе!..

Колькі ж непасрэднасці, мудрасці ў словах непісьменнай вяскоўкі! Набірайся, унучак, тых ведаў, якія спатрэбяцца. А тых, якіх нявартa ўпускаць ў душу, не бяры да галавы. І ў ведах ёсць мера…

* * *

Скажу — не паверыш: не ўсе людзі — чалавекі.

Сустракаў я ў сваім жыцці людзей-ваўкоў, якім бы толькі сцягнуць нешта для сваёй уцехі. Трапляліся лісы ў чалавечым абліччы. О, гэтыя гатовы ўмяць за мілую душу ўсё бязвіннае, калабковае. Вавёрачкі-вярціхвосткі віхляюцца на ўсіх жыццёвых пуцявінах. Ласі-рагачы носяцца па асфальце. Ненажэрныя дзікі рыюць лычамі ўсё вакол сябе. Свет поўны звяроў і дурняў, такія людзі часам і не здагадваюцца, хто яны. Іх шкада, бо за сваю нечалавечнасць яны дорага расплачваюцца. Лёс тасуе карты. Кожны атрымлівае тое, што зарабіў.

* * *

Пішу-прашу, каб ты быў мудрым. А мудрэц, кажуць, бывае адзін на ўвесь век. Усё вялікае — рэдкасць. Выкарыстай, Анатоль, гэту магчымасць і стань вялікім мудрацом. Для гэтага будзь гатоў праліць сто патоў, стаптаць сто ботаў, каб успаміналі потым. Не бойся цяжкасцей. Яны загартоўваюць веру.

* * *

Людзі часцей за ўсё хваляць мінулае, ганяць сённяшняе. Мілуюцца замежным, не бачаць сваё. Навучыся, дружок, жыць так, каб убачыў залатую яву вакол сябе. Тады будзе ў цябе добры ўспамін пра ўчарашні дзень. Тады і сваё ўспрымеш, як чужы рай.

Для мяне мае Шоўкавічы лепш за ўсе Амерыкі разам ўзятыя. Кожны дзень мару пахадзіць па расе дзяцінства, убачыць за нашым дубам узыход сонца, нагаварыцца з дзедам Адамам, накасіцца на мурожнай сенажаці, зноў пачуць голас Мамы і Бацькі. Якая Амерыка ўсё гэта можа падарыць? Ніякая!..

* * *

Кніга робіць чалавека асобай. Тэлевізар, радыё, інтэрнэт ніколі падобнага не зробяць. Мудрыя кнігі, Талян, дапамогуць спасцігнуць веды забытыя і шукаемыя. Яны напоўняць тваю душу гаючымі мускуламі. Сябруй з кнігамі! Не стань цацкай у сучасных робатаў. Не падманіся ў выбары кніг, музыкі, фільмаў, якія тыражыруюцца аўтарамі толькі для свайго кашалька.

* * *

Самае каштоўнае, што нам дадзена, — наш час, у якім нам выпала жыць. Як жа мы растрачваем свой скарб? Аздабляем ім сваё цела ці дух? Губляем на пустое ці пускаем на карысць? Не старайся, унучак, спярша адпачываць, а пасля — працаваць. Адпачынак трэба зарабіць, спаўна выкарастаўшы час дзяцінства, маладосці, сталасці. Помні, каштоўней твайго часу няма нічога. Не шкадуй на яго розуму і аптымізму. Калі мне не верыш, павер мудраму іспанцу Бальтасару Грасіану, які чатырыста гадоў назад сказаў: «Кожны Божы дзень надзявай даспехі рашучасці перад люстэркам свайго розуму — толькі тады адаб'ешся ад наскокаў дурноты…»

* * *

Кажуць, праз кожныя сем гадоў мяняецца характар. Ты цяпер, Толік, на першым этапе: фарміруешся, як чалавек, наліваешся розумам. Хай так будзе і ў наступныя твае сямігодкі. Не стаміся пазнаваць свет, а ў ім — самога сябе. Навучыся паважаць сябе, тады і цябе прыкмецяць, пачнуць паважаць. Спаўна пакарыстайся Божымі дарамі — Святасцю, Здароўем, Мудрасцю.

* * *

Пішу, Толік, пажаданні табе, а перад вачыма ты — з доўгім, жоўтым бананам. Сядзіш у бацькавым джыпе на сваім дзіцячым крэсле. Прывязаны рэмнем, але шчаслівы. Цябе вязуць па святочных вуліцах Мінска. Побач — мама, бабуля і я, твой летапісец. За рулём — бацька Лёня. Ты з апетытам уплятаеш банан, пазіраеш у шкліны машыны. Вочы твае вымытымі слівамі ўпіваюцца на ўсё і ўсіх. А я думаю: ці не навязваюся да цябе са сваімі павучаннямі? Можа, твой век выставіць свае рахункі, свае пажаданні? Цікава, а якія ж з маіх запаветаў ты рэалізуеш у сваім жыцці? Якія з іх захочаш перадаць сваім дзецям? От бы ведаць пра гэта…

*Застаюся верным табе — Уладзімір Ліпскі*
*6 мая 2008 г. (аўторак, у гэты дзень мне 68 гадоў)*

**98**

Шустры Толік!

Ты бегаў сёння па Палацу культуры трактарнага завода. Маша спявала на сцэне ў народным ансамблі «Радзімічы». Побач з табой родныя людзі — мама, тата, бабуля, дзядуля, дзядзька Ігар. Чаму б не падурэць у гэткай шаноўнай кампаніі?

Расцеш. Разумнееш. І пачынаеш задаваць пытанні.

Сядзім у машыне. Выходзіць з дзвярэй мама Марына і ты прамаўляеш:

— А дзе мама сядзе?

Паказваеш мне сваю тэхніку: машыны легкавыя, самазвал, трактар, кран. І раптам хвалішся:

— А во матацыкл!

У вачах зіхацяць зоркі. Ты паказваеш мне белы і чырвоны матацыклы. Цяпер я ўжо задаю табе пытанне:

— Хто зламаў руль у матацыкла?

— Толік, — адказваеш ты і табе чамусьці весела. Ты, можа, падумаў, што ламаць — гэта тое ж самае, што і рамантаваць.

Пачынаем гуляць.

Ты прымітыўна загружаеш самазвал. Узяў у жменю тры рыбкі і кінуў іх у кузаў.

— Э, трэба не так, — пярэчу табе.

Падганяю да самазвала кран. Паціху, асцярожна, па адной бяру каўшом рыбіны і выгружаю іх з машыны, як бы адразу ў возера. Ты зацікавіўся маёй працай, перастаў дурэць.

На развітанне падаеш руку і гаворыш:

— Дзед, я — белялюсь!

Я раней прасіў цябе зрабіць такое прызнанне, але ты адмоўчваўся. Цяпер прызнаўся, даверыўся. Дзякуй за давер!

*Твой дзед, які з’еў жабу на абед*
*20.05.2008 г. (аўторак)*

**99**

Толік!

Амаль у кожным пісьме я забухваю табе свае пажаданні і просьбы, павучанні. Можа, дарэмна навязваю нейкія свае погляды, правілы, норавы? Чалавек, звычайна, да ўсяго даходзіць сам. Колькі не кажы дзіцяці, каб не лез у агонь, бо апячэшся, — не верыць, пакуль не ўхопіцца голымі рукамі за гарачы вугельчык. Колькі не падказвай: «Не бегай па лужах — прастудзішся» — не верыць. А як пакашляе, «пакаштуе» таблетак, уколаў, робіцца больш паслухмяным.

Кожны адкрывае свет сам.

У кожнага непаўторны шлях да сваёй душы.

Свет — гэта ўсё, што вакол цябе. Ён не толькі светлы, а бывае хмарны і вясёлкавы, добры і злосны, трывожны і шчаслівы. Загартоўвай сябе светлымі і чорнымі выпрабаваннямі.

А што такое душа?

Відаць, калі розум і мараль аб’ядноўваюцца любоўным шлюбам, тады ў іх і нараджаецца Душа. Розум — гэта мозг, роздум, памяць, а мараль — гэта воля, сумленне, каханне, міласэрнасць, паводзіны, добрыя ўчынкі, прыгожыя эмоцыі.

Кажуць: «Бога ў цябе няма».

Такі прысуд таму, у каго душа не ў ладах з розумам і мараллю. А гэта, Толік, рана крывавая і трагічная. Зусім не тое, што пякучае полымя і ледзяная вада.

Дрэнных дзяцей няма.

Дык чаму ж тады вырастаюць людзі з хворымі паводзінамі, з пакалечанымі душамі? Як і чым лячыць іх?

Толік мілы, не хачу абцяжарваць цябе сваімі рэцэптамі. Ведай, я побач, я твая хуткая дапамога.

Пішу гэтыя радкі ў машыне, якая вяртае мяне з Калінкавіч, Аўцюкоў, Рэчыцы, Шоўкавіч, Дабужы. Паездка на малую радзіму — падзарадка жыццёвых батарэек. Перапоўнены пачуццямі. Пішу табе пра душу, а ў самога па ёй прабягае цяпер высакавольтная энергія.

Найбольшыя ўражанні ад рэчыцкіх дзетак. Усім садком «Пралеска» яны віталі мяне. Спачатку на вуліцы. Пастроіліся радком. Трымалі ў руках кветкі і кожны хацеў паздароўкацца са мной за руку. А хлопчык Максімка, крыху большы за цябе, прапанаваў:

— Давайце памераемся сілай.

Мы сашчапіліся рукамі. І я даўся яму перамагчы. У яго заіскрыліся вочы. А я быў рады паражэнню.

У самім садку, на кожнай лесвічнай прыступцы на другі паверх, стаялі пралесачкі ў бела-чырвоных узорчатых касцюмах.

Пасля яны спявалі і танцавалі для мяне. Гаварылі душэўныя словы пра мае кніжкі, разыгрывалі сцэнкі з аповесці «Прыгоды Нуліка».

Ведае цябе ўся Беларусь!
З табой сустрэўся сёння я — Кастусь!
Бачу, просты наш ты дружа,
Спадабаўся ты мне дужа.
Не ўтрымаюсь — пабягу,
Цябе моцна абдыму…

Хлопчык Кастусь падбег да мяне, і мы шчыра абняліся. Я адчуў у яго грудках трапяткое сэрцайка. І на адзін міг убачыў вочкі дзяцей. Яны ўсе хацелі такіх жа абдымкаў з пісьменнікам.

А пасля мы дзялілі і елі каравай. Я гуляў з іхнімі падарункамі — сіняй дудачкай, якая галасна дудзіць, і жоўтым кураняткам, якое дробна скача.

Нашу сустрэчу ўвекавечылі фатографы, мясцовае тэлебачанне.

Толік родны, цяпер я еду да цябе. Уперадзе машыны — сонца. З кожным кіламетрам яно бліжэй, і Мінск бліжэй. Ведаю, чакаеш і бадзёра выгукнеш:

— Дзедуська Вова, прывет!

— Прывітанне, мой слаўны хлопчык!

Я твой на сённяшні вечар. І на ўсе дні, якія мне падорыць Бог!..

*Твой — Уладзімір Ліпскі*
*29.05.2008 г. (чацвер, Светлагорск—Мінск)*

**100**

Мой унук!

У слова «мой» укладваю ўсё самае дарагое, што маю: прозвішча, лёс, сэрца. Пражытыя мною гады — гэта і тваё багацце. Мне за іх не сорамна. І ты ніколі-ніколі не губляй сорам. Гэта стане працягам майго і заглыбленнем твайго жыцця.

Я зноў у дарозе. І гэтыя думкі выстуквае душа не проста так. Побач са мною ў маршрутцы сядзіць Пётр Іванавіч Ліпскі. Ён унук Пятра, якога ў 1930 годзе раскулачылі і вывезлі з усёй сям'ёй у Сібір. Заложнікамі высылкі, крыўды і несправядлівасці сталі яго дзед і бацька. Яны ніколі болей так і не пабывалі на сваёй радзіннай зямельцы. Паўміралі на чужыне, як «ворагі народа», як бязвінныя ахвяры.

Іх унук і сын Пятро, які нарадзіўся ў вымушанай ссылцы, цяпер едзе са мной у Куннае, дзе некалі жыў яго дзед-«кулак». Не зводзіць вачэй з прывабных краявідаў. Маўчыць. Прамовіў толькі два словы:

— Дарога смутку…

Гэтым прыгожым шляхам, на падводах, а затым на цягніку, у якім перавозілі жывёлу, адпраўлялі некалі ў нязведаную дарогу мазольных Ліпскіх.

Дарога смутку і журбы доўжылася больш як месяц. Піць і есці «ворагам» не давалі. Хто паміраў, на прыпынках выносілі і складвалі побач са шпаламі. Хто даехаў у нялюбы край, пачалі будаваць новую буслянку. У ёй і нарадзіўся мой цяперашні спадарожнік Пятрусь Ліпскі.

Аўтобус намотвае на колы дарогу, а думкі накручваюць усё новыя і новыя запытанкі і дакуль жа бязвінныя будуць вінаватымі, чаму людзі людзям — звяры, калі ж улады стануць сапраўды народнымі?

Пятро і Браніслаў Ліпскія ладзілі свой побыт на балацянцы ў Кунным. Рыдлёўкамі пракапалі каналы, асушылі зямлю. Пасадзілі на ёй сад, збудавалі раскошныя хаты, хлявы. Займелі спадчыннікаў: Пятро — шэсць, Браніслаў — дзевяць. Дык вось і багацеі. Трэба іх раскулачыць, вывезці ў такую далячынь, каб нават забыліся пра радаводныя мясціны.

Праз шмат гадоў дзяржава прызнала сваю памылку, але прасіць выбачэння ўжо не было ў каго. Пятро і Браніслаў памерлі. Іх дзеці сталі старымі. І не ўсім унукам хочацца ведаць горкую праўду.

А вось Пятро, унук Пятра Ліпскага, едзе за тысячу кіламетраў, каб пакланіцца дзедавым слядам.

Мы стаім з ім на жытнёвым палетку, дзе была некалі іх сядзіба. Уверсе спявае гімн лету жаўрук-шчабятун. Каля рэчкі Жардзянкі ходзіць бусел, збірае жаб і, відаць, думае, чаму тут не сяляцца людзі, дзе падзеліся іхнія хаты?

Пятру Ліпскаму таксама хочацца ведаць пра ўсё гэта. Але нават мясцовы ветэран, васьмідзесяцігадовы Лявон Ліпскі чэша патыліцу:

— Чорт ведае, куды адсюля падзеліся хаты. Мо на дровы паламалі? Людзей жа ў Сібір выгналі…

Пятро з расійскага горада Кірава бярэ ў газетны кулёк жменю бацькоўскай зямлі. І ўсе мы нямеем. Міжволі атрымліваецца хвіліна маўчання. У гэтай даўкай цішыні Пётр Іванавіч кажа:

— Завязу гэту зямельку на бацькаву магілку…

Вось такая, Толік, была ў мяне новая камандзіроўка.

Я прапанаваў светлагорскаму начальству пакласці на месцы хутароў у былым Кунным вялізны валун, напісаць на ім прозвішчы савецкіх ахвяр. На той камень просіцца запавет «спецперасяленкі», дачкі «ворага народа» Валянціны Браніславаўны Ліпскай: «Жыццё — гэта цуд! А цуд не забароніш!»

Толік мой любы!

Пішу табе пра трывожную паездку. А ў сэрцы — двайная трывога. Ты зноў кашляеш.

Непаседлівы мой, дасціпны мой, адолей бяду і будзь заўсёды бадзёранькім. Рыхтуйся да тых выпрабаванняў, якія падкіне табе будучыня.

*Твой дзед Валодзя*
*09.06.2008 г. (панядзелак)*

**101**

Толік!

Сёння ўбачыў: на гарадскім ліхтары сядзелі дзве чайкі. Пра нешта чырыкалі. Наўкол асфальт, цагляныя чалавечыя гнёзды. А чаго прыляцелі сюды чайкі?

Мо памыліліся адрасам, заблуды?

Мо цікаўныя, захацелі пабачыць, як пачуваюць сябе людзі на асфальце? Мо галодныя, захацелі магазінных ласункаў? Мо развучыліся лавіць рыбу?

Я чакаю машыну, каб з'ехаць з гарадскога тлуму, пабыць на прыродзе, каля свайго азярка. А яны адтуль прыляцелі сюды. Чаму? Навошта?

Бачыш, Толік, колькі пытанняў узбудзілі дзіўныя госцейкі на гарадскім ліхтары. І я іх не асуджаю і ляціце, маўляў, да сваёй вады і рыбачце там. Не, Толік, яны мне цікавыя ўжо тым, што не як усе. Бач, адарваліся ад звыклай чарады, парушылі яе звычкі. Ім захацелася нечага нязведанага, неспазнанага. А з гэтага якраз і пачынаюцца адкрыцці. З такіх парываў зачынаецца асоба.

І я, Толік, хачу, каб ты быў рашучым. Не ўпартым цвердалобікам, не слязамі і тупатам дамагаўся нечага для сябе, а разумнасцю і воляй Цяльца.

Днямі ты пацешыў мяне сваёй рашучасцю. Скамандаваў:

— Зя мной!..

Ты патэпаў да лесвіцы, і я — за табой.

— Лезем! — загадаў ты і паказаў угору.

Я пачаў адгаворваць цябе:

— Толік, лесвіца крутая. Лезці на другі паверх доміка высока і страшна.

— Зя мной! — быў неадступны ты і адолеў першую прыступку.

Я пачаў падстрахоўваць цябе. Ты адпрэчыў ад сябе маю руку, заявіў:

— Сям!

Так пад маім пільным наглядам ты ўскараскаўся на другі паверх дачы.

Першая адчайная рашучасць!

Прымі ад мяне банан замест лаўровага вянка.

*Твой дзед, які сёння бачыў узыход Сонца*
*18.06.2008 г. (серада)*

**102**

Родны мой!

З табой ужо можна пагаварыць. І гэта так заманліва, што не адарвацца ад цябе. Цэлы дзень з табой за горадам. Мы, як іголка з ніткай, неразлучныя. І вось якая сшылася размова.

— Толік, дождж пайшоў. Хавайся!..

А ты стаіш са здзіўленымі вачыма:

— Куды дождж пайшоў?..

Намаляваў у тваім блакноце боты і кажу:

— Толік, адзявай.

— Як жа іх адзену?.. Боты намаляваныя…

Кармлю цябе супам. Крывішся, не хочаш есці.

— Добра, — кажу, — з'еш тры лыжкі і адстану ад цябе.

Пагадзіўся. Адну лыжку супу закідваю ў твой роцік, другую, трэцюю. Хачу махнуць туды яшчэ адну. А ты раптам кажаш:

— Я ўжо тры з'еў…

Разумнік мой, як жа з табой пацешна.

Сядзім на печы, грэемся. Кніжку пра звяркоў чытаем. А ты раптам кідаеш рэпліку:

— Як цёпленька тут…

Гэта ацэнка і печы, якой няма ў горадзе, і падзяка мне, што падсадзіў цябе на чарэнь, дзе самы кайф.

Залезлі з табой па крутой лесвіцы на другі паверх дачнага доміка. Ты агледзеў бакавушку-склад, дзе сярод розных гаспадарчых прычындалаў стаіць звязаная навагодняя ёлка.

— О, я тут буду жыць, — прапануеш.

— Жыві сабе, а я пайду.

— Не, ідзі ка мне. Разам будзем жыць…

Ступаю да дзверак і распачынаю казку-прыдумку:

— Толік, пусці, я — Зайчык. За мной Воўк гоніцца, хоча з’есці…

Твае вочы сталі вялізнымі азёрамі. Спачувальна пазіраеш на мяне, не чакаў такога павароту падзей.

Уваходжу ў твой домік, трымчуся, кажу:

— Толік, які ты добры… А я галодны. Дай паесці…

Ты рукой махнуў у паветры, як бы ўзяў ежу.

— На, зайчык, хлеб, — прапануеш.

— Мы, зайчыкі, хлеб не ядзім.

— Што табе даць? — здзівіўся ты.

— Моркву мы любім.

— А-а, моркву, — сам сабе сказаў ты, як бы прыгадаў даўно вядомую ісціну.

Махнуў у паветры рукой і падаў мне морквіну.

Я «хрумстаю» ласунак. Ты задаволена пазіраеш на мяне, зайчыка.

От і пагулялі.

Задаволеныя вяртаемся на зялёную мураву. Там — машынкі, маленькія граблі, лапатка. Пачынаецца новая праца.

Вось так весела і карысна бавім час.

*Да новай сустрэчы*
*22.06.08 г. (нядзеля)*

**103**

А ведаеш, Толік, ёсць сем’і без падмурка. Нібыта ён ёсць, але падгнію, вецер хістае дом. З яго неўпрыкмет выкульваюцца бацькі. Іх пазбаўляюць бацькоўскіх правоў. А дзяцей-падранкаў забіраюць у сіроцкі дом.

У вашай сям’і, слава Богу, і падмурак моцны, і сям’я трымаецца на каханні, любові, прыстойнасці. Зразумей гэта і цані!

Чаму пачаў такую гамонку?

А мне кінулася ў вочы твае нейкія нестандартныя паводзіны.

Даў табе акуляры-канструктар з пластмасавых дэталей. Ты разабраў іх па частках і пачаў раскідваць па пакоі.

— Што робіш?.. Хіба так можна?.. — зрабіў заўвагу я.

Табе ж смешна і весела. Апошнюю запчастку шпурлянуў пад шафу.

Адкуль зарадзілася такое шкодніцтва? Хто навучыў: мама, бацька, выхавацелі, Маша, сябрукі ў садку?

Запрашаем цябе есці. Раптам затупацеў ножкамі.

— Не хачу!..

Можна ж было спакойна пра гэта сказаць. Дзе і ад каго навучыўся тупацець?

Маша сказала табе нешта павучальнае, ты замахнуўся на яе рукой. О, браток, гэта мне ўжо зусім не спадабалася.

Твае дробязныя «выбрыкі» ўспрымаюцца дарослымі з жартам. Маўляў, вунь які ты рэактыўны. А мяне гэта насцярожыла. Як бы за тваёй мілай усмешкай, за ўсенароднай любоўю да цябе не прамаргаць прыход у тваю кволую душу агрэсіўнасці, злабы, эгаізму.

Можа, я перабольшваю?

Можа, так і трэба?

Ты ж выпрацоўваеш характар мужыка, байца, абаронцы. Яго ж мусіш недзе і ў нечым трэніраваць, практыкаваць, правяраць, загартоўваць.

Ты, Толік, загадка без разгадкі.

Як бы мне хацелася сустрэцца з табой, дарослым!

З такім пажаданнем і заканчваю гэты ліст у дарозе. Вяртаюся з Капыля, дзе быў абласны фестываль гумару. На вуліцы дагарае адзін з чэрвеньскіх дзён. Ён набліжае твой чарговы юбілей.

*Абдымаю і люблю. Дзядуля Валодзя*
*29.06.2008 г. (нядзеля)*

**104**

Добры дзень, Юбіляр!

Першае, што раблю, як прачнуўся, — званю табе. Падняла трубку Маша. Паведаміла:

— Мы ўсе ўжо не спім. Толіка віншуем…

Далі трубку табе, імяніннiку:

— Толік, віншую! — крычу табе з вуліцы Купалы на вуліцу Лабанка.

— Пасіба, — адказаў ты, у голасе поўнае ўсведамленне таго, за што ты дзякуеш мяне.

— Колькі ж табе споўнілася гадзікаў?

— Во колькі! — адказаў і маўчыш, відаць, перад трубкай трымаеш тры роўненькія пальчыкі.

Я быццам убачыў гэта і прапаную:

— Давай, Толік, палічым іх.

— Давай, — пагаджаешся ты і гаворыш: — Адзін, два, т’і…

Божа любы, ты ўжо адмераў нашаму спадчынніку тры гады жыцця.

Толік дарагі, ты радуеш усіх нас сваёй разумнасцю. Пагаджаешся нават даць мне інтэрв’ю — першае ў жыцці!

— Як цябе завуць?

— Ліпські Ататолій.

— Каго любіш?

— Маму… Папу тозя…Сябачку…

— Што ўмееш рабіць?

— Паботу… Уяць масінкі…Ісюнкі ісяваць…

— Ці чытаеш кніжкі?

— Ухі.

— Твая любімая ежа?

— Пяцені, сюп, катета…

— Што любіш піць?

— Сёк.
— Які колер найбольш падабаецца?
— Зянёні любу.
— Хто твой сябар у дзіцячым садку?
— Коя. Я з ім гуяю…
— Што любіш маляваць?
— Масіну… Кацінкі…
— Якія літары ведаеш?
— А, і…

Пачынаем гуляць з машынкамі. Раптам я знарок аб’яўляю:
— Машынка мая далей ехаць не можа.
— Цяму? — цікавішся ты.
— Трэба яе адрамантаваць.
— Дай, я падумаю, — кажаш ты і прахаджваешся па пакоі, як бы прыкідваеш, што трэба рамантаваць у машыне.

Едзем з табой на веласіпедзе. Ты раптам кажаш:
— Той, я зяйду ў магазін.

Пачынаецца новая гульня, падгледжаная ў жыцці.
— Дзедуська, што табе купіць?
— Купі, Толік, марожанае.
— Якое?
— На палачцы, шакаладнае.

Ты ўслых паўтараеш заказ, свой і мой, бяжыш да травы, каля якой як бы стаіць магазін. Праз хвіліну — заказ выкананы.

Тваёй энергіі хапае на ўсіх.

Бабулі Ніне падмагаеш паліваць агарод. Маме Марыне — праполваць граду. Тату Лёню — закручваць шурупы. Сястры Машы — слухаць музыку. Мне — лавіць карасёў.

Пачалі бетаніраваць стаянку для машыны. Ты і тут спатрэбіўся. Прыйшоў да гары пяску з лапаткай, і яна тут жа ператварылася ў коўш экскаватара. Залезеш наверх гары, ухопіш пяску і павольна нясеш «коўш», сыплеш у вядро, тарахціш, як сапраўдны пагрузчык. Калі вядро поўнае, кажаш Ігару:
— Прыходзь яшчэ. У нас пяску багата.
— Прыйду, — весела гаворыць Ігар і, здаецца, яму лягчэй несці цяжкае вядро.

А яшчэ я навучаў цябе, Толік, жадаць дзядзьку Ігару шчаслівай дарогі. Ты не забываўся паўтараць гэта за кожным рэйсам і дзядзьку ахвотней працавалася.

У канцы земляных работ я прапанаваў паставіць на пяску нашы пячаткі — сляды ад ног. Расчысцілі, падраўнялі пляцоўку. Ты тэпнуў сваім чаравічкам, і я тэпнуў сваім чаравікам сорак другога памеру. Стаім, любуемся. Наслядзілі!

Я радуюся: твой след абавязкова пабольшае. Мой ужо — ніколі. Што ёсць, тое і ёсць.

Наш дарагі мурашок, ты ўсіх нас пацешыў сваёй руплівасцю, таварыскасцю, непаседлівасцю, нейкай незвычайнай заліхвацкасцю. І прыгадаўся Леў Мікалаевіч Талстой з яго мудрай філасофіяй: «Чалавек жыве, пакуль ап’янелы жыццём».

У свой юбілей, Толік, ты ўсіх нас напаіў, ап’яніў сваім чароўным жыццёвым нектарам. Хай жа яго запасы будуць невычэрпнымі!

*Твой дзядуля — Уладзімір Ліпскі*
*2 ліпеня 2008 г. (серада)*



## Алесь МАСАРЭНКА

* * *

Цемру доўжыць марозная стынь,
завіруху падсцёбвае поўнач.
У душы маёй — харашынь,
стома ў целе, у сэрцы слодыч.

Увесь пыл снег сабою накрыў,
чарнаты навакол — ані знаку...
Калі б я ўсё благое забыў,
то ад радасці б горка плакаў.

### ЮШКА

Дзень пахмурны, дарма што і летні.
Дождж стамлёна сшывае лісцё.
Разгарацца не хоча трысцё —
халадэча драмае ў паветры.
То няхай бы й дажджыска ўціх —
як і вецер, узяў перадых.

У вядры над цяпельцам — шчупак
з акунямі двума і платвіцай,

---

***Масарэнка Аляксандр Герасімавіч*** *нарадзіўся 12 красавіка 1938 года ў вёсцы Ходараў Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці. Пасля заканчэння Целяшоўскай сярэдняй школы (1956) працаваў інструктарам Слаўгарадскага райкама камсамола, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1966). Працаваў на Беларускім радыё, у газетах «Чырвоная змена» і «Літаратура і мастацтва», у выдавецтвах «Беларусь» і «Мастацкая літаратура», у часопісах «Полымя» і «Маладосць», на кінастудыі «Беларусьфільм». Быў галоўным рэдактарам часопіса «Першацвет».*

*Аўтар кніг прозы «На бабровых тонях» (1971), «Журавіны пад снегам» (1976), «Баргузінскае лета» (1982), «Сонца майго дня» (1988), «Пакуль не завялі кветкі» (1994) і інш., паэтычнай кнігі «Рэха гіпербалы» (2006), рамана ў вершах «Святое возера, альбо Візіцёры Сёмага неба» (2011).*

бульбай, перчыкам і карыцай,
ды, як лапаць, вусаты рак,
а яшчэ і цыбулька з соллю...
Наямося сягоння ўволю!

Неяк трэба ўзвіхрыць сушняк...
Што ж, пушчу на падтопу сшытак —
хай гарыць мой творчы набытак;
яго вартасць праверу так:
вершы тыя, якія не ўспомню,
застануцца на памяць полымю.

* * *

Жніўня жоўтая мройва
ападае на дрэвы.
Лісце лётае ройма —
знак суворай залевы.

Неба страчвае яснасць.
Вецер хмары тасуе,
аксаміту выразнасць
чорнай фарбай касуе.

Кужаль воблакаў прасці
пачынае дрымота...
Паўнавокае шчасце
ахінула самота.

* * *

Ад раніцы
й да позняга вечара —
быццам сам не свой:
з красой навакольнай нечага
не магу я
зліцца душой.

Як ніколі,
трывожна чуюся —
узбуджае слязы мілосць,
ад якой, бы ў агні, пяклуюся:
у красе штось
ад смерці ёсць.

* * *

Воўк адчайна ўзвые ўначы,
скалануўшы заечыя сэрцы.

Успалошна галёкнуць сычы,
вочы іх — шкляныя азерцы.

Капытом лось ручай прару́біць
і сцюдзёніцы ўсмак нап’ецца.
Воўк прагліва абліжа губы
і ў пагрозлівы хіб сагнецца.

У звярынай яго галаве
кроў і мяса былі спрадвеку...
Чалавек у ваўку не жыве,
а ваўчара — жыве ў чалавеку.

## СТАРАСЦЬ

Плывуць з нябёсаў
сонечныя мроі,
сукведцямі бялее
хараство.
Жыццё маё
не плеснее ў застоі:
мне кожны дзень —
падзея, адкрыццё.

Прачнуліся
ранейшыя жаданні —
душа крыляць
гатова ў вышыні...
Ды ўсе мае
ўскалыхі-парыванні
маўчаць абрыўкам
спеўнае струны.



Юліян ВЫСОЦКІ

# ДВОЕ З ПЯКЕЛЬНАГА БАМБАРДЗІРОЎШЧЫКА

*Дакументальная аповесць*

*29 чэрвеня 1941 года над тэрыторыяй Мінскага раёна, паміж вёскамі Раўкуцьевічы, Латыгаўка і Камянец, нямецкімі знішчальнікамі быў збіты наш бамбардзіроўшчык, які вяртаўся на базу пасля выканання баявога задання. Падбіты самалёт загарэўся і ўзарваўся ў паветры. Два члены экіпажа — пілот Уладзімір Сашыхін і стралок-радыст Дзмітрый Янаў — здолелі выратавацца на парашутах.*

*Роўна праз 34 гады, 29 чэрвеня 1975 года, Дзмітрый Янаў зноў — ужо ў трэці раз — прыехаў у тыя мясціны, дзе яго, параненага, падабралі і выратавалі беларускія сяляне. Праз некалькі дзён у Мінск прыехаў і Уладзімір Сашыхін. Так яны ўпершыню сустрэліся пасля доўгіх гадоў расстання. Раней прыязджалі ў Беларусь паасобку і шукалі іншых членаў свайго экіпажа: Сашыхін шукаў стралка Сяргея Зуева, а Янаў — штурмана Апанаса Дворніка. І абодва думалі адзін пра аднаго як пра загінуўшых. Вось тады, падчас сустрэчы, яны падрабязна расказалі гэту хвалюючую гісторыю...*

## Трагічны палёт

Чэрвеньскай раніцай цяжка-горкага 1941 года з ваеннага аэрадрома каля горада Шчагры Курскай вобласці, дзе базіраваўся 221-ы бамбардзіровачны авіяцыйны полк далёкага дзеяння, у неба ўзняліся тры самалёты канструкцыі Ільюшына. Гэта былі бамбардзіроўшчыкі «ДТБ-3Ф» з поўным баявым грузам — па 10 стакілаграмовых бомб і поўным запасам патронаў да кулямётаў. Вёў групу камандзір палка. У складзе грознага звяна на баявы курс лёг і самалёт, які пілатаваў старшы лейтэнант Уладзімір Сашыхін. На борце самалёта знаходзіліся штурман капітан Апанас Дворнік, сяржанты — стралок Сяргей Зуеў і стралок-радыст Дзмітрый Янаў. Заданне было адказным: звяну загада-

---

*Высоцкі Юліян Станіслававіч нарадзіўся 10 верасня 1939 года ў вёсцы Роўкавічы Валожынскага раёна. Пасля заканчэння Полацкага педвучылішча (1959) працаваў у Жомайдзьскай васьмігодцы на Валожыншчыне. Завочна вучыўся на факультэце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у газетах, быў галоўным рэдактарам часопісаў «Ахова працы» і «Гермес».*

*Аўтар дакументальнай аповесці «Таварыш Ганс» (2009) — пра нямецкага антыфашыста, удзельніка партызанскага руху ў Беларусі.*

на разграміць вялікую колькасць варожых войск і баявой тэхнікі на захадзе ад літоўскай сталіцы, адкуль браніраваныя механізаваныя калоны фашыстаў ірваліся да Ленінграда. Савецкія самалёты роўным строем ляцелі ўжо больш як паўтары гадзіны…

— Да цэлі восем мінут, камандзір! — пачуўся ў шлемафоне голас штурмана.

Уладзімір Сашыхін звычна кінуў у мікрафон: «Зразумеў» і зірнуў на прыборы. Стрэлка вышынямера застыла на лічбе 9 тысяч метраў. Аднак і з такой вышыні ў марыве чэрвеньскага дня выразна вырысоўваліся цёмна-зялёныя масівы лясоў, стужкі дарог, стракатыя палоскі засеяных палёў. На падыходзе да Вільнюса стракатасць палявога дывана павялічылася: тут сяляне гаспадарылі аднаасобна. Горад гарэў. Па сігнале камандзіра бамбардзіроўшчыкі ўзялі курс на поўнач. Гарадскія пажары засталіся злева.

Паступіў загад знізіцца да трох тысяч метраў. Старшы лейтэнант Сашыхін зразумеў, што вось-вось убачыць цэль, і нейкае незразумелае хваляванне ахапіла яго. Не, за сябе ён быў спакойны: вопытны паветраны баец, узнагароджаны ордэнам Леніна за фінскую кампанію, цвёрда верыў у свае сілы і ўменне. Не сумняваўся ён і ў астатніх членах экіпажа, з кім зрабіў ужо не адзін баявы вылет, акрамя хіба толькі штурмана, капітана Апанаса Дворніка, з якім сёння першы раз вылецеў на баявое заданне. Але майстэрства капітана, з якім ён правёў машыну з аэрадрома сюды, пад Вільнюс, не пакідала ніякіх сумненняў. Хваляванне пілота было хутчэй хваляваннем вопытнага лётчыка перад боем, яно перамешвалася з пякучай нянавісцю да фашысцкіх разбойнікаў, што карычневай чумой распаўзаліся па нашай зямлі, залівалі яе крывёю. Хацелася ўшчэнт разбамбіць калоны захопнікаў, якія рваліся з ускраін літоўскай сталіцы да горада на Няве.

Прагучала каманда: «Да атакі падрыхтавацца!». Сашыхін убачыў варожыя калоны, што тугімі жгутамі запоўнілі шашу.

— Падрыхтавацца да бомбакідання! — загадаў ён штурману і ўслед за вядучым знізіўся да брыючага. Вораг не чакаў з'яўлення тут савецкіх самалётаў, таму яго калоны не абаранялі ні зенітная артылерыя, ні знішчальнікі. На калону паляцелі бомбы. Першы ж удар сашыхінскага экіпажа аказаўся трапным. У розных месцах калоны запалалі машыны з ваеннымі грузамі, загарэліся бензавозы. Сашыхін выраўняў самалёт і зноў кінуў яго ў піке. Побач нырцавалі яшчэ два бамбардзіроўшчыкі: бомбы дакладна траплялі ў цэль. На шашы пачалі рвацца боепрыпасы, ад іх узрываў уздрыгваў бамбардзіроўшчык, але Сашыхін вопытнай рукой набіраў неабходную вышыню і зноў кідаў яго ўніз.

— Ага, гады! Вось вам рускія «гасцінцы»! — крычаў у сваёй кабіне стралок-радыст Янаў. — Што, забегалі як падсмаленыя! Так іх! Так!

— Бомбавыя адсекі пустыя! — далажыў штурман Дворнік.

Самалёт развярнуўся і накіраваўся ўздоўж шашы.

— Сяржантам Янаву і Зуеву ўдарыць па правым кювеце, штурману адкрыць агонь па левым! — загадаў Сашыхін.

Кулямётныя чэргі паласнулі па прыдарожных кустах, дзе заляглі гітлераўцы. Яны ў паніцы замітусіліся ля дарогі, імкнучыся схавацца ад помсты, ад смерці, але кулі даганялі іх.

— Я — сямнаццаты! — пачуўся ў шлемафоне голас камандзіра палка. — Атаку закончыць! Дадому!

Самалёты ляглі на зваротны курс. За Маладзечнам, непадалёку ад Радашковіч, ля невялікага мосціка, Сашыхін заўважыў варожую механізаваную

калону. У галаве мільганула параўнанне: шэрая драпежная змяя паўзе па нашай зямлі, несучы з сабою пакуты, смерць і разбурэнні. Сэрца пілота не вытрымала: рукі машынальна адвялі ад сябе штурвал, і бамбардзіроўшчык, пакінуўшы агульны баявы строй, пачаў зніжацца. Па камандзе пілота стралкі і штурман ударылі па калоне з кулямётаў. Загарэліся, задыміліся аўтацыстэрны. Адзін заход, другі, трэці — да таго часу, пакуль у кулямётных стужках заставаліся патроны.

Варожыя зеніткі, замаскіраваныя паабапал дарогі, нечакана адкрылі агонь. Справа і злева, навокал бамбардзіроўшчыка пачалі рвацца снарады. Раптам самалёт уздрыгнуў і пахіснуўся: у левы матор трапіў снарад, асколкам адразу быў забіты штурман Апанас Дворнік. У пілоцкай кабіне ўспыхнуў пажар: загарэўся бензінавы бачок з гаручым для запуску рухавікоў. Сашыхін адчыніў ліхтар кабіны, і полымя збіла паветраным патокам. Але левы матор працягваў гарэць. На адным рухавіку пілот упарта і адчайна цягнуў на ўсход, імкнучыся пагасіць пажар. Гэта ніяк не ўдавалася. Раптам бамбардзіроўшчык задзёр нос і крута палез угору. «Перагарэў руль глыбіні», — здагадаўся Сашыхін.

— Камандзір! Справа два «месеры»! — пачуўся ў навушніках голас стралка.

— Па варожых знішчальніках агонь! — загадаў старшы лейтэнант.

— Патронаў няма! — далажыў Зуеў.

— У мяне таксама скончыліся! — крыкнуў у мікрафон Янаў.

«Месеры» ўзялі безабаронны бамбардзіроўшчык у ціскі і адкрылі па ім агонь. Здавалася, дзясяткі гарачых джалаў пранізалі правы бок Янава, і ён зваліўся, сцякаючы крывёю, на падлогу кабіны. Зуеў азірнуўся на грукат, і ўбачыўшы параненага Янава, бяссільна сціснуў кулакі. Полымя звонку прабралася ў пілоцкую кабіну, на камандзіры загарэўся камбінезон, з параненага лба пацякла кроў і запяклася на левым воку.

— Штурман забіты! — перадаў Сашыхін па радыё. — Хто жывы, неадкладна пакінуць самалёт: праз некалькі хвілін ён узарвецца.

— Янаў таксама, відаць, мёртвы: ляжыць на падлозе ў лужыне крыві, — адказаў яму Зуеў.

— Зараз жа скачы з парашутам, — загадаў Сашыхін і інстынктыўна прыгнуўся: варожы знішчальнік прамільгнуў перад палаючым бамбардзіроўшчыкам і ўдарыў па ім кулямётнай чаргой. Нясцерпна пякучы боль працяў грудзі Зуева, святло пагасла ў яго вачах. Ён ссунуўся з крэсла і мёртвым зваліўся на Янава.

Полымя ў пілоцкай кабіне шугала ва ўсю, нясцерпна балелі абпаленыя рукі і ногі. Сашыхін паспрабаваў адчыніць ліхтар кабіны, каб выкінуцца з парашутам: самалёт імкліва губляў вышыню. Ліхтар не паддаваўся — яго заклініла.

«Згарэць жывым?! Лепш смерць!» — пранеслася ў галаве, і Сашыхін дастаў пісталет. «Ну, не! — падумаў ён у наступнае імгненне. — Памерці я заўсёды паспею, трэба змагацца». Пілот моцна стукнуў рукаяткай пісталета па плексігласе, і кабіна, на шчасце, адчынілася. Праз шугаючае полымя Сашыхін вываліўся з яе і раскрыў парашут. А «месер» якраз пасля развароту даганяў палаючы савецкі самалёт. Убачыўшы, што лётчык пакінуў кабіну, фашыст пачаў паляванне на яго.

Сашыхін заўважыў манеўры фашысцкага каршуна і зразумеў яго намер. Ён успомніў расказ камандзіра палка пра аналагічны выпадак у час баёў на Халхін-Голе, калі таго вось гэтак жа імкнуўся расстраляць у паветры японскі знішчальнік. Тады ён прымяніў такі просты прыём: як толькі самурай заняў пазіцыю для паражэння цэлі, савецкі лётчык падцягнуў да сябе з аднаго боку парашутныя стропы і слізгануў убок. Кулі свіснулі міма.

Адчуўшы, што вось-вось пачуецца чарга, Сашыхін адной рукой рэзка рвануў парашутныя стропы на сябе, і яго імгненна аднесла ўбок: фашыст прамазаў. Чатыры заходы рабіў фашысцкі сцярвятнік, і кожны раз Сашыхіну ўдавалася пазбегнуць яго куляў.

У перапынках гэтай гульні са смерцю Сашыхін заўважыў, што палаючы самалёт пакінуў яшчэ адзін парашутыст і падумаў, што гэта выратаваўся Зуеў. Пачуўся выбух: у паветры ўзарваўся іх самалёт.

Сашыхін прызямліўся на ўскраіне вёскі, дастаў індывідуальны пакет, перавязаў галаву і выйшаў на вясковую вуліцу. Да яго ўжо беглі людзі. Першым падбег мужчына, схапіў лётчыка ў абдымкі:

— Братка! — закрычаў ён. — Малайчына! Абвёў гадаў вакол пальца! Давай я цябе абдыму!

Ён моцна абхапіў Сашыхіна рукамі і пачаў ціскаць яго ў абдымках.

— Скажы, хто тут: нашы ці немцы? — запытаў у яго лётчык.

— Немцы! — крыкнуў мужчына.— Немчура, братка!

— Дык чаго ж ты мяне трымаеш? — Пусці хутчэй: мне ісці трэба. Лепш дапамажы майму параненаму таварышу: бачыў, дзе ён упаў?

— Зробім, братка, не хвалюйся. А табе ж пераапрануцца трэба хутчэй: твая адзежа добра-такі абсмалена, ды і небяспечна ў ёй.

— Пераапрануся пазней. Скажы, як тут выйсці на дарогу да Барысава? — паглядзеўшы на карту, запытаў Сашыхін.

— А ідзі проста вясковай вуліцай, праз масток, пасля праз вунь тую вёску. Камянец называецца — і трапіш на дарогу Мінск—Масква. Толькі асцерагайся вялікіх дарог, падавайся ўздоўж іх лясамі ды пералескамі.

У гэты час падбеглі вясковыя падлеткі — Міхась Буглак, Пеця Карчэўскі, Віця Пяцюк, Сяргей Карэнга. Махнуўшы ў іх бок рукой, Сашыхін папярэдзіў:

— Не кажыце нядобрым людзям, куды я пайшоў — і шпарка пакрочыў вясковай вуліцай на ўсход…

## Выратаванне Дзмітрыя Янава

Пераканаўшыся, што патроны скончыліся, Янаў націснуў на спецыяльную зашчэпку, і кулямёт аўтаматычна ўехаў у кабіну, вызваліўшы люк. Дзмітрый праверыў рацыю: сувязі з пілотам не было. Стралок-радыст агледзеў сябе: перабіта правая нага, раздроблена кісць правай рукі, лёгка паранены галава і твар. «Месер» зноў пранёсся побач, і на ногі Янава зваліўся мёртвы Зуеў. Дзмітрый вызваліў з-пад яго нагу і паімкнуўся ўстаць, каб паглядзець праз верхні люк, ці вялікі пажар, але непаслухмяны самалёт пачаў пераварочвацца, заклаў «мёртвую пятлю». Янаў левай рукой адштурхнуўся ад радыёстанцыі, і яго ногі трапілі ў вызвалены ад кулямёта люк. Магутным паветраным патокам Дзмітрыя вырвала з кабіны, і ён убачыў што яго левая нага босая: унт зачапіўся за нешта і застаўся там, у самалёце.

«Трэба неадкладна рвануць кальцо парашута, — прамільгнула ў галаве, — але як гэта зрабіць хутчэй?»

Звычайна гэта робяць правай рукой, але яна паранена і не слухаецца. Левай нязручна, і ўсё ж паспрабаваў. Парашут раскрыўся, і параненая нага заблыталася ў яго стропах. Янаў пачаў падаць галавою ўніз. Сціснуў зубы і пачаў вызваляць нагу. Нарэшце парашутная сістэма прыведзена ў норму. Дзмітрый агледзеўся. Крыху ўбаку над незнаёмай вёскай апускаецца яшчэ

адзін парашутыст, проста ўнізе пад ім гараць абломкі іх баявой машыны, а «месеры», нібыта каршуны, носяцца амаль побач. «Добра, што не адразу раскрыў парашут — магло б пагасіць яго абломкамі, або стаў бы лёгкай здабычай для фашыста», — падумаў Янаў. Ён левай рукой і зубамі пачаў падцягваць стропы парашута, каб не ўпасці на гарачыя галавешкі ад свайго самалёта.

Моцны штуршок. Па інструкцыі Янаў упаў на правы бок. Парашут пагас. Парашутыст бадзёра ўстаў і адшпіліў лямкі парашута, скінуў іх, зрабіў крок і тут зразумеў: ісці не можа. Лёг на левы бок і локцем стаў падцягваць усё цела, каб далей адпаўзці ад полымя самалёта, бліжэй да высокай сцяны жыта і замаскіравацца ў ім. Дапоўз да невялікага балотца, і сілы пакінулі яго. Янаў лёг паміж купінамі і затаіўся.

Здалёк пачуліся галасы. Сярод дзіцячых выдзяляўся мужчынскі. Радыст убачыў, што злева ад яго бяжыць да самалёта хлопчык, за ім —мужчына. Янаў падаў голас, да яго падышлі. Мужчына выцягнуў параненага на сухое месца. Лётчык на кароткі час страціў прытомнасць. З забыцця вывелі нейчыя акуратныя і асцярожныя рукі, што падсоўвалі пад яго палотнішча парашута. Янаў убачыў над сабою цікаўныя твары хлапчукоў, пачуў знаёмы голас мужчыны, які недзе збоку камандаваў:

— Падавай парашут улева! Асцярожней… асцярожней!

Убачыўшы, што паранены лётчык апрытомнеў, Кандрат Ангалевіч (гэта ён першым сустрэў Сашыхіна і з падлеткамі адправіўся шукаць і ратаваць яго таварыша) запытаў:

— А дзе ж твой абутак? Адна нага босая…

Наблізілася група вясковых жанчын. Янаў, акрываўлены, стагнаў. Пачуліся жаночыя ўсхліпы, галасы шкадавання. Слабым голасам лётчык спытаў:

— Дзе я знаходжуся? Чыя гэта мясцовасць?

— Гэта Беларусь. Наша вёска непадалёку Мінска. Кругом немцы, але ў нас яны яшчэ не былі, — таропка сказаў Кандрат.

— Схавайце мяне дзе-небудзь, каб не ўбачылі нядобрыя вочы, — папрасіў Янаў.

— А ведаеш, Кандрат, што будзе за ўкрыванне савецкага лётчыка? Могуць спаліць усю вёску,— загаласіла нейкая жанчына.

— Дапамажыце мне!— рашуча сказаў Кандрат. — Я забіраю яго да сябе, і адказваць буду я адзін! — і закамандаваў: — Бярыцеся за парусіну! Панеслі да мяне ў гумно, там — на сена…

## Сведчанні відавочцаў

***Міхаіл Буглак —***
***былы фотакарэспандэнт Мінскай раённай газеты***:

*«Мы, вясковыя падлеткі, у той нядзельны дзень гулялі на вуліцы. Раптам нехта закрычаў:*

*— Глядзіце: самалёт гарыць!*

*З боку вёскі Раўкуцьевічы ляцеў з густым шлейфам чорнага дыму грузны вялікі самалёт з чырвонымі зоркамі на крылах. Вакол яго сноўдалі два меншыя — з чорнымі крыжамі на фюзеляжах. Яны наскоквалі на бездапаможны самалёт і нібы клявалі яго. Мы напружана сачылі за гэтай гнюснай расправай гітлераўскіх каршуноў. Адзін нямецкі самалёт хутка паляцеў з месца бою. Відаць, у яго скончыліся боепрыпасы. Нечакана ад палаючага савецкага самалёта аддзялілася маленькая кропка, над якой распусціўся белы купал.*

*Фашыст накінуўся на парашутыста, а палаючы самалёт задраў нос рэзка ўгору, і з яго вываліўся яшчэ адзін лётчык.*

*Праз некалькі імгненняў бамбардзіроўшчык узарваўся ў паветры і ўпаў за вёскай. Першы парашутыст прызямліўся на агародзе Кандрата Ангалевіча, калгаснага трактарыста. Ён і сустрэў нябеснага госця, моцна абняў яго. Лётчык пра нешта спытаў Кандрата, вызваліўся з яго абдымкаў. Пасля перавязаў галаву, дастаў з кабуры пісталет, сунуў яго ў кішэню і пакрочыў вуліцай. Мы пабеглі да месца падзення самалёта. Абломкі дагаралі. Тут Пеця Карчэўскі знайшоў пісталет і забраў знаходку сабе. Я і дзядзька Кандрат пабеглі да месца прызямлення другога парашутыста. Мы знайшлі яго ў зарасніку асакі і паклікалі на дапамогу».*

## Адысея Уладзіміра Сашыхіна

Сашыхін шпарка крочыў па вясковай вуліцы. Праз нейкі час прыпомніў, што мужчына, які сустрэў яго пасля прызямлення, настойліва раіў памяняць лётчыцкі камбінезон на простую сялянскую вопратку — на выпадак сустрэчы з ворагам. Ён не сумняваўся, што экіпаж збітага бамбардзіроўшчыка ўжо шукаюць, бо ў час парашутнага падзення, у перапынках паядынку з фашысцкім сцярвятнікам, Сашыхін заўважыў некалькі варожых матацыклістаў, якія спяшаліся да месца падзення самалёта. Ён, безумоўна, не ведаў таго, што вясковыя жыхары, убачыўшы няпрошаных гасцей, зразумелі, куды тыя спяшаюцца, і затрымалі іх сваёй сялянскай хітрасцю. Салдат сталі запрашаць за стол у гонар рэлігійнага свята — сёмухі. У гэты час пачуўся магутны ўзрыў самалёта, і фашысты падумалі, што лётчыкі няйначай загінулі і згадзіліся на пачастунак. Не, не мог пра гэта ведаць Сашыхін, і таму папрасіў у першай сустрэчнай жанчыны даць яму сялянскую адзежу, каб пераапрануцца. Ды патрэбна было ў рэшце рэшт высветліць, ці цэлае ў яго вока, якое зацякло крывёю, што запяклася на ім. Дом, куды трапіў лётчык, належаў Буглакам і стаяў над узгоркам амаль пасярэдзіне вёскі. Гаспадыня абмыла яму цёплай вадой рану на галаве, змыла з вока кроў, яно было не пашкоджана. Ён перавязаў раны, пераапрануўся ў світку і нагавіцы, паклаў у кішэню пісталет, выпіў малака і, сардэчна падзякаваўшы жанчыне, рушыў далей у дарогу.

У недалёкім ад вёскі ляску Сашыхіну сустрэліся два пастухі — мужчына і хлопчык — імі аказаліся муж і сын той жанчыны, якая пераапранула пілота. Яны далі старшаму лейтэнанту няхітры сялянскі абутак — глыбокія гумовыя галошы — і параілі, як трымацца з выпадковымі сустрэчнымі, каб быць падобным на простага селяніна. Уладзімір падзякаваў пастухам і адправіўся далей у напрамку Лагойска. Нечакана пілота акліквулі. У прыбярэжным высокім хмызняку да яго падышоў нейкі падазроны малады чалавек, добра апрануты, у чорных акулярах. «Няйначай дыверсант», — падумаў Сашыхін.

Але сустрэчны паведаміў, што ён лейтэнант НКУС, і таксама прабіраецца за лінію фронту.

— А чаму вы мне пра гэта кажаце, а раптам я — пераапрануты дыверсант?

— Я бачыў, як гарэў бамбардзіроўшчык і як ратаваліся два лётчыкі, таму я здагадваюся, што адзін з іх стаіць цяпер перада мной.

Далей пайшлі ўдвух. З надыходам змроку выбралі ў гушчары зацішнае месца і ўладкаваліся на начлег. Сашыхін доўга не мог заснуць: смылелі абпаленыя рукі, ныла рана на лбе. Раніцой іх разбудзіў гул матораў, выкрыкі і

песня на чужой мове. Асцерагаючыся варожых вачэй, падаліся далей. Ісці хутка не дазвалялі параненыя ногі. Лейтэнант прыспешваў Сашыхіна, таму што бліжэй да Лагойска ў лесе ўсё часцей сталі з'яўляцца фашысты. У адным месцы падарожнікі заўважылі тэлефонны провад і абарвалі яго. Давялося хутка адыходзіць, каб ухіліцца ад сустрэчы з сувязістамі. Так яны згубілі адзін аднаго, а крычаць у лесе, поўным варожых салдат, было небяспечна, і Сашыхін падумаў, што сустрэцца з лейтэнантам больш не давядзецца, але ён памыліўся.

Небяспечны шлях працягваўся. Падарожнік прытрымліваўся хмызнякоў і пералескаў і толькі ў крайняй неабходнасці асцярожна перасякаў бальшакі, трымаючыся далей ад населеных пунктаў. Харчаваўся ягадамі, на пакінутых салдацкіх прывалах траплялася тое-сёе з няхітрых прыпасаў, ваду даводзілася піць з ручайкоў і лужын. На кожным кроку падсцерагала небяспека. Неяк надвячоркам каля невялікай вёсачкі за Лагойскам Уладзіміра сустрэлі два чалавекі ў нашай афіцэрскай форме — маёр і капітан. Падышоўшы да Сашыхіна, маёр сказаў:

— Бачу, што ты — пераадзеты паранены наш камандзір.

Уладзімір асцярожна прамаўчаў.

— Пойдзем з намі, мы пакажам, дзе размяшчаецца наша вайсковая часць.

Яны накіраваліся ў лес. Сашыхіну здалося падазроным, што капітан чамусьці маўчаў. Ён прыпомніў словы жанчыны, якая пераапранала яго, пра нямецкіх дэсантнікаў у нашай форме. Падышоўшы да ўзлесся, старшы лейтэнант схапіўся за жывот і сігануў за бліжэйшы густы куст. Ваенныя за ім не пайшлі, і Сашыхіну ўдалося ад іх збегчы. Ён і сёння не ведае, былі гэта ворагі або і сапраўды нашы камандзіры. Апошні раз Уладзімір сутыкнуўся з фашыстамі за Хатынню. Давялося вярнуцца. І тут яго затрымалі вясковыя жыхары. На вуліцы стаяў натоўп жанчын, падлеткаў, мужчын.

— Ты хто такі? — запытаў яго высокі мажны дзядок у святочнай кашулі.

— Што ў яго пытацца: відаць жа птушку па палёце — пераапрануты дыверсант, нават для блізіру і галаву перавязаў, каб быць падобным на нашага…

— У, фашыст пракляты! Забіць яго!

— Я савецкі лётчык, — мякка сказаў Сашыхін. — Самалёт згарэў, і я выратаваўся на парашуце. Дык чаму ж вы мяне заб'яце: сваіх жа не забіваюць.

Павісла цішыня. І тут Уладзіміру прыпомніўся эпізод з кнігі Карэла Чапека пра храбрага салдата Швейка, і ён вырашыў прымяніць хітрасць гэтага знаходлівага ваякі.

— Нават калі я і нямецкі дыверсант, вы таксама не асмеліцеся забіць мяне.

— А чаму ты так думаеш? — падазрона спыталі з натоўпу.

— А таму, што сярод вас абавязкова знойдзецца здраднік, які паведаміць пра гэта фашыстам, і вёску спаляць…

Ізноў — цішыня. І тут пачуўся гул матора, на вуліцу ўехала запыленая палутарка. У кузаве сядзелі людзі ў форме НКУС. Сярод іх Сашыхін заўважыў і знаёмага свайго спадарожніка ў чорных акулярах, з якім ён разлучыўся ў лесе, калі натрапілі на немцаў. Той таксама адразу пазнаў свайго нядаўняга таварыша па няшчасці.

— Гэта наш лётчык, — сказаў ён сялянам, — адпусціце яго.

Натоўп расступіўся. У гэты момант наляцелі фашысцкія самалёты. Сашыхін не паспеў забрацца ў кузаў, як шафёр даў газу, і машына паімчала да недалёкага лесу. Так Уладзімір зноў застаўся адзін. Але свайго выратавальніка сустрэў ізноў — на свабоднай ад ворага тэрыторыі непадалёку ад Вязьмы.

Сашыхіна затрымалі разам з трыма чырвонаармейцамі, якія таксама выбіраліся з акружэння і некалькі дзён таму далучыліся да старшага лейтэнанта. Затрыманых падвялі да вялікай групы іншых такіх жа акружэнцаў і загадалі пачакаць да высвятлення іх асоб. З дома, дзе размяшчаўся штаб спецбатальёна, выйшаў чалавек у чорных акулярах і як старому знаёмаму кіўнуў Сашыхіну, запрасіў яго да камандзіра батальёна. Чэкіст расказаў камбату пра эпапею савецкага лётчыка. Старшаму лейтэнанту пасля сур'ёзнай праверкі выдалі адпаведную даведку, і ён адправіўся у сваю часць.

Пасля доўгіх блуканняў у тыле ворага, пасля нуднай праверкі, на спадарожнай машыне лётчык пад'язджаў да свайго аэрадрома, які размяшчаўся там жа, адкуль ён і вылятаў на тое трагічнае заданне.

Над прасторнай лугавінай, пакрытай разнатраўем, чуўся несціханы гул авіяцыйных матораў: бамбардзіроўшчыкі садзіліся і ўзнімаліся ў паветра — ішоў напружаны баявы дзень. У Сашыхіна радасна затахкала сэрца: пах гаручага, рокат матораў — усё было да болю знаёмым, родным, доўгачаканым. Няроўны паядынак з «месерамі», душная, напоўненая дымам і полымем кабіна самалёта, скачок з парашутам над беларускай вёскай у тыле ворага, смерць таварышаў, спагадныя вочы сялян-выратавальнікаў, поўны небяспекі, голаду і смагі шлях па лясах і вёсках, занятых фашыстамі, абгарэлыя рукі, раны — усё раптам адышло на задні план, адступіла, знікла, як знікаюць дарожныя ўражанні пры сустрэчы з родным домам. Уладзімір прыспешыў крок і зайшоў у прахадную.

— Стой! Ты куды, дзядзька, лезеш? Назад! — раптам пачуўся строгі вокрык вартавога.

— Ты гэта мне? — здзіўлена спытаў Сашыхін.

— А то ж каму? Куды ідзеш, пытаюся? Што табе тут трэба? Дакументы ёсць?

— Я — свой, лётчык, старшы лейтэнант! Вяртаюся ў часць з-за лініі фронту, — Сашыхін са здзіўленнем убачыў падазроны погляд вартавога і толькі цяпер зразумеў прычыну яго недаверу: на ім тапырылася пашарпаная сялянская вопратка, у якой ён зусім не «цягнуў» на афіцэра-авіятара, зарослы шчаціннем твар, перавязаны лоб, абсмаленыя рукі рабілі яго падобным на бандыта з вялікай дарогі.

— Вядзі мяне ў штаб, — усміхнуўся Сашыхін. — Там разбяруцца.

Вартавы выклікаў напарніка, і пад яго канвоем Уладзімір накіраваўся да штабнога доміка на ўскраіне аэрадрома. Але да штаба дайсці не ўдалося. Нехта раптам наляцеў на Сашыхіна, сціснуў яго ў абдымках і закрычаў:

— Валодзька! Старына!

Сашыхін пазнаў камандзіра першай эскадрыллі. За ім падбеглі члены яго экіпажа — штурман, стралкі… Узняўся шум, радасныя воклічы. На гэты гармідар са штаба выглянуў камандзір палка.

— Таварыш камандзір! — Сашыхін зрабіў крок яму насустрач. — Старшы лейтэнант Сашыхін прыбыў для далейшага праходжання службы!

— Ці не з мёртвых ты ўваскрос?! — перапыніў яго радасна камандзір палка.— А астатнія дзе? Дворнік, Зуеў, Янаў? Мы паслалі ўжо вашым сем'ям паведамленні, што вы прапалі без звестак, ды бачу цяпер, што паспяшаліся.

— Паспяшаліся толькі ў адносінах Зуева і мяне. На астатніх патрэбна ўдакладненне: загінулі смерцю храбрых, так, здаецца, пішуць у пахавальных. Зуеў застаўся за лініяй фронту ў беларускай вёсцы. Не сумняваюся, што яго там выратуюць і вылечаць: вельмі добрыя і мужныя людзі беларусы.

— Ну што ж, выправім памылку. Прымай сваю эскадрыллю і ваюй. За Дворніка, за Янава…

Сашыхін прыступіў да палётаў. Бамбіў варожыя калоны, фашысцкія склады, чыгуначныя станцыі… Кожны дзень з вялікім болем успамінаў членаў былога экіпажа, і каб хоць трохі пазбыцца гэтых цяжкіх успамінаў, прайшоў перападрыхтоўку і ў канцы 41-га пачаў лятаць на штурмавіку. Летам 1942 года яго самалёт збілі пры штурмоўцы варожага аэрадрома, і Уладзімір трапіў у палон. Амаль да канца вайны працаваў у рабочым штрафным лагеры ў Германіі, дзе звязаўся з нямецкімі антыфашыстамі. З адным з іх завёў перапіску праз паштовую скрынку, якую арганізавалі пад лаўкай у лазні. Сашыхін апісваў жыццё да вайны ў Савецкім Саюзе, апавядаў пра міралюбівую нашу палітыку. Немцы лічылі, што першым пачаў вайну Савецкі Саюз. У адказ яго адрасат паведамляў пра становішча на фронце.

У пачатку 1945 года палонных лётчыкаў пагналі ў канцлагер «Дахау», каб спаліць іх у крэматорыі. Пра гэта паведаміў Уладзіміру адзін з канваіраў. Ішлі пешшу. Да канца маршрута не паспелі дайсці: палонных вызвалілі амерыканскія войскі. Пасля вызвалення Сашыхін паспяхова прайшоў праверку. Яго аднавілі ў арміі ў званні капітана і хутка звольнілі ў запас.

## Рахунак Дзмітрыя Янава

Янаў апрытомнеў на досвітку. Світальны халадок лез пад адзежыну, прыемна халадзіў цела. Але моцна балела калена, ныла правая рука. Галава была яснай, і юнак задумаўся: хто ён цяпер, паранены, падбіты і пакалечаны, каму ён патрэбен, што будзе з ім і ці паспее ён ачуняць да прыходу савецкіх войскаў. У тым, што вайна хутка закончыцца поўным паражэннем Германіі на яе ўласнай тэрыторыі, ён ніколькі не сумняваўся, бо ў гэтым пераконвалі на кожных палітзанятках. І больш за ўсё яго непакоіў не той факт, што ляжыць ён паранены ў тыле ворага і можа трапіць у палон, у лапы фашыстаў, а тое, што ён не паспее паваяваць, разлічыцца за смерць сваіх таварышаў, за свае раны.

У гумно заглянуў Кандрат Ангалевіч: прынёс параненаму сняданак, прывітаўся, пацікавіўся самаадчуваннем, дапамог перавязаць раны.

— Сёння сходзім на месца падзення самалёта, мо знойдзем якія-небудзь звесткі пра тваіх таварышоў. А ты пакуль адпачывай, набірайся сіл, каб хутчэй стаць на ногі.

І ён выйшаў. Праз якую гадзіну-другую зноў з’явіўся.

— Пахавалі мы твайго… — цяжка ўздыхнуўшы, паведаміў гаспадар Янаву. — Дакладней толькі рукі, якія знялі з абгарэлага паўкола, і нагу…

— Значыць, выратаваўся толькі штурман, — паківаў галавою Янаў. — Гэта яго вы сустрэлі на сваім агародзе, — сказаў ён Кандрату. — Выходзіць, двое нас засталося. Пілот не здолеў выбрацца з кабіны і згарэў у ёй.

На Янава зноў наваліўся адчай за сваю бездапаможнасць, за раны, з-за якіх ён не паспее разлічыцца з ворагам.

Да параненага салдата-авіятара наведвалася вясковая моладзь. Часцей за іншых заходзіла сваячка гаспадара настаўніца Аня Спецыян, перавязвала раны, карміла параненага, сачыла, каб яму асабліва не надакучалі, не трывожылі нямоглага юнака.

Праз некалькі дзён з Мінска прыехала сястра гаспадыні Алёна Агнёва. Яна агледзела параненага і накрычала на вясковых дзяўчат за тое, што яны дрэнна даглядаюць яго, і таму ён марудна папраўляецца. Яна прывяла медыка — Зінаіду Фралову. Тая агледзела Янава, прамыла і перавязала яму раны, параіла адвезці лётчыка ў Буцавічы, дзе размяшчалася ўчастковая бальніца. Але зрабіць гэтага не ўдалося: Лена і Аня Спецыян з’ездзілі туды і высветлілі, што бальніца

занята немцамі. Тады параненага пераапранулі ў чыстую сялянскую вопратку, зрабілі адмысловы ложак, заслалі чыстую бялізну, паклалі падушку.

Дзён праз дзесяць у гумно зайшла кабета з невялікай дзяўчынкай. Іх суправаджала дачка Кандрата — Марыя. Параненага лётчыка вясковыя жанчыны шкадавалі, прыносілі яму прадукты, стараліся падкарміць. Вось і цяпер у руках кабеты быў гладыш.

— Бедненькі! — прамовіла яна, убачыўшы бездапаможнага юнака. — Гэтакі пакалечаны! Што нарабіла праклятая вайна, пракляты немчура! Пакалечыў, пабіў такіх маладых…

Кабета выцерла канцом хусцінкі вочы і ласкава падштурхнула дзяўчынку:

— Занясі дзядзечку булёнчыку! Ешце на здароўе,— звярнулася яна да Дзмітрыя. — Курыны булёнчык надта пажыўны, ешце і скора выздаравееце, паправіцеся. А яму, бедненькаму, ужо нічога не дапаможа, — яна зноў заплакала і паднесла рог хусцінкі да вачэй. — Ляжыць, няшчасны, у лесе. Застрэлілі, забілі вырадкі і боты сцягнулі…

— Каго застрэлілі? — трывожна запытаў Янаў.

— Твайго таварыша, пэўна, Божа ж мой, Божа! — зашмыгала носам жанчына. — Дачушка вось захацела табе, галубок, сабраць ягадак, адышлася з дарогі ў невялічкі гушчар і знайшла нябожчыка… Мы так перапалохаліся, сталі ўцякаць з таго праклятага месца, але паспелі заўважыць, што чалавек той у лётчыцкай адзежы… Я і падумала, што ён твой таварыш. А ты еш, родненькі, еш. Табе папраўляцца трэба.

Апошніх слоў Дзмітрый ужо не чуў. «Значаць, штурмана расстралялі фашысты, — віхурай пранесліся думкі. — Не дайшоў, бедалага, адзін я з экіпажа застаўся. І я павінен выздаравець і адпомсціць!»

## Сведчанні відавочцаў

***Марыя Міхалаўна Фёдарава (Пуцейка):***

«*Я была сведкай таго няроўнага бою над нашай вёскай. Калі наш бамбардзіроўшчык загарэўся, вясковыя жанчыны загаласілі:*

*— Вось нечысці праклятыя! Як каршуны клююць наш самалёт! Хаця б ён на вёску не зваліўся: многа хат згарыць!*

*Але палаючы самалёт паляцеў далей, да Латыгаўкі і Камянца. Не дацягнуў да іх, узарваўся. Праз некалькі дзён папаўзлі чуткі, што два савецкія лётчыкі выратаваліся, і адзін з іх, цяжка паранены, знаходзіцца ў Кандратавым гумне. Мне так захацелася пабачыць жывога савецкага лётчыка, што ў наступную нядзелю я пайшла ў Камянец да сваёй сяброўкі Ані Спецыян, з якой разам заканчвалі школу, а потым педтэхнікум. Сабралася невялікая вечарынка. Аня і слухаць не хацела, каб наведаць параненага: маўляў, чалавек слабы, павінен адпачываць, выздараўліваць, сіл набірацца, нельга яго турбаваць.*

*Тады я падгаварыла іншых — сяброўку Ніну Сокал і падлетка Алёшу — заглянуць да лётчыка. Алёша застаўся наварце, а мы зайшлі на ток. У прыцемках разгледзелі на невысокай тарпе сена высокага прыгожага юнака. Ён павярнуў галаву да нас, і на твары яго расцвіла радасная прыязная ўсмешка.*

*— Мы, напэўна, перашкаджаем вам адпачываць? — запытала я. —Прабачце нас! Але ж так хацелася пазнаёміцца!*

*— Ну, што вы, дзяўчаты, я вельмі рады, калі хто заходзіць: так сумна аднаму ляжаць. Давайце знаёміцца: мяне завуць Дзіма.*

*— А мяне — Маруся! У нас тут, на Беларусі, — усе Марусі,— пажартавала я.*

*— У нас жа, у Расіі, — усе Машы ды Марыі! — падтрымаў ён мой жарт і ўжо сур'ёзна запытаў: — На вечарынку моладзь сабралася? Павесяліцца крыху?*

*— Якая тут весялосць у такі час? Фашыст праклятьы прэ напралом. І што ж гэта далей будзе? Ці надоўга гэта вайна?*

*— Кіньце, дзяўчаты, не сумнявайцеся: нядоўга фашысту гуляць па нашай зямлі! Хутка назад пагонім, ды так, што толькі пяты заблішчаць. А вы,напэўна, камсамольцы? Дык не сядзіце, склаўшы рукі, а дапамагайце біць ворага, шкоду наносьце дзе толькі зможаце, збірайце зброю, гаварыце народу праўду, пераконвайце ў хуткай нашай перамозе.*

*Памятаю: мяне так уразіла і ўзрадавала гэта яго непахісная вера ў нашу перамогу, што аж лёгка стала на сэрцы, і ўжо не такой змрочнай падалася будучыня».*

У верасні Марыя Пуцейка завітала да Янава з невялікімі шараватымі аркушамі паперы і працягнула іх лётчыку. Гэта аказалася вядомая прамова Сталіна ад 3 ліпеня 1941 года. Лістоўкі, па словах Марыі, скінуў савецкі самалёт. Янаў уважліва прачытаў прамову і знайшоў у ёй пацвярджэнне сваім перакананням і словам, якія ён гаварыў мясцовай моладзі. Гэта яшчэ больш умацавала яго веру, быццам лекі ад ягонай немачы атрымаў. Дзмітрый параіў размножыць і распаўсюдзіць прамову Сталіна. Гэта і стала першым заданнем для мясцовай падпольнай маладзёжнай групы.

Як толькі фашысты вызвалілі памяшканне вясковай лячэбніцы, Янава ноччу пераправілі туды. Гаспадыняй участковай бальніцы была Зінаіда Тарасаўна Залуцкая. З ёю працавала мясцовы фармацэўт Вера Лісюкова. Аптэку, якая знаходзілася побач з бальніцай, разбамбілі, і фармацэўт перабралася ў свабоднае памяшканне да ўрача. Тут жа знаходзілася і санітарачка Аня Вайціцкая. Яны ўстанавілі Янаву строгі медыцынскі рэжым, лячэнне пайшло больш эфектыўна, і юнаку стала намнога лягчэй, раны пачалі зацягвацца, загойвацца, і Дзмітрый спрабаваў рухацца на мыліцах.

Зінаіда Тарасаўна разам з Верай амаль штодня ездзіла па навакольных вёсках з медыцынскай дапамогай людзям. Дзмітрый у час іх паездак заставаўся нянькай для двухгадовай Святланкі — дачкі Залуцкай. У хуткім часе Янаву пачалі давяраць больш. Аднойчы перад чарговай паездкай па вёсках Зінаіда Тарасаўна звярнулася да яго:

— Ты, Дзіма, здаецца, сапраўдны патрыёт, камсамолец. Хачу даручыць табе далікатную справу. Пра гэта будзем ведаць толькі мы з табою, ды яшчэ адзін хлопец, які сёння павінен прыйсці сюды. Добра і дакладна запомні гэтыя словы, і калі ён правільна назаве іх, перадай яму радыёпрыёмнік, які захоўваецца ў паддувале печкі. Можа, ён таксама што-небудзь захоча перадаць, альбо паведаміць мне — таксама запомні ўсё слова ў слова.

Залуцкая паведаміла Янаву ўмоўлены пароль і паехала па сваіх справах. Цяпер здагадкі лётчыка пра тайны бок жыцця мясцовых медыкаў спраўдзіліся. Прафесійная іх дзейнасць была выдатным прыкрыццём для асноўнай падпольнай работы. Яны выконвалі заданні Мінскага падполля і партызанскага атрада «Штурм», які дыслацыраваўся ў гэтай мясцовасці.

Час тым днём для Янава цягнуўся вельмі марудна. Ён некалькі разоў выглядваў у калідорчык, дзе чакалі пацыенты, якім Вера Лісюкова рыхтавала лякарствы, але ніхто пакуль не звяртаўся да яго з умоўленымі словамі. Дзмітрый пачаў ужо траціць надзею, калі у дзверы яго пакоя асцярожна пастукалі. Пасля дазволу ўвайшоў высокі, светлавалосы юнак і запытаў:

— Ці магу я ўбачыць урача?

Сэрца Янава радасна і трывожна забілася: гэта была частка ўмоўнага пароля, і ён паспешліва сказаў:

— Доктар на выездзе. А што вы хацелі?

— Яна абяцала мне бутэлечку рываноля…

— Рываноль скончыўся, засталася толькі марганцоўка.

— Я буду задаволены і марганцоўкай.

Усё сыходзілася: высокі бялявы хлопец аказаўся партызанскім сувязным. Дзмітрый правёў яго ва ўрачэбны кабінет, шчыльна зачыніў дзверы, наліў незнаёмцу бутэлечку марганцоўкі, перадаў загорнуты ў мешкавіну радыёпрыёмнік.

З гэтага дня былы стралок-радыст рэгулярна выконваў ролю сувязнога, і заданні станавіліся больш складанымі і адказнымі. У бальніцу, якая стала явачнай кватэрай, часта прыходзіў чалавек, знешне падобны на бацюшку. Пазней Залуцкая сказала Янаву, што гэта былы сакратар Заслаўскага райкама партыі. Спачатку яны гаварылі сам-насам, пасля да гутарак падключыліся Вера і Дзмітрый. Так яму сталі вядомы многія клопаты падпольшчыкаў. Былы сакратар — адзін з кіраўнікоў Мінскага падполля — выконваў яшчэ адну адказную задачу: арганізоўваў і перапраўляў людзей з Мінска ў партызанскі атрад «Штурм».

Зімою ў памяшканне бальніцы часта прыходзілі гэтыя людзі, былыя ваеннапалонныя, падпольшчыкі, групамі па 20—30 чалавек. Янаву даручалі сустракаць і ахоўваць гэтыя групы ад чужых вачэй. Дзмітрый рыхтаваў адну з пустых палат, прапальваў у ёй грубку, варыў чыгун бульбы, кіпяціў ваду. Усю ноч вартаваў знадворку, сачыў, каб ніхто нечакана не прыйшоў у бальніцу. На шэрым досвітку група адпраўлялася ў лес, у партызанскі атрад.

Так прайшло больш як паўгода. Янава наведвалі старыя знаёмыя — моладзь з Латыгаўкі, Раўкуцьевіч, Камянца. Прыходзілі Аня Спецыян, Лена Агнёва, Марыя Пуцейка. Яны таксама збіраліся ў той жа партызанскі атрад, заданні якога выконвалі. Усе яны пасля ваявалі ў партызанскай брыгадзе «Штурмавая», якая вырасла з аднайменнага атрада. На жаль, у апошнюю варожую блакаду Лена Агнёва разам з мужам загінулі. Марыя Пуцейка сустрэла Перамогу. Дарэчы, яна стала жонкай камісара брыгады — Ільі Фёдарава.

29 чэрвеня 1942 года, роўна праз год пасля трагічнага палёту (гэтая лічба, 29, для Янава набывае нейкае містычнае значэнне, становіцца пераломнай у яго лёсе), да бальніцы падышлі пяцёра немцаў. Янаў у гэты час разам з двума мясцовымі настаўнікамі адпачываў каля бальнічнага будынка на невялікім поплаве. Яго паклікалі падысці бліжэй і загадалі ісці за імі. Зінаіда Тарасаўна паспела перадаць Дзмітрыю акраец хлеба, 5 яек, крыху тытуню і сёе-тое з яго асабістых рэчаў. Янава прывялі ў недалёкі пасёлак Гаёк, дзе раней была пагранзастава, а цяпер размясціўся лагер палонных, пасадзілі ў падвал. Раніцой яго адправілі ў Мінск, а пасля ў канцлагер у Масюкоўшчыну і памясцілі ў карцар.Чатыры дні дапытвалі, катавалі, патрабавалі, каб ён даў звесткі пра партызан. Нічога не дабіўшыся, на чацвёрты дзень галоднага, змучанага, збілі і ў непрытомным стане адправілі ў лагерны шпіталь: ад пабояў у Янава адкрыліся раны. Так стралок-радыст стаў вязнем пад нумарам 33782.

Праз дзён дзесяць у шпіталь прывезлі двух хворых палонных з Гайка. Аднаго палоннага Дзмітрый добра ведаў, як і ён яго. Знаёмы паведаміў Янаву, што яго выдаў мясцовы малаказборшчык, за што яго назаўтра ж партызаны павесілі.

Палонны ўрач у шпіталі выдзеўб асколкі з нагі Янава, і праз месяцы два юнаку стала лепш, раны зажылі канчаткова. Яго перавялі ў рабочы барак.

Наступіла восень, пачаліся нудныя працяглыя дажджы. Умовы жыцця ў лагерным бараку былі надзвычай цяжкімі. Палонных амаль не кармілі, ганялі на цяжкую працу, прымушалі нарыхтоўваць і вазіць на сабе паліва. Запрэгшыся ў брычку, знясіленыя палонныя цягнулі цяжкі воз, аслабелыя людзі падалі, іх тут жа прыстрэльвалі. Смерць хадзіла за кожным, неадступна стаяла за спінай.

Неяк восенню вязняў пагналі за тэрыторыю лагера на балота, дзе быў торф. Змучаныя людзі па двое бралі насілкі, накладвалі паліва і неслі пад канвоем у лагер. Двое палонных, падабралі зручны момант, задушылі канваіра і ўцяклі. Усю каманду адразу ж пагналі ў лагер і выстраілі паміж баракамі. Камендант лагера, ідучы ўздоўж шарэнгі, пачаў адлічваць палонных: «айн, цвай, драй, …нойн» — дзясятага вывелі са строю, вывелі дваццатага… Камендант набліжаўся да Янава. Сэрца ў юнака замерла: палец каменданта бясстрасна тыцнуўся ў Янавага суседа па шарэнзе — трыццатага. Няшчасных тут жа павесілі. А Дзмітрый аказаўся дваццаць дзявятым.

Але гэта карная акцыя не запалохала вязняў. Пра ўцёкі марылі многія. Янаў з боллю ў сэрцы думаў, што яму пакуль нельга збегчы адсюль, як зрабілі тыя двое, бо здароўе і сілы яго былі надарваныя. У студзені 1943 года ён сустрэў земляка, які быў старшым шостага барака — нешта накшталт лагернага клуба. Па просьбе земляка Янава перавялі з рабочай каманды і паставілі прыбіральшчыкам гэтага барака.

У сакавіку ў клубе з'явілася група ваеннапалонных лётчыкаў, якіх нядаўна перавезлі з Мінска. Дзмітрыя пацягнула да авіятараў. Рагаварыліся. Новенькія аказаліся з той жа часці, у якой служыў і Янаў. Лётчыкі расказалі яму пра апошнія авіяцыйныя навіны, а ў канцы размовы адзін з іх шэптам пацікавіўся:

— Ці нельга як-небудзь уцячы адсюль?

Янаў падрабязна расказаў пра тэрыторыю лагера, пра размяшчэнне назіральных вышак, іншыя ахоўныя меры і прапанаваў прыкладны маршрут уцёкаў — праз тую частку лагера, дзе размяшчаліся немцы. Там было менш калючай агароджы, ды і тэрыторыя ахоўвалася не так пільна, адсутнічала вышка з кулямётным гняздом. Адзінае, што перашкаджала здзейсніць задуманае — адсутнасць нажніц для калючага дроту. Але Дзмітрый паабяцаў лётчыкам раздабыць іх.

Назаўтра раніцай пасля ўборкі барака і снегу вакол яго, юнак накіраваўся ў восьмы барак, дзе жылі спецыялісты: сталяры, тынкоўшчыкі, муляры, электрыкі, слесары — і папрасіў знаёмага прыбіральшчыка, пажылога ўжо чалавека, дастаць патрэбны інструмент. Дзядзька Ваня пацікавіўся, навошта яму спатрэбіліся такія нажніцы. Прыйшлося даверыцца яму.

— Інструмент знойдзецца,— падумаўшы з мінуту, зазначыў дзядзька Ваня. — Але ты папрасі сваіх новых знаёмых, каб і мяне ўзялі з сабою. Пакуль сілы ёсць — паспрабую шчасця.

— Добра, — згадзіўся Дзмітрый.— Пастараюся ўгаварыць іх. Думаю, лётчыкі не адмовяцца: ім патрэбен чалавек, які добра ведае тэрыторыю лагера і навакольныя мясціны.

Распытаўшы пра новую кандыдатуру ў групу ўцёкаў усё неабходнае: ці надзейны, ці моцны фізічна, ці добра ведае мясцовасць, — лётчыкі пагадзіліся ўзяць яго з сабой. Назаўтра Янаў, як звычайна, пайшоў з саначкамі па торф для печак. На зваротным шляху яго сустрэў «калега» з восьмага барака і непрыкметна палажыў у торф нажніцы. Вечарам Дзмітрый перадаў інструмент лётчыкам і параіў дабірацца ў вёскі партызанскай зоны, якую да таго часу кантралявала брыгада «Штурмавая», назваў ім некалькі прозвішчаў сваіх знаёмых сувязных.

Ноччу да лётчыкаў неўпрыкметку перапоўз дзядзька Ваня, і ўцекачы пад покрывам цемры па прапанаваным маршруце шчасліва выбраліся з лагера. Але далей ім не пашанцавала: перабіраючыся цераз чыгунку, яны натрапілі на патруль. Узнялася страляніна. Аднаго лётчыка паранілі, дзядзька Ваня быў забіты, астатнім удалося ўцячы. Дабраліся да партызан, самалётам пераправілі іх на Вялікую зямлю.

Праз некалькі месяцаў Янаў зноў садзейнічаў уцёкам, таксама лётчыку і яго стралку-радысту, якія былі збіты і трапілі ў Масюкоўшчынскі лагер. Але збегчы адсюль стала ўжо немагчыма: фашысты ўлічылі зімовы выпадак і ўмацавалі слабыя месцы. Дзмітрый даведаўся, што лётчыкаў адправяць у Берлін і параіў ім зрабіць уцёкі ў дарозе з арыштанцкага вагона. Ён здабыў і перадаў палонным два кавалкі ад нажоўкі па метале. Як толькі цягнік адправіўся са станцыі, лётчык пачаў перапілоўваць жалезныя краты на вагонным акне. І вось акно свабоднае. Лётчык на хаду выкінуўся з акна пад адхон і прытаіўся ў канаве. Радыста заўважылі, і вартавы стрэліў. Цягнік спынілі, цяжка параненага ўцекача прывезлі ў лагер. У яго хацелі даведацца, хто арганізаваў уцёкі, але ў шпіталі паранены памёр. У падрыхтоўцы яшчэ некалькіх уцёкаў прымаў удзел Дзмітрый Янаў. Так ён пачаў зводзіць рахунак за смерць сваіх таварышаў, за палон і здзекі гітлераўцаў над безабароннымі людзьмі, за кроў і вялікае гора, што прынеслі яны на нашу зямлю.

Мінулі яшчэ адна кашмарная восень, зіма, вясна. Наступіла лета 1944 года. Фронт набліжаўся да Мінска, у ваколіцах якога і размяшчаўся канцлагер «Масюкоўшчына». Вязняў вырашылі адправіць у Германію. Ранкам 29 чэрвеня — зноў гэта пераломная для Янава дата — палонных пехатой пагналі ў Маладзечна, каб там на станцыі пагрузіць у вагоны. Праз некалькі дзён калона палонных падышла да Маладзечна. Наляцелі нашы самалёты і пачалі бамбіць недалёкую станцыю, нагружаныя нарабаваным дабром саставы, ваенную тэхніку. Палонных спынілі на недалёкім ад горада поплаве, перакапаным варонкамі ад бомбаў, загадалі залегчы. Самалёты пачалі бамбіць чыгуначнае палатно, забітае гружанымі эшалонамі, амаль побач. Паднялася паніка, канваіры залеглі. Пад свіст асколкаў здаровыя палонныя пачалі ўцякаць у недалёкі лес.

Янаў таксама залёг непадалёку ад насыпу. Калоціцца зямля. «Самому бамбіць лепш, чым ляжаць пад бомбамі», — падумаў Дзмітрый. Раптам яго ўзняло ў паветра, закружыла і кінула ў бездань. «Ну, вось і ўсё, — пранеслася ў галаве, не дачакаўся канца вайны!» І яму стала крыўдна і горка да глухога адчаю. Паварушыў рукамі — цэлыя, варухнуў нагамі — у парадку, нічога не баліць. Прыпадняўся — усё, здаецца, на месцы, толькі звініць у вушах, ды ў галаве цяжкі шум. Азірнуўся: канвойныя ачомаліся, ачапілі поплаў і ўзнялі страляніну — галавы не падняць. Узрадаваны тым, што застаўся жывы, папоўз бліжэй да сваіх таварышаў.

Па дарозе заўважыў кроў на правым рукаве. Аказваецца, невялікі асколак параніў руку вышэй запясця. Дзмітрый адарваў рукаў ад кашулі, пачаў перавязваць рану і тут бачыць — кроў і на нагах: дробнымі асколкамі пасекла ступні. Другім рукавом перавязаў іх і ўстаў — баліць, але ісці можна. І тут нарадзілася дзёрзкая думка: вось ён, доўгачаканы момант. Вырашыў паўзці не проста ў лес, а крыху ўлева, дзе ўзнімалася высокая сцяна жыта. Ля канавы, што аддзяляла луг ад поля, Янава затрымаў канваір — стары немец, відаць, прызваны падчас татальнай мабілізацыі:

— Рус, куды? — замахаў ён на Дзмітрыя.

— Вады, піць! — паказаўшы на параненыя ногі, папрасіў Янаў.

—Wo ist Wasser? (Дзе вада?) — запытаў немец.

— Там! — Дзмітрый паказаў на высокі бруствер канавы.

— Zwei Minuten und zurück! (Дзве хвіліны і назад!) — загадаў канваір.

Перапоўзшы цераз бруствер, Янаў аглянуўся на канваіра. Той ляжаў на спіне і пільна ўглядаўся ў высокае неба, напэўна, рашаючы, будзе налёт, ці не: савецкія самалёты кружылі непадалёку. Дзмітрый падаўся ў жыта, па-пластунску прапоўз метраў сто, пасля падняўся і перасільваючы боль, пакульгаў, нізка прыгнуўшыся да зямлі. Вось і выратавальны лес. Далей, далей ад праклятага палону, ад бамбёжкі. «Усё! — здаецца, я на волі!» — радасна падумаў Дзмітрый і пакрочыў глыбей у лес. І раптам за спінай пачуўся хруст, нейчыя таропкія крокі. Уцякач прытаіўся за густым кустом. На лясной вузенькай сцяжынцы з'явіўся чалавек у арыштанцкім адзенні. Дзмітрый пазнаў жыхара свайго барака масквіча Міколу Маркава і кінуўся яму насустрач. Абодва ўзрадаваліся гэтай сустрэчы, моцна абняліся…

**З успамінаў Дзмітрыя Янава:**

*«Ноч мы правялі ў лесе. Чулі страляніну на станцыі Маладзечна. Яна была чутна і на наступныя суткі. Толькі на трэці дзень усё аціхла. Вырашылі выйсці з лесу. Выходзім. Бачым: машына наша, армейская. Нашы байцы каля яе. Падыходзім. Яны насцярожыліся: «Хто вы?» — «Мы палонныя, рускія». — «Вы — уласаўцы! Вось зараз дакурым і да сценкі вас!» Пераконваем іх, знямоглыя, худыя, што мы ўсё-такі палонныя. Просім іх узяць нас на вайну (як дзеці, наіўныя былі). Афіцэр сказаў нам ісці ў тыл, дзе нас падбяруць людзі, якія гэтым займаюцца. Пачаставалі нас махоркай (прадуктаў у іх не было), і мы пайшлі. У Вілейцы нас падабралі. Тут быў зборны пункт. Мы сустрэлі большую частку таварышаў са свайго барака. Праз тыдзень нас павялі ў Вільнюс. Там прайшлі праверку ў асобым аддзеле. Былых паліцаяў, перакладчыкаў, іншых нямецкіх паслугачоў асудзілі і адправілі на 10 гадоў за Урал, а нам, больш чыстым, даверылі зброю і сфарміравалі з нас асобную штрафную роту 1136 стралковага палка.*

*«Чаму ў штрафную?» — пацікавіўся я ў капітана-асабіста. — «Нам няма часу цяпер доўга з вамі разбірацца. Калі вы сапраўдныя савецкія людзі — вы і ў штрафной пакажаце сябе дастойна. Цяпер трэба наступаць і адрознення на перадавой штрафнікоў ад звычайных салдат амаль няма».*

*Праўда, адрозненне было. Полк стаў у абарону. Трэба было падцягнуць тылы, а мы працягвалі разведку боем: то хутарок заняць трэба, то невялікую вышыню, то дарогу блакіраваць. Работа для штрафнікоў знаходзілася. На падыходах да граніцы з Прусіяй, за кіламетраў 10, у адным з баёў я зноў быў паранены. Перабіла бядро левай нагі. Таварыш — Коля Маркаў — выцягнуў мяне з-пад агню, адправіў у тыл. Чатыры месяцы прабыў у шпіталі ў Каўнасе. Тут я вырашыў напісаць пісьмо дамоў і парадаваць бацькоў, што я яшчэ жывы. Праўда, перапалох ад пісьма быў: уваскрос з мёртвых. Яны атрымалі ў 1941 годзе пахаронку — і вось табе на!*

*Пасля шпіталя прайшоў медкамісію. Прызналі годным да нестраявой службы. Накіравалі ў 120-ы гвардзейскі авіяполк. Служыў там наземным радыстам, радыётэлеграфістам. Дзень Перамогі сустрэў пад Кёнігсбергам. 4.X.45 года дэмабілізаваны як настаўнік і як нестраявік. Прыехаў дадому. Месяц адпачываў, а потым пачаў вучыць дзетвару. Паступіў на завочнае аддзяленне Варонежскага педінстытута. У 1952 годзе скончыў фізіка-матэматычны факультэт. Цяпер — настаўнік фізікі…»*

*(З пісьма Д. М. Янава ад 25 ліпеня 1975 года)*

## Пасляваенныя сустрэчы

Ні Сашыхін, ні Янаў увесь пасляваенны час на забываліся пра сваіх выратавальнікаў. Абодва шукалі мілых сэрцу людзей. Дзмітрый Мітрафанавіч не ведаў дакладнага адраса Кандрата Ангалевіча, пераблытаў яго прозвішча, і ўсе яго пісьмы вярталіся назад. Знайшоў у 1959 годзе яго сам Ангалевіч з дапамогай карэспандэнта газеты «Звязда» Р. Куцэры. Прыслаў Янаву пісьмо, запрасіў у госці. З вялікім хваляваннем на наступны год ехаў настаўнік у тыя мясціны, дзе ў цяжкія ваенныя гады яго ратавалі ад немінучай пагібелі. На вакзале сустрэлі Кандратавы дочкі — Аня і Марыя — і паехалі ў Латыгаўку да Кандрата.

Дзмітрый Мітрафанавіч пабываў на месцы падзення свайго бамбардзіроўшчыка, моўчкі пастаяў на магіле сяброў па зброі, падабраў невялікі абломак ад самалёта. Сустрэўся ён і з доктарам Залуцкай, якая жыла ў Заслаўі, з Аняй Вайціцкай у Казекаве…

Уладзімір Сашыхін шукаў не толькі сваіх выратавальнікаў, але і тых, з кім быў у тым пякельным бамбардзіроўшчыку. Ён памятаў, што самалёт упаў ля невялікай вёскі непадалёку ад Мінска. У памяці захавалася толькі тое, што назва вёскі пачынаецца на літару «К». Сашыхін купіў дробнамаштабную карту Беларусі і ўпарта імкнуўся знайсці ў ваколіцах Мінска вёскі, назва якіх пачынаецца на гэту літару. Аднойчы ў 1964 годе ён задрамаў над раскладзенай картай, а калі прачнуўся, погляд яго нечакана выхапіў назву Камянец. І памяць паслухмяна аднавіла вузкую вясковую вуліцу, моцныя абдымкі незнаёмага селяніна, небагатае ўбранне хаты, дзе яго пераапранալі ў сялянскую адзежыну.

Былы лётчык адразу ж напісаў пісьмо камсамольцам Камянца, з просьбай паведаміць пра лёс стралка Зуева, які застаўся на апекаванні таго селяніна. Ён быў цвёрда перакананы, што выратаваўся не Янаў, а Зуеў. Неўзабаве прыйшоў адказ з Беларусі ад камсамольцаў. Яны паведамілі яму, што ніякага Зуева не ведаюць. А выратавалі тады, — пісалі яны, — Янава. І прыслалі Сашыхіну адрас былога стралка-радыста.

Так звязаліся два былыя члены экіпажа. Спачатку абмяняліся пісьмамі, а пасля сустрэліся асабіста. А пошукі іншых членаў экіпажа, якія загінулі, працягваліся. Знайсці сям’ю Зуева дапамагла выпадковасць. У армейскай газеце «Красная Звезда» 12 лістапада 1966 года з’явілася невялікая заметка Л. Чванава «Франтавік дзякуе». У заметцы расказвалася, што былы лётчык Д. Янаў даслаў у Мінскі музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны пісьмо, у якім дзякуе жыхарам беларускай вёскі за сваё выратаванне. Між іншым, у заметцы было сказана, што стралок Зуеў загінуў, а Янаў працуе дырэктарам школы ў сяле Лосева Варонежскай вобласці. Заметку прачытала жонка Зуева, якая жыла ў г. Кем Карэльскай АССР. Яна нічога не ведала пра свайго мужа, нават не атрымала пахавальнага ліста і не атрымлівала дапамогі на сына. Удава напісала пісьмо Янаву на адрас, дадзены ў заметцы, і Янаў паведаміў ёй адрас Сашыхіна.

Заставалася знайсці сям’ю капітана Дворніка. На запыт у архіў Савецкай Арміі прыйшоў несуцяшальны адказ: Сашыхін, Янаў, Зуеў, Дворнік не вярнуліся з баявога задання, прапалі без звестак. У 1972 годзе з Сашыхіным звязаліся следапыты 65-й мінскай школы. Ім Уладзімір Мікалаевіч паведаміў адрасы Янава, Зуевай і папрасіў знайсці сям’ю Дворніка. Яны яе і адшукалі ў г. Стрый Львоўскай вобласці. Па запрашэнні следапытаў і дырэкцыі 65-й школы ў 1973 годзе Сашыхін, Янаў, сем’і загінуўшых Дворніка і Зуева прыехалі ў Мінск. 8 мая 1973 года імёны капітана Дворніка, сяржанта Зуева ва ўрачыстай абстаноўцы былі занесены на помнік «Гераічным экіпажам» ля 65-й мінскай школы.

Адна з апошніх сустрэч Сашыхіна і Янава адбывалася ў час урачыстага штогадовага збору партызанскай брыгады «Штурмавая», сувязным якой быў Янаў.



## Рагнед МАЛАХОЎСКІ

### СУЗОР'І

Бывае так, што слёзы не стрымаць.
Ды толькі не адчаюся ніколі...
Мае сузор'і ў Нарачы гараць —
Жыву іх міласэрнасцю і воляй.

Бывае, што дрыготкі далягляд
Прарочыць камяністую дарогу.
Ды зноў рассее срэбны зарапад
За будучыню чутую трывогу.

Бывае так: па сцежцы злой маны
Ідзеш адзін — па лёсавым узгор'і.
Але мы ў гэтым свеце не адны —
У кожнага ў душы свае сузор'і.

### ПАЛЁТЫ Ў ВЫШЫНЯХ ПАЧУЦЦЯЎ

У подыху цёплым бяссонных начэй
Спеў сэрца спрабую пачуць я.
Мне дораць глыбіні блакітных вачэй
Палёты ў вышынях пачуццяў.

Пылінкай трымціцца істота мая
У свеце надзей незбываных.

---

*__Малахоўскі Рагнед Юр'евіч__ нарадзіўся 5 верасня 1984 года ў пасёлку Сяймчан Магаданскай вобласці (Расія). У 1987 годзе сям'я вярнулася на радзіму ў Нарачанскі край. Скончыў факультэт фінансаў і банкаўскай справы Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта (2009).*

*Працаваў у часопісах «Полымя», «Бярозка». Цяпер — у часопісе «Маладосць».*

*Аўтар паэтычнага зборніка «Беражніца» (2005).*

У рытме спакусаў пульсуе Зямля —
Планета для зачараваных.

Развеяўшы чары, начны матылёк
Нас вабіць на ростані ночы.
Да рання не гас малады вугалёк —
Пагляд сарамлівы дзявочы.

Світанак развесіў лісця волкі плед
Над соннаю хваляй рачною.
Пакінуўшы ў памяці сонечны след,
Згадаю забытую мрою.

І час не запыніць размераны бег,
Бо зноў я на ростані рвуся.
А разам з каханай адзінай не грэх
Лунаць у вышынях пачуццяў.

## СПОВЕДЗЬ АРКУШУ

Прыткі, расхлістаны вецер
Пакінуў прастуджаны двор.
Змоклым вандроўнікам вечар
Блукае пад кроплямі зор.

Мокрымі вокнамі хата
Глядзіць у асенні садок.
Паруе духмяна гарбата,
І словы кладуцца ў радок.

Ноч мне дыктуе:
— Пішы
Таемную споведзь душы.

Поўня з-за хмары цікуе,
Пагляд за алоўкам вядзе,
Цень-крыжык — нібыта бракуе —
На спісаны аркуш кладзе.

## БЛУКАННІ

***У. Л.***

Цябе даўно
Ў гарачых снах маіх няма,
Бо мы блукаем па сусвеце,
Як прывíды.

На Беларусі пачынаецца зіма,
А недзе хвалі
Абмываюць піраміды...

Самота знікне
У пустэчы ледзяной.
Мы прысвяцім жыццё
Наіўным успамінам.
Не пакідае мара:
З першай сівізной
Цябе спаткаю
У заснежанай краіне.

А недзе сонейка
Пяшчоціць далягляд...
Я зноўку ў снах сваіх
Заснежаных блукаю.
Душу вярэдзіць
Развітальны твой пагляд.
Хутчэй вяртайся да жыцця свайго.
Чакаю.

## РАССТАННЕ

Сняжыначка кахання ледзянога
Слязінкаю прабегла па шчацэ.
А я стаю, тужлівы, ля парога,
Сціскаючы пярсцёнак у руцэ.

Твой падарунак —
Дар тваіх пачуццяў.
Твой пацалунак горкі, малады
Апёк мне вусны, і таму баюся
Пражыць, як дзень, зялёныя гады.

Жыцця старонкі —
Лёгкія сняжынкі,
Пярсцёнак важкі ў памяці на дне.
Халодны водбліск
Зманлівай сцяжынкі
Густым туманам лёг пад ногі мне.

Наіўную душу ў няволю пасткі
Даверлівае сэрца завяло.
Кахання мроі, рваныя на часткі,
Спакоем беласнежным замяло.

## ПАГОНЯ

*Максіму Багдановічу*

Імклівай пагоні —
За светлаю доляй —
Імчацца хай коні,
Спасланыя воляй,

Праз полымя веку
Ад зману да праўды,
Ратуюць ад здзеку,
Гартуюць ад здрады,

Праз попел і косці,
Праз памяці рэха.
Слязой па бяросце
Сцякае пацеха.

Крыніцай бруіцца
Жыццё, што ад Бога.
Пагоня імчыцца,
Ды стогне дарога.

І вечнасць свабоды
Пад сцягам пагоні...
Нясуць Дух Народа
Магутныя коні.

# ЯГО БІБЛІЯТЭКА

***У** савецкія часы прэстыжным было мець хатнюю бібліятэку. І чым багацейшая была гэтая бібліятэка, тым большы гонар мелі яе гаспадары.*

*Кнігу любілі, кнігу шанавалі. Наяўнасць хатняй бібліятэкі лічылася лепшай характарыстыкай чалавеку. Бытавала нават прымаўка: скажы, якія ты кнігі маеш — і я скажу, хто ты.*

*Кнігалюбы ведалі, што адна з самых багатых бібліятэк у Мінску — у пісьменніка Янкі Сіпакова. Практычна ўсё, што выходзіла тады ў савецкіх выдавецтвах і тычылася літаратуры, мастацтва, гісторыі, стаяла на паліцах ягонай бібліятэкі.*

*Кнігі здабываліся (менавіта так: не купляліся, а здабываліся) рознымі шляхамі. Нешта выпісвалася па гадавых выдавецкіх планах (дарэчы, выдатная была практыка!), нешта куплялася па знаёмстве, па блаце, а нешта выменьвалася, набывалася самым экзатычным чынам.*

*Янка Сіпакоў, паказваючы мне сваю бібліятэку, не раз даставаў з паліцы які-небудзь томік і, любоўна пагладжваючы яго, казаў: «А вось гэта я купіў на Далёкім Усходзе…» Ці: «А ведаеш, у каго я гэта выменяў?»*

*І расказваў амаль дэтэктыўную гісторыю.*

*Кожны раз я з вялікім захапленнем слухаў гэтыя аповеды, дзівячыся невынішчальнай, неспатольнай любові Івана Данілавіча да кнігі, яго неўтаймаванай, апантанай настойлівасці знайсці, займець патрэбнае выданне.*

*Аднойчы, пасля чарговай займальна-прыгодніцкай гісторыі, я сказаў свайму сябру:*

*— Слухай, Янка. Дык у цябе ж, лічы, гатовая кніга пра кнігі. Засталося толькі яе запісаць.*

*Іван Данілавіч спачатку адмахнуўся. Але праз нейкі час заходзіць да мяне і з напускным папрокам кажа:*

*— Ну і задаў жа ты мне работку. Усю ноч сядзеў, перабіраючы свае кнігі.*

*Ага, абрадаваўся я, значыць, ідэя мая ўсё-ткі яго зачапіла!*

*Праца ішла марудна, няпроста: даводзілася не толькі напружваць памяць, падымаць даўнія запісы, але і весці сапраўдны навуковы пошук — ад кнігі да кнігі, каб больш поўна, па-мастацку ярка паказаць і час, і людзей… Але я ведаў: калі Іван Данілавіч за нешта браўся, то ўжо ніколі не адступаўся, нягледзячы ні на якія цяжкасці.*

*Неўзабаве першы раздзел быў скончаны і аддадзены ў друк. Над другім праца працягвалася, і з асобных рэплік Янкі я здагадваўся, што раздзел разрастаецца, папаўняецца ўсё новымі і новымі эпізодамі, дэталямі, і канца гэтаму не відно.*

*На вялікі жаль, нечаканая смерць Івана Данілавіча абарвала надзвычай цікавую, унікальную працу. Але дзякуючы намаганням блізкіх Сіпакова — жонкі Раісы Фёдараўны, сына Сяргея і ўнучкі Каці — рукапіс удалося расшыфраваць і перадрукаваць. І сёння мы прапануем яго ўвазе чытачоў часопіса «Полымя». Часопіса, у якім Янка Сіпакоў надрукаваў калісьці свае першыя вершы і ў якім, воляю лёсу, друкуе свой апошні твор.*

***Зіновій ПРЫГОДЗІЧ***



Янка СІПАКОЎ

# МАЯ БІБЛІЯТЭКА

*Кніга пра кнігі*
*Паліца другая. Аўтографы*

*26 чэрвеня 2010 г.*
*в. Зубрэвічы*

## 1

Амаль уся беларуская літаратура ў маёй бібліятэцы з аўтографамі.

Калі ўлічыць, што я ніколі ў жыцці не займаў (дарэчы, і ніколі да гэтага не імкнуўся!) вельмі высокіх пасад і ніхто ад мяне ніколі асабліва не залежаў, то шчырыя, цёплыя, зычлівыя, сардэчныя надпісы на кнігах, прызнанні і пажаданні ішлі, я веру, ад чыстага сэрца: чалавек як думаў, што думаў, тое і пісаў.

Гэтую размову пра аўтографы мне хочацца пачаць з гадоў студэнцтва.

Адным з першых маіх аўтографаў быў сяброўскі надпіс на томіку выбранай паэзіі Пімена Панчанкі, які ў 1956 годзе выйшаў у школьнай серыі. Яго падараваў мне аднакурснік па журфаку БДУ, мой незабыўны сябра Юра Новікаў 15 студзеня 1957 года. У дзень майго нараджэння. Мне — 21 год. Юру — і таго меней: ён з 1938 года. Мы — аднакурснікі. У нас усё яшчэ наперадзе.

Аднак Юра — ужо славуты на факультэце шашыст. Ён усё ведае пра шашкі. Часта наведвае шахматна-шашачны клуб, удзельнічае нават у спаборніцтвах. «Спешу на соревнование», — часта паўтараў ён. «Спяшаюся на спаборніцтва», — усміхаліся мы, тлумачачы яго вельмі частую адсутнасць на лекцыях.

Ага, шашкі ён вельмі любіў. Аднак ён добра ведаў і любіў яшчэ і паэзію. Таму і выбраў для падарунка мне томік Панчанкі.

На ім Юра напісаў: «Івану ад Юрыя ў дзень нараджэння. Спадзяюся, у XX стагоддзі мне прыйдзецца разарыцца на важкі том Івана Сіпакова». Потым падумаў, падумаў — мусіць, ранавата: у XX стагоддзі мы ж ужо жывём! — і прыставіў да XX яшчэ адну рыску: атрымалася «XXI стагоддзе».

Пімен Панчанка. Выдатны паэт. Мы чыталі ў інтэрнаце амаль кожны верш з майго падарунка ўголас:

Я малым хлапчуком палюбіў твае пушчы і нівы,
І блакітныя рэкі, і мора зялёных лугоў.
Ты мяне гадавала, як маці, і рос я шчаслівы,
Не зазнаўшы галечы, з атрадам вясёлых сяброў.

… Я спакойны юнак, можа, нават крыху сарамлівы,
Не пакрыўджу і птушкі, бо знаю: ёй хочацца жыць;
Але тых, хто жадае напасці на край мой шчаслівы,
Я сваімі рукамі без жалю гатоў задушыць.

Верш называецца «Радзіме», і напісаны ён у 1937 годзе, калі Пімену было ўсяго толькі сямнаццаць гадоў. Здавалася б, жорстка. Вельмі нават жорстка. Але паэт прадбачыў тое, што неўзабаве здарылася: ён ужо да вайны пісаў пра вайну!

А «Іранскі дзённік»! Якой нечаканасцю здарыўся тады ён, гэты цыкл, у нашай беларускай паэзіі!

Ідуць бясконца мураўіным гужам
Памераў парадыйных ішакі.
Ні то ў Кабул, ні то да Гіндукуша
Вязуць яны славутыя шаўкі.

А ім насустрач па хрыбтах рудых —
З тысячагоднім стажам вярблюды,
З паклажай фантастычнай на гарбах,
З пагардаю сухою на губах.

Мы едзем і паселішчы гартаем,
Нібы старонкі незнаёмых кніг.
І металічны гул размоў гартанных
З налёту да сябе прыўчае слых.

Словам, я быў вельмі ўдзячны Юру за такі змястоўны падарунак.

А потым, усяго праз дваццаць гадоў я меў радасць і гонар атрымаць аўтограф і ад самаго Пімена Емяльянавіча. Панчанка прыслаў мне сваю новую кнігу паэзіі «Крык сойкі», якая выйшла ў 1976 годзе. З вельмі прыхільным да мяне надпісам:

«Дарагому Янку Сіпакову, Чалавеку магутнага творчага патэнцыялу — з верай, надзеяй і ад сэрца. Пімен Панчанка. 29.IX.76 г.»

А ў 1980 годзе я атрымаў ад Пімена Емяльянавіча яшчэ адзін, не менш каштоўны, падарунак — кнігу выбранай яго паэзіі. Яна была з густам выдадзена, яе каляровымі алоўкамі з душою аформіў мастак Барыс Забораў, ад чаго кніга набыла нейкую ўрачыстасць і святочнасць, зрабілася сапраўдным падарункам для нас, прыхільнікаў панчанкаўскай паэзіі. Пімен Панчанка падпісаў яе мне зноў жа са шчырасцю:

«Дарагому Янку Сіпакову, талент якога я люблю. З надзеяй, што ён дасягне сапраўдных вышынь і ў паэзіі, і ў прозе. Асобныя вяршыні ўжо добра відны. Ад усяго сэрца — Пімен Панчанка. 8.IX.80 г.»

Да мяне даходзіла, мне перадавалі, што Пімен Емяльянавіч і праўда чытае мяне, цікавіцца мною, добра гаворыць пра маю паэзію і прозу, спадзяецца на мяне, аднак Панчанка пры сустрэчах заўсёды быў вельмі стрыманы і патрабавальны, як чытач, і таму гэтая яго ўвага асабліва на людзі не выходзіла. Звычайна я пры размовах ведаў сваю мяжу і таму дзіўлюся і зараз, дзе гэта таленавіты фотамастак Валянцін Ждановіч падлавіў такі момант, калі мы, як кажуць, не зважаючы ні на кога, смяемся і пра штосьці вельмі захоплена гаворым…

Еўдакія Емяльянаўна, сястра Панчанкі, жонка Усевалада Краўчанкі, гаварыла маёй жонцы, Раісе Фёдараўне: «Каб вы толькі ведалі, як мой брат вашага мужа любіць — цэніць больш за ўсіх».

Але пра тое, з якою дабратою адносіўся ён і да мяне, і да маёй творчасці, я даведаўся толькі пасля смерці Пімена Емяльянавіча, калі «Полымя» надрукавала яго дзённікі і запісныя кніжкі «Думаю, думаю…»

«З асалодаю чытаю кнігу Я. Сіпакова «Крыло цішыні». Якая наглядальнасць, праўда, розум. Цудоўная мова. Выдатны талент».

Так запісаў Пімен Панчанка ў сваім дзённіку пад 1976 год.

А ў цягніку, які вёз у Маскву беларускіх пісьменнікаў на ўсесаюзны з'езд, Пімен Панчанка гаварыў з Алесем Адамовічам пра тое, хто астанецца ў літаратуры. «Праз некаторы час з усіх гучных цяпер імён застанецца два-тры чалавекі», — сцвярджаў Адамовіч. Пімен Емяльянавіч са свайго пакалення назваў А. Куляшова, І. Мележа, В. Быкава. Сярод майго — Майстра назваў і маё прозвішча.

Прабач мне, шаноўны мой чытач. Даруй мне, што я пішу пра гэта, агучваю такія інтымныя для мяне словы. Можа, гэта і сапраўды нясціпла, можа, гэта і праўда няёмка, але ж які пісьменнік адмовіцца ад такой ацэнкі таго, чаму ты прысвяціў усё сваё жыццё…

І яшчэ думка з дзённікаў Панчанкі: «Мы — вечныя дзеці».

Геніяльна! Па глыбіні — вельмі глыбока і па вышыні — таксама.

Пімен Емяльянавіч выпісвае ў запісныя кніжкі і задумваецца над афарызмам Канфуцыя: «Цяжка злавіць чорную кошку ў цёмным пакоі, асабліва, калі там яе няма».

Якраз у той жа дзень, калі я атрымаў у падарунак томік вершаў Панчанкі, мне падаравалі і яшчэ адну кнігу. Таксама з аўтографам. Таксама выдадзеную ў «Школьнай бібліятэцы». Гэта быў томік вершаў рускага паэта Аляксея Кальцова. З прадмоваю Вісарыёна Бялінскага. З пісьмамі паэта да таго ж Бялінскага, Краеўскага, В. Ф. Адоеўскага, Вяземскага.

Кніга выйшла ў Мінску. Дарэчы, рэдактарам яе была Еўдакія Лось, маладая на той час паэтэса.

А ў кнізе — найвядомейшае:

Что ты спишь, мужичок?
Ведь весна на дворе;
Ведь соседи твои
Работáют давно…

І яго « Косарь»!

Раззудись, плечо!
Размахнись, рука!
Ты пахни в лицо,
Ветер с пóлудня!
Освежи, взволнуй
Степь просторную!
Зажужжи, коса,
Как пчелиный рой!
Молоньёй, коса,
Засверкай кругом!
Зашуми, трава,
Подкошóнная;
Поклонись, цветы,
Головой земле!
Наряду с травой
Вы засохнете,
Как по Груне я
Сохну, молодец!

Праўда ж, здорава! Колькі тут энергіі, сілы і, па-руску кажучы, «удали»! Столькі клічнікаў, і ўсе яны, ведаеце, на месцы. Можна было б і болей паставіць. Хораша! І гэтая «молонья»… У рускай жа мове, здаецца, «молоньи» няма. Ды і гэтае: «Как по Груне я сохну, молодец»…

А навошта сохнуць? Столькі ж сілы, упэўненасці і, здаецца, радасці жыцця ў яго…

Аднак лёс у Аляксея Васільевіча быў і напраўду нялёгкі, ці, можна сказаць, зусім цяжкі.

Ён сохне па Груні, хоча ажаніцца з ёю. А бацька, купец, гандляр соллю, — супраць. Сястра нагаварыла яму, што Аляксей хоча ажаніцца, каб абабраць бацьку, завалодаць яго грашыма. Вось той і зазлаваў: «Аддам усе сродкі сястры, а ты мяне карміць да самай смерці будзеш».

Бацька не разумее яго. Хоча і сына зрабіць гандляром. Той жа самай соллю.

А Аляксей хворы. У Аляксея сухоты…

Вось як сам Аляксей Васільевіч у пісьме да Бялінскага расказвае пра свае непамыслоты:

«Галоўнае — сястру бацька выдае замуж; у каляды заручыны, а там і вяселле; толькі дакладна не ведаю калі, яшчэ не вырашана: ці пасля новага года, ці на праводную нядзелю. Тут бацька, а больш за ўсё сястра зрабілі са мною дзіўную подласць. Бацька не запрасіў мяне і на савет (чаму я быў вельмі рады); акрамя таго дае за ёю грашыма 3000 руб. Я яму пачаў гаварыць, што абышлося б і без гэтага, а даваць грошы — іх у нас няма, — даўгоў шмат, а плаціць нечым. Ён мне на гэта: «Я выдаю дачку апошнюю, і дам за ёю апошняе, што ёсць. А нечым будзе плаціць даўгоў, прадам дом. Я стары, мне жыць нядоўга, а пра цябе я і не думаю: ты — галава ў мяне. Пасля гэтага вяселля жаніся сам, кармі мяне, маці: а не ажэнішся — праганю з двара».

І хто б, вы думаеце, падараваў мне гэтую кнігу варонежскага паэта? З такім вось аўтографам: «Івану Сіпакову ад паклонніка яго паэтычнага таленту ў дзень нараджэння. Рыгор Барадулін».

Ага, гэта ён, Грыша Барадулін. Сваіх кніг у нас, маладых, пачынаючых паэтаў, тады яшчэ не было, дык мы шчодра раздавалі, дарылі сябрам тамы класікаў. Што, Грыша захапляўся Кальцовым? Не ведаю, не помню. Ведаю толькі тое, што ўсе мы тады шукалі сябе і маглі павярнуць у любы бок — хто да Кальцова, хто да Ясеніна, хто да Коласа. Аднак усе мы, на вялікую радасць, заставаліся самі сабой.

З Грышам мы жылі ў адным пакоі ў інтэрнаце па вуліцы Бабруйскай. Наша акно якраз выходзіла на чыгуначны вакзал. А цягнікі тады яшчэ ва ўсю свісталі, рыкалі, галасілі, а ўночы мы часам прачыналіся ад настойлівага напамінку: «Граждане пассажиры, через пять минут отправляется поезд на…» Маскву, Калінінград, Адэсу, Віцебск. Ці не ад гэтага напамінку, што ўвесь час нехта некуды едзе, і нарадзіўся ў Рыгора Барадуліна яго славуты студэнцкі верш «Трэба дома бываць часцей»?

Увесь ранні Рыгор Барадулін у маёй бібліятэцы з аўтографамі. Са шчырымі, дарчымі надпісамі. Думаю, я не памылюся, калі скажу, што Рыгоравы аўтографы — самыя эмацыянальныя.

«Дарагому Янку Сіпакову — паэту ва ўсіх адносінах і шчыраму сябру. Успомні, дружа, студэнцкія гады і наш 54-ы. З пажаданнем Нёмана радасці і Мінскага мора натхнення! Твой сябра Рыгор Барадулін».

Так падпісаў мне Грыша сваю першую кнігу «Маладзік над стэпам».

Рыгор падчас летніх канікулаў разам з атрадам студэнтаў з БДУ ўдзельнічаў ва ўборцы цаліннага хлеба ў Кустанайскай вобласці. Адтуль ён прывёз шмат добрых вершаў, якія і сталі асноваю яго першага зборніка паэзіі. Сярод іх была і жартаўлівая «Кухня Насці», якая падабалася тады ўсім — і чытачам, і крытыкам.

Але ж у зборніку былі і іншыя, ужо вядомыя па ранейшых публікацыях, цудоўныя вершы: «Як захліпнуўся ад радасці жаўранак», «У роднай хаце», «Світанняў я з табой не сустракаў»…

Яшчэ больш эмацыянальным быў Рыгораў надпіс на кнізе «Неруш»:

«Мой любы, мой дарагі Янка! Дзякуй за самае шчырае (дужа перабольшанае) слова пра мяне. Дружба наша, спадзяюся, век будзе жыць! Няхай жыве Віцебшчына! Янка, вочы маёй маці і маёй сям'і заўсёды пагодзяць твой, твой дзень. Рыгор. 68 год (запознена)».

Справа ў тым, што я не змог дачакацца — хацелася хутчэй пачытаць! — калі Рыгор падпіша мне сваю новую паэтычную кнігу «Неруш», набыў яе ў кнігарні сам: так, мы з нецярпеннем, як сваіх, чакалі выхаду новых кніг нашых равеснікаў.

Кніга ўразіла мяне, захапіла. Найперш сваёю пабудоваю, цэласнасцю, прадуманасцю. Дарэчы, і я таксама ўвесь час, як заўважылі потым крытыкі, імкнуўся «думаць кнігамі».

Кніга, па сутнасці, мела аж пяць загалоўкаў: «Начныя азярыны», «Еўразія», «Рута-Мята», «Угаманіўся бор», «Шчыравала пчала». А з першых літар іх узнікала і галоўная назва кнігі «Неруш».

Кніга легла мне на душу, і я лёгка напісаў на яе рэцэнзію, а «Маладосць» таксама лёгка і хутка надрукавала мой водгук.

Мне спадабалася кніга, Рыгору, дарэчы, ужо аблашчанаму крытыкаю, — мая рэцэнзія. Такім чынам я атрымаў ад Барадуліна яшчэ адзін экзэмпляр «Неруша».

Быў Рыгор яркі і ў іншых сваіх аўтографах.

«Любы Янка — мой самы лепшы сябра, наогул, харошы! Знаю, што ты не ведаешся з халтурай. Люблю цябе! Рыгор. 2.I.67 г.», — напісаў ён мне на кнізе «Аист на крыше», якую ў перакладах Ігара Шклярэўскага выдаў «Советский писатель».

А на таненечкай кніжцы «Сенакос», што выйшла ў Рызе ў перакладах Віктара Леўзімнеека на латышскай мове, Рыгор прызнаўся: «Таму, які самы шчыры і першы друг мой (веру, што да скону) — Янку! Рыгор, Мінск. Зіма 68-га года».

Рыгор у маладосці — ды і заўсёды! — быў цікавы, арыгінальны, непаўторны.

Працую ў «Вожыку». Мне прыносяць тэлеграму: «Вожык». Янку Сіпакову. Да запатрабавання. Дзякуй. Рыгор. І адрас: недзе ў тайзе, ці ў нейкім іншым гіблым месцы. Я ведаю, што гэта значыць: Грыша абязгрошыўся! Іду на пошту і пасылаю грошы… Каб ён атрымаў іх у той жа дзень!

А як Рыгор Іванавіч павіншаваў мяне — як заўсёды бліскуча! — з маім шасцідзесяцігоддзем у «Звяздзе»! Маленькаю мініяцюраю, якая для мяне сталася вялікаю:

А неаб'езджаны Пегас
Каля Зубрэвічаў падкову
Згубіў
І ў рукі Сіпакову
Патрапіла падкова ў час.
І Янка ў творчыя пакуты
Пайшоў, як зубр.
Але падкуты.

А самы першы і самы дарагі мне і сёння аўтограф я атрымаў яшчэ школьнікам. Ды які аўтограф! Цуд! Ды ад каго! Ад самой Уладзіславы Францаўны Луцэвіч — жонкі Янкі Купалы! Ды на якой кнізе! На другім томе Збору твораў Песняра! Ды дзе! У музеі Янкі Купалы!

Жонка самога класіка беларускай літаратуры, якога тады я вывучаў у школе, мне, вучню Зубрэвіцкай дзесяцігодкі, што ад купалаўскіх Ляўкоў

знаходзіцца ўсяго толькі за нейкіх дзесяць кіламетраў, зрабіла такі шыкоўны падарунак!

У Мінск, у музей Янкі Купалы я ездзіў «зайцам» — на даху вагона. Грошай не было, а падарожнічаць хацелася. Вось я прыдумаў такую форму «перасоўвання» — на вагонах. І куды толькі не наведваўся такім чынам! Пазней нават дакументы для паступлення ва ўніверсітэт зноў жа вазіў на даху вагона.

«На ўспамін аб Ляўках», — напісала на купалаўскім томе Уладзіслава Францаўна. І паставіла дату: 29.VII. 53 г.

Мне тады было сямнаццаць гадоў…

Уладзіслава Францаўна сама паказвала мне, хлапчуку, — аднаму! — музей, сама вадзіла ад экспазіцыі да экспазіцыі, расказвала пра Янку — толькі так яна называла свайго мужа: «А Янка быў». «А Янка сказаў». «А Янка бачыў»…

Яна хацела пакарміць мяне, але я сціпла адмовіўся: маўляў, у мяне ёсць тут знаёмыя, і я прыехаў да іх. І потым пашкадаваў, што адмовіўся: тую палавінку буханкі хлеба, якую, паснедаўшы раніцою, схаваў у кустах маладога, толькі што насаджанага купалаўскага парку — адны пруцікі! — здаецца, непадалёку ад таго месца, дзе пазней узнікне фантан з дзяўчатамі, якія пускаюць вянкі, — я ўжо не знайшоў: мусіць, раней за мяне хлеб адшукалі птушкі ці сабакі…

Цёця Уладзя купіла мне білет у цырк — нейкае заезджае шапіто з матацыклетнымі гонкамі ў коле, раскінуўшы свой брызентавы шацёр у парку імя Горкага, — свайго цырку ў Мінску тады не было, — якраз давала свае прадстаўленні.

А ўвечары, калі сцямнелася, пайшоў на вакзал…

Дадому з Мінска я дабіраўся таксама на даху вагона — гэтак жа, як ехаў у Мінск. А на даху ж, калі ты пераскокваеш з вагона на вагон, ратуючыся ад тых, хто цябе ловіць, каб ссадзіць, патрэбны не толькі ногі, але і вольныя рукі. Таму я падарунак Уладзіславы Францаўны паклаў за пазуху — тужанькая гумка ўнізе футболачкі, ведаў, не дасць кнізе выпасці.

Як я ганарыўся гэтым падарункам тады, яшчэ вучнем! Ганаруся ім і сёння: то ж сама цёця Уладзя падпісала мне кнігу нашага Прарока!

А пазнаёміўся я з цёцяю Уладзяю ў Ляўках.

Было лета 1952 года. Беларусь святкавала сямідзесяцігоддзе з дня нараджэння Янкі Купалы. Мы, школьнікі, толькі што скончылі восьмы клас. Хтосьці з нас, здаецца, Толя Круцікаў, вычытаў у раённай газеце, што ў Ляўках адбудзецца свята паэзіі ў гонар гэтага юбілею, на якое прыедуць знакамітыя госці з Мінска. І мы ўчатырох — Толя Круцікаў, Міша Сліжоў, Лёша Ермакоў і я — пайшлі пехатою ў Ляўкі.

Памятаю лясную дарогу праз урочышча, якое называецца Коззе, — яшчэ халаднаватую значы. Памятаю, як ужо з раніцы нагрэты, нібы прысак, дарожны пыл на палявой дарозе за Герасімоўшчынай апякаў босыя ногі. Памятаю, як на пароме, на якім пераплывалі каля Александрыі праз Дняпро, конь, запрэжаны ў калёсы, чамусьці вельмі задумліва глядзеў у ваду. Памятаю, як на беразе мы доўга, спрачаючыся, выбіралі сцяжыну праз кустоўе, праз вербалозы, па якой трэба ісці, каб патрапіць у Ляўкі, — дзівакі, мы тады яшчэ не ведалі, што ўсе яны прывядуць нас менавіта туды, куды нам і трэба — да былой дачы Песняра.

Цёця Уладзя ўразіла нас сваёй прастатою, зычлівасцю, дабрынёю. Нам адразу ж здалося, што мы ведаем яе вельмі даўно, што яна нібыта наша аднавяскоўка. Яна пра ўсё распытвала ў нас, усім цікавілася, уважліва слухала

тое, што мы расказвалі і пра Зубрэвічы, і пра зубраўцаў, што нам здалося: цёця Уладзя была ў нашай вёсцы! І мы нават адважыліся спытаць у яе пра гэта.

— Не, не была, — усміхнулася яна. — Чуць — чула, але не была, — і, паглядзеўшы чамусьці на мяне, і, мусіць, убачыўшы, што мне больш за ўсіх хочацца, каб яна сказала «была», са шкадаваннем дадала: — І Янка таксама не быў…

Але ж яна чула пра маю вёску! І Янка Купала, вядома ж, таксама чуў пра Зубрэвічы!

Уладзіслава Францаўна была такая ж ужо клапатлівая з намі — як маці: хлопчыкі, хлопчыкі… Калі мы сказалі пра гэта Анатолю Астрэйку, які быў на гэтым свяце і таксама здаўся такім ужо свойскім зубрэвіцкім дзядзькам, ён, пыхкаючы цыгарэтаю, усміхнуўся:

— А яна, хлопцы, для ўсіх нас як родная маці. І нас, старых, яна таксама хлопчыкамі заве.

Пазнаёміліся мы тады і з Васілём Віткам, які на той час быў вядомы як аўтар п’есы пра Янку Купалу «Шчасце паэта». Нам ён запомніўся сваім інтэлігентна-далікатным, загадкава-таямнічым выглядам. Ён з дабрынёю ўсміхаўся праз акуляры і больш маўчаў, але за гэтым маўчаннем адчуваліся многія веды і мудрасць.

Мы сядзелі на траве перад самаю сцэнаю, якую на паляне каля лясніцтва змайстравалі перад святам — дошкі яшчэ свежа пахлі смалою.

Уяўляеце, з якім захапленнем слухалі мы ўпершыню ў жыцці жывых паэтаў!

На развітанне цёця Уладзя пажадала нам, цікаўным, добра вучыцца і запрашала ў Мінск, да яе ў «Янкаў музей».

— Хлопчыкі, я ўсё вам пакажу і пра ўсё раскажу.

Хлопцы не адважыліся на такую дарогу, і таму ў купалаўскі музей я, як бачыце, паехаў адзін.

Развітваючыся са мною ў сталіцы, Уладзіслава Францаўна зноў жа сказала, раіла ўжо мне аднаму:

— Хлопец, табе трэба вучыцца. Закончыш школу, прыязджай у Мінск, паступай ва ўніверсітэт.

І я прыехаў. Зноў жа на даху вагона. І паступаў у БДУ. Але не спраўдзіў спадзяванняў Уладзіславы Францаўны — не прайшоў па конкурсе: з сямі прадметаў, якія мы здавалі на ўступных экзаменах, пяць я здаў на выдана, а па двух — атрымаў чацвёркі. Прымалі ж толькі з адною чацвёркаю…

Паступіў я на журфак БДУ ўжо на наступнае лета, папрацаваўшы год літсупрацоўнікам у Шклоўскай раённай газеце.

Цёця Уладзя цікавілася, я адчуваў, лёсам «зубрэвіцкага мальца».

Рэч у тым, што я яшчэ школьнікам напісаў прасценькі, вучнёўскі верш «Ляўкі», і ён спадабаўся Уладзіславе Францаўне. Яна ўключыла яго нават у зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці паэта, які пад грыфам Акадэміі навук Беларускай ССР і пад рэдакцыяй Пятра Глебкі выйшаў у 1955 годзе.

І потым, калі адбывалася Рэспубліканская нарада маладых пісьменнікаў Беларусі, па яе прапанове Саюз пісьменнікаў БССР уключыў і мяне ў спіс удзельнікаў.

З тае нарады ў мяне захоўваецца, як вельмі дарагая рэліквія, фотаздымак з Якубам Коласам. Ён даволі такі вядомы, друкаваўся шмат у якіх, нават энцыклапедычных, выданнях: дзядзька Якуб і мы, як птушаняты, абступілі яго з усіх бакоў — Толя Клышка, Грыша Барадулін, Гена Бураўкін, Вася Зуёнак, Сеня Блатун, Жэня Крупенька, я і іншыя пачаткоўцы.

І аўтографам Уладзіславы Францаўны Луцэвіч я вельмі ганаруся і сёння берагу яго, даражу ім і шаную як святыню.

Такім было маё адкрыццё купалаўскіх Ляўкоў.

Прыкладна ў той жа час да Купалы спяшаўся і дарагі мой зямляча Валодзя Караткевіч з Оршы.

Чытаю ў «Летапісе» жыцця творчасці Караткевіча», які рупліва склаў нястомны даследчык асобы майго земляка Анатоль Верабей (Збор твораў у васьмі тамах. Том 8, кн. 2):

«1952 год. Чэрвень.

Наведаў разам з сябрам — аршанцам, студэнтам Беларускага політэхнічнага інстытута В. Краўцом Вязынку, дзе нарадзіўся Янка Купала. Пасля паездкі даслаў нарыс «Вязынка» і суправаджальны ліст жонцы Янкі Купалы Уладзіславе Францаўне (Рукапіс, 9-я папка хатняга архіва)».

Бачыце, ён з сябрам едзе ў Вязынку, а я з хлапцамі — іду ў Ляўкі.

Эх, не перакрыжаваліся тады дарогі, а то можна б было разам, калі б падружыліся, з'ездзіць і туды, у Вязынку, і сюды, у Ляўкі…

Васіля Вітку я запомніў з тае сустрэчы ў Ляўках. Ён жа мяне, хлапчука, не запомніў: нам потым давялося знаёміцца нанава. Аднак наша дружба, не зважаючы на розныя ўзросты, узнікла неяк сама сабою і не ведаю як і на чым зблізіла нас.

Яго аўтографаў таксама шмат у маёй бібліятэцы. І яны зноў жа далікатна-прыхільныя.

За амаль дваццаць гадоў, якія мінуліся з часу майго хлапчуковага знаёмства з жывымі паэтамі, Васіль Вітка зрабіўся слынным дзіцячым пісьменнікам (і дарослым таксама!), рэдактарам часопіса «Вясёлка», аўтарам вясёлай «Азбукі Васі Вясёлкіна» — прыдуманага ім і здзейсненага ім жа персанажа — свавольніка.

Васіль Вітка — увесь з афарызмаў, трапных выразаў. Узгадваю па памяці:

Шатавіла — матавіла
Па-турэцку гаварыла…

Усё шукала Беларусь
У Афрыцы і ў Азіі…

Ах ты непаслушка,
Давай сюды вушка…

Сваю афарыстычную паэму «Беларуская калыханка», якая асобнаю кнігаю выйшла ў 1971 годзе, Цімох Васільевіч падпісаў мне:

«Дарагому Івану Данілавічу Сіпакову з любоўю і ўцехай, што Вы ёсць на свеце. Васіль Вітка».

Ага, зноў няёмлюся, ага, зноў перапрашаю цябе, шаноўны мой чытач. Але ж… Так напісана…

На наступны год я атрымаў ад Віткі яго новы аўтограф. На кнізе «дарослых» вершаў «Праводзіны лета»:

«Івану Данілавічу Сіпакову, душэўна дарагому мне паэту і сябру. Віншую з узяццем новай творчай вышыні — стварэннем цудоўных славянскіх балад, якія магутна і самабытна загучалі ў нашай паэзіі. Дзякую Вам! Васіль Вітка. 16 чэрвеня 1972 г.».

А «Чытанку-маляванку» Цімох Васільевіч падпісаў нам з сынам:

«Сіпакову Янку
Пасылаю — маляванку,
Пасылаю з напамінам,

Каб удвох з Сяргеем — сынам
Аб'ядналіся ў суполку
І пісалі у «Вясёлку»
Вершы, казкі, байкі, песні,
А як выйдзеце на пенсію, —
Вам і ўнукам, ей жа права,
Будзе ўцеха і забава!

*Васіль Вітка».*
*9 лютага 1972 г.*

У гэтай кнізе зарыфмавана літаральна ўсё — нават падзагаловак:

Лалакі — ладкі,
Лічылкі — загадкі,
Байкі — самагудкі,
Жарты, перакруткі,
Казкі, пацешкі,
Вясёлыя ўсмешкі.

Поўныя як вока рыфмамі ў пацешках, але іх не заўважаеш — такія яны натуральныя:

Вам, цыляткам, мала кавы,
Вельмі мала чаю —
Выпіце лепш малака вы,
З'ешце малачаю.
А траву пакажу,
Дам вам сена па кашу.

А скорагаворкі!

Хвошча, хвошча дождж.
Воўк схаваўся ў хвошч.
Хвост пад хвашчом,
А сам пад даждждом.

Колькі часу прайшло, а яго паэзія — жывая. Васіль Вітка, здаецца, і цяпер найлепшы наш пісьменнік сярод тых, хто пісаў і піша для дзяцей.

«Чытанка-маляванка» зачытана, нават замалявана. Спачатку Вiткаву кніжку чытаў сын з сябрамі, а потым унучка з сяброўкамі. Думаю, каб убачыў яе такою, Цімох Васільевіч быў бы рады: ого, дык гэта ж так папрацавала ягоная чытанка-маляванка!

На той час я з «Вожыка» перайшоў на працу ў часопіс «Маладосць», а ён, як і «Вясёлка», знаходзіўся ў памяшканні ЦК ЛКСМБ, і таму Цімафей Васільевіч, галоўны рэдактар «Вясёлкі», часам заходзіў да мяне ў «Маладосць», каб, як ён сам жартаваў, пасядзець, памаўчаць.

Мы сядзелі, няспешна «маўчалі», і мне неяк само сабою было вельмі ўтульным і светлым гэтае «маўчанне».

Мусіць, і Цімоху Васільевічу было гэтаксама спакойна са мною, бо на першым томе сваіх «Выбраных твораў у 2-х тамах» ён напісаў:

«Івану Данілавічу Сіпакову — сябру і суседу па працы, з якім заўсёды радасна і пагаварыць, і пасядзець, і памаўчаць. Васіль Вітка. 15 кастрычніка 1973 г.»

Вось такою была наша дружба. Мы дружылі шчыра, спакойна, з агульнай дабратою, хоць між намі, прызнаюся, і муляла крыху адна невялічкая дробязная стрэмка, якая часам міжволі, сама сабою нагадвала пра сябе.

У 1961 годзе на Прэзідыуме Саюза пісьменнікаў Беларусі мяне прымалі ў члены СП. За адзіную, таненечкую — усяго 50 старонак! — кніжачку «Сонечны дождж». Канечне ж, яшчэ не спелую, зразумела ж, яшчэ не дасканалую — першая ж… Хоць у кніжкі, здаецца, ужо было ўсё: і вельмі строгі

закрыты рэцэнзент на рукапіс — сам Рыгор Бярозкін! — і ўхвальная рэцэнзія Анатоля Клышкі ў «Літаратуры і мастацтве». Рэкамендацыі мне далі Аляксей Русецкі, тагачасны старшыня секцыі паэзіі СП, Рыгор Барадулін і мой зямляк з Барані, нядаўні дырэктар цвіковага завода Уладзімір Корбан.

Члены прэзідыума тады галасавалі яшчэ адкрытым галасаваннем — проста падымалі рукі: хто за, хто супраць.

І як жа я быў узрушаны, калі адным з траіх, хто галасаваў супраць мяне, быў і ён, Цімафей Васільевіч. Васіль Вітка, з якім пазнаёміла нас, хлапчукоў зубрэвіцкіх, цёця Уладзя ў Ляўках… Броўка галасуе за, Панчанка — за, Мележ — за. А ён — супраць.

Канечне, Цімох Всільевіч таго выпадку не запомніў — падумаеш, нейкі нязначны эпізод у такім імклівым жыцці.

А перада мною, буду шчыры, не-не ды і ўзнікала ягоная рука, не высока, але ўсё ж упэўнена паднятая ўгору. І беленькі, чысценькі манжэцік, што вытыркнуўся з-пад крыху апушчанага рукава...

Аднак мы з Цімафеем Васільевічам ніколі не гаварылі пра гэта: ён — не памятаў, а я — лічыў дробязным варушыць тое, даўняе і не вартае клопатаў.

Я вельмі даражыў нашай дружбаю!

Прыходжу неяк на працу ў «Маладосць» крыху пазней, а мне хтосьці — ужо не памятаю хто — і кажа:

— Заходзіў твой Вітка. Ну і даў нам прачуханца.

— За што? — пытаюся.

— Казаў, што мы няправільна размяшчаем у часопісе матэрыялы: самыя цікавыя і арыгінальныя ў канец запіхваем, а наперад высоўваем слабейшае.

— А я тут пры чым?

— Ён казаў пра твой нарыс пра Грузію, пра «Зямлю перад кветам». Вельмі хваліў яго. Гаварыў, што такімі матэрыяламі варта адкрываць нумар, а мы яго на заканчэнне паставілі. Замест гумару.

На маё пяцідзесяцігоддзе Цімох Васільевіч адгукнуўся задумлівым вершам:

### ТАЙНА ЗЯЛЁНАЙ МАЛАНКІ

***Янку Сіпакову***

Колькі ў нас Янкаў на Беларусі!
Цешуся ўсімі і ганаруся.
Рад, што між імі ёсць месца для Янкі,
Адзінага, хто ведае тайну маланкі!
Як не парадавацца рацэ,
Што з вытокаў свайго
Выбежыць,
Нібы жарабятка,
На луг,
На прастору!
Як не парадавацца руцэ,
Што пастушшаю дратаванкай
Даўгой
Выкрасае маланку
Зялёную
З каменя,
З даўніны сівой
І сірочага гора!
Веру руцэ паэта,
Якая трывала

Трымала
Сякеру,
Касільна,
Цапільна
І млён.
Такі не пакіне прагала,
Кожны лапік дагледзіць дбала.
Кожнае каліва выхадзіць ён.
Каструбаваты радок,
А які гарачы,
Змалку родны,
Як баразна.
Пласт за пластом гартаю,
Ворыва перабіраю,
Прабачце, калі не ўтрываю,
Па-старэчы
Над нечым
Заплачу, —
Не часта ў кожнага з нас бывае
Зімою вясна!

**2**

Дзіўна, але ў пяцідзясятых гадах мінулага стагоддзя быў нейкі пэўны час, калі аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ, на якое штогод і набіралася ўсяго толькі нейкіх 25 чалавек, паставіла ў беларускую літаратуру вельмі шырокую кагорту неверагодна таленавітых пісьменнікаў, што ў нашым родным прыгожым пісьменстве занялі сваё высокае і асобнае месца.

Курсам вышэй ці курсам пазней, хто толькі што паступіў на першы курс, а хто ўжо і заканчваў універсітэт, вучыліся разам, жылі побач у інтэрнатах тыя, хто неўзабаве зробіцца гонарам роднай літаратуры: Іван Пташнікаў, Анатоль Вярцінскі, Іван Чыгрынаў, Вячаслаў Адамчык, Міхась Стральцоў, Уладзімір Дамашэвіч, Віктар Карамазаў, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Юрась Свірка, Васіль Зуёнак, Сымон Блатун, Барыс Сачанка, Анатоль Кудравец, Мікола Гіль, Ігар Хадановіч — дарэчы, я і сёння памятаю Ігарава першае апавяданне: лета, воз сена, на ім яны, хлапчук і дзяўчынка, і ў іх на дваіх адзін яблык... І ўсё так ласкава, так далікатна напісана, расказана, паказана.

Тады ж вучыліся і Анатоль Клышка, будучы аўтар беларускага «Буквара», і даследчык беларускіх летапісаў Вячаслаў Чамярыцкі, і высокі знаўца беларускага тэатра Анатоль Сабалеўскі, будучы мовазнаўца і фалькларыст Янка Саламевіч, рэжысёры Ігар Дабралюбаў і Віктар Дашук.

Выкладалі на філфаку нядаўнія яго выпускнікі Ніл Гілевіч, Алег Лойка, Іван Навуменка — яны неяк не адасобліваліся ад студэнтаў: разам жа шукалі сябе, свой шлях у літаратуры.

Інтэлектуальны, высокамаральны асяродак — было з кім і было пра што пагаварыць.

Часам наязджаў у Мінск з Гродна малады паэт Пятрусь Макаль. Нечаканыя для беларускай літаратуры вершы пачаў пісаць студэнт медінстытута Алесь Наўроцкі — яго часта можна было сустрэць у нашым інтэрнаце, у нашым пакоі: сам Алесь у дыскусіях не ўдзельнічаў асабліва, але слухаў усіх вельмі ўважліва. У педінстытуце хараша заявіў пра сябе студэнт Раман Тармола. У інстытуце замежных моў піша вершы яшчэ для сябе, аднак настойліва вывучае англійскую мову, каб потым бліскуча перакладаць Кіплінга, Яўген

Міклашэўскі. У Оршы ўжо настаўнічае выпускнік Кіеўскага ўніверсітэта Уладзімір Караткевіч — да нас з Оршы даходзяць магутныя раскаты ягонай паэзіі.

Мы ішлі ў літаратуру не па адным. Мы ўрываліся ў літаратуру ўсе разам — гуртам, выраем, моцнаю хваляю, усім пакаленнем. Нам так было зручней, цікавей, весялей, радасней. І чым больш было ў нас паплечнікаў, тым упэўненей мы сябе адчувалі: расце наша родная літаратура! Заўсёды думалі мы не толькі пра свае творы, але і пра літаратуру.

Мы радаваліся кожнаму поспеху сваіх сяброў, а сябры — нашаму. Хочацца сказаць, што мы не зайздросцілі адзін аднаму. Але ж... гэта будзе няпраўда. Вядома, зайздросцілі! Але гэтая зайздрасць была не злая і зацятая, а добрая. Мы зайздросцілі поспехам сяброў, але адначасова і радаваліся ім: то ж багацее наша паэзія, глыбее наша проза!

Грыша Барадулін напісаў свае вершы «У верасня ёсць свой адметны пах» і «Паляць бульбоўнік». Зайздросцілі. А чаму я да гэтага не дадумаўся: і ў нас жа таксама паляць бульбоўнік, і я ж ведаю гэты пах...

Атрымаліся ў Анатоля Вярцінскага своеасаблівыя шэдэўры «Дынамік» і «Статак вяртаецца з поля» — зайздросцілі. Дык і я ж гэта ведаў. Гэта ж ляжала на самым відным месцы. Радыё, старая, няма з кім пагаварыць. А з радыё і пагаворыш, і паплачаш, і паспяваеш... Ну, а «Статак вяртаецца з поля» — дык і ўвогуле... Усе ж мы штодня бачылі гэта, сустракалі сваіх каровак, і яны бралі з нашых далонек хлеб... Але дадумаўся, бачыш, ён, а не ты.

А Васіль Зуёнак... Бачыце, «ніхто не пачуў: яблык упаў дасвеццем — ля Халопеніч, на Беларусі»... Ды чулі мы, чулі, Васіль, як падае той яблык! Але ж пра галоўнае пачуў толькі ты адзін: «Ніхто не пачуў, а шар зямны здрыгануўся»... Высокі паэтычны слых!

А ў наш студэнцкі час вельмі папулярным між моладзі быў ягоны верш «Студэнцкі чамадан»:

Можа, хто і пасмяецца з верша:
Вось хлапец знайшоў здзівіць чым свет!
Толькі ж гэта я кажу не першы:
— Чамадан мне — як курцу кісет.
Паглядзі — чаго няма ў ім толькі:
Тут Купалы кніжка і Бальзак,
Тут буфет студэнцкі мой, паколькі
Без яго не пражывеш ніяк.

Думаў, Васіль Васільевіч не ўключыць у свае выбраныя творы гэтага студэнцкага верша. Адгарнуў томік «Час вяртання», які выйшаў у «Бібліятэцы беларускай паэзіі» і які Зуёнак падпісаў мне: «Дарагому Янку Сіпакову — паэту, якога люблю, празаіку, якому зайздрошчу, па-сяброўску», і ўзрадаваўся: ёсць! Ёсць «Студэнцкі чамадан» нават у гэтым ашчадна адабраным выданні.

Усе мы былі такія шчырыя ў паэзіі.

І такія ж чыстыя-чыстыя былі нашы памкненні.

Хоць усе мы былі такія розныя, такія непадобныя адзін да аднаго. І ў кожнага з нас быў свой, як кажуць, татэм.

«Я вырас пад гарматнымі стваламі», — упэўнена заявіў пра сябе юны Сцяпан Гаўрусёў.

А Ніл Гілевіч у сваім «Першым снезе» з першага зборніка «Песню бярыце з сабою» быў увесь нейкі радасна-прасветлены:

Раптам нейк, без залётных сняжын-вестуноў,
Паваліў, нібы хтосьці яго кідаў ахапкі;

Не ўтрымаўся і выпаў з абдымкаў кляноў,
Пераняў на праспекце студэнта без шапкі...

Першы снег!
Першы снег!..
Быццам школьнік, бягу
Падзяліцца з табой гэтай радасцю светлай...

Генадзя Бураўкіна па першай яго паэтычнай кнізе мы, сябры, прынялі вось такім:

Сёння я незвычайна радасны,
Ну, не хлопец —
усмешка адна:
Цеплынёю дваццаціградуснай
Абагрэла мяне вясна...

І паветра здаецца мядовым,
І нябёсы —
чысцей і сіней.
Я іду — дваццацігадовы,
І дзяўчаты глядзяць на мяне.

«І дзяўчаты глядзяць на мяне»... Ах, які цуд!

Сваю «Майскую просінь» Генадзь падпісаў мне 22 верасня 1960 года:

«Івану Сіпакову, паплечніку, равесніку, цудоўнаму таварышу — ад чыстага сэрца».

Годам раней я атрымаў таксама першую кніжку «Шэпчуцца ліўні» і ад Юрася Свіркі — неяк мы тады выдавалі іх усе засаб. Таксама з дарчым надпісам: «Янку Сіпакову, паэту і шчыраму сябру на памяць аб нашым вясёлым студэнцкім жыцці — ад шчырага сэрца. Юрась».

У гэтым Юрасёвым зборнічку ёсць кароценькі верш «Ягады», які выклікаў тады нават дыскусію:

Дрэвы тут спляліся, як у джунглях.
Паглядзіш — і сонца не відаць.
На палянку выйшаў і гляджу я —
Ягады счарнелыя ляжаць.

Як шкада мне, што яны прапалі,
Адышла іх спеласці пара.
Адцвілі, паспелі і завялі,
І ніхто іх не прыйшоў сабраць.

«І ніхто іх не прыйшоў сабраць». Маладога паэта папракалі за твор, асабліва за ягоную канцоўку, ва ўяўнай глыбакадумнасці. А тут жа, як мне здаецца, было толькі маленькае асабістае адкрыццё. Усе ўжо адкрылі гэта, зразумелі даўно, а ты толькі што здагадаўся, убачыў у гэтым сэнс. Тут, урэшце, пра нейкую марнасць марнасці, якую разумееш пазней, у канцы жыцця.

А Юрась задумаўся пра гэта яшчэ юнаком.

Сымон Блатун у студэнцтве быў папулярны сваім вершам «А хто будзе мыць пасуду?»

Стыпендыя заўтра, а сёння яшчэ раз
Сабралі з кішэні рублёўкі.
І вось на стале ўжо дыміцца вячэра
І ўсе ўздыхаюць з палёгкай...

Гады прамільгнуць... І мо ў новай кватэры,
Як нейкае дзіўнае цуда,

З нас кожны прыпомніць вось гэту вячэру...
«А хто ж будзе мыць нам пасуду?»

І гэта надоўга зрабілася нашым, як бы цяпер сказалі, літаратурным брэндам: дзе б мы ні садзіліся за стол ці дзе б ні ўставалі з-за яго, абавязкова знаходзіўся хтосьці, хто глыбакадумна пытаўся: «А хто ж будзе мыць нам пасуду?»

Сымон, здаецца, быў найшчырэйшы сярод нас усіх — і ў жыцці, і ў паэзіі, і ў сяброўстве. У яго паэзіі і сёння ззяе столькі пярлінак!

Я па зрэбным бягу палатне,
Што бяліць разаслала маці...

У нас не дораць кветкі, іх стагуюць...

Жураўля я не спаймаў у небе,
А сініцу выпусціў з рукі.

І яго прарочае:

І скажуць: «Быў яшчэ ён малады»...
Паўстану я ў кагосьці прад вачыма.
Зязюлямі падлічаць мне гады
Суцішана трывожныя жанчыны.

І скажуць так: «Ляжаў ён, як жывы»... —
Упершыню спагадліва і шчыра,
Цішэй вады, ніжэй травы...
Бывайце, гоні, рэчкі, паплавы, —
Я адлятаю ў свой апошні вырай.

Ён памёр у 33 гады. Загадкавай, незразумелай смерцю.

Нялёгкім, складаным было ягонае жыццё — у маладую сям'ю нечакана ўварвалася навалач, страшэнная бяда — наркотыкі. Але Сымон загінуў не ад іх.

Добрая была ў яго душа, шчодрае сэрца.

З ім заўсёды было проста. Ён любіў усіх і нікога не ненавідзеў. Ён усім дараваў і ўсіх апраўдваў. Ён прымаў усіх людзей такімі, якія яны ёсць. Ён ні ад кога не патрабаваў таго, чаго той не можа даць.

І толькі ад сябе Сымон патрабаваў многа.

Ён быў шчодры.

Неяк я ўбачыў у яго руках прыгожы, у супервокладцы, томік «Современная персидская лирика». Папрасіў паглядзець. Пагартаў і загартаўся — хацелася чытаць адразу і ўсё.

Увязала вьюки и ушла поскорей
За кочевьем в бескрайность далёких степей.
Беззаботность и юность и гордость моя,
Всё ушло за кочевьем любимой моей.

Гэта з народных чатырохрадкоўяў. Нейкі зусім новы свет. Усё нязвычна, па-іншаму, нечакана: кочевье, вьюки, бескрайность далёких степей...

Жажду поцелуя он мне в дар принёс,
Став перед порогом затаённых грёз,
Преградив дороги всех моих безумств,
Одурманя ядом радостей и слёз...
«О тиран, ушедший из моей души,
Хочешь ты что б снова всё ломать пришлось...
Я сдалась, я — кукла баловня судьбы.
Разве я посмею бунтовать всерьёз?»

Гэта «Размышление» Лоубат Шайбані. Лоубат — у перакладзе з персідскай: «Лялька». Пачакай, пачакай, дык а з якога ж яна года? З 1932. Амаль наша равесніца. Ды і з вершамі яна ўпершыню выступіла ў сярэдзіне 50-х гадоў. Тады ж, як і мы!

Сымон, убачыўшы, як я заюшыўся з кнігаю, нібіта пчала ў кветцы, сказаў: «Дай на хвілінку ручкі», узяў кнігу з маіх рук, штосьці напісаў у ёй і моўчкі вярнуў яе мне. Я разгарнуў томік і знiякавеў:

«Янку, самаму шчыраму чалавеку, які ўспрымае ўсё, як дзіця, які раўнуе і кахае не мяне... Шчыра. Сымон Блатун».

Ён падараваў мне «Сучасную персідскую лірыку»! Не шкадуючы! Сам!

А сваю першую кніжачку «Раўнавага» Сымон падпісаў так:

«Любаму Янку, за кожны поспех якога радуюся ад душы. Няхай твой «Дзень» будзе напоўнены заўсёды сонечнай цеплынёю. Сымон Блатун. 24.IX.68 г.»

Я таксама любіў яго шчыра і заўсёды.

Успамінаецца літаратурны разварот ва ўніверсітэцкай шматтыражцы «Беларускі ўніверсітэт», якую мы з Барысам Сачанкам падрыхтавалі да IV З’езда пісьменнікаў Беларусі. Творы студэнтаў з фотаздымкамі і надпісамі.

Грыша Барадулін, як заўсёды, аджартаваўся: «Пераканаўся, што вершы пісаць — не лапці плесці». Генадзь Бураўкін застаўся рамантыкам: «Я хачу прайсці па зямлі яе юным, любімым сынам». Юрась Свірка ўспомніў пра свае любімыя ліўні: «Зімою і то чую, як шэпчуцца ліўні, а бор пахне грыбамі». Здзівіў Вася Зуёнак: «Узяўся за прозу. Гэтыя вершы — грахі юнацтва». Грахі юнацтва? Тыя два ёмкія тамы вершаў і паэм, якія мы маем сёння? А дзе ж яна, проза, Васіль Васільевіч? Перакананы, што гэта была б выдатная проза... Не, не паэта, а нешта філасофскае і больш заглыбленае.

А ён, Сымон Блатун, задумаўся: «Не спыніцца б толькі на паўжыцці, не прысесці б адпачыць на паўдарозе, не паставіць бы кропку на гэтым вершы...»

А яму ж тады быў 21 год.

### 3

Мы пісалі, можна сказаць, запоем і пакрысе рыхтавалі свае першыя зборнікі.

Напачатку першыя кніжкі выдалі хлопцы, крыху старэйшыя за нас — Уладзімір Караткевіч, Ніл Гілевіч, Сцяпан Гаўрусёў, Пятрусь Макаль, Алег Лойка, Мікола Арочка. Да іх далучылася потым і Еўдакія Лось.

Мы радаваліся іхнім поспехам. Верылі, што разам — усе ж мы дзеці вайны! — пакаленне, якое прыйдзе на змену франтавікам і якое потым назавуць філалагічным, павінна сказаць менавіта сваё слова і пра вайну, і пра жыццё ўвогуле.

Анатоль Вярцінскі чамусьці сваю першую кніжку «Песня пра хлеб» выдаў намнога пазней за сваіх аднагодкаў. Яе неяк не заўважылі і крытыкі і чытачы. Затое дзве наступныя — «Тры цішыні» і «Чалавечы знак» — выклікалі ўсеагульную зацікаўленасць, і іх амаль усе разабралі. На цытаты.

Людзі простыя гадаюць,
Знаць жадаюць і пытаюць,
Што людзі вялікія ядуць.
А людзі вялікія тое ядуць,
Што людзі простыя ім дадуць...

Косім траву — яна не крычыць.
Яна маўчыць адчайна.
Пачынаем камень крышыць —
Зацятае тое ж маўчанне...

Высокае неба ідэала!
Мая душа чалавечая спала,
Вякамі спала да той пары,
Пакуль не ўбачыў цябе ўгары,
Пакуль нада мною ты не заззяла, —
Высокае неба ідэала!

Праўда ж, так і хочацца прадаўжаць кожную цытату — цікава: «А што там далей?»

Абодва гэтыя зборнікі ў маёй бібліятэцы з дарчымі надпісамі. На кнізе «Тры цішыні» Анатоль Ільіч напісаў: «Янку Сіпакову — важаку лірычнага выраю — ад аднаго з жураўлёў-вершатворцаў з сяброўска-лірычным пачуццём. 17.ІХ.66 г.», а на «Чалавечым знаку»: «Дарагому Івану Сіпакову — сябру, паэту «милостью божьей». З сяброўскай сімпатыяй».

Кнігу «Ветрана», якая ў падарункавым выданні, з цудоўнымі ілюстрацыямі Юрыя Зайцава з’явілася ў кнігарнях у 1979 годзе, Анатоль Ільіч падпісаў мне са шчодрасцю:

«Дарагому Янку Сіпакову — з глыбокай сяброўскай прыязнасцю, з усведамленнем, што ў літаратуры трэба працаваць так, як ты, Янка, — сумленна, упарта, удумліва! А. Вярцінскі. 27.07.79 г.»

Мы з Анатолем тады крыху эксперыментавалі ў паэзіі. І кніга «Ветрана», якая мне тады здалася нейкаю лірычна-заклапочанай паэмаю, была шмат у чым, на маю думку, эксперыментальнаю.

Ветрана, ветрана...
Колькі вятроў намі зведана!
Тых, што сустракалі лагодна,
і тых, што штурхалі ў спіну,
Што білі ў грудзі шалёна...
Ветрана, ветрана!
Тых, што на ніву вялі,
і тых, што вялі на вайну.

Эксперыментатарам тады — ды, здаецца, і заўсёды! — быў Алесь Наўроцкі. І яшчэ калі вучыўся ў медінстытуце, і пасля, калі працаваў урачом участковай бальніцы ў вёсцы Аравічы Хойніцкага раёна, а затым і доктарам «Хуткай дапамогі» ў Мінску.

Ягоная паэзія адрознівалася нечаканасцю думкі, смеласцю параўнанняў, нетрафарэтнасцю вобразаў, незвычайнасцю тэм, якія, здаецца, стаялі недзе наўзбоч жыцця і толькі чакалі яго, Алеся Наўроцкага.

* * *

Чым ты будзеш, дрэва?
Крылом ветрака?
Ці крылом бамбавоза,
Што ўрэжацца
ў крыло ветрака?..

Прысвечана Барысу Сачанку.

* * *

Усю ноч — аж давідна —
сон мяне не абдыме:
будзе стукаць мне ў раму акна
тваё імя...

* * *

Я — зерне. Ляжаць на камні змушана.
Замярзаю, сонцам аглушанае.
А навокал калоссем звоніць поле.
Не ўсім аднакая выпала доля.

Жах! Рэальна адчуваеш трагедыю зерня, якое не ўзышло!

* * *

Абледзяніў мароз заснежаныя кусты,
вылятае з рота белаю ватай.
Нічога не трэба мне — толькі ты
І кажух з каўняром паднятым.

* * *

Загадчыца склада
Зіна,
пагаварыць я нават баяўся з табою.
З табою — абсыпанай мякінай
І прыцярушанай
жытнёвай мукою.

* * *

Я сяджу пад хвояй і слухаю цішу,
і знікае кудысьці будзённы тлум.
Сэрца ў гняздзечку сваім калышацца
Пад глухі і смалісты шум.

Думкі па шышцы — па чорнай кропцы, —
як мурашкі рудыя, снуюць.
Тут, у лесе, мяне не абсвішчуць хлопцы
і дзяўчаты не абсмяюць.

Усе гэтыя цытаты ўзяты з адной тоненькай-тоненькай кніжкі «Гарачы снег» Алеся Наўроцкага.

На паэта накідваліся незычліўцы: «Не так піша!», «Не пра тое піша!» — абураліся зайздроснікі.

Мы з Барысам Сачанкам сябравалі з Алесем. Мне падабаўся ягоны своеасаблівы погляд на ўсё на свеце, яго настойлівая зацікаўленасць менавіта нечаканасцямі жыцця, а Барыс быў перакананы, што пры ўсіх накірунках развіцця нашай паэзіі Алесь усё роўна застанецца ў ёй.

Быў час, калі Алесю Наўроцкаму было вельмі цяжка — яму пагражала псіхбальніца. Мы з Барысам наіўна прыкладалі шмат намаганняў, каб гэтага не здарылася...

Але ж гэта і не здарылася!

Свой «Гарачы снег» Алесь Піліпавіч падпісаў амаль расчулена:

«Сіпакову І. Д. Іване, голубе, радуюся, што ёсць сябры, якія разумеюць мяне, і сярод іх ты. А. Наўроцкі. 14/II.1969 г.»

Васіль Зуёнак выдаў першую кнігу «Крэсіва» — ах, якая цудоўная назва: адразу бачыш спосаб дабывання паэзіі! — намнога пазней за нас усіх, а таму яна, зразумела, была ўжо мацнейшай за нашыя: ён меў час адабраць, перабраць, адсеяць усё, што не падабаецца.

Нават крытыкі, якія адгукнуліся на зборнік, адзначылі, што ўсё добра, калі малады паэт не спяшаецца з першым выданнем.

Ідуць дажджы.
А травы жухнуць.
Грыбы хаваюцца ў зямлю.
Ідуць дажджы злавесна, глуха
Рунь заганяюць у раллю.
Ідуць дажджы. А птушкі млеюць!
І нема падаюць на дол.
Ідуць дажджы...
                    І ліст лілеі
Над смерцю рыб — хаўтурны стол.
Ідуць...
І стронцыю удары
Цвікі ў дамоўкі б'юць і б'юць…
А ў небе хмары,
                    хмары,
                              хмары...
Ідуць дажджы...
                    Дажджы ідуць...

Дакладнасць, гранічная яснасць паэтычнага мыслення, строгасць рытму, рыфмы, радка, страфы.

Адным словам — класіка!

Сталы паэт ужо мысліў грунтоўна і самастойна.

І туманяцца небасхілы
Над маім паўзабытым маем.
Толькі чую, як шэпчуцца крылы,
Толькі знаю: вясна бывае.

Разам са сваім другім зборнікам паэзіі Васіль Зуёнак падараваў мне і чатырохрадкоўе:

Шумнуў легендамі вякоў
Іван Данілавіч Сіпакоў.
Цяпер і ў нас парадак:
асвоена балада.

Недзе між падараваных кніг — не знайшоў адразу дзе! — уразіла мяне, памятаю, адна вельмі цікавая праўка. Ва ўжо надрукаваным тэксце «забітыя вокны хат» Васіль памяняў «вокны» на «вочы» і атрымаўся цуд: «Забітыя вочы хат»! Праўка, вартая прысуджэння Нобелеўскай прэміі!

Нядаўна я атрымаў ад Васіля Васільевіча цудоўны томік ягонай прозы. Праўда, не той, пра якую мы з ім марылі, але ўсё ж грунтоўнай і магутнай.

«Паміж небам і зямлёй». Літаратурна-лінгвістычныя эсэ, эцюды, падарожныя нататкі. Праблемы жыцця, літаратуры, мовы, іх узаемадачыненняў.

А як паэт лезе ў таямнічыя глыбіні слова!

Скажам, розніца паміж «дарогаю» і «сцежкаю», паміж «хмараю» і «воблакам».

«Затое «дарога» — о, гэта ўжо іншая «музыка»: і грукат колаў па гулкім доле, і «падтакванне» капытоў... А ствараецца гукавы «малюнак» гэтымі «д», «р», «г» — з уздыхам-выдыхам: «а», «о», «а»... Для параўнання: «сцежка» — шапатлівая, вузкая істужка, у адзін след — як ступіць нагой...

Ну, а як не згадаць яшчэ адну паралель — «хмара» і «воблака». Тут і пахмурна, і гром рыкае, а там вольны, лёгкі палёт, ды яшчэ і блакіт ёсць!..»

Не, не можа быць звычайнай, абыякавай мовы ў пісьменніка, які вось гэтак, як Зуёнак, любіць «пакапацца» ў слове!

«Паміж небам і зямлёй» Васіль Зуёнак падарыў мне:

«Дарагому Янку Сіпакову, — надпісваючы гэтую кніжачку, прыемна ўсведамляць, што ёсць між яе старонак і твае — сіпакоўскія. Новых табе выдатных, як і раней, Кніг! Васіль Зуёнак. Ліпень, 2009 г.»

Ага, у кнізе змешчана і невялічкае, але вельмі ёмкае эсэ яго «Кніга як храм». У якім Васіль Васільевіч ухваляе маё імкненне «думаць кнігамі», старанна рупліва выбудоўваць кожную кнігу як храм.

«Аднак храм робіцца храмам, — разважае далей Зуёнак, — калі ён духоўна абжыты, напоўнены святлом не толькі знешняй, але і змястоўнай прыгажосці. Якія ж малітвы ўзносяцца тут, якія гучаць прароцтвы...

А малітвы ў храме Янкі Сіпакова гучаць зямныя, напоўненыя адвечным людскім клопатам. Бо і сам ён — з гэтых малітваў-песень».

Я трапіў аж двойчы ў кніжку і на Зуёнкавых здымках: адзін раз ужо на вядомым фотаздымку з Коласам, пра які я згадваў (мы з Васілём побач), а на другім — на Рэспубліканскім семінары маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах (таксама побач з Зуёнкам).

Я доўгі час працаваў у «Вожыку». «Вожык» выдаваў «Бібліятэку «Вожыка». У ёй выйшла і кніжка Зуёнка «Качан на п’едэстале». Да яе выдання прычыніўся і я. І Васіль тут жа азваўся вершам-аўтографам:

Дзякуй Янку Сіпакову:
Добра гумар выбракоўваў,
Не пускаў усё пад ножык, —
Вось і выдаў кніжку «Вожык».

**4**

У гэтай жа серыі пабачыла свет і «Русалка на Нарачы» Ніла Гілевіча. Я напісаў да яе кароценькую прадмоўку. І Ніл Сямёнавіч таксама адгукнуўся аўтографам:

«Дарагі Янка, мілы Іван Данілавіч, калі і шкадую аб чым, думаючы пра нашы сустрэчы, дык толькі — што яны былі кароткія, усё больш — мімаходам... Тады! Шчыра ўдзячны за бласлаўленне Русалкі і вапчэ — Ніл Гілевіч. 29. IV. 74 г.»

У тым жа 1974 годзе мая бібліятэка пабагацела на дзве, прыгожа аформленыя, падарункавыя кнігі з цікавай серыі «Беларускі фальклор у сучасных запісах» — «Песні народных свят і абрадаў» і «Лірычныя песні».

Абедзве прыслаў іх мне зноў жа Ніл Гілевіч з добрымі, прыязнымі аўтографамі.

На «Песнях народных свят і абрадаў» ён напісаў:

«Сябру майму Янку Сіпакову — з глыбокай верай у яго светлы талент і з сардэчнай павагай».

І на «Лірычных песнях»:

«Янку Сіпакову — з сяброўскай павагай і любоўю прэзентую гэтых шэсць вяночкаў песень роднай зямлі. Ніл Гілевіч».

Томікі з любоўю выдалі ў выдавецтве Белдзяржуніверсітэта. Укладанне і рэдакцыя Ніла Сямёнавіча Гілевіча.

Укладальнік у прадмове да выдання тлумачыць:

«Усе песні для гэтага выдання ўзяты з фальклорнага архіва кафедры беларускай літаратуры БДУ імя Леніна. Запісы зроблены на працягу 1961—1971 гг. студэнтамі аддзялення беларускай мовы і літаратуры ў час фальклорнай практыкі ў групавых экспедыцыях і ў індывідуальным парадку (кожны студэнт у сваёй мясцовасці), а таксама завочнікі і вячэрнікі».

ПРЫПЕЎКІ

* * *

У Мар'яны начаваў,
У Таццяны ўпіўся.
Праз аконца уцякаў —
Шапачку забыўся.

* * *

У мястэчку на базары
Хлопцы прадаюцца:
На капейку — сорак штук
І то задаюцца.

* * *

Так нікому не ўдалося,
Як мне, беднай сіраце:
З'ела рыбку-трапятушку —
Трапечацца ў жываце.

Ох, якая яна залацінка, гэтая «рыбка-трапятушка».

Чакай, чакай, а гэтая ж песня нібыта знаёма мне! Быццам я яе недзе чуў:

Масленіца-каўзуха,
Масленіца-каўзуха,
Чаму не вялася да духа?
Чаму не вялася да духа,
Чаму адна нядзелька
І тая караценька?
Караценька, зусім мала,
Караценька, зусім мала...

Канечне, чуў. І ў нас жа такую «Масленіцу» пяюць. Аднак больш імкліва, сабрана. Ды і не «масленіца» ў нас, а «масленка»...

Масленка, масленка-каўзуха,
А чаму ты масленка не да духа.
Адна нядзелька, і тая караценька.
Масленка, масленка...

І вось гэтую песню я зноў жа ведаю:

Зрабіў пяхцер хлопцам печ,
Хлопцам печ, хлопцам печ.
А сам пайшоў па ваду.
Разбіў нагу на ляду,
На ляду, на ляду...

І ў нас жа таксама спяваюць: «Ажаніўся пяхцер — торбу ўзяў». Усе ў нас ведаюць: «пяхцер» — гэта мяшок. «Ажаніўся мяшок — торбу ўзяў». Здорава!

Пачакай, дык а дзе ж іх, песні гэтыя, запісалі гілевічаўскія студэнткі?

Адкрываю змест — паказальнік да «Песняў народных свят і абрадаў». Ага, во яна: «Масленіца-каўзуха». Старонка 56. Чытаю: «Запісала Шчарбакова Л. ад Сіпаковай А. (80 год), в. Зубрэвічы Аршанскага раёна».

Авохці мне! Мая шаноўная стрыечная пляменніца Люда Шчарбакова, якая тады вучылася ва ўніверсітэце, і «Масленіцу-каўзуху», і «Зрабіў пяхцер хлопцам печ» запісала ў Зубрэвічах ад мае роднай цётачкі Алесі, ад Аляксандры Іванаўны Сіпаковай, якой на той час было ўжо 80 гадоў!

Сваю апошнюю па часе кніжачку паэзіі «Сказ пра залатое пёрка» Ніл Гілевіч даслаў мне са шчырым аўтографам:

«Міламу сябру Янку Сіпакову — з павагай і любоўю. 30.XI.05 г.»

Ёсць у маёй бібліятэцы яшчэ адзін сказ, адна кніга Ніла Гілевіча. Але яна, на вялікі жаль, без аўтогрфа.

Я кажу пра «Сказ пра Лысую гару» Францішка Ведзьмака-Лысагорскага.

«Вожык», калі галоўным рэдактарам быў Валянцін Болтач, выдаваў гэтую паэму двойчы: — у 1988 годзе і праз тры гады — у 1991 годзе, у поўным варыянце.

Апошняе выданне — грунтоўнае. У ім ужо ўлічаны ўсе заўвагі і пажаданні самога ананімнага аўтара, які не вытрымаў і адгукнуўся на першае выданне ананімным лістом да рэдактара.

У абодвух выданнях быў ультыматум: «Калі 5 чысла наступнага месяца не з’явішся з пашпартам і чарнавіком паэмы па ганарар, то 6 чысла пералічым яго ў Фонд культуры, якім кіруе тав. Чыгрынаў І. Г. Вожык».

Па ганарар Вядзьмак не прыйшоў. Трыццацітысячны тыраж першага выдання разышоўся за адзін дзень. Не заляжаўся на паліцах і другі, стотысячны, тыраж.

«Вожык» устанаўлівае штогадовую прэмію імя Ф. Ведзьмака-Лысагорскага. Прысуджаюць мне — я станаўлюся першым лаўрэатам гэтай прэміі.

Усе шукаюць аўтара! А ён, Вядзьмак, даўно, — уга калі! — усміхнуўся ў сваім сказе:

А хто пісаў паэму гэту
І дзе тварыў ён і калі —
Навечна канула у Лету —
І толькі бурбалкі пайшлі.

Адкрыцця гэтага не зробіць —
Хоць зад натрэ да мазалёў —
Ні крот Сцяпан Александровіч,
Ні кротус Генус Кісялёў!

Я ж ведаў аўтара лысагорскай паэмы! Прааналізаваўшы ўсе гумарыстычныя зборнікі паэта, усё тое, што друкавалася ім у «Вожыку», я зразумеў: гэта ён, Ніл Гілевіч.

Не ведаў, ці ўсю паэму напісаў ён адзін, але ж у тым, што без яго ўдзелу не абышлося, я быў перакананы.

Да таго ж быў у мяне ў запасе і адзін даволі-такі сур’ёзны штрышок, які пацвярджаў аўтарства Гілевіча.

Тое лета мы з Гілевічам сем’ямі адпачывалі разам у Кактэбелі. Нярэдка на пляж Ніл Сямёнавіч прыходзіў з жонкаю, Нінай Іванаўнай, у нейкім вельмі пераўзбуджаным стане — іх, як кажуць, аж распірала ад смеху. Яны паўтаралі: «Як гаварыў Тапчэўскі Фэлька: «Саўсім не тое, што было» і, нешта ведаючы, шчыра смяяліся.

«Як гаварыў Тапчэўскі Фэлька»... Дык гэта ж яўная цытата з «Лысай гары»!

Калі Ніл Сямёнавіч, урэшце, прызнаўся, што ён Францішак Вядзьмак-Лысагорскі, я зразумеў, што тое лета яны з Нінай Іванаўнай у Кактэбелі апантана працавалі над «Лысай гарою» — ці то пісалі, ці то рэдагавалі паэму — і падумаў, што і яна, Ніна Гілевіч, весялуха і жартаўніца, нейкім чынам удзельнічала ў стварэнні гэтага вясёлага твора...

Ніна Гілевіч, выдатны педагог і мовавед, доўгі час выкладала ў Белдзяржуніверсітэце. Пасля яе засталася багатая спадчына: незавершаныя слоўнікі, пачатыя кнігі з узорамі жывой народнай мовы.

Усё гэтае давёў да ладу і выдаў Ніл Сямёнавіч: і «Дыялектны слоўнік», і кнігу «Слова — роднае, жывое, свабоднае. Узоры жывой народнай мовы ў вуснах беларускай вёскі 1960—70-х гадоў». Напісаў аповесць для дзяцей «Разумная дзевачка» — пра дзяцінства сваёй жонкі.

Атрымалася велічальная песня мове народа.

А як ён мысліць і гаворыць, сам народ!

«Вераб'і ў галаве нясуцца», «Ядуць — аж за вушамі хрумсціць», «На свой хвост набрахаць», «Наліта гора ў мяне, як вока», «Абы зубы, хлеб будзе», «Каб ты ў вадзе стаяла і піць прасіла», «Во косіць: трава стаіць, зямля ляціць»...

А які цудоўны ў нас, беларусаў, праклён-пажаданне ёсць!

«Каб цябе Бог любіў!»

А як называюцца вёскі, у якіх запісаны гэты цуд: Бірулі, Вавукі, Відэйкаўшчына, Залацеева, Коцькі, Ладаена, Перацяткі, Удзела, Язавінь!

Усе гэтыя скарбы пераслаў мне Ніл Сямёнавіч з добрымі дарагімі надпісамі — Ніна Іванаўна была мая зямлячка, віцебская, і я вельмі паважаў яе.

Ніл Гілевіч выдатны паэт і сумленны навуковец.

Алег Лойка таксама паэт і навуковец. Арнольд Макмілін, вядомейшы даследчык беларускай літаратуры ў Вялікабрытаніі, прафесар Лонданскага ўніверсітэта, у сваёй манаграфіі «Беларуская літаратура ў 50—60-я гады XX стагоддзя», якая выйшла ў Лондане, нават вылучае спецыяльны падраздзел «Тры паэты філолагі», у якім гаворыць пра Н. Гілевіча, М. Арочку і А. Лойку.

Ага, Алег Антонавіч Лойка — і паэт, і навуковец.

Здаецца, я ніколі не бачыў яго злым, насупленым, незадаволеным. Ён запомніўся толькі з усмешкаю, толькі з зычлівасцю, толькі з дабратою — заўсёды і, здаецца, да ўсіх.

Праўда, трохі змагаўся з намі, эксперыментатарамі, — у сваім артыкуле пра моду ў маладой паэзіі, які ён надрукаваў у «Маладосці», Алег Антонавіч тое, што мы спрабавалі рабіць, назваў спробаю адзявання штаноў праз галаву...

Пра мяне Алег Лойка пісаў:

«Лірык з вялікім запасам творчых мажлівасцей, Сіпакоў, напэўна, і надалей будзе займаць значнае месца ў творчых спрэчках, што чакаюць нашу паэзію».

Мы з ім сябравалі. І сяброўства гэтае было нейкае незвычайнае — недзе на ўзроўні душы. Прэзентуючы мне свае кнігі, Алег Антонавіч заўсёды падпісваўся: «Твой Алег», «Шчыра твой», «Заўсёды твой Алег».

На VI з'ездзе пісьменнікаў Беларусі Лойка падараваў мне сваю кнігу «Калі ў дарозе ты» з вельмі шчымлівым аўтографам:

«Дарагому Янку Сіпакову — твае светлыя вострыя вочы, як умеюць яны глядзець, бачыць, разумець, помніць! Чытаю цябе і заўсёды радуюся, што і я ў тыя хвілі гляджу на свет тваімі вачыма. Шчыра твой Алег Лойка. VI з'езд. 26.04.71.»

На кнізе паэзіі «Пачуцці» надпіс Алега Антонавіча быў не менш кранальны:

«Дарагому Янку Сіпакову з захапленнем яго людскасцю, талентам, працавітасцю. Не ведай жа знямогі, браце! Так таруй і далей! Заўсёды твой Алег. 18 мая 76 г.»

Прабач, шаноўны мой чытач. Выходзіць, зноў выхваляюся. Але прыводжу я гэтыя, дарагія мне, аўтографы не таму, каб пахваліцца — вось які я! Нібыта ў тым дзіцячым вершыку:

Выскачыў з крапівы я —
Рукі ў бокі:
Паглядзіце на мяне,
Які я высокі!

А толькі таму, каб паказаць, які шчодры чалавек быў ён, Алег Антонавіч Лойка.

У Францыі ёсць выдатны пісьменнік Андрэ Маруа. Ён — неперса́ўзыдзены Майстар літаратурных біяграфій. Яго кнігі пра Бальзака, Гюго, Жорж Санд я прачытаў з неаслабнай цікавасцю — такія выданні, на мой погляд, упрыгожваюць кожную бібліятэку. І кожную літаратуру — таксама.

У Беларусі твораў такога жанру да Лойкі не было. Ён, можна сказаць, адкрывальнік у беларускай літаратуры жыццяпісаў.

Першаю такою кнігаю ў нас была мастацкая біяграфія Янкі Купалы «Як агонь, як вада», якую напісаў Алег Лойка. Затым з’явілася і другая «Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае». Пра нашага — і на ўвесь свет вядомага! — першадрукара.

І ўжо ў апошнія гады жыцця Алег Антонавіч, цяжкахворы, знайшоў у сабе сілы, каб напісаць і трэці такі жыццяпіс — пра Уладзіміра Караткевіча.

Біяграфіі «Францыск Скарына» і «Янка Купала» выйшлі ў Маскве ў папулярнай за савецкім часам серыі «ЖЗЛ».

Абедзве гэтыя кнігі Алег Антонавіч падараваў мне. Абедзве — з аўтографамі.

На кнізе «Янка Купала»:

«Дарагому Янку Сіпакову, які так хораша раскрывае людзям і свету, што ўсе мы — з хат, з хат купалаўскіх, з Купалы. З любоўю, заўсёды твой — Алег».

У навуковых колах Алег Лойка быў вядомы як грунтоўны навуковец. Ягоны падручнік «Гісторыя беларускай літаратуры ў 2-х частках», які выйшаў пад рэдакцыяй Ю. С. Пшыркова, быў дапушчаны Міністэрствам вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР як вучэбны дапаможнік для студэнтаў філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў БССР.

І тут Алег Антонавіч быў шчодры ў аўтографах — ён падараваў мне гэты двухтомнік са шчодрым прызнаннем:

«Дарагому Янку Сіпакову, захапляючыся ўсімі тваімі талентамі, а перш за ўсё светласцю тваёй душы. Твой Алег. Снежань, 78»

Алег Лойка доўгі час выкладаў на філфаку БДУ, затым узначальваў там жа кафедру беларускай літаратуры.

Ён — таксама доўгі час — кіраваў літаратурным аб’яднаннем пры Белдзяржуніверсітэце, і праз яго душу і сэрца прайшлі шматлікія пачаткоўцы розных гадоў — вядомыя потым і ў паэзіі, і ў прозе імёны. Ён збіраў, рэдагаваў і выдаваў шматлікія ўніверсітэцкія зборнікі і альманахі студэнтаў. Гэта і «Узлёт» ды «Натхненне», і «Мары юнацкія», кніга, якая выйшла ў выда-

вецтве «Народная асвета» ў «Школьнай бібліятэцы», і грунтоўнае выданне «Універсітэт паэтычны», дзе сабрана паэзія ўсіх, хто ў розны час вучыўся ва ўніверсітэце, і дзе можна пачытаць вершы Кузьмы Чорнага, Адама Бабарэкі, Пятра Бузука і іншых універсітэтцаў.

Пры ім, Алегу Антонавічу Лойку, беларуская літаратура ва ўніверсітэце гучала, як кажуць, у повен рост: студэнты горача абмяркоўвалі на занятках новыя творы беларускіх пісьменнікаў, пісалі курсавыя і дыпломныя працы па творчасці беларускіх паэтаў і празаікаў.

Тады, ва ўніверсітэце, гучала і маё «Веча славянскіх балад». Па ім, як мне казаў сам Лойка, студэнты з ахвотаю таксама пісалі і курсавыя, і дыпломныя працы.

На «выдатна» абараніў сваю дыпломную па «Вечы славянскіх балад» выпускнік БДУ Мікола Мятліцкі.

Вось як пра гэта ў адным са сваіх артыкулаў расказвае Алесь Пісьмянкоў:

«У студэнцкія гады мы з Уладзімірам Маруком зайздросцілі Міколу Мятліцкаму. Зайздросцілі, як кажуць, светла, па-сяброўску: Мікола быў на пару курсаў старэйшы за нас і тэмай сваёй дыпломнай работы выбраў кнігу Янкі Сіпакова «Веча славянскіх балад». Мікола, як і належыць выпускніку і маладому мэтру, хадзіў важны і пры сустрэчах з намі пра творчасць Сіпакова разважаў, як ён тады любіў гаварыць, глыбока і маштабна. Трэба сказаць, што на той час, у сярэдзіне 70-х, «Веча славянскіх балад» было ў нашым філалагічным асяроддзі адной з самых любімых і папулярных кніг. Па ёй ахвотна пісалі курсавыя і дыпломныя работы, рыхтавалі навуковыя рэфераты на семінарах па паэзіі, якія цікава і натхнёна вёў няўрымслівы Алег Лойка, з уласцівай яму высокай энергіяй думкі, і, натуральна, у нашых амаль штодзённых дыскусіях у вузкім сяброўскім коле да «Веча…» мы звярталіся даволі часта».

Пра гэта згадаў і сам Мікола Мятліцкі, падпісваючы мне сваю кнігу жыцця «Бабчын»:

«Дарагому Івану Данілавічу — з удзячнасцю за дружбу і цудоўную творчасць, на якой я вучыўся ў студэнцтве нялёгкай долі паэта. Мікола Мятліцкі. 17 лютага 97 г.»

Ёсць трагедыі сусветнага маштабу і ёсць трагедыі вельмі асабістыя. А часам яны і аб’ядноўваюцца, пераплятаюцца.

Падумаеш, Мікола Мятліцкі, разам з тысячамі чарнобыльцаў, страціў сваю родную хату, сваю родную вёску... Сваю родную раку, сваю родную зямлю, свой родны лес. Што гэта значыць у сусветным маштабе?..

Але ж Мікола Мятліцкі — паэт.

Але ж для беларуса хата — гэта калыска. Ён у ёй нараджаецца і ў ёй памірае.

Але ж вёска Бабчын знікла не сама сабою, а яе многія хаты пахавалі ў брацкай магіле. Спецыяльная пахавальная каманда, якая працавала на Палессі пасля Чарнобыля, ссунула бульдозерамі ў ямкі жывыя хаты — з вокнамі, у якія ты глядзеў, з дзвярамі, у якія заходзіў...

Скажыце, дзе на свеце ёсць яшчэ пахавальныя брыгады, якія закопвалі ў глыбокія брацкія магілы жывыя хаты, жывыя вёскі?..

А на Палессі такім чынам зніклі сотні вёсак. Сярод іх і вёска Бабчын.

Смуткуе паэт.

Пра гэта кніга Міколы Мятліцкага «Бабчын».

* * *

Не дайсці па жаўталісці,
Стронцый ногі апячэ.
Тут жыццё было калісьці,
Памяць цепліцца яшчэ.

Ля хацін было не пуста —
Патаналі ў збажыне,
На градзе расла капуста,
У якой знайшлі мяне.

* * *

Устаў асот, пралез паміж масніц,
Адзін жыхар — суровы і калючы.
Яго вітаюць позірк мой балючы
І неба у абложжы навальніц.
І ластаўка, ўляцеўшы у акно,
Яму прыветна ціўкне.
                                  І ў закутку
Пісклявы хор развее цяжар смутку —
Пяцёра жаўтароцікаў відно.

А сваю папярэднюю кніжку «Ружа вятроў» Мікола Мятліцкі падпісаў мне так:

«Івану Данілавічу Сіпакову — Паэту і Чалавеку, святлом чыёй душы азораны мой першы творчы крок — з удзячнасцю. 11.11.1987 г.»

Курсавую працу па «Вечы славянскіх балад» пісаў і студэнт Валодзя Марук.

Я любіў гэтага маўклівага, негаваркога спакойнага хлопца, на першы погляд, строгага і непрыступнага, а на самай справе — вельмі гуллівага і добразычлівага.

Валодзя прынёс мне сваю першую паэтычную кніжку «Зоркі ў кронах» з вельмі кароткім надпісам: «Івану Данілавічу — з удзячнасцю і павагай. Ул. Марук. 28.IV.83»

І папрасіў мяне даць яму рэкамендацыю для прыёму ў Саюз пісьменнікаў.

Паэзію Валодзі я ведаў. Мне нават вельмі падабалася адна яго наіўнаватахітраватая мініяцюра:

Вось і сонейка запала
У пажухлую траву.
Птушка юркая схавала
У гняздзечка галаву.

Цемры вусце. Сліў аскома.
І нічога акрамя...
Толькі нехта кліча: Тома!
А яе нідзе няма.

Але я на той час быў старшынёй Камісіі па рабоце з маладымі пісьменнікамі — Броўка, калі мяне абралі членам прэзыдыума Саюза пісьменнікаў, прапанаваў мне такую нагрузку. І па інструкцыі не меў права даваць рэкамендацыі на прыём у СП. А тут прыходзіць Валодзя і просіць у мяне якраз рэкамендацыю. І я, нічога не тлумачачы, напісаў яе.

***Падрыхтоўка тэксту і публікацыя Сяргея СІПАКОВА.***

***Працяг будзе.***



**Аркадзь ЖУРАЎЛЁЎ**

# САЛДАЦКАЯ ЗОРАЧКА

*Апавяданне*

***Загінуўшым за наш сённяшні дзень прысвячаю***

**1**

Ясным красавіцкім ранкам, калі веснавое сонца на талым снезе іскрылася, іграла ўсімі колерамі вясёлкі і ад глянцу асфальту шашы дрыжала і струменілася празрыстае марыва, армейскі аўтобус вёз нас, малодшых камандзіраў, на бліжэйшую чыгуначную станцыю. Адтуль цягнікам мы павінны былі адправіцца ў адзін з палкоў Паўночнай групы войск, які дыслацыраваўся ў Польшчы. (Было гэта ў так званыя даперабудовачныя часы. Мы, паўгода таму прызваныя ў войска, толькі што скончылі «вучэбку» і нам было прысвоена званне малодшых сяржантаў.)

…Сядзім моўчкі. Па дарозе шафёр аўтобуса з дазволу старшага машыны, капітана, які суправаджаў нас, падабраў галасуючых — яшчэ нестарога мужчыну ў афіцэрскім бушлаце і маленькую камлюкаватую жанчыну з хлапчуком. Як я зразумеў, гэта былі дзядуля з бабуляй і іх унучак.

Я глядзеў у акно на родны беларускі пейзаж, з ім літаральна праз лічаныя гадзіны давядзецца развітацца на цэлыя паўтара года. Сустрэчны вецер задзімаў у салон аконную фіранку, праз адчыненую фортку матляў яе тонкую тканіну, закідваў на плячо капітана, які сядзеў на першым сядзенні, ля вадзіцеля.

Прамая, як страла, дарога цягнулася да гарызонту. За шклом аўтобуса чарнелі амаль поўнасцю агаленыя ад учарашняга снегу палеткі, акружаныя з усіх бакоў лясной сцяной, зрэдку ля дарогі сустракаліся кусты вярбы, якая ўжо радавала сваімі жоўтымі каташкамі. Плаўна пагойдваючыся, аўтобус манатонным гулам рухавіка хіліў пасажыраў на сон.

---

***Жураўлёў Аркадзь Трафімавіч*** *нарадзіўся 13 верасня 1955 года ў вёсцы Гарані Смаргонскага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1981). Працаваў у Маладзечне загадчыкам аддзела турыстычнага бюро, інжынерам і кіраўніком групы рэкламы і маркетынгу завода сілавых і паўправадніковых вентыляў, карэспандэнтам шматтыражнай газеты «Прыборабудаўнік», у гарадской падатковай інспекцыі. Цяпер — намеснік дырэктара Маладзечанскага электрамеханічнага завода па ідэалагічнай рабоце і кіраванні персаналам.*

*Аўтар зборнікаў сатыры і гумару «Апалонік для дырэктара» (1996) і прозы «Я жадаю вам дабра...» (1996).*

Мы праехалі добрую сотню кіламетраў, калі афіцэр, старшы машыны, скамандаваў:

— Перакур на дзесяць хвілін!

Малодшыя сяржанты, быццам згаварыўшыся, пераскочылі прыдарожны схіл, накіраваліся ў адзін бок, да бярозавага гаю.

Абапал шашы амаль ушчыльную падступаў хвойны лес. Крыху воддаль, справа, крута спускаўся ўніз зарослы роў.

Я адышоў убок ад аўтобуса, туды, дзе на камель паваленай сухадрэвіны, падаслаўшы свой шэранькі швэдарчык, прысела наша спадарожніца. Хлопчык з краю лагчыны, сярод рэдкалесся збіраў з дзедам свежыя, як іскаркі неба, блакітныя пралескі.

— Не адстае ад дзядулі? — спытаў я.

— Унучак — сын нашага малодшага сына. Вось пакінулі на пару дзянькоў, — з добрай усмешкай павярнулася да мяне сваім адкрытым тварам жанчына. — А дзед яго — ваенны, маёр у адстаўцы. Гэтыя лясы — наш боль.

Падняўся з лагчыны маёр.

— Іваныч, — адрэкамендаваўся ён. — Па сумяшчальніцтве — дзед.

— Так, тут шмат нашых сяброў палягло, — уздыхнуў Іванавіч, і па яго твары прабег смутак успамінаў, на вочы навярнулася скупая сляза. — Усіх, за рэдкім выключэннем, маіх аднагодкаў не абышла бокам тая жорсткая вайна.

— Так, — пагадзіўся я.

Маёр прапанаваў цыгарэту і, хаця я не курыў, узяў. Закурылі. Ад першай добрай зацяжкі я папярхнуўся ажно да слёз.

— А ведаеш, камандзір, — раптам ажывіўся маёр, — гляджу я на свайго ўнучка і часта ўспамінаю адну франтавую гісторыю.

Раптам чуецца каманда: «Па машынах!»

## 2

Селі побач. Пераглянуліся. Іванавіч пачаў аповед. Перад маімі вачамі паўсталі, як жывыя, тыя далёкія падзеі 1943 года.

…Зрытая вайною лінія фронту. Ноч. Стомленыя да паўсмерці, адбіўшы ці то восьмую, ці то дзявятую атаку за апошнія суткі, салдаты адпачывалі ў акопах у чаканні чарговай схваткі з фашыстамі.

Набеглы ветрык разагнаў смурод гарэлага жалеза, пораху і машыннага масла, сярод ночы зноў запахла зямлёй і ацалелымі ў агні травамі. Яркія ўспышкі ракет выхоплівалі на нейкае імгненне ўчасткі пярэдняга краю, а потым усё зноў акуналася ў цемру. Зрэдку страчылі кулямёты. Пільна ўзіраліся ў цёмную і сырую ноч вартавыя. З траншэі цягнула дымком махоркі.

Прысеўшы на ахапцы сухой травы, ля пярэдняй сценкі шырокай траншэі прыдрамаў і палкавы разведчык Андрэй Галавенчык. Ахопленая начной прахалодай зямля была сырая і неласкавая.

Дзесьці ўдалечыні бліснуў ад глыбокай зацяжкі агеньчык самакруткі, а побач хтосьці расказваў сябрам пра свае родныя мясціны.

Думка пра дом і сям'ю не пакідала і Андрэя, а найбольш трывожыла ўвесь вольны паміж баямі час. У адзіным лісце, які атрымаў ад жонкі ў самым пачатку вайны, паведамлялася, што яе брат Пятро і іх старэйшы сын Дзімка таксама на фронце. А вось дзе яны і што з імі, звестак няма.

Нечакана салдат уздрыгнуў. У паўсне да слыху данёсся нейкі неразборлівы гук. Андрэй яшчэ не зразумеў, у чым справа, аднак усёй сваёй істотай адчуў нешта падазронае, незвычайнае ў гэтай амярцвелай начной цішыні.

Прыслухаўся. Магчыма, здалося?.. Не. З пазіцыі ворага чуўся дзіцячы плач. Надрыўны, жаласлівы. І столькі ў ім, тым плачы, было безвыходнай, недзіцячай нуды, адчаю і безабароннасці, як быццам частка ўласнай душы надрывалася там, у непрагляднай і жахлівай цемры.

— Вось вылюдкі! — злосна вылаяўся.

Галавенчык павярнуўся, напружыў зрок. Непадалёк ён ледзь-ледзь адрозніў некалькі байцоў. Прыціснуўшыся да бруствера, тыя таксама прыслухоўваліся да таямнічай цемры. Здавалася, нішто не можа здзівіць гэтых людзей, якія прывыклі да грукату атак і якія не раз браліся за грудкі са сваёй смерцю. Але цяпер…

Танюткі галасок, які клікаў маці, лёгкімі парывамі ветру даносіўся з цёмнай імглы. Ён, той піскліва-плаксівы галасок, раздзіраў салдацкія душы.

— Спецыяльна прыдумалі гады, каб заманіць нас, — са злосцю ў голасе сказаў кулямётчык беларус Грамовіч. — На ўласныя вушы чуў, як нейкая Маруся ўсю ноч без упынку клікала сваё дзіцятка.

Андрэй ведаў пра тое, што фашысты ладзяць падобныя забавы. Выносяць на нейтральную паласу дынамік і заводзяць пласцінкі з плачам дзяцей і енкамі мацярок.

— Эх, садануць бы іх зараз з «кацюшы», — сказаў весяльчак, рускі Смірноў.

— Гдэ взят та «катюша», рэбята? — спыніў яго азербайджанец Асманлы.

Хвіліну-другую аглухлая цемра маўчала, а затым зноў яе ўскалыхнуў дзіцячы плач…

Незвычайная вестка, што немцы трымаюць дзіця і здзекуюцца з яго, хутка абляцела ўсе акопы. Прачыналіся стомленыя байцы. Адусюль чуліся прыглушаныя галасы. У суправаджэнні ротнага з’явіўся камбат, невысокага росту, камлюкаваты капітан. Ціха, але ўладна загадаў: «Спыніць размовы!»

Вострым слыхам Андрэй улавіў, камандзір аб чымсьці раіцца.

— Смірнова да мяне! — аддаў распараджэнне ротны.

З цемры выскачыў старшы сяржант Смірноў, камандзір першага ўзвода.

— Паслаць у разведку! Двух на прыкрыццё! Улічвайце, можна нарвацца на засаду. Знайдзіце байцоў кемлівых. Пытанні ёсць?

— Ніяк не!

— Дзейнічайце!

Камбат гаварыў кароткімі фразамі, цвёрда і ўпэўнена.

— Узмацніце назіранне! — ён павярнуўся ўжо да камандзіра роты. Выконвайце!

— Ёсць!

— Галавенчык, да мяне!

### 3

Ён поўз па зрытай вайною такой роднай зямлі, раз-пораз на імгненне заміраючы, калі змяінае шыпенне ракет, хай і на імгненне, асвятляла прастору лімонным сполахам. У гэтыя секунды да звону ў вушах услухоўваўся салдат у застылую цемень, стараючыся не збіцца са шляху. На нейкі час дзіцячы галасок прападаў, то зноў захліпаўся ад болю.

Снарады і бомбы раскрамсалі, перааралі ўздоўж і ўпоперак зямлю, распісалі яе баразнамі і варонкамі. Даводзілася ўвесь час мяняць накірунак, заміраць, зноў і зноў прыслухоўвацца да пякельнай начной цемрані і паўзцi, а дзе і рухацца кароткімі перабежкамі. Ад моцнага напружання нылі спіна і шыя, вельмі хацелася піць.

Калі разведчык адчуў, што набліжаецца да фашысцкіх дынамікаў, вырашыў праявіць салдацкую кемлівасць, не рызыкаваць. Узяў на некалькі метраў улева, адпоўз, як сам прыкінуў, метраў больш за сто, затым павярнуў управа.

Цяпер голас павінен быць дзесьці паперадзе і зусім побач. Ён зноў прыслухаўся. Калі ў неба ўзнімаліся ракеты, ледзянела на душы, яшчэ больш шчыльна ён уціскаўся ў зямлю і паспяваў за нейкія долі секунды ўбачыць, што робіцца вакол яго.

У адно з такіх імгненняў, калі плач дзіцяці, здавалася, чуўся зусім побач, Андрэй заўважыў метраў за дзвесце ад сябе невялікі пагорак: хутчэй за ўсё гэта і ёсць варожы дот. Значыць, паблізу павінен быць вартавы. Так, вунь ён маячыць.

Спіна ворага ўсё бліжэй. Сэрца стукае так моцна, што, здаецца, фашыст вось-вось азірнецца на гэты стук. Да болю ў пальцах сціскаў салдат рукаятку трафейнага нажа.

Калі чарговая ракета, заканчваючы свой шлях да зямлі, мільганула лілоым бляскам, Андрэй прыўзняўся і кінуўся наперад да гітлераўца. Імгненне, і ўсё было скончана. Перавёўшы дыханне, Андрэй ажно здрыгануўся ад гучнага дзіцячага плачу, які зноў ускалыхнуў цішыню.

Ён рэзка рвануў на сябе дзверы дота і апынуўся ў паўцёмным закутку. Чатыры фашысты, не паспеўшы дажаваць свой шакалад, атарапела пазіралі на яго застылымі ад жаху вачыма. На земляной падлозе перад невялікай чорнай скрынкай — мікрафонам, які быў усталяваны на перавернутай уверх дном скрынцы, сядзеў хлопчык год пяці, не болей, у разарванай кашулі, з тонкім шнурком на шыйцы, канец якога быў сціснуты ў руцэ аднаго з фашыстаў…

Усё, што адбывалася далей, Андрэй уяўляў як скрозь мутны туман. Памятаў толькі, як сам крычаў па-нямецку: «Хэндэ хох!», як дрыжаў у руках звар'яцелы аўтамат. Затым ён адчуў цяпло дзіцячага цельца на сваіх грудзях.

Гітлераўцы не прымусілі сябе доўга чакаць. Неба асвяцілася шматлікімі ўспышкамі ракет, пасля выбуху гранаты застракаталі кулямёты.

Ён бег, падаў, уставаў. Зноў бег, пятляючы, каб не патрапіць пад шалёную кулю. Часам ён кудысьці каціўся з горкі, прыціскаючы да грудзей і супакойваючы дзіця, затым падымаўся і бег зноў. Толькі б паспець!

Аднекуль з боку азваліся нашы кулямёты. Апрытомнеў салдат толькі тады, калі яго перавязвалі чуллівыя рукі маладзенькай медсястры Юлькі.

Хлопчыка звалі Андрэем, як і яго выратавальніка. Болей, на жаль, паведаміць пра сябе ён нічога не мог. Худзенькі, з вялікімі вачыма, тварык увесь у сіняках, ручкі ў драпінах, сляды ад шнурка на шыі.

Раніцай ён сядзеў у зямлянцы, увесь захінуты ў цёплы салдацкі ватнік. Байцы накармілі яго гарачым супам, кашай, і цяпер малыш разглядваў рознакаляровы губны гармонік.

Праз дзень радавы Галавенчык разам з маленькім Андрэем стаяў перад камандзірам палка. Вырашаўся лёс хлопчыка. А той у вялікіх, не па памеры,

на скорую руку пашытых для яго гімнасцёрцы і штанах, абуты ў буркі, якія пашыў рукасты старшына, даверліва прыціскаўся да свайго выратавальніка. На грудзях у хлопчыка блішчэла зорачка — падарунак Андрэя Галавенчыка. Салдат атрымаў загад асабіста даставіць яго ў дзіцячы дом.

**4**

Пасажыр нечакана замоўк, падкруціў стрэлкі наручнага гадзінніка, павярнуўся ў роздуме да акна. З аўтобуснага радыёпрыёмніка, як быццам спецыяльна да яго аповеда, пачулася мелодыя:

С войной покончили мы счёты,
Бери шинель, пошли домой…

Паўзверх карычнева-барвовай радзімкі на шчацэ маёра захадзіў жаўлак.

Армейскі аўтобус імчаўся па шашы, але ў вокны ніхто не глядзеў.

— Ну, а далей? Што з хлопчыкам? — не змаўкаў ужо ўвесь атрад маладых камандзіраў.

— Ды вось, уласна, і ўсё. Здаў ён таго хлопчыка ў дзіцячы дом, а выхавацельніцы, якая яго прымала, сказаў: «Вярнуся жывым — забяру… Сын гэта мой. Галавенчык Андрэй-малодшы, так і запішы, прыгажуня. З яго будзе сапраўдны мужык! А я пакуль на фронт».

— Вярнуўся?

— Не, не вярнуўся. Як не вярнулася і маці…

Памаўчаў. Затым апусціў руку ва ўнутраную кішэню бушлата і працягнуў яе мне, расціснуўшы кулак.

На шырокай мазолістай далоні маёра непагаснай часцінкай Вечнага агню палымнела салдацкая зорачка, эмаль на якой патрэскалася.



**Уладзімір МАРОЗ**

# СВАЯ ФІЛАСОФІЯ ВАЙНЫ

*З аповедаў жыцця майго роду*

У той далёкі ўжо дзень бралася на адзінаццатую вечара, калі на кухні, дзе я меўся нешта пісаць, з'явіўся мой старэйшы сын Цімох са сваёй чарговай неспадзяванкай. Маўляў, заўтра пішам сачыненне на конкурс аб псіхалогіі простага чалавека на вайне, дык, можа, што падкажу…

Колькі разоў даводзіў я яму, што ў бацькі павінен быць творчы час, калі мяне ніхто не павінен турбаваць. Прасіў, каб у такія позния вечаровыя гадзіны сямейнікі пакідалі бацьку ў спакоі. Бывала, засяроджуся на чым, а сын нешта неадкладнае ўспомніць, і тады наша супраца цягнецца за поўнач. Так і на гэты раз: я сеў пісаць, а ён… Ну што ты зробіш, калі сын не разумее, што мне няпроста вырвацца з тлумнага жыцця, адгарадзіцца, засяродзіцца. І вось на табе, зноў вырашай (ці дапамагай вырашаць) ягоныя праблемы. Каб жа ўсё ў свой час.

Напэўна, сын адчуваў сваю вымушаную вінаватасць, бо рэагаваў эмацыянальна: «Ну, папа!» І я астываў. Што зробіш, калі табе шаснаццаты год, калі вучоба ў ліцэі забірае шмат часу, якога заўжды не хапае, да таго ж вакол кіпіць жыццё, і юнацтва прагне ўвабраць яго як мага паўней? Гэта нам ужо збольшага ўсё нецікава, нам проста штораз цяжэй змагацца за гэтае самае жыццё, дзе ты маеш траіх дзяцей, самаму малому з якіх пакуль толькі паўтара года.

Цімох пакуль знік. Я пабурчэў ды супакоіўся, адклаўшы свой чарговы верш аб родным адзінокім самотным хутары ў нашай Мікалаеўшчыне. Але хутар не адсунуўся далёка, там зноў на гэты час з'явіўся гаспадар — мой дзед Косця па матчынай лініі, па кудзелі. Канстанцін Антонавіч Міцкевіч.

Дзед жа ваяваў! Чаго далёка хадзіць? Там і будзем шукаць псіхалогію вайны. Меў ваяр і чатыры баявыя медалі, з якімі мы вельмі любілі ў дзяцін-

---

*__Мароз Уладзімір Вікенцьевіч__ нарадзіўся 11 чэрвеня 1953 года ў горадзе Косава Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў архітэктурны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1975) і Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага ў Маскве (1983). Працаваў на ВТА «Інтэграл», у інстытуце «Мінскпраект», Дзяржкіно БССР, на кінастудыі «Беларусьфільм», у рэдакцыі часопіса «Бярозка». Цяпер — вядучы рэдактар студыі «Летапіс» Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Голас» (1993), «Рэй» (1993), «Хутаранская зорка» (2002),«Дабрадаць» (2006), кніг эсэ «Мінск старадаўні і малады» (2002), «Беларускі храм» (2003), «За брамай забытых мелодый» (2004), і інш., аўтар сцэнарыяў шматлікіх дакументальных стужак. Як кінарэжысёр зняў шэраг дакументальных фільмаў.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1994).*

стве забаўляцца: «За ўзяцце Берліна», «За ўзяцце Прагі», яшчэ нейкі ды самы галоўны салдацкі — медаль «За адвагу». Пазней дадаліся розныя юбілейныя і нават ордэн Айчыннай вайны II ступені. Медалі тыя згубіліся за часам, хутчэй за ўсё зніклі падчас пажару, які здарыўся ў першай палове 70-х мінулага стагоддзя, калі я быў студэнтам. Сам дзед да тых медалёў ставіўся спакойна. Зрэшты, і да самой вайны адносіны ў яго былі своеасаблівыя.

Дзед Косця быў веруючым чалавекам. Сябе я лічыў таксама вернікам, хоць па-сапраўднаму да царквы яшчэ не хадзіў, проста ўсё жыло, як цяпер модна казаць, генетычна. У маіх братоў савецкі атэізм нашмат глыбей уеўся ў косці, таму дзед любіў гаварыць пераважна са мною, лічыў, што я больш, чым астатнія, разбіраюся ў жыцці ды праўдзіва яго разумею. Зазвычай пры маіх прыездах, асабліва, калі ён застаўся адзін пасля смерці бабулі, на размовы ішло даволі часу, гэта ўжо сталася своеасаблівым рытуалам. Недзе ў вёсцы дзед і замежныя галасы слухаў, глядзеў тэлевізар. Ды і газет не мінаў. Так што быў у курсе падзей і меў на ўсё свой погляд.

Погляд найперш нязгодны. Ён не любіў нядбайных, хцівых людзей, якія з непавагай ставіліся да чалавека. Не любіў дурнотнага начальства. Не любіў, зрэшты, усіх, хто не верыў у Бога, такіх лічыў блуднікамі. Што тут было сказаць? Мне таксама не ўсё падабалася ў тым нашым жыцці, проста, у адрозненне ад дзеда, больш канкрэтна даводзілася жыць у тым рэальным свеце.

Мне заўсёды вельмі прыемна было, калі я прыязджаў да дзеда адзін… Бестурботна сядзелі мы з ім у хаце на кухні, скажам, у зімовы халодны час. Выпальвалі па некалькі цыгарэт, балазе, печ выцягвала дым. У цёплы ж час сядзелі за сталом пад яблыняй на лаўцы каля плоту. Тут ужо паліць льга было колькі заўгодна. Перад намі таўсматая высокая дзікая груша, якая ўвайшла ў мой верш аб самотным хутары пасля смерці дзеда.

Аб вайне дзед гаварыў, можа, і не часта і нешматслоўна, але мне заўсёды было цікава яго слухаць… Костуся Міцкевіча забралі на фронт, як і асноўную масу заходнікаў, у 1944 годзе, пасля вызвалення Беларусі. Дзеду было ўжо пад сорак, такіх на вайне лічылі «старымі». Павезлі ў Разанскую вобласць, каб за кароткі час падвучыць ваеннай справе. Без дэталей, але тую Разаншчыну дзед успамінаў не вельмі добра. Адным словам, галеча. Ды і лаянка, калі што не так — чужая, нязвыклая. У дзеда ж самай вялікай лаянкай былі выслоўі: «Г…но жоўтай курыцы» (чаму акурат жоўтай, не магу даўмецца сёння!) ды «Дурань ты сваёй гадоўлі», яшчэ якія нашы трапныя словы.

Трапіў ён у цяжкую артылерыю, меў справу з гаўбіцамі. Механіка з матэматыкай тут простыя: кладзеш адзін мяшэчак пораху — снарад ляціць на адзін кіламетр, закладваеш дзесяць мяшэчкаў — стрэл на дзесяць кіламетраў. Дальнабойная артылерыя па сваім статусе ідзе за фронтам, таму шанцаў выжыць артылерысту аб'ектыўна больш, чым якому пехацінцу. Але аднойчы (а мо і не раз) трапіў і мой дзед у ліхі пературс, калі пераблыталіся і пярэдні, і задні край, калі немцы контратакай знішчалі ўсё на сваім шляху. Было тое ў Польшчы на Сандамірскім плацдарме, вядомым у гісторыі апошняй вайны.

З усёй батарэі, а гэта за паўсотню чалавек, у жывых засталося менш як дзесяць. А як вам, пытаў у яго я, удалося ацалець у такой калатнечы? Дзед адказваў, што адпоўз як мага далей ад раскурочанай гарматы, зашыўся ў ядловец, за дрэвы, уціснуўся ў зямлю. Схаваўся, як мог, адным словам. Так і дачакаўся цішыні пасля бою. Спрабую ўявіць карціну на ўзлеску — ямы ад снарадаў, перакуленыя гарматы, целы загінуўшых. Не атрымліваецца, хоць кіношкі пра вайну нагледзеўся даволі. А дзед жа ўсё бачыў на свае вочы, усё гэта перажыў!

Сам Канстанцін Антонавіч цвёрда быў перакананы, што застаўся жывым таму, што не страляў на вайне ў чалавека. «Не забі» — сказана Госпадам. Калі слухаеш Яго, то не кіне на згубу. «Дзед, але ж тыя снарады, якімі вы стралялі, зусім натуральна маглі забіваць?» — пытаўся я гэта і сур'ёзна, і з беларускай хітрынкай, каб зачапіць чалавека. «А што там было, куды даляцеў снарад — я не бачыў і не ведаю. У чалавека я не страляў». Што скажаш на такія словы? Застаецца адно згадаць новазапаветнае: «Вера твая выратавала цябе». І яшчэ раз на жывым прыкладзе ўпэўніцца ў глыбіннай сутнасці гэтых слоў.

Цікава, але ваенных фотаздымкаў у дзеда не было. А вось з польскага войска, дзе ён у 30-я гады мінулага стагоддзя праходзіў тэрміновую (як цяпер бы сказалі) службу, захаваліся. Прыгожы жаўнер, на галаве канфедэратка. На адным са здымкаў ён з гармонікам — цягнула да музыкі, крыху ўмеў іграць. На службу дзеда забралі, калі ён быў ужо жанаты на маёй бабе Мані, у іх былі дзеці.

З вайны дзед вярнуўся дадому неўзабаве пасля перамогі, на пачатку восені — «старых» доўга не трымалі. Баба не ведала: жывы, нежывы? Бо апошнім часам трохкутнікаў з фронту не было. Аб тым кранаючым момансе неаднойчы згадвала мне. Прачнулася, яшчэ цёмначы, бо пачулася, што нехта ў акно шкрабецца. Паднялася, зірнула — не відаць нікога. Выйшла на двор. І тут разгледзела мужа ў шыняльку, які хадзіў па прыгуменні. Можна ўявіць, колькі радасці было ў жанчыны!

Дзедаў ваенны эпізод і яго разуменне псіхалогіі вайны я і расказаў Цімоху, які сядзеў, уважліва слухаў, нешта занатоўваў. Напісаў ноччу тое сачыненне на некалькі старонак вучнёўскага сшытка. А потым неяк прыходзіць задаволены сабою: маё сачыненне атрымала прызавое месца на гарадскім конкурсе! А вось і грамата, дзе тое і сцвярджаецца. Анягож, нечаканай была тая псіхалогія вайны.

Уласна, гэта не псіхалогія, гэта насамрэч экзістэнцыяльная філасофія вайны. Чалавек народжаны жыць. І ў той ваеннай калатнечы кожны выкручваўся як мог, па сваім разуменні, каб ацалець. Гэта не азначае, што ўцякаць ад вайны, у атаку таксама можна ісці па-рознаму. На жаль, у жывых засталіся далёка не ўсе. З Мікалаеўшчыны ў 1944 годзе на фронт забралі больш як восемдзесят чалавек (86, калі не падводзіць памяць). Вярнуліся менш як дзесяць…

Міхаіл Міхайлавіч Скарабагаты, стрыечны брат маёй маці Дзіны Канстанцінаўны, мой, такім чынам, дзядзька, па ўласнай ініцыятыве і душэўным пакліканні і абавязку паставіў каля сельсавета сціплы помнік з пералікам прозвішчаў усіх загінуўшых аднавяскоўцаў.

Прозвішча дзядзькі Мішы не вельмі дапасавала да мікалаеўскіх Міцкевічаў, Дзямідовічаў, Бруяў, Лёсікаў ды іншых. Этымалогія празрыстая, але адкуль яно ўзялося? Ды яго ніхто і не ўжываў, іх называлі Куцеечкамі (была і гісторыя, звязаная з куццёй). Нас — Забраннікамі. Здаецца, у вёсцы кожны меў свой прыдомак.

О, які гэта быў цікавы і адметны чалавек! За чаркай, а без гэтай справы не абыходзілася ці не штодня, мог гадзінамі распавядаць свае былiцы і небыліцы, дасціпна і па-народнаму трапна жартаваць, чытаць на памяць Коласаву «Новую зямлю». Любіў красці лес у Саветаў. На пенсіі сабраў ансамбль «Коласаўскія землякі». Самародак, адным словам. Ён, у адрозненне ад дзеда Косці, на фронт пайшоў дзевятнаццацігадовым. Трапіў у пяхоту. У распаведах выстаўляў сябе храбрым ваякам, адважным разведчыкам. Гэтаму льга было даць веры, бо стасавалася з яго характарам. Але размова вядзецца аб іншым. Іх таксама крыху падвучылі ў Расіі, ці не ў той жа Разанскай вобласці. Дзядзька Міша як чалавек камунікабельны і цікаўны дапытваўся аднаго

бывалага ўжо ваяку: як там на вайне, што рабіць, каб жывым застацца? Той і кажа: будзеце адпраўляцца на фронт, тады раскрыю сакрэт. Вось ужо і час той прыйшоў, і цягнік з цяплушкамі прыгналі, і паравоз пад параю. А парады так і няма. Кінуўся наш Міхал, знайшоў таго служывага. Ну як, як жа ацалець? А той і кажа: «Не будзь дурнем, то застанешся жывым».

Выпадак такі, ясная справа, быў. Але ж выраз «не будзь дурнем» дзядзька Міша ведаў і без таго ваякі. Гэтыя словы я знайшоў яшчэ ў аднаго мікалаеўца, якога звалі гэтак жа, як і майго дзеда — Канстанцін Міцкевіч, ён жа Якуб Колас. У прыватнасці — у аповесці «Дрыгва».

Мо і расчараваны быў Куцеечка такім немудрагелістым сакрэтам, але, раздумваючы над гэтымі словамі ўсю дарогу на фронт, добра ўзяў іх да галавы. Страляў, як казаў, з розумам, здуру галаву пад кулі не падстаўляў, а калі трэба было, хаваў яе за любой купінкай, за каменем, за кустом, уціскаўся ў якую ямінку ў зямлі. Так і жывым застаўся, напраўду «сакрэт» спрацаваў. Тут ужо філасофія народная дапамагла.

Аб гэтым ён распавядаў нам, калі здымалі фільм «Смаленне вепрука». І не толькі тады, шмат разоў гаманілі мы з дзядзькам Мішам і аб вайне, і аб міры, які наступае пасля ваеннай калатнечы. Маладых адразу пасля перамогі дадому не пускалі, у адрозненне ад «старых», як мой дзед. Паслужыць яшчэ трэба, нехта павінен жа парадак трымаць у той пераможанай Нямеччыне. Але хлопцы ў самым росквіце мужчынскай сілы, кроў кіпіць. А што? Гэта ж не ў акопе пад кулямі, дзе не да таго. Цяпер спіш, калі казаць вобразна, на мяккай пасцелі пад цёплай коўдрай, харчуешся выдатна. Аб чым, натуральна, думкі? Аб жанчыне.

Дзядзька Міша хваліўся любоўнымі перамогамі — хадзіў, маўляў, да адной фраў. Але тут веры можна і не даць. Лагічным падаецца, што нехта з афіцэраў, можа, і меў тую фраў. А шарагоўцам гэта было практычна немагчыма, нейкі парадак быў. Хлопцы ў самай мужчынскай сіле — хоць звар'яцей. Але, здаецца, хто і вар'яцеў. На мяжы быў і Куцеечка, але трапіўся добры доктар, паспрыяў хутчэйшай дэмабілізацыі з сур'ёзным наказам: як толькі вернешся дадому, адразу жаніся. А то капцы. Дзядзька Міша так і зрабіў. Адразу ўзяў сваю Даміцэлю, як ён называў цётку Соню. Нарадзілі трох дзяўчат, пасля дастараліся і да сына.

Бацька мой, Вікенцій Іванавіч Мароз, чалавек больш спакойнага складу, жаніўся па ўзросце пазней за Куцеечку. Напэўна, праблемы такога кшталту былі і ў яго на вайне, але, думаецца, не ў такой ступені. Праблемы былі ў іншым. Таму і атрымалася ў Вікенція свая філасофія вайны, свая экзістэнцыя ў гэтай антычалавечай па сутнасці навале.

Вёска Цякалаўшчына ў Нясвіжскім раёне, дзе нарадзіўся мой бацька, як і маміна Мікалаеўшчына, была за тыя ж тры кіламетры ад той жа савецка-польскай мяжы. Таксама на заходнім яе баку. Мой дзед Іван расказваў, што калі прыйшла вайна і з'явіліся немцы, добра памятае, як афіцэр паказваў рукой сваім салдатам: вось гэта Польшча, а там далей ужо Саветы, бальшавікі.

Аб тым трохгадовым перыядзе (немалы ж час у жыцці чалавека!) бацька не вельмі ўспамінаў, калі мы, чатыры яго сыны, раслі-гадаваліся, калі раз'ехаліся, вывучыліся, пайшлі на свой хлеб, завялі сем'і. Праўда, у 1967 годзе ён напісаў апавяданне «Стараста». Яно было аб тым, як дзед Іван тыдзень быў старастам у вёсцы і збіраў на просьбу-загад партызан грошы на будаўніцтва савецкага танка. Надрукаваў яго ў раённай газеце, але, тады яшчэ школьнік, я гэтага не памятаў.

Ужо ў новым стагоддзі ўспамінаў стаў пісаць больш. Як на пачатку вайны ў салдацкай гімнасцёрцы, купленай на рынку, выбег запыніць карову. Немец

убачыў і стаў крычаць: «зольдатэн, зольдатэн!» Добра, што бацькаў дзядзька Лукаш ведаў нямецкую мову, змог растлумачыць немцу, што гэта школьнік, а не салдат. Больш той гімнасцёркі бацька не надзяваў. Ці ішоў неяк у Нясвіжы, ступіў ўжо з ходніка на брук. Паліцыянт, які стаяў зводдаль, стаў страляць. Прыняў за яўрэя, а ім забаранялася хадзіць па тратуары, можна было толькі па самой вуліцы…

Сталася так, што мой бацька, карэнны праваслаўны беларус, трапіў у польскую армію. Увесь гэты час ён маліўся. Кажа, мо таму і ацалеў.

Зразумела, хапіла ліха на фронце, і загінуць мог не раз. Тым больш, што вайна з перамогай для яго не скончылася. Яны доўга яшчэ ваявалі ў Карпатах з бандэраўцамі, ляснымі бандытамі, як іх называлі палякі. Бацька, як і дзед Косця, быў артылерыстам, але самым сапраўдным, пры знакамітай саракапятцы. Даслужыўся да ніжэйшага афіцэрскага чыну (не невук жа), меў польскія медалі «Перамога і вольнасць», «Одэр, Ніса і Балтыка», «Знак Грунвальда». Памятаю, што я пісаў ажно ў Маскву, каб дастаць істужкі да гэтых узнагарод і вырабіць ордэнскія планкі. З вайны была і савецкая медаль — «За перамогу над Германіяй».

Калі быць чэсным, аніяк не ўяўляю свайго бацьку ваенным чалавекам, хоць здымкі таго часу ёсць. Нейкай каардынацыі ў яго бракуе, ці што? Ён увесь у жыцці, у клопатах і справах, у сямейных турботах. Ну, аніяк не вайсковец. Зрэшты, я сам такі, хоць фізічнай каардынацыі ў мяне даволі. І сваімі рукамі магу рабіць значна больш, чым бацька. Ён пераважна з газетай, за пісьмовым сталом, у грамадскіх справах. Як вытрымаў амаль тры гады?

Дэмабілізаваўся ажно ў лютым 1947 года. Прапаноўвалі застацца ў Польшчы. Адно бяры зямлю на «землях взысканых», як палякі называлі свой добры кавал анексіраванай Прусіі, ды жыві сабе. Не. Тут бацька быў непахісным — толькі дадому. Калі гаварыць высокім штылем, свядомым беларусам быў ужо тады. А калі з жыццёвага гледзішча, такое рашэнне бацькі для мяне з братамі абярнулася яшчэ тым, што мы з'явіліся на свет.

І ў гэтым выпадку (згадайма дзеда Косцю) «вера твая ўратавала цябе». Вярнуўшыся на вялікую радасць сваіх бацькоў, Вікенцій скончыў Нясвіжскую педвучэльню. Па размеркаванні паехаў за сваёй будучай жонкай Дзінай настаўнічаць у Івацэвіцкі раён, дзе ў Косаве я і нарадзіўся другім у сям'і.

Але за савецкім часам я і не думаў, што мой бацька — веруючы чалавек. Хрысціла мяне баба Маня ў Мікалаеўшчыне, калі бацькоў побач не было. Зразумела, бацькі ведалі, мо якраз сам тата і прасіў цешчу, але каб усё было таемна. Толькі павагу выклікае ў мяне тая абачлівасць. Ну, не лезці ж на ражон! Сутнаснае значна глыбей вонкавага. Бацька ніколі не быў партыйным. Напачатку быццам меў намер, а потым, калі прапанавалі, мякка адмовіўся сам. Таму практычна ўсё жыццё працаваў завучам у школе. Дырэктарам беспартыйны быць не мог.

Згаданы на пачатку аповеда эпізод паўтарыўся праз паўтара дзясятка гадоў ужо з малодшым маім Данілам, студэнтам-першакурснікам. Прыбягае, як калісьці Цімох, просіць, каб дапамог з сачыненнем на заўтра аб жыцці пад акупацыяй. Зноў гарыць. Але тут я нават і не расхваляваўся. Проста дастаў з камп'ютара ўспамін Вікенція Мароза, яго дзеда, «На пачатку вайны» і аддаў Данілу ў рукі. Здаецца, хлопец амаль цалкам узяў тэкст. Адно што гэта было не на конкурс, проста вучэбная работа. Падумалася: як добра, што так склалася жыццё, што мае дзяды, бацькі, дзядзькі ацалелі за ваеннай навалай, што іх дзеці і ўнукі, ды і праўнукі могуць ведаць жывое слова аб тым, хоць у нейкай меры спазнаць з першых вуснаў філасофію вайны з гледзішча простага чалавека.



## Алесь МАКОЎСКІ

# АКВАРЫУМ

*Згадкі старога халасцяка*

Сёння субота, за даўно не мытым вузкім акном з мутнымі ад пылу шыбамі майго «пакоя» буяніць пекны месяц май. Акрыяла пасля доўгай нудлівай зімы зямелька, дыхнула на поўныя грудзі, шуганула зелянінай. Адно псуе настрой: насупраць акна стаяць крываватыя слупы-дрэвы. Яшчэ восенню прыйшлі з бензапіламі варушкія хлопцы, спачатку абкарналі бярозы і таполі, а пасля зрэзалі, ды не верхавіны, а шаснулі па самай сярэдзіне дрэў. Выжывуць ці не — не ведаю. Сям-там ліпяць кволыя галінкі, а на іх трымцяць на ветры зусім маленькія, бездапаможныя ліпкія празрыста-зялёныя лісцікі.

А ў мяне сёння двайны юбілей: стукнула пяцьдзясят і трыццаць гадкоў жыцця ў рабочым інтэрнаце. Ніякіх кветак, поціскаў рук, цёплых слоў, віншаванняў. Ды-ы-ы каму я патрэбны?! Бабыль ёсць бабыль, нібы жывеш, нібы цябе няма. Як і нумара на маім «пакоі».

Яно-то, калі разабрацца, людзі самі сабе жыццё псуюць. Нібы скнары, якія шкадуюць адзін аднаму нават сказаць добрае слова, не маюць жаласлівасці да блізкага... А напаткае бяда ці проста здарыцца непрыемнасць, пачынаюць круціць галовамі, шукаць вінаватых: азіраюцца па баках, паглядаюць уніз, уверх, толькі ў душы свае не хочуць зазірнуць... І мне моташна калупацца ва ўласным нутры. Мабыць, і я стаў скнарам. А быў жа!..

У маім «пакоі», калісьці тут была кладоўка, і жыў, пакуль не памёр, стары халасцяк Кунцэвіч, стаіць рыпучы ложак, пад ім пыліцца мой верны спадарожнік чорны чамадан.

Яшчэ ёсць, замест стала, крывая тумбачка, адно хісткае крэсла — цяпер я на ім сяджу. Каля акна, там больш святла, стаіць на табурэтцы невялікі, на вядро вады, акварыум. У ім плаваюць мечаносцы і гупі. Больш, каб хацеў, у гэтым катуху нічога не памесціцца.

---

***Макоўскі Аляксандр Пятровіч*** *нарадзіўся 17 сакавіка 1943 года ў вёсцы Павуссе Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна (1973). Працаваў на будоўлі, на заводзе, у аршанскай аб'яднанай газеце «Ленінскі прызыў», у газеце «Чырвоная змена», рэдактарам часопіса «Служба быту Беларусі», у часопісе «Вожык», загадчыкам Выдавецка-інфармацыйнага цэнтра Нацыянальнага банка Беларусі, рэдактарам часопіса «Банкаўскі веснік», у Нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь.*

*Выдаў кнігі нарысаў «Сябры-таварышы» (1980), «Майстры добрага настрою» (1985), адзін з аўтараў калектыўнага зборніка прозы «Ранішняя дарога» (1990), зборнікаў сатыры і гумару «Крыштальная душа» (1983) і «Кубік Рубіка» (1987).*

У інтэрнаце, пакуль малады, жывеш весела і бесклапотна. Пасля... Пасля настае час, калі ўсё часцей і часцей, седзячы на ложку, спачатку між іншым, а потым глыбока і надоўга пачынаеш задумвацца: што далей? І ляжа тады над пераносіцай, крыху вышэй броваў, яшчэ не вельмі прыкметная складка. Неўзабаве з'явіцца на галаве першая сівая валасіна, і ты яе, яшчэ не верачы, са здзіўленнем заўважыш і з прыхаваным смуткам вырвеш. Вось тады і загучыць у пакоі рэфрэнам, спачатку не часта, а пасля нават надакучліва: трэба жаніцца. І станеш шукаць сабе не «кадру», але спадарожніцу жыцця. А з цягам часу хлопцы з суседніх пакояў спахопяцца: нешта не бачна Івана (Васіля, Толі, Лявона)? Куды ён знік? А ён ужо, скажуць, ажаніўся. І жыве часцей на прыватнай і стаіць на чарзе на кватэру ці будуецца кааператывам. Уздыхне той, хто пытаў, а сёй-той задумаецца, ці не прабіў і яго час?

Я не заўважыў, калі прабіў мой час. Былі, былі наплывы смутку і тугі па жаночай ласцы і дзіцячым лепеце, цеплыні, утульнасці свайго кутка. Агортваў нават страх, каб не размінуцца з жыццём. Ды душэўная лянота, а яшчэ абставіны... Фартуна ні тым месцам павярнулася да мяне. Але пачакайце, трошкі вып'ю, пасля пачну свае згадкі. Вось, можна, сёе-тое і прыгадаць...

Я, Акуліч Андрэй, дваццаці гадоў ад нараджэння, пасля службы ў арміі ўладкаваўся на машынабудаўнічы завод вучнем слесара-інструментальшчыка. Неўзабаве атрымаў накіраванне ў аддзеле кадраў на засяленне ў рабочы інтэрнат. Мне не трэба шукаць гэты чатырохпавярховы будынак пад нумарам «адзін», пабудаваны ці не адразу пасля вайны, яшчэ тады, калі будаваўся і сам завод. У ім, гэтым будынку, нават быў разы са два, заходзіў да хлопцаў, з якімі разам працую.

На дзіва лёгка напаткаў каменданта, дзябёлую маладуху, з занадта высокай, цяпер ужо не моднай прычоскай-«бабінай», рупна зробленай з уласных, пафарбаваных у белы колер валасоў і шыньёна. Камендант моўчкі ўзяла ордэр, пашпарт на прапіску, нічым не пацікавілася, не заглядваючы ні ў якія талмуды, сказала нумар пакоя — 91, у якім мне давядзецца жыць, і адправіла да кастэлянкі па пасцельную бялізну. З кастэлянкай крыху не тое каб паспрачаўся, але папрасіў замяніць ручнік, бо той, хоць і быў памыты, але добра-такі нагадваў абкарнаную анучу...

Аднак трапіць у свой пакой не змог, хлопцы, відаць, былі ўсе ў першую змену. Вахцёр жа, старая, гадоў пад семдзесят жанчына, толькі сцепанула худымі плечукамі ў адказ на пытанне пра ключ. Затое праявіла зайздросную цікаўнасць да маёй асобы. Дапытаўшыся, дзе нарадзіўся, калі хрысціўся, ці быў жанаты, дзе жывуць і калі хрысціліся бацькі, быццам і супакоілася. Разважыўшы, што з чамаданам і бялізнай нязручна швэндацца па горадзе, папрасіў у вахцёркі дазволу пакінуць каля яе стала свае прычындалы. Тая адразу захвалявалася:

— А як украдуць якія ўрвіцелі?

— Няхай, бабуля, крадуць. Я ўсё сваё нашу з сабой. І ўвогуле пачынаю жыццё з нулявога цыкла, — настрой быў неблагі. — А вось прасціны пакладзіце, калі ласка, сапраўды ў свой стол. Не хочацца спаць на голым матрацы, нават калі ён і прайшоў санапрацоўку.

На тым і пагадзіліся. Яшчэ патаптаўся крыху ў цемнаватым фае, зацікавіла пільнасць вахцёркі на сваім пасту. Яна амаль кожнага трэцяга спрабавала спыніць, звярталася з адным і тым жа пытаннем: «А вы куды?» Атрымаўшы адказ: «Я тут жыву ўжо пяць (восем, дзесяць) гадоў», бабуля згоднаківала сівою галавой, працягвала пільна несці сваю адказную службу, падслепавата ўзіраючыся ў кожнага жыхара інтэрната, які, праносячыся віхурай, на ходу кідаў звыклае: «Я тут жыву...»

Удосталь у душы пасмяяўся, пайшоў блукаць па горадзе. Абследаваў усе навакольныя магазіны, купіў мыла, зубную пасту, а часу да канца першай змены яшчэ заставалася багата. Пачало смактаць пад лыжачкай, вырашыў зайсці ў сталоўку перакусіць.

Пакуль споўдаўся па горадзе, добра набіў ногі, стаміўся, папалуднаваўшы, увогуле адчуў сябе як у той прымаўцы: «Не еў — не мог, а пад'еў — ні рук, ні ног».

Падзякаваў вахцёрцы за ласку, забраў чамадан, бялізну і падаўся на чацвёрты паверх, у свой пакой. Павітаўся, паставіў чамадан каля свайго, злева ад увахода, непрыбранага ложка, назваўся.

— Андрэй.

На мяне глядзелі тры пары вачэй: адны з цікаўнасцю, другія насцярожана, трэція дабрадушна.

— Алег, — першым азваўся ружовашчокі, шчуплы, з выгляду зусім хлапчанё, які ў спартыўным трыко сядзеў на ложку, трымаючы ў руках кніжку.

— Сынок! — груба азваўся з шэра-попельным тварам, касматымі бровамі і высокімі залысінамі мужчына гадоў трыццаці трох.— Не лезь паперад бацькі ў пекла. Парадак павінен быць. Казікам мяне клічуць.

Сказаў, лежачы ў вопратцы і брудных чаравіках на ложку, што стаяў каля акна справа, а сам нават не варухнуўся, мабыць, лічачы сябе ледзь не пупам зямлі.

— Іван, — спакойна назваўся трэці, дужы, шыракаплечы і шыракатвары хлопец, на гадоў сем старэйшы за мяне.

Ён сядзеў па-гаспадарску за сталом, каля яго стаяла ладная алюмініевая каструля з варанай бульбай, ад яе ішла пара, побач ляжаў цэлафанавы мяшэчак з кількай, адкуль ён раз-пораз выцягваў па адной, адрываў ёй галаву і кідаў рыбінку ў рот.

— З наваселлем! — варухнуўся лысы і шматзначна дадаў: — Падзея якніяк. Не грэх бы... Пакуль крама адчынена...

— Яшчэ не зарабіў, — адказаў я знешне спакойна, хоць у душы ўжо нараджалася непрыязнасць да гэтага чалавека, з якім давядзецца жыць у адным пакоі.

— Правільна,— згодна кіўнуў галавою Іван. — Трэба спачатку зарабіць. У чалавека, можа, паесці няма за што.— Сярдзіта паглядзеў на Казіка і зычліва дадаў: — Сядай, Андрэй, да стала. Будзем гарачую бульбу зількай есці. Царская ежа, скажу табе.

— Не ежа, а закусь, — не здаваўся Казік. — Хе-хе. Драбнее народ. Усё менш сапраўдных гусараў застаецца. — І раптам ажывіўся: — Вось у мяне на ўчастку адна кадра жыве! Сёння раніцою прыходжу ў дыспетчарскую, а Дунька кажа: «Харлап! Званіў з дзявятага дома, з трыццатай кватэры мужчына. У яго кран сарвала. Прасіў, каб менавіта ты прыйшоў. Ваду ў туалеце ён сам перакрыў». Ха, думаю, гэта зноў Усціновіч загуляў. Так і ёсць. Прыйшоў, а ён няголены, валасы на галаве тырчком, нос распух...

— Якраз як ты з пахмелля, пакуль «чарніла» не глыкнеш! — весела гыгыкнуў Алег.

— Байструк! — ірвануўся з ложка Казік, і Алег у адзін момант апынуўся каля дзвярэй.— Прыкусі язык, а то вырву...

«Відаць, шмат п'е?!» — мільганула ў галаве.

— Не чапай сынка, — лагодна сказаў Іван. — Хлопцу хочацца зубы паскаліць.

— Хай думае, што гаворыць. Распусціў язык, байстрыла, — не суніма́ўся лысы.

Злосна пазіркаў вачамі, зноў бухнуўся на ложак, памаўчаў, з'едліва скрозь зубы працадзіў:

— Абы-што...

Гэта быў камень у мой агарод. Аднак я змоўчаў. Прыгадаліся словы маці: не звязвайся, не паўзі за жуком — у гной трапіш.

Першую ноч у інтэрнаце спаў, не бачачы ніякіх сноў, моцна, каб стралялі, як на Новы год — наўрад ці пачуў бы. Прачнуўся раніцою — у пакоі ўжо не было ні Івана, ні лысага Казіка. На мяне з-пад коўдры пазіраў вясёлымі, нібы памытымі ранішняй лугавой расою, цікаўнымі вачымі Алег.

— Добрай раніцы! — павітаўся ён.

— Добрай! — адказаў я і пацікавіўся: — А дзе ж хлопцы? Сёння ж, быццам, выхадны?

— Іван працуе абрубшчыкам у сталеліцейным. Ён амаль што без выхадных робіць. На кватэру грошы збірае. Жаніцца хоча. А гэты наркот — слесарам-сантэхнікам у домакіраўніцтве. Шастае, каб на сто грамаў раздабыць. Раней на заводзе рабіў, на аўтапагрузчыку, ды выгурылі за п'янку.

— Ён што, п'е?

— П'е. Хай бы ўжо лопнуў калі, — пажадаў Алег. — Ён і мяне муштруе: збегай, збегай...

— А ты б не хадзіў! Што ты яму, прыслужнік...

— Біцца кідаецца. Праўда, нядаўна кінуўся, дык Іван яго ўзяў загрудкі, ды як даў спінаю аб сценку, ажно шыба ў акне задрыжэла. То цяпер не чапае.

— Іван, мусіць, хлопец неблагі?

— Добры. Гарэлкі не п'е. А дужы! — з захапленнем сказаў Алег.— Ён можа зараз кілаграм ліварнай кілбасы з'есці або паўкілаграма кількі з бульбай і выпіць графін вады. Так ён ціхі, але калі раззлуецца, то ўжо лепш уцякай.

Я ўзяў ручнік, пайшоў мыцца. Умывальнік быў у самым канцы калідора. Толькі ступіў на парог — і вочы сустрэліся са спалоханымі вачамі раней часу састарэлага чалавека з непрычэсанымі сівымі кудлатымі валасамі. Той наважыўся выпіць шклянку халоднай вады, але дрыжачая рука не слухалася. Убачыўшы мяне, ён яшчэ больш захваляваўся, рука захадзіла ходырам. Урэшце бядак схапіў шклянку аберуч, адвярнуўся, прагна, ляскаючы аб шкло зубамі, разліваючы ваду, пачаў піць.

Я зрабіў выгляд, што нічога не заўважыў, пачаў чысціць зубы. Вярнуўся ў свой пакой, спытаў Алега:

— Што гэта за старога я стрэў ва ўмывальніку? Рукі дрыжаць, нібы ў п'яніцы...

— А-а-а! Гэта Кунцэвіч. Старэй яго ў інтэрнаце нікога няма. Яму шэсць гадоў да пенсіі засталося, — збіраючыся таксама ісці мыцца, ахвотна гаварыў Алег. — Раней ён жыў з хлопцамі. Але там сабраліся ўсе маладыя, пачалі над ім насміхацца. Дык камендант аслабаніла кладоўку. Маленькі такі пакойчык — ложак ды тумбачка стаіць. Там і падлога пліткамі выкладзеная. Цяпер адзін жыве. Кажуць, цішком папівае...

У душы варухнуліся жаласлівасць і... страх.

— Андрэй! Давай сёння з табою з'ездзім у магазін «Прырода», купім акварыум і рыбак прыгожых? — нечакана прапанаваў Алег. — Калі, канечне, у цябе ёсць час і ты нікуды не збіраешся...

Я здзіўлена паглядзеў на хлопца. Той заўважыў гэта і пачаў даверліва тлумачыць:

— Хочацца мець нешта такое... Жывое... Каб утульней у пакоі было. Я ўжо быў купіў рэпрадукцыі карцін, наклеіў на сцены, дык санстанцыя паздзірала.

Кажуць, няма чаго гасцініцу для клапоў устройваць. А грошы на акварыум даўно адклаў. То як, з'ездзім? Аднаму не хочацца...

Позіркам як бы сфатаграфаваў сваё новае жыллё: чатыры ложкі і тумбачкі, чамусьці тры крэслы, круглы груваскі стол... Усё гэта абшарпанае, хісткае. Яшчэ больш азмрочвалі малюнак даўно не мытыя бела-шэрыя фіранкі на вокнах, аблупленая на падлозе фарба, выцвілы сіне-зялёны колер сцен. Зачапіцца вокам не было за што.

— З'ездзім, — пагадзіўся. — Там, здаецца, у адзінаццаць адкрываюць? Ідзі мыйся, ды — у сталоўку.

Алег узрадаваўся, адразу замітусіўся, схапіў мыла, ручнік накінуў на шыю і памчаўся ва ўмывальнік...

Пакуль трэсліся ў трамваі, пасля ішлі пешкі, шмат што паспеў уведаць ад свайго спадарожніка. Аказваецца, сам Алег з вёскі, скончыў дзевяць класаў, бацькі ўгаворвалі, каб паступіў у ПТВ і ўсё-такі атрымаў сярэднюю адукацыю, — не захацеў. Тады дзядзька, які працуе на заводзе майстрам, забраў яго ў горад, прыладкаваў вучнем токара, пасяліў у гэты інтэрнат. Цяпер хлопец чакае не дачакаецца, каб пайсці ў армію, бо ў інтэрнаце за год жыццё яму ўсё абрыдла, і ўвогуле ў горадзе жыць не так цікава, як ён думаў.

— Бацькі мяне не хацелі пускаць. Маці плакала, — з непрыхаваным сумам апавядаў хлопец. — Адслужу — паеду дамоў. У нас там непадалёку керамічны завод, работа знойдзецца, — скончыў споведзь на вясёлай ноце, як бы засаромеўшыся сваёй шчырасці.

— Планы ў цябе, Алег, яшчэ могуць не раз памяняцца. А жыць можна ўсюды. Не гэта галоўнае. Галоўнае — жыць і не спатыкацца, а калі ўжо спатыкнуўся, то старайся хутчэй стаць на ногі.

Сказаў і адчуў сябе ніякавата. Атрымалася занадта правільна і павучальна. «Як самому ўтрымацца на гэтых нагах?!» — падумалася чамусьці з горкай іроніяй.

— Вядома, можна! — ахвотна пагадзіўся Алег. — Узяць хоць бы Казіка. Ён жа трактарыст па прафесіі. Маці адна ў вёсцы жыве. Я яму неяк кажу: чаго табе тут бакі пралежваць? Едзь у вёску. Рагоча. Я, кажа, там нічога не забыўся. Ні за якія, кажа, пірагі не паеду. Сілком не зацягнуць.

— Казіку час ачалавечыцца, дзяцей пускаць на свет... Колькі яму гадоў?

— Трыццаць пяць. Я табе неяк раскажу пра яго.

Пайшлі да магазіна. На нас з-за вітрыны панура, з дакорам, у недарэчнай позе, спадылба глядзеў дзік-сякач. Прыгажун алень хоць і стаяў з горда ўскінутай галавой, але і ў яго вачах застылі туга, боль, нямы папрок, адрасаваны немаведама каму.

У «Прыродзе» было немнагалюдна і ціха. Чалавек дзесяць, не больш, паволі пахаджвалі ад аднаго вялізнага акварыума да другога, дзівіліся на экзатычных рыбак, зрэдку прасілі флегматычную прадаўшчыцу вылавіць некалькі штук у прынесены посуд. «А мы з сабой нават паўлітровага слоіка не ўзялі!», — у думках папракнуў я сябе. Алег хадзіў следам і ажно свяціўся ад радасці.

— Андрэй,— параўняўшыся, зашаптаў ён. — Нам трэба маленькі акварыум, каб на тваю тумбачку стаў.

Тумбачкі ў пакоі былі стандартныя, як і ўсё астатняе, таму здзівіўся:

— Чаму абавязкова на маю?

— Таму што гэты п'янтос Казік ногі ў чаравіках на білу ложка закідвае — гразь будзе сыпацца.

— А мы яму ногі ўкароцім ці павырываем увогуле. Зразумеў? — І запыніўшы прадаўшчыцу, спытаў: — У вас ёсць акварыумы на вядро вады?

— Ёсць дванаццацілітровыя...

— А мы з сабою не ўзялі ніякай пасудзіны, — шчыра прызнаўся і добразычліва ўсміхнуўся прадаўшчыцы.

— Хм! — паблажліва здзівілася тая і больш пільна паглядзела на нас, пачаткоўцаў-аматараў. — Выручу вас. Купіце цэлафанавы мяшэчак. — Якіх вам рыбак?

— Харошых, — коратка адказаў Алег.

— Хм! — іранічна здзівілася гаспадыня акварыумаў і тут жа пацікавілася: — А вы дзе жывяце?

— У рабочым інтэрнаце, — адказаў чамусьці паспешліва.

— Ва ўмовах рабочага інтэрната могуць жыць толькі мечаносцы, — сказала яна катэгарычна, крыху падумала і дадала: — Ну, яшчэ гупі.

— Гэта чаму?! — здзівіўся.

— Яны не патрабавальныя да ўмоў жыцця.

— Гм! Хм! — цяпер прыйшла чарга «хмыкаць» нам.

— А вы што думалі? — абурылася дзяўчына. — Развядзенне рыбак — так сабе занятак?!

І, не зважаючы на нас, падышла да акварыума, у якім у вясёлым карагодзе кружыліся чырвоныя, з доўгімі, падобнымі на меч, хвастамі, рыбкі.

— Якіх вам?

— Яе і яго. Каб ім не сумна было, — папрасіў Алег.

— Каб у іх патомства было.

Прадаўшчыца зноў хмыкнула і пачала боўтаць сачком у акварыуме, паляваць за «ім і ёю».

Купілі чырвоных і чорных мечаносцаў, вёрткіх, з серабрыстымі і залацістымі плямамі гупій, сухога корму і ў добрым гуморы паехалі ў інтэрнат.

Акварыум усё-такі паставілі на тумбачку паміж Іванавым і маім ложкамі.

Бадай, больш за ўсіх абрадаваўся навасельцам Іван. Па сваёй натуры маўклівы, стрыманы, а прыйшоў з работы, як убачыў рыбак, дык адразу ў захапленні і выпаліў:

— Што толькі прырода вытварае! Га?! Гэтакая малеча! — і з падабрэлым тварам доўга стаяў, схіліўшыся над акварыумам, паляпваў па шклу пазногцем, ківаў галавою, нават цмокаў губамі.

— Ты паглядзі, як яны кідаюцца на корм! — не ўтрываў, каб не пахваліцца, Алег і сыпануў рыбкам крыху дафній.

— Сынок! Ты што робіш?! — аж тузануўся ад абурэння Іван.— Гэта ж табе не свінні! Трэба ж корм расціраць. Вось так, глядзі.

Ён узяў з кулька дробку корму, раз-другі крутануў яе ў сваіх тоўстых моцных пальцах — і ў акварыум пасыпалася пытляванка.

— Вось, сынок, як трэба, — задаволена павучаў ён хлопца. — Я сам буду карміць іх. Я раней за ўсіх раніцою ўстаю. І вечарам трошкі буду падсыпаць. А хутка паеду да бацькоў, у нас там ёсць рэчка, прывязу ракавінак і каменьчыкаў прыгожых.

— Кармі, кармі… Падгадуеш, пад зарплату засмажым. Гы-гы, — гыгыкнуў Казік, які толькі што прываловкся на падпітку і па звычцы ўлёгся ў вопратцы на ложак.

— Нудзіць цябе доўга будзе ад гэтых рыбак. Паняў? — пагрозліва павярнуўся магутнай паставай Іван і, быццам прадчуваючы нешта нядобрае, яшчэ раз пагражальна перапытаў: — Паняў ці не?

— Ужо ж. Што? Нельга і пажартаваць.

— Глядзі!

З гэтага дня Іван вечарамі радзей стаў хадзіць у чырвоны куток, дзе стаяў тэлевізар і куды хлопцы звычайна збіраліся, каб паглядзець цікавую перадачу. Ён клаў рукі на біла ложка, схіляў цяжкую галаву і, як зачараваны, мог гадзіну-другую сядзець нерухома, сачыць за рыбкамі. Аб чым думаў, здагадацца было цяжка. Гаварыць аб сваіх пачуццях ён не любіў. Мяркую, што ў жыцці Івана настала тая пара, калі да болю ў сэрцы хочацца мець сям'ю, гадаваць сваё дзіця…

Тым часам Казік, атрымаўшы суровае папярэджанне ад Івана, не ведаючы яшчэ, як падступіцца да мяне, паставіў на стол невялікае люстэрка, пачаў узірацца ў яго, гладзіць сябе па бліскучай лысіне і прыгаворваць:

— Ты, Казік, харошы чалавек. Харошы... Харошы... Ты нікому не замінаеш жыць. Калі і вып'еш, дык за свае...

— Дудкі за свае, — густым басам, не стрымаўшыся, сказаў Іван. — На халяву. Рублі дзярэш з людзей. І Дунька цябе падкормлівае. Нас ашуквае, а цябе корміць.

Ведаю сам: Дунька, у сапраўднасці Вера, мардатая інтэрнацкая буфетчыца, у імгненне вока сёння раніцою ашукала мяне.

Сам жа Казік быццам не пачуў Івана, працягваў:

— Жывеш ты, Казік, ціха. Чужога не бярэш, нікому нічога не павінен...

На сваім ложку ляжаў, іржаў, нібы малады жарэбчык, Алег.

— Жаніцца табе, Казік, трэба, — сказаў ён і зайшоўся ад рогату.

— А на якое ліха? — усё гэтак жа пагладжваючы лысіну, адказваў той. — Я тут на чыстых прасцінах дажыву да пенсіі. А потым адразу пайду ў дом састарэлых. І там чыстыя прасціны і за кватэру не трэба плаціць. Накормяць...

— Хоць бы ўжо сваю Дуньку ачмурыў, калі ніхто другі на цябе не кідаецца, — засмяяўся Алег.

— Сынок! Ты не ведаеш баб! — ажыўлена і з пафасам сказаў безнадзейны халасцяк. — Яны ж такія: кось-кось, пакуль у аглоблі. А як упрэгла, тады да другога пабегла.

Іван незадаволена пачаў варочацца, пад ім жаласліва зарыпела панцырная сетка.

— Не ўсе ж аднолькавыя. Як і мужчыны, — заўважыў я памяркоўна.

— Яны, сынок, мякка сцелюць, ды мулка спаць, — не зважаючы ні на каго, звярнуўся да юнака Казік. — Замужжа для баб — шырма. Трэба выскачыць, каб людзі не плявузгалі, а потым табе каленам пад зад, кватэру сабе, аліменты плаці, а яна хахаля знойдзе. Не-е-е... Няма дурных жаніцца.

«Сынок» ужо не смяецца, утаропіўся ў столь, штосьці думае.

— Дык жа вунь нават рыбкі парамі плаваюць. А людзі? Не, прыроду не абдурыш, — не вытрымаў Іван. — А дзеці? Трэба ж, каб твая кроў жыла. Каб нехта і над трунай паплакаў, як памрэш. Чалавек жа не бяздомны сабака.

— Харошы ты, Казік... Харошы чалавек, — нахвальвае сябе стары бабыль.

— Дурыла ты! — злосна кідае Іван. — І прозвішча тваё не Харлап, а Дурыловіч.

— Ха-ха-ха! — аж зайшоўся Алег. — Правільна! Дурыловіч! Ха-ха-ха!

— Сынок! Старэйшых абражаць няможна. Я ж цябе вучу, як жыць. Старэйшых трэба паважаць...

— Старэйшых трэба цаніць не за гады, а за мудрасць, дабрату, праўдзівасць.

— Ты, сынок, слухай мяне. Людзі толькі робяць выгляд, што любяць праўду, — гнуў сваё Казік. — Паспрабуй свайму начальніку скажы праўду! Ён цябе ў парашок сатрэ. А дабрата? Ха! Сёння кожны жыве сам па сабе...

Я глядзеў на Казіка і ўсё больш упэўніваўся, што гэта чалавек з пароды своеасаблівых правакатараў. Такія людзі могуць цябе падпаіць, распачаць бойку, а самі даць драла. А расхлёбвацца будзеш ты. Ты будзеш тапіцца, а яны табе рукі не пададуць. Адзінае, чаго жадаюць, гэта каб усе вакол іх былі нікчэмнымі, няшчаснымі, няўдачнікамі ў жыцці і пакутавалі. Тады ім лягчэй мірыцца з асабістай нікчэмнасцю...

Праз колькі дзён Казік атрымаў з дому пісьмо, а ў канверт маці яшчэ ўклала пакамечаную купюру. Гэтым грашам мужчына абрадаваўся надзвычай, як дзіця, нават не стаў чытаць пісьмо. Сунуў купюру ў кішэню і — дай бог ногі. Сказаў толькі, што маці ў яго залаты чалавек, калі трэба, заўсёды матэрыяльна падтрымае.

Ідэю, як правучыць абібока, падаў Алег. Ён узяў у рукі канверт, нейкі час яго разглядаў, пасля прапанаваў:

— Давайце мы напішам яму пісьмо. Ну, накшталт, як запарожскія казакі пісалі турэцкаму султану. Га?

— Правільна! — падхапіўся Іван. — А канверт заклеім і пакладзём на стол вахцёру. Будзе бегчы з гулянкі — забярэ.

— А што ўсё-такі напішам? — зацікавіўся і я.

На нейкі момант у пакоі ўсталявалася цішыня. Кожны думаў, каб напісаць штосьці дасціпнае і павучальнае.

— Пісьмо павінна быць ад імя аднавяскоўцаў, — урэшце прапанаваў Іван. — Сядай, сынок, у цябе почырк добры.

І пачалася шчырая калектыўная праца.

«Добры дзень, Казік! Пішуць твае аднавяскоўцы. Стала нам вядома, што робіш на вялікім заводзе, жывеш у інтэрнаце. Спачатку мы ганарыліся табой, думалі, чалавекам стаў. Бо да гэтага быў, сам ведаеш, усе куры з цябе смяяліся. Да вучобы не ахвочы і на рабоце быў: піхні — паваллюся. Затое хітры — таўкачом у ступе не зловіш. Так што мы абрадаваліся, бо і маці на старасці патрэбна падтрымка. Але цяпер бачым, што памыліліся. Як быў ты пустадомкам, так і застаўся. Відаць, праўду ў народзе кажуць: гарбатага магіла выправіць. Не сорамна табе, абібочына, з маці грошы цягнуць? Ці ёсць у цябе хоць дробка сумлення? Яна на ферме і днюе і начуе, ёй за работай дыхнуць няма калі! А ты, стары конь, бугай, цапідла, толькі і ведаеш гулі ды гулі. Глядзі, Казік, гулі яшчэ ніводнага чалавека да дабра не давялі.

Пачакай, вось прыедзеш у вёску, мы табе пакажам, на чым свіння хвост носіць...»

Разахвоціліся, пад смех і жарты напісалі яшчэ сёе-тое, больш моцнае. Але апошнюю кропку паставіў усё ж Алег. На зваротным чыстым баку ліста ён па-майстэрску намаляваў здаравенную дулю і нават чырвоным алоўкам пафарбаваў пазногці. А знізу зрабіў ёмкі подпіс: «Вось табе што, наркот, а не грошай!»

Казік пасланне «землякоў» прачытаў, пасля чаго два дні ні з кім не гаварыў і затаіў на нас злосць.

Праз тыдні два я сабраўся наведацца да бацькоў. Хацелася падзяліцца радаснай падзеяй, засяленнем у інтэрнат, а яшчэ падсобіць па гаспадарцы. На дварэ раскашаваў май, а гэта не толькі росквіт усяго жывога ў прыродзе, яшчэ і цяжкая праца на зямлі. Самы час вывозіць з хлява і растрасаць гной, садзіць бульбу.

Як ні дзіўна, сёння ўпершыню пачуў спевы шпака. А вярнуліся ж яны з выраю добры месяц таму. Ды што папішаш: горад ёсць горад — экалогія для птушак не вабная. Спыніўся на падыходзе да сваёй хаты, прыслухаўся. Сядзіць прыгажун на самай высокай галінцы яблыні побач са старой замшэлай шпакоўняй, павернутай на ўсход, і выводзіць рулады. Дачакаўся я паўзы, аблізнуў сасмяглыя губы, ціха свіснуў. Шпак павярнуў чорна-фіялетавую галоўку, схіліў яе на бок, адным вокам зірнуў на дзівака. У той жа танальнасці я свіснуў яшчэ раз, шпак устрапянуўся, падняў дзюбку і цюцелька ў цюцельку паўтарыў мой «мастацкі» свіст. А пасля пачалося... Пярнаты артыст спачатку закудахтаў курыцай і праспяваў пеўнем, па-буслінаму клекатаў, разы са тры па-вароняму каркнуў... і заліўся салаўём. А ў перапынках коса пазіраў на мяне, нібы гаварыў: вучыся. Бацька, які выйшаў на панадворак, і бачыў ад пачатку да канца канцэрт, не варушыўся, адно радасна пасміхаўся, ды паглядваў то на мяне, то на шпака.

Я вяртаўся ў горад у добрым гуморы. Хоць крыху ламала паясніцу, балелі рукі, бацькам добра-такі дапамог. Адчыніў дзверы, пераступіў парог пакоя. Патыхнула смуродам. Насустрач памкнуўся падняцца з ложка Алег, ды толькі хіснуўся ў адзін бок, у другі і зноў бездапаможна асеў. За сталом, застаўленым пустымі бутэлькамі, рэшткамі закускі і акуркамі з бяздумнай ухмылкай на твары і цыгарэтай у руцэ разваліўся на крэсле асалавелы Казік.

— Андрэй! — жаласліва-плаксівым голасам пачаў Алег. — Паглядзі, што гэты наркот з рыбкамі зрабіў!

Я падышоў да акварыума. Вада ў ім была чырванавата-бурая, паверх яе, бела-ружовымі жыватамі дагары, плавалі ўсе як адна мёртвыя рыбкі.

— Гэта ж ён віна ім наліў! — сказаў Алег.

— Сынок! — ашчэрыў рудыя зубы Казік.— Што ты бядуеш па рыбках? Я сябе не шкадую, а ён мне пра нейкія рыбкі гародзіць...

— Нашто патруціў рыбак? — спытаў я, ледзь стрымліваючы сябе.

— А я хацеў паглядзець, будуць яны піць «чарніла» ці не?! — здзекліва зарагатаў Казік і пагрозліва падняўся з-за стала.

Нейкі момант я вагаўся ў роздуме. У душы ўсё кіпела, гатовы быў рынуцца на гэтага нікчэмнага чалавека і набіць морду...

— А дзе Іван? — урэшце, спытаў Алега, цягнучы час.

— Яшчэ не прыехаў з дому. Хутка павінен быць. А гэты... Сабраў кампанію, мяне прымушаў піць...

— Байструк! Я табе што? У горла ліў? — вызверыўся Казік.

У гэты момант шырока расчыніліся дзверы, на парозе з сумкай і цэлафанавым пакетам у руках стаяў Іван.

— Прывітанне! А-а-а, Андрэй прыехаў! Ну, як тут нашы рыбкі? Я мяшэчак жвіру і каменьчыкаў прывёз, — радасна паведаміў ён.

— Іван! — адарваўся ад ложка і таропка загаварыў скрозь слёзы Алег.— Няма рыбак. Паглядзі. Няма. Патруціў «чарнілам»... Ён... Наркот...

Іван паставіў ношку, падышоў да акварыума. У імгненне карак і твар хлопца наліліся нядобрай чырванню. Ён сціснуў велізарныя кулакі, моўчкі павярнуўся і паволі стаў набліжацца да Казіка.

— Ты што гэта, падла, зрабіў? Га? Ану збірай свае транты! — загадаў рашуча, цвёрда.

— А я і сам не хачу з вамі жыць! Сабраліся тут, святыя... Я ўжо дамовіўся з хлопцамі з дзясятага пакоя, — апасліва адступаў Казік ад раз’юшанага Івана.

— Дык гэта ты, п'янтос, напаследак вырашыў напаскудзіць?! — ірвануўся, ухапіў загрудкі спалоханага Харлапа, падцягнуў да сябе.— Андрэй! Дастань яму чамадан! Сынок! Адчыні дзверы!

Іван лёгка крутануў перад сабою ўшчэнт перапалоханага Казіка і так, адной рукою трымаючы за каўнер, а другой за штаніну, панёс да выхада. Не даходзячы метры са два да дзвярэй, якія паслужліва адчыніў павесялелы і крыху працверазелы Алег, паставіў на ногі. Я не паспеў і вокам міргнуць, як Казік, выкінуты магутным выспяткам, апынуўся на калідоры.

На шум з суседніх пакояў выскачылі хлопцы, здзіўлена загаманілі:

— Іван! Ты што гэта?

— Што здарылася?

— Камандзіроўку лысаму выпісаў, — растлумачыў пад дружны смех хлопцаў Іван і зачыніў у пакой дзверы. Крыху пастаяў, падумаў, рашуча сказаў: — Акварыум я зараз памыю, набяру вады. А заўтра купім рыбак.

— Правільна! У мяне грошы ёсць, я з'езджу і куплю, — замітусіўся Алег.

— Навошта табе аднаму траціцца? Скінемся... Так, Андрэй?

— Няма і гаворкі. Грошы невялікія. А рыбкі няхай будуць.

Улегліся страсці, толькі «сынок» усё яшчэ шморгаў носам ды бубнеў, успамінаючы нядобрым словам «татку». Я прыгадаў, што абяцаў пазваніць Зіне, з якой пазнаёміўся на танцах неўзабаве пасля вяртання са службы. У мяне самыя сур'ёзныя намеры да дзяўчыны, меркаваў, калі ўсё будзе добра, ажаніцца. Спусціўся з чацвёртага паверха, падышоў да вахцёра, папрасіў дазволу патэлефанаваць. Ад дзядзькі Сцяпана, сёння дзяжурыў ён, патыхнула густым перагарам. Хлопцы добра вечарам пачаставалі і паспелі апахмяліць.

Так паўтаралася ў кожнае дзяжурства дзядзькі Сцяпана. З танцаў хлопцы часцей за ўсё вярталіся з дзяўчатамі. І тут на іх шляху вырастала перашкода. Суровы і няўмольны на ўсе просьбы прапусціць, вахцёр шматзначна паказваў на свой наручны гадзіннік, пасля тыцкаў пальцам у «Правілы...», што віселі побач, на сцяне, ў зашклёнай рамачцы.

— Не магу, хлопцы. Парадак ёсць парадак. У кожнага свая работа. Не дай бог што, якая праверка — з мяне ж скуру знімуць.

Каб зберагчы скуру старога і дабіцца свайго, той-сёй з хлопцаў імчаў у свой пакой, даставаў загадзя прыхаваную бутэльку, выцягваў ніжнюю шуфлядку ў стале вахцёра і наліваў у шчарбатую шклянку віна ці гарэлкі, якая тут жа і апаражнялася.

Пасля некалькіх такіх аперацый дзядзька Сцяпан чырванеў, лагаднеў, па-змоўніцку падміргваў хлопцам і спрактыкаваным, ацэньваючым позіркам акідваў кожную дзяўчыну.

Звычайна ля стала вахцёра збіраўся цэлы кагал тых, хто любіў пазубаскаліць, каму проста не спалася ці быў таксама на падпітку. Прасілі дзядзьку Сцяпана расказаць, дзе і як ён параніў нагу і чаму кульгае. І амаль кожны раз чулі штосьці новае. Не сказаць, каб у старога была ўжо такая багатая фантазія, бо і штосьці «змарозіць» трэба мець талент. Аднак днём, калі інтэрнат пусцеў, наўкола рабілася ціха і сумна, дзядзька Сцяпан ішоў у чырвоны куток, браў з паліцы якую-небудзь кніжку, пераважна на ваенную тэматыку. Прачытаўшы з дзясятак старонак, ён стамляўся і пачынаў думаць, як прыстасаваць прачытанае да сваёй асобы. У выніку нараджалася новая гераічная гісторыя з жыцця і барацьбы дзядзькі Сцяпана.

Хлопцы, вядома, пакеплівалі са старога, і тады ён як галоўны аргумент называў прозвішча аднаго праслаўленага камандзіра.

— Дык вось, — пераконваў сваіх слухачоў вахцёр, — мы з ім былі разам у акружэнні, сядзелі ў балоце, пілі іржавую ваду і жабам пстрычкі давалі, каб не лямантавалі і не перашкаджалі слухаць прыроду.

Хлопцы сустракалі чарговую выдумку старога дружным рогатам і спакваля разыходзіліся па сваіх пакоях. Паступова вахцёра разбіраў сон, і ён, паклаўшы галаву на рукі, спачатку штосьці яшчэ мармытаў ці то з кімсьці спрачаўся, пасля моцна засынаў на сваім адказным пасту. А пра нагу хадзілі розныя чуткі. Адны гаварылі, што стары ў маладосці быў добрым бабнікам і аднойчы, завітаўшы да чужой кабеты, уцякаў ад мужа, няўдала скокнуў з трэцяга паверха. Іншыя даводзілі, што будучы п'яным, Сцяпан трапіў пад машыну. Аднак як было на самай справе, ніхто не ведаў.

Вахцёр згодна кіўнуў галавой, і я набраў патрэбны нумар. Доўга ніхто не падыходзіў, і раптам голас самой Зіны:

— Слухаю...

— Зіна! Гэта Андрэй. Добры дзень! Можа, сёння сустрэнемся? — Сходзім у кіно?

У адказ працяглае маўчанне, і я адчуў яшчэ не зусім уцямную трывогу. Перапытаў:

— То як, Зіна? Згодна?

Сцішаным голасам, нейкім чужым і абыякавым, дзяўчына папрасіла:

— Не звані мне больш, Андрэй. Я выходжу замуж...

І паклала трубку.

...Што я вось у гэты момант раблю? Сяджу, як ужо казаў, на крэсле перад тумбачкай, абняў яе каленямі, пільна ўзіраюся ў невялікае круглае люстэрка, прыхіленае да напалову пустой бутэлькі віна. Побач стаіць налітая шклянка, на газеце ляжыць спакуслівая бліскучая кілька і яшчэ месціцца маленькая алюмініевая каструля з бульбай у лупінах — ад яе ідзе цёплая пара. І, вядома, стаіць акварыум, які нагадвае мой пакой і ў якім плаваюць самотныя мечаносцы і гупі.

З люстэрка на мяне глядзіць сумны, паўнаваты, з крыху абвіслымі шчокамі, твар стомленага чалавека з патухлым позіркам цёмных вачэй. Нізкі лоб скрозь у прыкметных гарызантальных барознах, шыракаваты нос, спярэшчаны сінімі і чырвонымі жылкамі. Выпірае з засаленага каўняра расшпіленай сарочкі востры кадык. А на галаве ад былой грывы русых валасоў — рэдкі пух, толькі па баках, каля вушэй, яшчэ можна і расчоскай калі-нікалі прыгладзіць.

Робіцца на душы тужліва, і я пачынаю сам з сабою гаворку, пяшчотна гладжу сябе па лысіне, ціха мармычу:

— Ты, Андрэй, ха-а-арошы чалавек. Ха-а-арошы. Віншую цябе з днём нараджэння. Будзь, Андрэй, здаровы, сыты, шмат не пі. Хоць п'еш ты за свае кроўныя, халявы не любіш... Жывеш ты, Андрэй, ціха, мірна, упоперак горла нікому не стаіш. Усё ў цябе будзе добра, дажывеш і да пенсіі, а там... Толькі, Андрэй, гарэлкі многа не пі. А то пайшоў раніцою ва ўмывальнік вадзіцы халоднай глытнуць, дык рукі калаціліся так, што ледзьве шклянку аб зубы не пабіў...

Пагаманіў, пахваліў сябе (ніхто ж чужы не пахваліць!), лягчэй стала. Само жыццё падалося не надакучлівай зменай дзён начамі, не абрыдлай будзённа-шчынай, а тым, чым яно павінна быць: дараваным Богам і прыродай быццём, поўным гармоніі, і, вядома, супярэчнасцей.

Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА

# МАСТАЦКАЕ ЎВАСАБЛЕННЕ АЙЧЫННАЙ ГІСТОРЫІ Ў ТВОРАХ КАНЦА XX СТАГОДДЗЯ

На працягу XIX—XX стагоддзяў у літаратурным працэсе Беларусі перыядычна адбываліся значныя культурна-эстэтычныя зрухі, калі ўзрастала цікавасць да вывучэння айчыннага мінулага, гісторыка-культурнай спадчыны. Асабліва плённымі ў плане далучэння грамадскасці да вялікіх духоўных здабыткаў народа сталі першая палова XIX, першая трэць XX, другая палова XX стагоддзяў. Важкі ўклад у мастацкае асэнсаванне мінулага ўнеслі прадстаўнікі рамантычна-асветніцкага напрамку — Ян Баршчэўскі, Вацлаў Ластоўскі, Уладзімір Караткевіч. Менавіта апошні з іх вылучыўся не толькі як адзін з заснавальнікаў жанру гістарычнай прозы ў беларускай літаратуры, але і як стваральнік рамантычна-асветніцкай традыцыі асэнсавання мінулага, што ў другой палове XX стагоддзя, на мяжы XX і XXI стагоддзяў атрымала працяг у творах А. Лойкі, Л. Дайнекі, К. Тарасава, В. Іпатавай, У. Арлова, В. Чаропкі, А. Наварыча і іншых пісьменнікаў.

Адметнасць мастацкага асэнсавання мінулага прадвызначалася рознымі абставінамі, сярод якіх найперш сучасная грамадска-культурная свядомасць пісьменніка, ад якой у многім залежалі накіраванасць аўтарскага вымыслу, характар эстэтычнай рэканструкцыі гісторыі на аснове фальклорных і этнаграфічных крыніц, ступень выкарыстання гістарычных звестак. Значную ролю міфапаэтычнага і фальклорнага пачаткаў у станаўленні і развіцці беларускай прозы пра мінулае выяўляе В. Шынкарэнка, якая даследуе праблемы паэтыкі сучаснай гістарычнай прозы. Грунтоўна аналізуючы яе, яна прыйшла да слушнай высновы, што за апошнія дзесяцігоддзі выразна прасочваюцца наступныя тэндэнцыі. Па-ранейшаму значную ролю выконвае арыентацыя на традыцыйныя формы з іх уважлівым стаўленнем да канкрэтных фактаў і асоб, дакументальнай асновы, з максімальнай набліжанасцю да аб'ектыўнай, праўдзівай перадачы падзей, характараў і разумнай доляй домыслу ў іх асвятленні. Разам з тым эфектыўна сцвярджае сябе прыкметна адрозная ад папярэдняй разнавіднасць жанру, што бярэ як асноўны прынцып мастацкай умоўнасці, скандэнсаваны ці то ў міфалагічным, ці то ў фальклорным казачна-легендарным матэрыяле. Такі падыход дазваляе ў большай ступені выдумку, адвольнасць у падачы і тлумачэнні закранутага матэрыялу [1, с. 201].

А вось І. Дамарад праз асэнсаванне праблематыкі і паэтыкі гістарычнай прозы В. Іпатавай аргументавана сцвярджае, што ў мастацкім узнаўленні мінулага важная роля належыць не толькі паказу рэальных гістарычных асоб і падзей, але і звароту пісьменнікаў да здабыткаў фальклорна-міфалагічнай спадчыны. Сучасных аўтараў прыцягваюць усе перыяды і эпохі жыцця беларусаў ад міфічных часоў да нашых дзён, адбываецца пераасэнсаванне мінуўшчыны, кожны пісьменнік імкнецца па-свойму паказаць гістарычныя падзеі, разгледзець іх у агульнаславянскім і еўрапейскім кантэксце [2, с. 6].

Уладзімір Караткевіч і яго паслядоўнікі асэнсоўваюць гісторыю як цэласны працэс перадачы назапашанага народам (нацыяй) духоўнага і інтэлекту-

альнага вопыту, выкарыстоўваюць гістарычны матэрыял як аснову для асэнсавання і пераасэнсавання сучаснасці. А. Дарагакупец вылучае дзве асноўныя тэндэнцыі мастацкага асэнсавання гісторыі — рамантызацыі і інтэлектуалізацыі, — вызначэнні якіх, думаецца, патрабуюць пэўнага ўдакладнення. Тэндэнцыя рамантызацыі рэалізуецца ў фальклорна-міфалагічным і рамантычна-міфалагічным узнаўленні мінулага, у дакументальна-канкрэтызаванай рэканструкцыі былых часоў; у асэнсаванні гісторыі як цэласнага працэсу перадачы назапашанага гістарычнага вопыту [3, с. 15]. У сваю чаргу нельга не пагадзіцца з А. Дарагакупец, тэндэнцыя інтэлектуалізацыі характарызуецца ўзмацненнем суб’ектыўнай, аўтарскай канцэпцыі мінулага, дзе гістарычны матэрыял выкарыстоўваецца пісьменнікамі як аснова для асэнсавання і пераасэнсавання сучаснасці.

Аўтары рамантычна-асветніцкага напрамку паказвалі нацыянальную гісторыю як арганічную частку сусветнай, суадносячы з паступовым рухам усяго чалавецтва. Мастацкі шырокамаштабны вобраз айчыннай даўніны, эпічнае выяўленне гісторыі раскрываліся праз адлюстраванне перыядаў, сюжэтных ліній, рэтраспекцыю, супастаўленне і параўнанне лёсу беларусаў з лёсам іншых народаў. Пры гэтым для перадачы каларыту эпохі звычайна выкарыстоўваўся драматычна напружаны аповед. Гэта рабілася, каб падкрэсліць трагічны характар мінулага ці трагічны лёс канкрэтнай асобы.

Даследаванне сучаснасці праз мінулае патрабуе мастацка-філасофскага асэнсавання, спасціжэння мэты і сэнсу чалавечага быцця ўвогуле. Зварот да гістарычна аддаленых часоў, выяўленне вечнага ў плыні часу вымагаюць шырокага ахопу мінулага. Для гэтага пісьменнікамі выкарыстоўваюцца легендарныя і летапісныя крыніцы, пэўныя гістарычныя звесткі. Легендарная або летапісная асоба, набліжаная да сучаснікаў пісьменніка, гераізуецца і паэтызуецца, чалавечыя ўчынкі на гістарычным фоне асэнсоўваюцца як гістарычныя дзеі, ідэйна-эстэтычнай дамінантай асэнсавання мінулага выступае патрыятычны пафас, гераічная тэматыка выяўляецца як нацыянальна арыентаваная.

Беларуская літаратура другой паловы XX стагоддзя ўлічвала вопыт мастацкай традыцыі, што адбілася ў паэмах «Курган», «Бандароўна», «Магіла льва» Я. Купалы, нізцы вершаў «Старая спадчына» са зборніка «Вянок», «Апавяданні аб іконніку і залатару...» М. Багдановіча, дзе абазначылася непарыўнасць сувязі мінулага беларусаў з сучаснасцю. Высокамастацкая гістарычная проза У. Караткевіча, чэшскага пісьменніка У. Ванчуры, балгарскага Э. Станева стала паказальнай вехай развіцця рамантычна-асветніцкага напрамку: выпрацавалася ўстойлівая традыцыя выкарыстання здабыткаў фальклорнай, міфалагічнай спадчыны, старажытнага пісьменства. Пашыралася мастацкая практыка ўвасаблення мінулага на аснове спалучэння канкрэтна-гістарычных, дакладных звестак і шырокага выкарыстання пісьменніцкага вымыслу, фантазіі.

Адметнасць творчай манеры У. Караткевіча ў тым, што ў яго творах спалучаны гістарычныя часы: ад іх перакрыжавання праз легендарныя матывы і вобразы («Дзікае паляванне караля Стаха») да філасофскага асэнсавання трагічнага цыклізму айчыннай гісторыі («Каласы пад сярпом тваім»). Ускладненыя перакрыжаванні, дзе легендарны матэрыял спалучаецца з уласна гістарычным, выяўляюць гуманістычны змест аўтарскай канцэпцыі мінулага і сучаснасці («Чорны замак Альшанскі»). У. Караткевіч паглыблена асэнсоўвае мінулае: кантраснае супастаўленне розных гістарычных момантаў дазваляе раскрыць новы змест у мінулым, які яшчэ не быў прадметам адлюстравання ў рамантычна-асветніцкай традыцыі. Яшчэ адной адметнасцю творчай манеры пісьменніка можна лічыць пошук і паказ нацыянальнага героя — выключнай асобы, якая ўвасабляе гістарычны лёс беларусаў на пэўным этапе.

Уладзімір Караткевіч праз інтэрпрэтацыю аб’ектыўна-дакументальных, канкрэтна-гістарычных звестак стварыў уласны варыянт айчыннага мінулага —

легенду пра нацыянальнага героя (аповесць «Сівая легенда», раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»). Мастацкі дакументалізм патрабуе, паводле перакanання У. Караткевіча, адзінства гістарычнага зместу і гістарычнай формы. Наватарскае ўвасабленне мінулага наглядаецца як у ягонай ранняй аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха», так і ў рамане «Чорны замак Альшанскі», напісанага значна пазней, што дазваляе яскрава прасачыць спецыфіку ўласцівага творчай манеры аўтара адметнага тыпу асэнсавання мінулага. У. Караткевіч, як вядома, абапіраўся на дэтэктыўную форму падачы матэрыялу.

Раман Ракутовіч і Юрась Братчык становяцца кіраўнікамі паўстанняў, здзяйсняюць подзвігі ў імя Радзімы і раскрываюцца як пазачасавыя героі (ім выступае і Тэафіл — галоўны персанаж балгарскага пісьменніка Э. Станева). У. Караткевіч імкнецца адлюстраваць «Хрыстоў дух» Рамана Ракутовіча і Юрася Братчыка ў гістарычным працэсе, акрэсліць іх месца ў нацыянальным мінулым. Таксама ў вышэйшай ступені кантрасна супастаўляе паўстанцаў і шляхту І. Клаз у рамане «Белая Русь» (1977), дзе паказана народнае паўстанне пінчукоў. Казацкія загоны Багдана Хмяльніцкага прыходзяць на беларускія землі, абуджаюць народныя хваляванні. Адзін з загонаў, які захоплівае і абараняе Пінск, вядзе Антон Нябаба, адданы сваёй справе паўстанец. Такім жа паказаны ў творы Гаркуша, казак па духу і беларус па крыві і думках, які марыць пра вызваленне роднага краю ад панскага прыгнёту. Гэтыя героі духоўныя пабрацімы Р. Ракутовіча і Ю. Братчыка, яны спалучаюць якасці народнага змагара і «мужыцкага Хрыста».

Перавага аўтарскага вымыслу над канкрэтна-гістарычным, дакументальным матэрыялам абумовіла выбар дэтэктыўнай формы («Дзікае паляванне караля Стаха», «Чорны замак Альшанскі»). Кампазіцыя аповесці і рамана ўскладнялася перакрыжаваннем часоў, што актуалізавала ідэйна-мастацкую ролю скразных вобразаў: эксплліцытных аўтараў Андрэя Беларэцкага і Антона Космача — герояў сучаснасці, якія спазнаюць мінулае, і прыналежных мінуламу герояў — Стаха Горскага і Вітаўта Альшанскага, якія сваёй гістарычнай дзейнасцю ўплывалі на сённяшні дзень і ў выніку прадвызначалі трагізм сучаснасці. Такім чынам, мінулае «ўцягвалася» ў сучаснасць, гісторыя асэнсоўвалася не толькі як актуальная, але і як быццёва знакавая рэалія для сучаснасці, а сучасныя маральна-этычныя імператывы, носьбітамі якіх выступаюць эксплліцытныя аўтары, прадвызначалі каардынаты гераічнага і трагічнага ў мінулым і сучасным, у выніку чаго адкрываліся новыя далягляды бачання мінулага.

У рамане «Каласы пад сярпом тваім» У. Караткевіча суседнічаюць часам гістарычная праўда і мастацкі вымысел. Як і ў творы чэшскага пісьменніка У. Ванчуры «Малюнкі з гісторыі народа чэшскага», мастацка-гістарычны сінкрэтызм выяўлены пераважна на вобразным узроўні: паказваліся рэальныя асобы, легендарныя вобразы, літаратурныя героі. Караткевічаўская традыцыя атрымала плённы працяг у творах яго сучаснікаў і паслядоўнікаў. Стылізацыя пад летапіс выступае прадуктыўным мастацкім сродкам увасаблення гісторыі. Яна плённа выкарыстоўвалася і сучаснікам У. Караткевіча Э. Ялугіным у аповесці «Мсціслаўцаў посах» (1971), у якім апавядаецца пра пачатак жыццёвага шляху Пятра Мсціслаўца — аднаго з вядомых усходнеславянскіх першадрукароў. Вызначальным момантам для яго было знаёмства з «Псалтыром» Францыска Скарыны, пасля чаго малады чалавек адпраўляецца ў Вільню вучыцца ў асветніка. Э. Ялугін падрабязна апісвае падзеі з жыцця героя, прасочвае яго творчае і асабаснае сталенне. У. Караткевіч таксама звяртаў вялікую ўвагу на асабаснае развіццё сваіх персанажаў: у рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» аповед па чарзе спыняецца на кожным з герояў, на яго ранейшых учынках. Такая дынамічная падзейнасць абумоўлена своеасаблівым стылем, у аснове якога прыём «летапіснага часу» — адзін са спосабаў пісьменніцкага ўвасаблення гістарычнай рэчаіснасці.

Караткевічаўская традыцыя шмат у чым працягвалася пісьменнікамі другой паловы — канца XX стагоддзя. У рэчышчы ўзмацнення мастацкага дакументалізму працавалі Л. Арабей, В. Хомчанка, Э. Ялугін, А. Лойка, якія паэтызавалі вобразы вядомых культурных дзеячаў, падкрэслівалі іх месца ў гісторыі. Як і караткевічаўскія героі, здзяйсняюць культурна-асветніцкія подзвігі і раскрываюцца як пазачасавыя асобы, у прыватнасці, Цётка ў творах Л. Арабей («На струнах буры» (1967), «Стану песняй» (1977)). Глыбіннае ўвасабленне паэткі і грамадскай дзяячкі ў рамане В. Коўтун «Крыж міласэрнасці» (1988). Вобраз Франішка Багушэвіча шматгранна асэнсоўвае В. Хомчанка («Пры апазнанні — затрымаць» (1983)), Цішкі Гартнага — Э. Ялугін («Пасля нябыту» (1983), «Без эпітафіі» (1989)).

Шырока выкарыстоўваў караткевічаўскія вобразы «Хрыстоў духу» А. Лойка, які стварыў раман-эсэ пра Янку Купалу «Як агонь, як вада» (1982) і раман «Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае» (1989). Прынцып адзінства гістарычнай формы і гістарычнага зместу А. Лойкам выяўляўся на ідэйна-эстэтычным узроўні. Пісьменнікам увасаблялася мастацкая легенда пра чалавека і паэта, такога, як агонь, як вада для беларускага народа. Купала выступае культурным спадкаемцам Яські-гаспадара з-пад Вільні і Мацея Бурачка, духоўным выразнікам багатай на грамадскія зрухі эпохі, які здолеў узняцца над сваім часам.

У рамане «Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае» А. Лойка звярнуўся да прыёму стылізацыі пад старажытнае пісьмо, фактычна працягнуў традыцыю рамана У. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Скарыну хвалюе «Жыціе Ефрасінні Полацкай» і спадчына Кірылы і Мяфодзія, ён усведамляе значнасць справы Яна Гуса і Марціна Лютара. Але несмяротнасць у часе прыносяць першадрукару ўласныя словы пра вялікую ласку да той зямлі, дзе нарадзіўся і вырас чалавек, — versus planus і versus velox, як назвае іх доктар Фаўст, скарынаўскі аднадумца. Такім чынам, асоба знакамітага асветніка паэтызуецца і ўзвялічваецца, што з'яўляецца адным з прыкладаў асэнсавання гісторыі ў вобразах вядомых культурна-гістарычных дзеячаў.

Вольга Іпатава разважае над жыццёвым шляхам Еўфрасінні Полацкай у аповесці «Прадыслава» (1971). У. Арлоў асэнсоўвае дзейнасць Міколы Гусоўскага ў аповесці «Час чумы» (1986). А. Лойка не толькі працягнуў караткевічаўскую традыцыю, але і адлюстраваў асобу самога Уладзіміра Караткевіча ў рамане-эсэ «Уладзімір Караткевіч, або Паэма Гарсія Лойкі» (2009).

Багатую на падзеі эпоху Вітаўта і час пасля яго смерці адлюстроўвае К. Тарасаў у рамане «Пагоня на Грунвальд» (1980), дзе перакрыжоўваецца вялікая Грунвальдская бітва і час двоеўладдзя, выразна ўвасабленага бітвай на рацэ Святой (1435 год). Менавіта ў гэтай братазабойчай сечы гіне з сынам баярын Андрэй Ілініч, які ведаў Вітаўта, стаў добрым здзяйсняльнікам княжай волі, мужна змагаўся пад Грунвальдам. У фінальнай падзеі рамана паўстае ўвесь трагізм айчыннай гісторыі.

Як і У. Караткевіч, актуалізуе ідэйна-эстэтычную ролю скразнога вобраза К. Тарасаў у аповесці «Тры жыцці княгіні Рагнеды» (1986), дзе праз жыццё галоўнай гераіні адлюстроўваюцца тры часавыя пласты. Выбрана паслядоўная храналогія — дзяцінства, жыццё з князем Уладзімірам, манаства. Аднак наследаванне раману «Чорны замак Альшанскі» выяўляецца на ідэйна-мастацкім узроўні. Кожны наступны перыяд жыцця Рагнеды параўноўваецца і своеасабліва «перакрыжоўваецца» з папярэднім праз мары і спадзяванні, успаміны гордай палачанкі, з якіх паўстае вобраз роднай зямлі — скразны ў творы. Жыццёвыя страты Рагнеды абагульняюцца да гістарычных, асэнсоўваюцца ў самой плыні падзей, дзе, як пераконвае пісьменнік, няўвага да мінулага вяртае яго трагізм у пазнейшы час.

Мінулае «ўцягваецца» ў агульную плынь гісторыі і ў творах У. Арлова. Аповесць «Дзень, калі ўпала страла» (1987) паказвае яшчэ адну вядомую асобу з

трагічным лёсам — полацкі князь Уладзімір, а па-простаму Валодша, які гатовы ўзначаліць аб'яднаную барацьбу супраць крыжакоў. Ён нечым нагадвае фалькфлорнага волата, асноўнае для якога — абарона роднай зямлі. Дзень заўчаснай смерці князя становіцца днём, калі, гаворачы метафарычнай мовай, на родны край падае страла болю і пакут. Тыпалагічна блізкая гістарычная сітуацыя — зацятая барацьба з крыжакамі — узнаўляецца Л. Дайнекам у рамане «Меч князя Вячкі» (1987), дзе герой не адмаўляецца ад асуджанага змагання, хоць і ўсведамляе, што не зможа перамагчы.

Яшчэ больш узбуйняе трагічную плынь айчыннага мінулага праз адлюстраванне вядомых гістарычных асоб В. Чаропка, прынамсі, у рамане «Храм без Бога» (1992), выяўляючы чалавека і яго духоўны свет пад уплывам жорсткіх гістарычных абставін. Ім вымушаны падпарадкавацца і слуцкі дружыннік Мацей Кузьмініч, які і сам робіць шмат злачыннага, губляючы свой духоўны храм, і князь Міхайла Глінскі, маршалак Вялікага Княства Літоўскага, таленавіты воін і дыпламат, які сваімі справамі падобны да Вітаўта Альшанскага. Здавалася б, не можа ў адным чалавеку спалучацца герой, які перамагае татар пад Клецкам, і здраднік, гатовы ў сваім паўстанні супраць караля Жыгімонта любымі сродкамі дамагацца свайго, аднак менавіта такім увасоблены Глінскі В. Чаропкам. У вялікім храме без Бога наўрад ці знойдзецца месца звычайнаму чалавечаму каханню, але і яно паказана ў вобразе Яні, якая ратуе Мацея Кузьмініча.

Думаецца, важная тэндэнцыя асэнсавання мінулага выяўляе наследаванне караткевічаўскаму раману «Каласы пад сярпом тваім». Пісьменнікі канца ХХ стагоддзя імкнуцца маштабна адлюстраваць даўніну, дзе паўстаюць як вядомыя гістарычныя асобы, так і літаратурныя персанажы, дзе ідэйна-мастацкае акцэнтаванне прыпадае менавіта на персанажы, народжаныя фантазіяй. Агульнавядома, што эстэтычна значным для У. Караткевіча стала мастацкае ўвасабленне мінулага на аснове канкрэтна-гістарычных, дакладных звестак і шырокага выкарыстання вымыслу. У. Караткевіч, як і В. Скот, на творчыя напрацоўкі якога ён абапіраўся, не выводзіў на першы план вядомых гістарычных персанажаў.

Цэнтральнае месца ў раманах В. Іпатавай з гістарычнага цыкла «Уладары ВКЛ» «Залатая жрыца Ашвінаў» (1997—1999) і «Вяшчун Гедзіміна» (1999) займаюць народжаныя аўтарскай фантазіяй героі — жрыца Жывена і вяшчун Ляздзейка, праз якіх не толькі раскрываюцца першыя асобы Вялікага Княства Літоўскага, а і асэнсоўваецца тагачасная эпоха. У першым ужо творы час праўлення Міндоўга адлюстраваны праз наваградскія паданні і дакументальныя звесткі, якія і выяўляюць вялікія складанасці вымушанага суіснавання язычніцтва і хрысціянства. Праз веравызнанне ілюструюцца духоўныя запатрабаванні тагачаснага чалавека. У гэтых неадназначных абставінах раскрываецца непаўторны духоўны свет жрыцы Жывены і вешчуна Ляздзейкі, у чым язычніцкіх святароў можна параўнаць з Алесем Загорскім У. Караткевіча. Духоўная прыналежнасць герояў роднаму краю, гуманістычнае бачанне рэчаснасці, якое значна апярэджвае сваю эпоху і набліжаецца да адраджэнскай думкі, сведчаць аб разуменні пісьменніцай мінулага ў маральна-этычным святле.

Гэтая ж праблематыка дамінуе і ў апошнім з трылогіі рамане «Альгердава дзіда» (2001), у цэнтры якога ўжо вядомая гістарычная асоба — сын Гедзіміна Альгерд. Для нашай літаратуры рэцэпцыя мінулага праз духоўны свет вядомай гістарычнай асобы не з'яўляецца наватарскай. Найбольш удалая спроба — раман Л. Дайнекі «След ваўкалака» (1988), дзе праз легендарна-міфалагічнага полацкага князя Усяслава адлюстраваны такі ж легендарны час. У іншых выпадках твор пра ўладара ператвараецца ў мастацкі летапіс яго ўчынкаў, што не дазваляе пісьменніку ў поўнай меры ўвасобіць духоўны змест мінулага, стварыць запамінальны воблік эпохі.

Шэраг створаных аўтарскай фантазіяй персанажаў у рамане А. Наварыча «Літоўскі воўк» (2000—2003), у якім паўстае любімая тэма У. Караткевіча — паўстанне 1863—1864 гг. Кастусь Каліноўскі не абыдзены ўвагай, у прыватнасці, А. Якімовічам («Кастусь Каліноўскі» (1971)), А. Мальдзісам («Восень пасярод вясны» (1984)), У. Арловым у апавяданнях «Пяць мужчын у леснічоўцы» (1985), «Рандэву на манеўрах» (1989). Постмадэрнісцкая манера пісьма А. Наварыча з уласцівымі ёй іроніяй, метафарызацыяй і сімвалізацыяй, праўда, не выяўляе караткевічаўскі вобраз Каліноўскага-патрыёта і заступніка. А. Наварыч дзякуючы літаратурнай гульні па-іншаму праектуе рамантычнае асэнсаванне мінулага: у шматзначным адлюстраванні літоўскага ваўка, які страціў дадзеную ад нараджэння свабоду, бачыцца вобраз паўстанца — інсургента, якім быў і мясцовы шляхціц Артур Буевіч, і таямнічы канспіратар Каліноўскі. Вобраз ваўка — гэта метафарычнае абазначэнне не толькі паўстання, але і яго душыцеляў. Па-сутнасці, пісьменнік праз літаратурных герояў шматбакова раскрывае маральна-этычны змест той гістарычнай сітуацыі — грамадства ў значным сацыяльным зруху, дзе людзі, якія страцілі прынятыя раней нормы, выяўляюць не чалавечнасць, а воўчую зацятасць у сваім змаганні — і спрабуе асэнсаваць у гэтым кантэксце новыя рысы асобы Каліноўскага.

Такім чынам, караткевічаўская традыцыя асэнсавання айчыннай гісторыі працягваецца ў творчасці пісьменнікаў канца XX стагоддзя. Крэатыўнае супярэчанне рамантычна-асветніцкай рэпрэзентацыі мінулага, якое назіраецца, у прыватнасці, у рамане «Літоўскі воўк», пацвярджае эстэтычную значнасць гэтай традыцыі. У. Караткевіч стварыў высокамастацкія прыклады ўвасаблення мінулага, якія і паўплывалі на асэнсаванне айчыннай даўніны. Сфарміравалася эстэтыка адлюстравання мінулага ў вобразах вядомых культурна-гістарычных дзеячаў, рэцэпцыі трагічных момантаў нацыянальнай гісторыі, маральна-этычнага асэнсавання вызначальных эпох.

## Літаратура:

1. Шынкарэнка, В. К. Нястомных пошукаў дарога: праблемы паэтыкі сучас. беларус. гіст. прозы / В. К. Шынкарэнка. — Мінск: Беларус. навука, 2002. — 208 с.

2. Дамарад, І. І. Гістарычная проза Вольгі Іпатавай: праблематыка і паэтыка: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук : 10.01.01 / І. І. Дамарад; Беларус. дзярж. ун-т. — Мінск, 2002. — 20 с.

3. Дарагакупец, А. М. Тэндэнцыі рамантызацыі і інтэлектуалізацыі ў сучаснай беларускай гістарычнай прозе : аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук : 10.01.01 / А. М. Дарагакупец; Беларус. дзярж. ун-т. — Мінск, 2005. — 20 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 10 кастрычніка 2011 года.

## Ганна Навасельцава
## «Мастацкае ўвасабленне айчыннай гісторыі ў творах канца XX стагоддзя»

### Рэзюмэ

У артыкуле на матэрыяле твораў А. Лойкі, Л. Дайнекі, К. Тарасава, В. Іпатавай, У. Арлова, В. Чаропкі, А. Наварыча і шэрагу іншых аўтараў разглядаецца спецыфіка мастацкага ўвасаблення айчыннай гісторыі ў апошняй трэці XX стагоддзя. Адзначаецца, што У. Караткевіч стварыў высокамастацкія прыклады ўвасаблення мінулага, якія і напрыканцы XX стагоддзя паўплывалі на літара-

турнае асэнсаванне гістарычнай спадчыны. Пад уздзеяннем караткевічаўскай традыцыі ўвасаблення гісторыі ў творчасці названых пісьменнікаў сфарміравалася эстэтыка адлюстравання мінулага праз вобразы вядомых культурна-гістарычных дзеячаў, эстэтыка рэцэпцыі трагічных момантаў айчыннай гісторыі, маральна-этычнага асэнсавання вызначальных для беларускага мінулага гістарычных эпох.

## Hanna Navaseltsava «The artistic embodiment of national history in the works of Belarusian writers of the late twentieth century»


### Summary

The article is based on the works by A. Loyka, L. Daineka, K. Tarasau, V. Ipatava, U. Arlou, V. Charopka, A. Navarich and other authors and considers the specifics of the artistic embodiment of national history of the last third of the twentieth century. It is stated that Uladzimir Karatkevich created a highly artistic examples of the past embodiments that even at the end of the twentieth century affected the literary interpretation of the historical heritage. Under the influence of Karatkevich history embodiment's tradition in the works of the mentioned writers shaped the aesthetics of the past reflection through the images of famous cultural and historical figures, the aesthetics of the national history tragic moments' reception, moral and ethical conceptualization of the determinant epochs of the Belarusian past.

**Ягор КОНЕЎ**

# ЛЕПШАЕ, ШТО ДОРЫЦЬ НАМ ГІСТОРЫЯ

Апошнім часам Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва» апублікавала ў серыі «Святло мінуўшчыны» шэраг цікавых кніг. Сярод іх асаблівую ўвагу выклікаюць раман Анатоля Бутэвіча «Каралева не здраджвала каралю», жыццяпіс «Симеон Полоцкий» Барыса Косціна і гістарычны нарыс Зінаіды Дудзюк «Леў».

У кожным з гэтых твораў ёсць тое, што выклікае павагу да аўтарскай працы і, разам з тым, слушныя пытанні. Але ў сукупнасці гэтыя кнігі спараджаюць у душы творчы энтузіязм, які, на думку Гётэ, з'яўляецца лепшым з таго, што дорыць нам гісторыя.

* * *

Раман А. Бутэвіча мае па-галантнаму працяглую назву «Каралева не здраджвала каралю, або Каралеўскае шлюбаванне ў Навагародку: Займальны аповед пра каханне 17-гадовай беларускай князёўны Соф'і Гальшанскай і 70-гадовага караля польскага Ягайлы». У нашай літаратуры гэта, бадай, ці не першы аб'ёмны твор, прысвечаны Уладзіславу-Ягайлу і яго чацвёртай жонцы. Змест яго складаюць малавядомыя падзеі польскай і беларускай мінуўшчыны, якія за даўніною часу дазваляюць шматлікія версіі, верагодныя дапушчэнні ды падрабязныя тлумачэнні, на якія аўтар вялікі ахвотнік.

Дарэчы, каралеўскаму шлюбаванню ў Навагародку прысвечана пятнаццаць старонак з трохсот. На працягу астатніх шасцідзесяці раздзелаў галоўныя і другасныя персанажы перажываюць душэўныя і фізічныя пакуты з-за ўзведзенага на каралеву паклёпу ў нявернасці. Перад чытачом па сутнасці разгортваецца драма шэкспіраўскага Атэла са шчаслівым, аднак, фіналам. Каранаваны раўнівец утаймоўвае сваю падазронасць і верыць, што жонка нарадзіла дзетак ад яго, а не ад рыцара Генрыка з Белавежскай пушчы. Такім чынам, мы зноў пераконваемся, што гісторыя — гэта п'еса з нязменным сюжэтам, аднак у кожную эпоху яе выконваюць новыя акцёры.

Аднак у тэатры драматург мусіць дбаць пра ўвагу гледачоў, надаць сцэнічнаму дзеянню дынаміку ды напружанне, інакш шаноўная публіка адрэагуе нагамі. У літаратурным творы пісьменнік мае права адмовіцца ад такіх прыёмаў і забаўляць чытача нетаропкімі развагамі ды грунтоўнымі экскурсамі ў сівую даўніну, этнаграфію і фальклор. Якраз такую манеру і абраў А. Бутэвіч. Часам ягоным героям бракуе дзейснасці, затое ў іхніх успамінах змешчана багата цікавых фактаў, паданняў, звычаяў, народных прымавак і інш. Усё гэта сведчыць пра надзвычайную эрудыцыю аўтара. Аднак напружанага інтарэсу, жадання хутчэй высветліць, як выкруцяцца персанажы з неспадзяванкі, не ўзнікае. Куды больш ахвотна аўтар схільны паразважаць наконт гістарычных шляхоў Беларусі. Нездарма А. Бутэвіч папярэджвае ў прадмове, што мае на руках працяг гістарычнага аповеда — хроніку падзей ад запачаткавання Вялікага Княства Літоўскага да Люблінскай уніі «Паміж Княствам і Каронай». У грунтоўнасці ды падрабязнасці гэтага своеасаблівага часапіса Ягайлавай дынастыі можна не сумнявацца.

Магчыма, новыя героі пісьменніка будуць мроіць і размаўляць крыху менш, а дзейнічаць крыху больш.

Галоўным персанажам рамана аўтар дае асучасненыя трактоўкі. Кароль Ягайла апісаны як вялікі патрыёт беларускіх земляў, прыхільнік суверэнітэту Вялікага Княства Літоўскага і праціўнік яе інкарпарацыі ў Польшчу. Каралева Соф'я не мае аніводнай заганнай звычкі або адмоўнай рысы. Паводзіць сябе былая гальшанская князёўна як анёл, які выпадкова з райскіх шатаў патрапіў на вавельскі трон.

Гісторыя трох шлюбаў Уладзіслава-Ягайлы, кожная з якіх вартая асобнай аповесці ці рамана, пададзена ў пераказах падканцлера Цёлака, які бясконца хітра жмурыць вочы. Шмат разоў падкрэсліваецца ўплыў на польскую палітыку кракаўскага біскупа Збігнева Алясніцкага, аднак ягамосць інтрыган з'яўляецца хіба што ў перадфінальным раздзеле, каб тактоўна прынізіць каралеву. Нейкай цьмянаю засталася роля ў рамане крыжака Зэнака, які вучыць польскіх рыцараў практыкаванням са зброяй, дае Генрыку чытаць трактат пра дзікунствы старажытных скіфаў, даказвае ў працяглай размове неабходнасць жорсткасці на службе каралю, а потым з'язджае ў Прусію.

Ягайлавы ўнутраныя маналогі, якія доўжацца не адну старонку і нават не адзін раздзел, па сутнасці паўтараюць шэраг ідэй — Вялікае Княства Літоўскае знаходзілася на лініі гістарычнага разлому, старажытнае Літоўска-Беларускае Гаспадарства баялася і шанавала ўся сярэдневяковая Еўропа і г. д. І калі чытаеш пра гэта пяты або сёмы раз, то ўжо не жартам нудзішся. Наогул, персанажы твора перш, чым штосьці зрабіць, грунтоўна паразважаюць на гэты конт. Безліч думак і ўспамінаў укладзена аўтарам галоўным чынам у свядомасць і вусны трох асноўных персанажаў — Соф'і Гальшанскай, якая з'яўляецца ўвасабленнем маральнай чысціні і прыроджанай дабрыні, караля Ягайлы, які бясконца хістаецца ў пачуццях паміж любоўю да Літвы і рэўнасцю да жонкі, а таксама белавежскага рыцара Генрыка з Рогава, які па нагаворы патрапіў у вавельскую катоўню. Астатнія персанажы, за выключэннем матулі Генрыка-Шадзібора, апісаны неяк блякла, схематычна. Нават вялікі князь Вітаўт з яго каралеўскімі памкненнямі выглядае невыразным ценем.

У стасунках з чацвёртай жонкаю Ягайла паводзіць сябе як тыповы садыст з манерамі мазахіста. Абылгалі маці ягоных дзяцей, дык ён нават і думкі не дапускае, быццам Соф'я можа быць шчыраю з ім. Ён бясконца патрабуе, каб прызналася ў здрадзе, і разам з тым баіцца пачуць такое прызнанне. Сюды дадаецца невытлумачальная ўпартасць і алагічнасць разваг караля, таму атрымліваецца моцны кактэйль перажыванняў і пачуццяў.

У выніку перажытых мітрэнгаў і турбот ніхто з персанажаў разумнейшым не становіцца. А сітуацыю ў каралеўскай сям'і, у польскай Кароне і літоўскім Княстве фактычна ратуе матуля Генрыка — Шадзібора Дабраслава. Яна здзейсніла ў Белавежскай пушчы паганскі рытуал. Праз пэўны час Соф'я паведаміла пра сваю трэцюю цяжарнасць, ашчаслўлены Ягайла раптоўна паразумнеў, пазбавіўся дурной рэўнасці, і без віны вінаватаму Генрыку вярнулі волю і каралеўскую літасць.

Да гонару аўтара, мову любімых персанажаў ён уквечвае народнымі прыказкамі і прымаўкамі. На жаль, крыху недарэчна на такім стылёвым фоне чытаюцца выразы, зусім не ўласцівыя часу дзеяння рамана. Напрыклад, пакрыўджаны Ягайла называе Вітаўта «*франдзёрам*». З тым жа поспехам мог бы назваць і касманаўтам, бо Фронда аформіцца ў Францыі хіба толькі праз дзвесце гадоў. Або небараку Генрыка «ўцягнулі такі ў вір дваровых *разборак*». Магчыма, алюзія на «ліхія дзевяностыя» ў апошнім сказе невыпадковая, бо каралеўскія целаахоўнікі Стась і Пётра, якія нічым іншым не займаюцца, як толькі дапякаюць Генрыка, насамрэч нагадваюць не кракаўскіх рыцараў, а сучасных падшыванцаў. Дарэчы, бліжэй да фіналу Стась і Пётра раптам вырашаюць, што мусяць дапамагчы свайму няшчаснаму таварышу, але ўсе іх намаганні зводзяцца да нетаропкіх гутарак пра тое, якім чынам яны маглі б яго ўратаваць.

Аднак жа, не зважаючы на такія другасныя дробязі, трэба прызнаць, што раману «Каралева не здраджвала каралю» ўласціва ўсё тое, што ў свой час Мігель Сервантэс лічыў неад'емным для гістарычнага твора — тут і яскравае сведчанне мінуўшчыны, і прыклад для сучаснікаў, і перасцярога для будучыні. Такія якасці, дарэчы, уласцівыя не толькі раману А. Бутэвіча, але і твору Л. Дайнекі «Назаві сына Канстанцінам», пра які аўтар раней разважаў на старонках часопіса «Полымя». Усё гэта ў сукупнасці і з'яўляецца скарбніцай беларускай гісторыі, на ніве якой дбайна працуе А. Бутэвіч.

* * *

Дакументальны раман расійскага пісьменніка Барыса Косціна пра Сімяона Полацкага спалучае біяграфічныя звесткі з тэкстамі вершаў і празаічных твораў нашага славутага земляка. На жаль, многія з твораў Сімяона Полацкага цытуюцца на царкоўнаславянскай мове, што значна ўскладняе іх успрыманне сучасным чытачом. Верагодна, адаптацыя іх да сённяшняга ўспрымання аказалася б не лішняй.

Калі З. Дудзюк у сваёй кнізе «Леў» у асвятленні уніі ў Рэчы Паспалітай сыходзіла з пазіцый паліткарэктнасці, то для Б. Косціна ўніяцтва — плён намаганняў каварных езуітаў. Аўтар наогул не шкадуе зневажальных характарыстык для ворагаў праваслаўнай веры. Напрыклад: «Иезуиты, униаты и прочая католическая братия, *словно крысы*, запрятались в свои щели», калі ў Полацк у 1656 годзе завітаў рускі цар Аляксей Міхайлавіч. Шчыра кажучы, я сам ахрышчаны ў праваслаўнай веры, аднак параўнанне іншых канфесій з пацукамі мне падаецца непрымальным для нашага менталітэту. У тым, што ў XVII стагоддзі многія рэлігійныя дыспуты на Літве завяршаліся пабоішчамі, вінаватыя ўсё ж канкрэтныя вернікі-радыкалы, а не веравызнанне, якое яны спавядалі.

Сімяон Полацкі ў трактоўцы Б. Косціна ўвасабляе духоўную чысціню праваслаўя. А яго далучэнне да уніі ў час вучобы ў Віленскай акадэміі, якую аўтар называе «логавом иезуитов», было мерай часовай, вымушанай і прадыктаванай пошукам навуковай дасканаласці.

Асабіста мне шкада, што ў творы не змешчаны пераклады вершаў Полацкага, якія апублікаваў у свой час на старонках часопіса «Крыніца» Алесь Разанаў. Наогул пераклад на беларускую мову не зашкодзіў бы твору пра Полацкага. Бо, шчыра кажучы, горка ўсведамляць, што славуты рэлігійны і грамадскі дзеяч XVII стагоддзя не стаўся героем ані нацыянальнага тэатра, ані кінематографа. Як слушна адзначаў даследчык Уладзімір Кароткі, да нашага часу большасць ягоных твораў не перавыдадзена і не адаптавана да сучаснага чытача. Творы Полацкага на польскай і лацінскай мовах дагэтуль не перакладзены на беларускую мову. Крыўдна, што бурлівае на падзеі, поўнае драматызму жыццё не знайшло свайго біёграфа сярод беларускіх літаратараў. І пакуль гэты прабел запаўняе рускамоўная кніга Б. Косціна, які жыве і працуе ў Санкт-Пецярбургу.

Пэўна, істотнай геаграфічнай адлегласцю месца жыхарства аўтара ад Беларусі тлумачацца яго даволі спрэчныя ацэнкі некаторых падзей нашай мінуўшчыны. Напрыклад, Б. Косцін заяўляе: «Просуществовав без малого два века, Великое Княжество Литовское рухнуло под натиском военной мощи Речи Посполитой». Па-першае, бянтэжыць тое, што з гісторыі нашай старажытнай дзяржавы выпадае цэлае стагоддзе, бо яно датуецца фактычна канцом XIV ст., а не часамі Міндоўга і Нарымонта. Па-другое, пра які ваенны націск Рэчы Паслалітай на ВКЛ ідзе гаворка, калі Літва і Русь складалі важнейшую частку Рэспублікі дый заключылі з Польшчаю хаўрус добраахвотна?

Па сутнасці, такая трактоўка аднаўляе традыцыі савецкіх часоў, паводле якіх Беларусь і Украіна ўспрымаліся як рускія землі, захопленыя спярша літоўскімі, а потым польскімі феадаламі, а Масква, маўляў, вызваляла братоў-адзінаверцаў ад прыгнёту каталікоў і езуітаў. Нічога дзіўнага ў тым, што такая канцэпцыя па-

ранейшаму дамінуе ў асяродку расійскай інтэлігенцыі, дзе і цяпер многія смуткуюць з-за страты імперскай велічы і колішніх абшараў. Аднак для суверэннай Беларусі такую трактоўку гісторыі наўрад ці можна лічыць прымальнай.

Складваецца ўражанне, што стыль вершаў Полацкага падсвядома паўплываў на аўтара. Б. Косцін усямерна ўхваляе свайго героя — прыкладна гэтак жа, як той у свой час апяваў цара Аляксея Міхайлавіча і яго сваякоў, а таксама свецкіх і царкоўных уладароў, якія апякалі беларускага іераманаха. Перыяд царавання Аляксея Міхайлавіча аўтар называе «залатой» эпохай у рускай гісторыі. Разам з тым, зазначае, што жыццё Полацкага пры царскім двары было зусім не бесклапотным, што наш зямляк-энцыклапедыст меў уплывовых ворагаў, сярод якіх — пратапоп Авакум, Епіфаній Славінецкі, патрыярх Іякім. Лёс Сімяона Полацкага зноў пацвярджае сумна вядомую ісціну: «Многія грахі могуць дараваць чалавеку. Аднак жа таленту ніколі не даруюць».

Адзінай спрэчнай рысай светаўспрымання Полацкага называецца яго рэзка адмоўнае стаўленне да забаў свецкага жыцця. Напрыклад, гушканне на арэлях ён называў звычаем «богомерзким», а карагоды — «действом, приличным сынам тьмы». Жаночы пол ім характарызаваўся як «тля юноши», а позірк на жанчыну, маўляў, гарантавана «заражает человека ядом аспида». І хоць Б. Косцін карэктна адзначае, што «причислять Симеона Полоцкого к тем, кто проповедовал безбрачие, было бы несправедливо», тым не менш ён абыходзіць увагаю тую верагоднасць, што такім чынам наш славуты зямляк рэагаваў на норавы маскоўскай арыстакратыі XVII стагоддзя. Бо глыбока памыляюцца тыя, хто мяркуе, нібыта маскоўскія жанчыны жылі паводле строгіх канонаў «Дамастрою». Насамрэч палажэнні «Дамастрою» ўказваюць якраз на тое, што легкадумныя жаночыя паводзіны былі тыповай нормаю жыцця тагачаснага Маскоўскага царства.

Барыс Косцін — аўтар, спрактыкаваны ў напісанні біяграфій знакамітасцей. У серыі «Жыццё знакамітых людзей» выйшлі яго кнігі «Герои 1812 года», «Скобелев», «Маргелов», «Царевна Софья» і інш. «Симеон Полоцкий» створаны ў лепшых традыцыях дакументальнага твора. Дэталёва адсочваюцца ўсе этапы жыцця героя — навучанне ў Кіева-Магілянскім калегіуме і ў Віленскай езуіцкай акадэміі, настаўніцтва ў брацкай школе Полацкага Богаяўленскага манастыра, прыняцце манаства ў 1656 годзе, канчатковы пераезд з Полацка ў Маскву ў 1664-м, арганізацыя «лацінскай школы» пры Заіконаспаскім манастыры, заснаванне ў царскім двары незалежнай ад патрыяршай цэнзуры друкарні, выхаванне царскіх дзяцей.

Паколькі дакументаў, якія непасрэдна тычацца дзейнасці Полацкага, за даўніною часу захавалася небагата, аўтар запаўняе прабелы яго біяграфіі ўласнымі гіпотэзамі і развагамі. Існуе меркаванне, што гісторыя — гэта філасофія ў прыкладах, а яе сапраўдным аб'ектам з'яўляецца не толькі матэрыяльны факт, але найперш чалавечая душа. У такім кантэксце кніга Б. Косціна якраз і з'яўляецца даследаваннем выспявання, станаўлення і росквіту душы выдатнага асветніка, паэта і педагога Сімяона Полацкага. І ў гэтым заключаецца галоўная вартасць кнігі пра яго.

* * *

Зінаіда Дудзюк у кнізе «Леў» звярнулася да велічнай постаці беларускай мінуўшчыны канцлера і гетмана ВКЛ Льва Сапегі. Пра гэтага славутага дзеяча ў свой час пісалі І. Саверчанка, А. Марціновіч, М. Скобла, В. Чаропка, А. Мяснікоў, Г. Туровіч, А. Грыцкевіч і інш. Уважліва азнаёміўшыся з усім, што было напісана раней, З. Дудзюк у нарысе «Леў» не столькі распавядае штосьці новае пра мудрага канцлера Вялікага Княства Літоўскага, колькі папулярызуе ягоную асобу, падкрэслівае духоўныя цноты слаўнага ўраджэнца Віцебшчыны.

І гэтаксама як Б. Косцін у сваёй кнізе пра Сімяона Полацкага, яна стварыла вобраз ідэальнага палітыка, на жаль, па-мастацку пазбаўленага плоці і крыві. З-за

адсутнасці апісання паўсядзённага жыцця і побыту вялікага канцлера складваецца ўражанне, нібыта ён існаваў у беспаветравай прасторы. Вядома, што ўспамінаў сведкаў, якія на свае вочы бачылі, як, напрыклад, сілкаваўся, выконваў дзяржаўныя справы або бавіў вольны час Сапега, не засталося. Аднак, магчыма, шмат што можна было б рэканструяваць на падставе параўнання з распарадкам дня і норавамі магнатаў Польшчы, Венгрыі або нямецкіх земляў. Як сведчаць на гэты конт крыніцы, менталітэт у тагачасных князёў быў практычна аднолькавы. Амаль кожны з іх успрымаў сябе роўным каралю і крыху ніжэйшым за Бога.

Непасрэдна жыццю і дзейнасці «Льва герба «Лісіца» прысвечана крыху больш за палову тэксту. Вялікую ўвагу аўтар надае ўчынкам яго нашчадкаў праз шмат гадоў пасля ягонай смерці. Восем раздзелаў кнігі займае расповед пра Рускую Смуту 1604—1612 гадоў, да якой, як даказвае аўтар, Сапега прыклаў не так ужо і шмат намаганняў, і ўсяго адзін прысвечаны Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 года. Наогул рэлігійныя і міжканфесіянальныя супярэчнасці, ад якіх вiравала жыццё ў тагачаснай Рэчы Паспалітай, аўтар апісвае выключна паліткарэктна, не закранаючы пачуццяў ані праваслаўных, ані ўніятаў, ані каталікоў. Тым больш выразным бачыцца ідэйнае крэда Сапегі, які лічыў не такім ужо істотным, куды чалавек ходзіць маліцца Богу — у царкву, у касцёл або ў сінагогу, абы шанаваў Боскія запаведзі, якія для ўсіх канфесій універсальныя. Сам канцлер двойчы змяняў веравызнанне, сыходзячы выключна з прагматычных меркаванняў, але аказаўся куды лепшым хрысціянінам, чым многія апантаныя вернікі таго часу.

Безумоўнай вартасцю кнігі з’яўляецца цытаванне радкоў з лістоў Сапегі сваёй другой жонцы. У шчырых словах, звернутых да самага блізкага яму чалавека, характар абачлівага палітыка раскрываецца гэтак жа глыбока, як і ў яго ўчынках.

Уласна аўтарскія тлумачэнні тычацца не столькі грамадскай або культурнай атмасферы XVI—XVII стагоддзяў, колькі верагодных матываў паводзін Сапегі і людзей, з якімі ён быў звязаны прамым або ўскосным чынам. Пры гэтым гаротны лёс Марыны Мнішак, якая на кароткі час стала маскоўскаю царыцай, выклікае ў аўтара куды болей спачування, чым заўчасная смерць абедзвюх жонак Сапегі. Галоўным крытэрыем знешнепалітычнай дзейнасці Сапегі названы ўсталяванне міру з грозным усходнім суседам і заахвочванне Маскоўскага царства да еўрапейскай дэмакратыі, плёнам якой нібыта ўжо карысталася Рэч Паспалітая. У такім кантэксце нават план Сапегі 1600 года хаўрусу Польшчы, Літвы, Масковіі ды Швецыі выглядае амаль аналогіяй сучаснай Еўрапейскай Супольнасці або Саюза Беларусі і Расіі.

На самай справе з такімі трактоўкамі можна паспрачацца. Па-першае, дэмакратыя ў сучасным разуменні аформілася толькі ў XIX стагоддзі, а суайчыннікі Сапегі верылі, што сваім грамадскім ладам працягваюць традыцыі сарматаў і Рымскай Рэспублікі. Па-другое, занадта хітрым быў Леў Сапега, каб верыць, што мір з Масквою будзе працяглым. Інакш не рыхтаваў бы новых Ілжэдзімітрыяў дзеля выправы на Маскву.

Аднак спрэчкі наконт намераў Льва Сапегі могуць тычыцца многіх эпізодаў яго бурлівага жыцця і часцей будуць мець гіпатэтычны характар, бо мноства сваіх планаў мудры канцлер рэалізоўваў тайна, без залішняга, як кажуць цяпер, піяру.

Мажліва, многія сумненні наконт «Льва» адпалі, калі б З. Дудзюк замест нарыса, які ўсё роўна падаецца няпоўным, стварыла мастацкі твор. Вядома, каб мастацкімі сродкамі апісаць жыццё такога дзеяча, можа, спатрэбіўся б і не адзін раман. Аднак жа існуе і даволі ўдалая форма твора, калі дэталёва апісваецца адзін дзень з жыцця героя, астатнія ж векапомныя падзеі яго жыцця падаюцца як успаміны або развагі. І хто ведае, магчыма, З. Дудзюк яшчэ звернецца ў мастацкім слове да асобы вялікага канцлера і жанчын, якіх ён кахаў. Бо пасля прачытання нарыса з’яўляецца непадробная цікавасць і да Льва з роду Сапегаў, і да эпохі «залатога спакою» Рэчы Паспалітай.

Прысутнічае ў нарысе і зварот да нашых дзён. Не зусім, праўда, зразумела, навошта З. Дудзюк, апісваючы ў раздзеле «Слонім» маршруты Сапегі, ідэйна

супрацьпастаўляе «галоўны шлях нашага мінулага Кракаў—Вільня» «сучасным магістралям Захад—Усход». Пісьменніца заклапочана тым, што мы «шмат страцім, калі не так вызначым напрамак сваёй будучыні». Дык калі напрамак Захад—Усход такі ўжо заганны, то які застаецца? Поўнач—Поўдзень? Інтэгравацца са Швецыяй? Утвараць Балтыйска-Чарнаморскую Супольнасць? Адраджаць Рэч Паспалітую? Аўтарская пазіцыя на гэты конт застаецца цьмянай, як, дарэчы, і ў раздзеле «Берасцейскі стараста». З. Дудзюк засмучана тым, што «блукаем мы між трох соснаў, якія ўтварылі безвыходны лабірынт Масква—Варшава—Ленін. Пара нарэшце зразумець, што нам ні за кім не трэба ісці, а жыць сваім розумам, на сваёй зямлі дбаць пра сённяшняе жыццё, прадбачыць наступнае і не забываць мінулае». Але які ў выніку маецца на ўвазе грамадскі ідэал, так і застанецца загадкай.

Неаспрэчнай, аднак, падаецца думка, што мы ўсе пэўным чынам «нашчадкі» Льва Сапегі, якому не наканавана было ўнукаў займець. Гэтак жа нельга не пагадзіцца з ёю, што вызначэнне лепшых якасцей асобы Сапегі стварае ўзор, на якім можна «выхоўваць новыя пакаленні, каб яны гэтак жа шчыравалі на карысць Радзімы».

Спаслаўшыся на ўласны выкладчыцкі досвед, магу пацвердзіць — падсвядома многія студэнты шукаюць узор для пераймання, хоць мала хто з іх у гэтым шчыра прызнаецца. Нашым маладым суграмадзянам цікавыя постаці людзей, якія максімальна рэалізавалі свой патэнцыял і прынеслі шмат карысці сваёй супольнасці. Зараз сярод грамадскіх ідэалаў у нас пераважаюць героі Вялікай Айчыннай вайны і партызанскай барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Аднак персанажы, апісаныя Анатолем Бутэвічам, Барысам Касціным і Зінаідай Дудзюк, не менш вартыя таго, каб стаць жыццёвым прыкладам для многіх нашых сучаснікаў.

Яшчэ гадоў трыццаць таму кароль Уладзіслаў-Ягайла, Сімяон Полацкі і канцлер Сапега ўспрымаліся з большага як цемрашалы, актыўныя праваднікі палітычнай і рэлігійнай рэакцыі. У прапанаваных жа кнігах гэтыя славутыя асобы пазбаўленыя негатыўнай афарбоўкі. Іх жыццё і дзейнасць падаюцца як новы міф, які, аднак, можа стацца вельмі карысным для нашай рэальнасці. Калі ігнараваць такіх слаўных дзеячаў, то і сучаснасць акажацца значна збяднелай. Калі перыядычна не нагадваць пра знакамітых землякоў у друку або ў мастацтве — моладзь хутка забудзецца пра іх. Паводле ўласных назіранняў паскарэнне абмену інфармацыяй у сучаснай камунікацыйнай прасторы скарачае памяць у масавай аўдыторыі. Сённяшні бестселер або хіт страчвае вышэйшую пазіцыю ў штучна створаным рэйтынгу праз тыдзень, у лепшым выпадку — праз месяц. Калі тэкст кніжкі не «спампаваны» ў Глабальную Сетку, то ў яе практычна няма шанцаў займець чытачоў сярод юнакоў або падлеткаў. Тым большай павагі заслугоўваюць высілкі пісьменнікаў, якія звяртаюцца да слаўных постацей беларускай мінуўшчыны ў мастацкім або публіцыстычным слове.

Мне падаецца, што наўрад ці ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі асобы Соф'і Гальшанскай, караля Ягайлы, Сімяона Полацкага і Льва Сапегі дачакаюцца свайго ўвасаблення на кінаэкране (улічым варты жалю стан беларускага кіно!) або на сцэнічных падмостках (мастацкая кан'юнктура нашых тэатраў часам не мае лагічнага абгрунтавання). І тым не менш, плён і набыткі тых, хто жыў да нас, жывуць і ў нас. І нашы нашчадкі змогуць шчасліва жыць дзякуючы моцы нашага розуму і нашых рук. Менавіта гісторыя ўтварае гэты закон пераемнасці, або, як называў яго амерыканскі паэт Уолт Уітмен, усеагульны закон законаў, які злучае наканаванне нашых продкаў з нашым лёсам і лёсам будучых пакаленняў.

Такім чынам, апісанне авантураў жыцця гальшанскай князёўны і польскага караля, канцлера ВКЛ і мысляра-энцыклапедыста з Полацка, як мне падаецца, можа спарадзіць у сучаснага чытача творчы энтузіязм да ўласнага лёсу і лёсу сваёй краіны, імкненне да яго далейшага паляпшэння і духоўнага ўзбагачэння.

А гэта лепшае, што дорыць нам гісторыя!

**Людміла КАРПАВА**

# ПРЫЗНАННЕ Ў ЛЮБОВІ




*Мемарыяльная дошка У. Карпаву на доме ў Мінску, у якім апошнія гады жыў пісьменнік.*

«Аказваецца, за небам ёсць яшчэ неба — такое ж сіняе, з купалам, са сваімі аблачынкамі і далёкім, запаветным гарызонтам», — так пачынаецца раман Уладзіміра Карпава «Сотая маладосць».

Сёння падаецца, што з тым, аднойчы захоплена адкрытым для сябе «яшчэ небам», мой бацька і жыў: углядаючыся ў яго, пакутаваў і спадзяваўся, шукаў і знаходзіў, спавядаўся і верыў, марыў і чэрпаў натхненне…

Калі гіпатэтычна ўявіць што насуперак усім законам Быцця была б дадзена мажлівасць абіраць бацькоў, я, не вагаючыся, выбрала б толькі сваіх. Менавіта яны заўсёды былі побач, менавіта яны адкрывалі з дня ў дзень таямніцы навакольнага свету і чароўнага свету друкаванага слова, менавіта яны былі сапраўдным прыкладам бязмежнай адданасці малой і вялікай Радзіме, пашаноўных адносін да знаёмых і незнаёмых людзей. Як сапраўды дакладна пісаў М. Г. Чарнышэўскі: «Бацькі і маці! Усе панегірыкі нішто перад гэтымі свяшчэннымі імёнамі, усе напышлівыя ўхвалы — пустата і нікчэмнасць перад пачуццём сынавай любові і ўдзячнасці».

Знаёмства маіх бацькоў Марыі Міхайлаўны і Уладзіміра Барысавіча адбылося на пачатку 1930-х на курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў у Магілёве. Сустрэліся, убачылі адно аднаго, і ўжо наступным вечарам Уладзімір прапанаваў Марыі пабрацца шлюбам, а пасля заканчэння курсаў павёз маладую жонку на месца сваёй працы на Камарыншчыну.

Яны заўсёды былі сябрамі-аднадумцамі, надзейнай апорай адно аднаму, шчыра радаваліся вялікім і маленькім жыццёвым перамогам, разам мужна пераносілі нягоды. Пасля народзін першай дачушкі — чарнавокай і чорнавалосай шчабятухі Святланкі («Такія прыгожыя дзеці не жывуць доўга», — шапталіся вясковыя кабеты) у маці абвастрылася захворванне сэрца і бацька сілком выправіў яе на Каўказ у санаторый. Дзяўчынка ж ужо тады хварэла на запаленне лёгкіх і такі памерла. Бацька хаваў яе адзін. А ў Кіславодск рэгулярна ішлі ягоныя лісты, поўныя клопату і пяшчоты. Ісціна, што сэрца маці не падманеш.

Калі бацькі сустрэліся на вакзале, першым пытаннем маці было: «Дзе пахавалі Святланку?»

Ужо ў 1942-м, калі, трапіўшы пад жорстка-крывавую бамбёжку фашысцкіх самалётаў, параненая, з траўміраваным пазваночнікам (па скінутай у кювет жанчыне прайшоўся не адзін дзясятак апантаных жахам людзей) матуля апрытомнела, то кінулася шукаць майго чатырохгадовага брата Валодзю, з якім кіравалася з партызанскага атрада на Вялікую Зямлю. На шчасце, знайшла.

Безумоўна, існуе повязь родных душ, і гэта дапамагае спадзявацца на лепшае, ратуе ў экстрэмальных сітуацыях, зберагае жыццё. «Мне в холодной землянке тепло от твоей негасимой любви…» — паўтараў бацька падчас вымушанай разлукі словы вядомай песні, маці ж часта згадвала сіманаўскае «Жди меня». Іхняе вялікае каханне, што запалілася з першага позірку, глыбокая ўзаемная павага і моцная вера адно ў аднаго перамаглі і смерць. Бацька, вяртаючыся з чарговага задання ў акупаваным Мінску, быў цяжка паранены. Другое, таксама цяжкае раненне пакінула ў правым воку металічны асколак варожай кулі. Вока захавалі, ды зрок у ім пастулова згас. Маці стала бацькавым правым вокам.

Смерць адступіла перад сапраўдным каханнем і яшчэ раз. У 1966 годзе Уладзіміру Карпаву было наканавана перажыць другі інфаркт і пятнаццаць зарэгістраваных хвілін клінічнай смерці. Дактары, безнадзейна разводзячы рукамі, пакінулі рэанімацыйную палату, а мая матуля, не даючы веры, што адбылося непапраўнае, пачала рабіць мужу штучнае дыханне. «Дыхай, Валодзя, дыхай!..» Ён, як прызнаваўся пасля, чуў той яе покліч, які даў сілы перамагчы страшэнны боль і падараваў дзесяць наступных год жыцця.

Мае бацькі заўсёды існавалі ў маёй свядомасці як адзінае цэлае ці ўяўляліся двума крыламі, якія надзейна падтрымлівалі раўнавагу і гармонію нашай сям'і, захапляючы чысцінёй і пяшчотай узаемаадносін. Побач з імі я адчувала сябе як на тым самым «сёмым небе», на якім, паводле мудрага Арыстоцеля, пасяляюцца шчасце, каханне, любоў.

Уменне жыць, жыць напоўніцу, усёй істотай прагна адгукацца на кожную шчасліва прыгожую праяву быцця, пры патрэбе мабілізавацца і пераадольваць неспадзяваныя бядоты, не зайздросціць чужым поспехам, суперажываць болю іншых стварала асаблівую сяброўска-творчую атмасферу ў тагачасным культурна-літаратурным асяродку. Неверагодна, што сам Кандрат Крапіва браў удзел у першым у маім жыцці купанні, што ён з жонкай Аленай Іванаўнай, з'ехаўшы на лецішча, пакінулі ў поўнае распараджэнне нашай карпаўскай сям'і не толькі свае апартаменты, але і машыну «эмачку». Янка Брыль вучыў майго бацьку заплятаць мне косы. Значна пазней, запрошаны нашай кафедрай на сустрэчу са студэнтамі-філолагамі, Іван Антонавіч распавядаў мне, што не толькі добра памятае той факт, але памятае, што, калі Карпаву часам прыходзілася адстойваць сваю пазіцыю, ён звычайна казаў: «Клянуся косамі сваёй Людмілы!» Светлымі анёламі нашай сям'і заўсёды заставаліся Марыя Філатаўна і Іван Пятровіч Шамякіны. І гэта не кажучы пра тое, што ўсе жыхары дома № 36 на вуліцы К. Маркса, куды пераехалі многія пісьменніцкія сем'і на пачатку 1950-х, сталі бясконца роднымі на ўсё жыццё.

Бацька быў таварыскім і гасцінным чалавекам. Без перабольшвання зазначу, што ў нашай кватэры пабывалі і не па адным разе ўсе нашы тагачасныя суседзі: Т. Хадкевіч і І. Грамовіч, К. Кірэенка і М. Паслядовіч, А. Зарыцкі і М. Лужанін, П. Глебка і І. Мележ, Я. Брыль і Я. Скрыган, І. Шамякін і І. Навуменка, Я. Маўр, П. Пестрак, М. Калачынскі.

Нам жа, пісьменніцкай дзятве, ніколі і ў галаў не магло прыйсці, што мы нейкія асаблівыя, элітарныя. Мы шанавалі свой дом, шанавалі суседзяў, якіх выключна называлі дзядзькамі і цёткамі, шанавалі сяброў, а яшчэ шанавалі кнігу. Сапраўды, чыталі многа і з асалодай. Менавіта дзякуючы клопату Івана Шамякіна, мелі магчымасць чытаць літаральна ўсе навінкі, паколькі даступнымі рабіліся

самыя прэстыжныя і лімітаваныя тады перыядычныя выданні — «Иностранная литература», «Наш современник», «Юность» і іншыя, пачытаць якія было недасяжным шчасцем для многіх нашых аднагодкаў. Зборы твораў рускай і сусветнай класікі, новыя кнігі беларускіх аўтараў (пераважна з аўтографамі), якія паступова запаўнялі паліцы кніжных шафаў, чыталіся па меры іх выхаду ў свет.

Для нас, «кніжных» дзяцей, мой бацька быў прызнаным аўтарытэтам, бо звычайна беспамылкова падказваў выбар цікавых нам твораў. Аднойчы, прыхапіўшы том Мапасана і доўгі кітайскі ліхтарык, я з галавой ухуталася коўдрай і аддалася ўлюбёнаму начному занятку. Раніцай бацькі ўбачылі на падлозе ля тахты, на якой я мірна спала, мапасанаўскі раман і запалены ліхтарык. За дзень я страшэнна знервавалася, чакаючы наганяю за начное «бдение» і асабліва за «крымінальнае», не па ўзросце чціва. Увечары бацька абсалютна спакойна працягнуў мне томік В. Верасаева і параіў прачытаць аповесць «Ісанка». Праглынула яе, як кажуць, на адным дыханні, ураженая тонкай вытанчанай манерай пісьма, нюансавай перадачай ледзь улоўных пачуццёвых змен у стане юнай гераіні. Зразумела, самыя бліжэйшыя сяброўкі — Таццяна Шамякіна і Галіна Скрыган — таксама прачыталі твор, і мы яго доўга і з захапленнем абмяркоўвалі. Карысць аказалася падвойнай. Мая маці застала нас за дзіўным заняткам: тры дзяўчыны-падлеткі павольна рухаліся па зале, імкнучыся пры хадзе не саступіць за межы адной палавіцы-дошчачкі і пры гэтым не скінуць з галоў важкія тамы «Вялікай Савецкай Энцыклапедыі». Мы выпрацоўвалі сваю паставу.

Важнай жыццёвай вяхой сталі Каралішчавічы. Там вакол Дома творчасці пісьменнікаў, дзе звычайна праводзілі школьныя канікулы старэйшыя і меншыя па ўзросце пісьменніцкія дзеці, дзякуючы сваім бацькам, мабыць, ведала ледзь не кожную хваінку, бярозку, асінку, ведала і вялізную елку ля дарожкі, па якой хадзілі ў сталоўку, традыцыйна спыняліся, бо на лаўцы пад ёй звычайна адпачываў Якуб Колас (менавіта ён, вялікасць і мудрасць літаратуры нашай, даў Уладзіміру Карпаву першую рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў). Віталіся з Канстанцінам Міхайлавічам, дарослыя распачыналі нетаропкую гаворку, я ж хуценька шмыгала за тую елку ў маладзенькі дубовы падлесак, а праз колькі хвілін ужо выпаўзала адтуль ледзь не з поўным фартушком баравічкоў. Якуб Колас пяшчотна, аднак з апантанасцю заўзятага грыбніка казаў: «Мая ж ты сапраўдная славяначка, усе мае грыбы пазбірала! Ай-яй-яй!»

— Яны ж пішчалі! — дзіўлюся.

— Пішчалі?! — смяяўся Колас, смяяліся ўсе, хто апыналіся побач.

Мусіла сур'ёзна патлумачыць:

— Як грыбы збіраем, бацькі мяне заўсёды клічуць: «Люда-а, ідзі хутчэй сюды да нас, тут недзе грыб пішчыць, цябе чакае».

Зноў агульны, шчыры рогат, ад якога мне самой робіцца весела і ўтульна.

Тыя ж Каралішчавічы. Прыблізна канец верасня. Якуб Колас ужо моцна хворы, з нязменным кіёчкам, але трымае выпраўку.

А на адхонах недалёкага закінутага пясчанага кар'ера наліваюцца прывабнай чырванню буйныя духмяныя суніцы другога ўраджаю. Бацька падказвае, трэба схадзіць у запаветную мясцінку і назбіраць Коласу ягад. Назбірала цэлую шклянку, ніводнай у рот.

Саромеюся, сэрца калоціцца, але слухаюся бацькі і іду на другі паверх, ціхенька шкрабуся ў дзверы коласаўскага пакоя, і яны адчыняюцца.

Колас здзіўлены, радасна ўсхваляваны нечаканым незвычайным відовішчам: «А ты ж мая сапраўдная славяначка!» Дзякуе, мітусіцца, адчыняе шафу і працягвае мне — неверагодна! — два апельсіны-сонцы (бачыла і спрабавала іх раней хіба толькі на Новы год). Бягу на першы паверх, улятаю ў наш нумар, уражаная, збянтэжаная. Бацька вельмі стрыманы, ушчувае: «Як жа ты магла, Людміла, за сваё сардэчнае шчыраванне ўзяць плату?» Думаецца, і не самы зручны для выхавання момант, але той урок запомніла назаўжды.

Неаднойчы мы з Таццянай Шамякінай і Галяй Скрыган згадвалі, што нас, здаецца, ніколі бацькі спецыяльна і не выхоўвалі. Ды і навошта гэта было рабіць, калі ўчынкі саміх былі навідавоку, былі ўзорнай школай паводзін, а не тое, што занудлівае маралізатарства. Проста ўражлівая дзіцячая душа, як лакмусавая паперка, прагна ўбірае і ўбірае ў сябе ўсё, што адбываецца навокал. Яе нельга падмануць штучнай ліслівай усмешкай, найгранай добразычлівасцю ці спакусіць цукеркай. Затое адкрытасць і натуральнасць адносін яна распазнае і прымае адразу.

Амаль кожны вечар ля аблюбаванага фінскага дамка, дзе мы пасяляліся апошнія гады (пакуль не пабудавалася «Іслач»), бацька пачынаў распальваць вогнішча. Патроху разгараліся загадзя нарыхтаваныя паленцы, патрэсквалі сухое веццe і хваёвыя лапкі, пасылаючы ў густую чарнату нябеснай вышыні дымны стаўбунок і касмічна хуткасныя іскрынкі.

Яркія сполахі полымя выхоплівалі то лаўку, то блізкі крушыннік, а то і верхавіны вялікіх елак. На той «маяк» рытуальна падцягваліся і падцягваліся насельнікі Дома творчасці, уладкоўваліся, гіпнатычна-задуменна, не адводзячы вачэй, глядзелі на адвечна зменлівы агонь.

Аднойчы, памятаю, завітаў Уладзімір Караткевіч, радасна-шумлівы, у прыўзнятым настроі (мабыць, добра папрацаваў за дзень). Адразу захапіў мяне сваім імпэтам — ідэяй змайстраваць тут жа нешта зусім незвычайнае. Нарэзаў тоненькіх лазовых пруцікаў, і мы пачалі імі пераплятаць раскідзісты куст крушыны, ствараючы вялікае карункавае павуцінне, а збоку на ім прымацавалі зробленага з чагі павука. «Павучка-працаўнічка», як з задавальненнем канстатаваў Уладзімір Сямёнавіч. У працэсе агульнай працы натхнёна, з уласцівым яму артыстызмам паспяваў яшчэ адказваць на мае шматлікія пытанні: як апраналіся старажытныя воі ў XVI стагоддзі? ці праўда, што сярэднявечча было ў сапраўднасці не самым «ружовым» часам рыцарскага пакланення дамам? як прыгатаваць сапраўдную беларускую мачанку? і г. д. Ад ледзь улоўнага вечаровага ветрыку пагойдваўся куст, пагойдвалася «павуцінне»…

Здаецца, на наступны дзень Уладзімір Караткевіч прыйшоў да майго бацькі разам з Рыгорам Барадуліным. Мужчыны доўга гаманілі, перашэптваліся, гучна рагаталі, а калі госці пайшлі, бацька даў нам з маці прачытаць тады яшчэ «падпольную» «Лысую гару».

Немагчыма ўявіць, колькі наогул памятаюць блаславёныя пісьменніцкія Каралішчавічы спавядальных сяброўскіх размоў, палкіх спрэчак, у якіх сур'ёзныя развагі, сумныя ўспаміны чаргаваліся з кур'ёзнымі гісторыямі, пачутымі і выдуманымі злёту анекдотамі. Аднак рэчышча тых размоў заўжды скіроўвалася да палемічна завостраных літаратурных праблем, да новых ідэй і творчых планаў, якімі шчыра дзяліліся, шукаючы падтрымкі і канкрэтных парад ці пацвярджэння сваёй праваты. Пра нацыянальную культуру і родную літаратуру, у якіх чэрпалі жыццядайную сілу, усе маглі гаварыць бясконца.

Звычайна пасля снядання і амаль да вячэры ў каралішчавічаўскім доме стаяла цішыня. Парушалася яна хіба характэрным пастукваннем пішучых машынак (якія там камп'ютары на той час!) — пісьменнікі тварылі. З надворку часам можна было пачуць брэх сабак. Міхась Машара і Анатоль Вялюгін, развіваючы ўласную тэорыю, жартавалі (не без падстаў), што сабакі, праяўляючы пільнасць, падавалі галасы, зацята аббрэхвалі толькі тых незнаёмых, у каго на галаве не было капелюшоў.

Сабак было многа, прычым яны самі прыбіваліся немаведама адкуль, пасяляліся ў вырытых пад сталоўкай норах-схованках, дзе пасля гадаваліся і наступныя пакаленні самых розных парод і масцей. Сабакі з яўным задавальненнем суправаджалі пісьменнікаў падчас лясных прагулак, беспамылкова арыентаваліся ў раскладзе сталоўкі: у пэўны час збіраліся ля ўвахода і дысцыплінавана чакалі пачастунку. Яны былі ўсеагульнымі ўлюбёнцамі. Маленькіх шчанюкоў пісьменнікі стараліся адвезці ў горад, некаторых пакідалі сабе, некаторых уладкоўвалі ў «доб-

рыя рукі». Шчыра шкадавалі Муху — вялікую сярэднееўрапейскую аўчарку, бо, як распавядаў Міхась Лынькоў, яе застрэліў нейкі паляўнічы, палічыўшы за ваўка. Пухнаты, вогненна-рыжы Мухтар упадабаў нашу сям'ю сам, адразу пасяліўся ля фінскага дамка і ўжо не адыходзіў ні на крок. Прыемна было назіраць, як, прымасціўшыся на лаўцы побач з маім маленькім пляменнікам Дзімам, млеючы ад задавальнення, трапляючы ў лад, танютка «падпяваў»хлопчыку, які толькі-толькі вучыўся граць на губным гармоніку. Ён, Мухтар, не кінуў мяне (другія сабакі труслiва збеглі) і забяспечыў адыход, калі я, праігнараваўшы катэгарычную бацькоўскую забарону, адна накіравалася ў лес і нечакана натрапіла на рысь — прыгожую кошку, якая карцінна разлеглася на паваленым упоперак сцежкі дрэве. Паставіўшы вушы з кутасікамі, яна бліскала з-пад прыжмураных павекаў і, мабыць, сытая (Бог ведае, што б інакш магло адбыцца?) грэлася на сонейку.

Маці не дазваляла завесці свайго сабаку, казала: «Яшчэ адной Туські не перажыву». Калі мяне і ў праекце не было, аказваецца, у нас жыла Туська — невялічкая, лахмаценькая, рыжая, як лісічка. Яе некалькі разоў выкрадалі, а яна вярталася з абрыўкамі вяроўкі на вывіхнутых лапках, а аднойчы пасля чарговага выкрадання ледзь прывалаклася, падпаўзла да бацькі, які толькі што вярнуўся з рабочай камандзіроўкі (Уладзімір Барысавіч тады працаваў у рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва»), жалячыся, скуголіла, плакала буйнымі слязьмі, так і сканала ля ног любімага гаспадара.

Затое дома ў нас жылі то заяц (дзед з бацькам спаймалі зайчаня, калі выхваляліся адзін перад адным сваім спрытам падчас касавіцы), то вожык, то пара чачотак, то вавёрка, дакладней, вавёр, якому брат Валодзя павярэдзіў лапку, калі выпрабоўваў бацькаў падарунак — «духавушку». Бацька любіў выпускаць вавёра з клеткі, калі працаваў па начах, і той утульненька ўладкоўваўся на бацькавым плячы ці скручваўся пад настольнай лямпай аж да канца «творчай змены». Цікава было сачыць за кожнай з гэтых істотак, якія прыцішана-ўважліва прыслухоўваліся і па-свойму стараліся адрэагаваць на нашыя з імі размовы. Зайца падарылі малдаўскаму спеваку М. Крамарэнку (праходзілі Дні малдаўскага мастацтва ў Беларусі), і ён павёз яго дадому малым дзецям. Вавёра вярнулі ў родную стыхію.

Думаецца, у кожнай сям'і ды і ў кожнага асобнага чалавека ёсць запаветны, бясконца дарагі сэрцу амулет, які нязменна прадвызначае іх светаадчуванне і светапачуванне, надае сілы, нават вылечвае ад хвароб фізічных, супакойвае душэўныя ўзрушэнні. У светаіснаванні карпаўскай сям'і такі талісман ніколі не асацыіраваўся з пэўнай матэрыяльнай рэччу-татэмам, яго ролю выконвалі кветкі — рамонкі, васількі, ружы, амарылісы, галінка бэзу ці чаромхі і інш. Іх, вядома, любілі, імі любаваліся. Маці магла падоўгу з імі размаўляць, угаворваць, паліваючы вазоны або складаючы букеты ці букецікі, якія пасля, адпаведна ўласнай канцэпцыі, расстаўляла па пакоях. Яны ж з удзячнасцю дарылі далікатны водар, радавалі вока і душу. А вось цёмна-пунсовыя аксамітныя амарылісы, нібы падзяляючы сямейнае гора і скруху, так і не зацвілі тройчы: у гады, калі не стала бацькі, брата Валодзі, матулі. Пасля смерці дзеда Міхаля ў яго хаце звялася герань, сшалеў ад гора сабака, якога давялося прыстрэліць, а з калодзежа пад ранак назаўжды сышла вада.

Надзейным сябрам, добрым знаёмцам і адначасова загадкавым чараўніком, што шчодра дзяліўся сваімі сакрэтамі-цудамі, заўсёды быў лес. Калі выпадала трапіць у лясное раздолле, бацька і матуля абавязкова засяроджвалі маю ўвагу то на танклявым стане раслінкі з чароўнай назвай «начная прыгажуня», якая адорвае вытанчаным водарам толькі з надыходам вечара, то на якім-небудзь адмыслова перакручаным карэньчыку, што бударажыў фантазію, то вучылі адрозніваць яркі, насычаны барвай пахучы чабор ад яго бляклага падабенства, то клікалі паглядзець на першыя, захутаныя ў пяшчотна-мяккія футрачкі, званочкі сон-травы (бацька называў іх «сон баравы»), то стараліся паспець паказаць спуджанага зайца, цецерука на таку, выпадкова патрывожаную паважную сям'ю ласёў.

Вылазкі ў лес па грыбы ператвараліся ў свята. Звычайна запрашалі на «ціхае паляванне» Хадкевічаў, Скрыганоў, Грамовічаў, Сабаленкаў… Неяк адправіліся толькі ўтраіх. Да поўдня назбіралі ледзь не цэлы багажнік. Па даўняй завядзёнцы выбралі прыгожую палянку на ўзгорку. Бацька як заўсёды распальваў вогнішча, рыхтаваў ражончыкі, каб падсмажыць сала, мы з маці паселі насупраць і, каб не бавіць час, прыняліся чысціць грыбы. Асабліва ўважліва перабіралі бацькавы трафеі. Ён ужо не бачыў на правае вока, таму мог падняць і чарвівыя. Мы ж, каб не дай божа, не засмуціць і не пакрыўдзіць яго, цішком выкідалі непатрэбныя.

— Люда, — заўважыла матуля. — Нешта наш Карпаў прыціх і, падаецца, мурлыча.

Прыслухалася, сапраўды быццам мурлыча. Прыгледзелася, нешта старанна вырабляе, абклаўшыся квітнеючым верасам.

Калі падсілкаваліся і пачалі ўжо збірацца ў адваротную дарогу, толькі тады тата нечакана дастаў з-за спіны прыхаваны вяночак і працягнуў матулі. Акуратненька па-майстэрску сплецены з верасовых каляных галінак, ён быў аздоблены нанізанымі па беражку маленькімі грыбочкамі. Мілоцце дый годзе! Ні раней, ні пазней падобнага шэдэўра я не бачыла. У тым непаўторна выкананым вяночку, несучы яго на галаве як каштоўнейшую дыядэму, падобная да лясной казачнай німфы, маці і прыехала дадому.

Было ў бацькавай натуры нешта такое прыцягальнае, уразлівае, што міжволі прымушала засяродзіцца на нязмушана кінутай ім фразе, давяраць ягонаму густу, падзяляць ягоныя пачуцці. Не кажучы пра тое, што і сёння аж заходзіцца сэрца, калі памяць аднаўляе, з якой бязмежнай любасцю і адданасцю назаўжды зачараванага глядзеў ён на матулю.

«О, як я любіў іх (вочы Марыі Міхайлаўны. — ***Л. К.***) заўсёды!— пісаў Уладзімір Карпаў. — І ў слязах — бы ў расплаўленых перлах, і зыркія, ззяючыя, пабольшаныя радасцю, і нейкія тужлівыя ад адданасці, ад жадання, каб мне было лепей. Любіў пацямнелыя ад гатоўнасці кінуцца на любога, хто пасмее пакрыўдзіць мяне, сказаць грубае слова наперакор, або поўныя просьбы быць справядлівым і вартым справядлівасці.

Як усе светлыя вочы, яны мянялі колер. Калі яна апраналася ў зялёную сукенку, вочы маладзелі, адлівалі ізумрудам. Калі надзявала бурштынавыя завушніцы з караліамі, шэрыя ад прыроды, — адлівалі залацістым, нешта абяцалі. На іх адбіваўся чысты, ясны ранак, хмуры адвячорак… Яна ведала гэта і гулліва карысталася дарам-сакрэтам як жанчына, якая кахае і хоча быць каханай».

Ёй, «вернаму другу і памочніцы», прысвяціў бацька свой раман «За годам год». А напярэдадні матулінага саракапяцігоддзя заручыўся згодай вядомага паслядоўніка каржоўскай школы беларускага мастака Гусева, і той пачаў маляваць матулін партрэт. Прычым яны разам падрабязна абмяркоўвалі каляровую палітру будучага жывапіснага палатна, удакладнялі позу, выбіралі ўбор і аксесуары. Ужо сама гэта задума і выяўляла не толькі імкненне зрабіць незвычайны падарунак, пацешыць, а і нястрымнае жаданне мець магчымасць, нягледзячы ні на якія абставіны, у любы момант бачыць яе і быць побач.

Бацька і сам нядрэнна маляваў, ляпіў. Будучы яшчэ дырэктарам камарынскай сярэдняй школы, увёў традыцыю вывешваць на дошцы ўласнаруч намаляваныя партрэты вучняў-выдатнікаў і двоечнікаў. Перад вайной, калі з жонкай і сынам наведаў вёску Жораўку на Любаншчыне, дзе жыў мой дзед Міхаль, там вылепіў з гліны і пакрыў лакам матулін бюст. Падабенства, не раз пераказвалі, было здзіўляючым — прыгожы, адухоўлены светлы твар нібы сапраўды дыхаў. Падчас вайны, калі немцы былі ўжо блізка, дзед, збаяўшыся, што могуць той бюст у сялянскай хаце прыняць за выяву якой-небудзь савецкай лідаркі, загарнуў яго ў рагожу і закапаў на гародзе. Пасля перамогі выкапаў, але, на жаль, той літаральна на вачах рассыпаўся.

Самым вялікім святам для нашай сям'і быў Дзень Перамогі. Пасля парада і сустрэчы ля Вечнага агню былая спецгрупа ўсім складам кіравалася да нас,

звычайна ўцягваючы ў сваю кагорту вядомага журналіста А. Матусевіча, акадэміка М. А. Дарожкіна, дырэктара БелАЗа І. М. Дзёміна, з якімі бацька пазнаёміўся і пасябраваў у вогненныя 1940-я. Тыя сустрэчы поўніліся сардэчнай радасцю, шчасцем, удзячнасцю лёсу і адзін аднаму, сумам па загінуўшых.

Вайна перайначвала лёсы людзей. Мой бацька, былы настаўнік, стаў падпольшчыкам, партызанам, разведчыкам глыбокага тылу. У складзе спецгрупы яму давялося не адзін раз пераходзіць і пералятаць на самалёце лінію фронту. Ён пабываў у лясным партызанскім краі і ў паланёным Мінску, калі, выконваючы адказнае заданне, нелегальна знаходзіўся тут у лютым 1943 года. У час, калі смяротная небяспека ішла поруч, яму наканавана было сустрэцца з камандзірам партызанскай брыгады «Народныя мсціўцы» І. М. Цімчуком, камбрыгам В. Т. Варанянскім, з будучымі Героямі Савецкага Саюза М. Б. Осіпавай і А. Р. Мазанік і інш. Скаваны гітлераўскім акупацыйным рэжымам Мінск стаў месцам сустрэч з легендарнымі падпольшчыкамі З. Гала, В. Шацько, рэдактарам падпольнай «Звязды» У. Амельянюком, славутым прафесарам Я. У. Клумавым, строгія абліччы многіх з іх ужо ў мірныя дні можна было ўбачыць на Алеі Герояў, што стваралася ў сталіцы да Дня Перамогі.

Бацькавы таварышы па барацьбе з’явіліся не толькі прататыпамі герояў ягоных кніг, але і паўнапраўнымі героямі, занатаванымі аўтарам пад сваімі сапраўднымі прозвішчамі. Ды і сам ён стаў героем дакументальнай аповесці Івана Новікава «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску».

Пра вайну пісала і піша не адно пакаленне беларускіх аўтараў, асабліва тыя, хто на ўласныя вочы пабачыў здзекі і гвалт, кроў і смерць, што сеялі чужынцы-захопнікі на нашай зямлі, хто сам зведаў пякельны агонь вайны і здолеў годна прайсці яе інфернальныя спускі. У маю свядомасць вайна ўвайшла як нешта асабіста пражытае і перажытае не толькі з прачытанага ў кнігах. Яна высвецілася сваімі шматлікімі гераічнымі, трагічнымі і пачварнымі выявамі найперш праз эмацыянальна-напружаныя, шчыра спавядальныя аповеды бацькоў, дзеда, хату якога спалілі за сувязь з партызанамі, бацькавых паплечнікаў па партызанскай і падпольнай барацьбе, ягоных сяброў-пісьменнікаў.

Я заўсёды здзіўлялася не толькі бацькавай эрудыцыі, дасведчанасці ў самых розных галінах ведаў, але і яго камунікабельнасці, шчырай прыязнасці да кожнага суразмоўцы. Кантакт наладжваўся ледзь не адразу, і тады чалавек ужо не саромеўся гаварыць пра запаветнае. І не важна, ці быў гэты чалавек братам-літаратарам, сябрам ваеннай пары, былым ягоным вучнем, вяскоўцам, будаўніком, рабочым завода, а то і дзіцём, ён усё роўна трапляў у магнетычна прыцягальнае біяполе асобы. Свае абяцанні людзям бацька заўсёды выконваў. Спатрэбілася дапамога хворай на эпілепсію дачцы былога радыста спецгрупы, і бацька звязваўся з Аляксандрам Міронавым, які валодаў цудадзейнымі рэцэптамі сваіх продкаў — народных лекараў. Патрэбны былі лекі, кватэра, заступніцтва, абарона Чырвонага касцёла, што ўпрыгожвае сённяшнюю плошчу Незалежнасці, моранага дуба на рацэ Белай, які бяздумна знішчаўся, і многае-многае іншае, і бацька ператвараўся ў «хадака». За сябе ён не прасіў ніколі.

Усё, што рабіў, што адстойваў, было прасякнута адкрытасцю і адначасова страснасцю. Магчыма, такая адкрытасць і страснасць збоку маглі падацца штучна створаным іміджам. На самай жа справе яны былі выяўленнем душэўнай неабыякавасці, высокага гарэння і глыбокай зацікаўленасці, а таксама бескампраміснай патрабавальнасці да сябе асабіста.

Карычневага алоўка (трацячы зрок, бацька найлепш распазнаваў гэты колер) рэдактара аддзела прозы і крытыкі часопіса «Полымя» пабойваліся многія аўтары, але з удзячнасцю прымалі «карычневыя» праўкі і маргіналіі на палях сваіх рукапісаў, бо давяралі кампетэнтнасці і мастацкаму густу рэдактара. Уласныя ж нават ужо выдадзеныя кнігі бацька крэмзаў няшчадна: выкрэсліваў недакладныя, на яго погляд, словы, выразы, фразы, перакрэсліваў цэлыя старонкі, дапісваў, а то

і перапісваў нанова асобныя раздзелы. Ён літаральна гарэў і згараў, мітрэнжыўся, супакойваўся і зноў мітрэнжыўся, імкнучыся ў сілу здольнасцей, таленту, разумення свайго паспець сказаць сваё, карпаўскае, слова. Што прыносіла паратунак? У першую чаргу, мабыць, усё-такі «яшчэ неба», на якое арыентаваўся, з якім раіўся, у якога прасіў літасці. «Як не хочацца паміраць, доня! Зараз я толькі-толькі пачынаю бачыць далей і разумець глыбей», — з гаркавым уздыхам скардзіўся мне. Так і засталася толькі пачатай аўтабіяграфічная аповесць «Адкрытая зорка».

З уласцівай яму неўтаймаванай жарсцю бацька заўсёды гаварыў і пісаў пра Мінск. Ён бачыў і памятаў сталіцу канца 1930-х гадоў, калі вучыўся тут у педагагічным інстытуце. Ён бачыў і памятаў яго ахопленым агнём, калі пад першымі шалёнымі бамбёжкамі фашыстаў здаваў экстэрнам дзяржаўныя экзамены, ён бачыў і памятаў горад пакутнікам і змагаром у разгар Вялікай Айчыннай, бачыў і назіраў, як той адраджаўся з руінаў…

«Любоў да гарадоў прыходзіць не проста, — сцвярджаў Уладзімір Карпаў. — Яна вельмі патрабавальная. Яе трэба заваяваць. Ёсць гарады-працаўнікі, ёсць гарады-змагары, гарады-здраўніцы, ёсць гарады-музеі. А хіба да ўсіх прыйшла ўсенародная любоў, і ўсе яны акружаны такой павагай, як Масква, Ленінград, Кіеў, Валгаград, Севастопаль? Каб заваяваць такую любоў, гораду патрэбна эпапея, подзвігі ў вайне і міры. Трэба, каб у часы, калі вырашаецца лёс народа, горад зрабіў нешта вельмі важнае. І толькі тады ён становіцца народнай святыняй».

Мінск зрабіўся бацькавым болем, любоўю, зрабіўся самастойным героем цыкла «На перавале стагоддзя», куды ўвайшлі раманы «Нямігі крывавыя берагі», «За годам год», «Вясеннія ліўні», «Сотая маладосць», а таксама кніга «Прызнанне ў нянавісці і любові».

Вялікай канцэнтрацыі духоўных і фізічных высілкаў каштавала бацьку праца па стварэнні першага фотаальбома «Мінск», унікальных сёння зборнікаў «Мы раскажам пра Мінск», «Город и годы», «Сквозь огонь и смерть». Ён заўсёды знаходзіўся ў натхнёна-ўзбуджаным стане, пакуль задума чарговага праекта не набывала адзнакі завершанасці, канчаткова не афармлялася кампазіцыйна і змястоўна. Праца над фотаальбомам, напрыклад, ператварыла бацькоўскі кабінет у студыю, бо падлога ў ім працяглы час спрэс была заслана фотаздымкамі самага рознага фармату, а на пісьмовым стале ўзвышаліся стосы аб'ёмных рукапісаў. Толькі матулі ўдавалася там прыбірацца, вяртаючы пасля кожны з іх на бацькам прызначанае месца.

Наогул уся бацькава праца рабілася па патрэбе сэрца, рабілася з палкім жаданнем, каб Мінск урэшце быў уганараваны званнем горада-героя, а таксама ў імя таго, каб будучыя пакаленні з маленства ўсведамлялі сябе часцінкай свайго народа, ведалі яго шматпакутную гісторыю, не забываліся на яе ўрокі.

Над Усходнімі могілкамі, дзе знайшоў бацька свой апошні прытулак, як толькі развіталіся з ім, на ясным празрыстым небе раптоўна з'явіліся воблакі-хмары, сышліся, засланілі зіхоткае сонца, уздрыгануліся, гучна-моцна грымнулі сваім раскацістым салютам-залпам і тут жа рассеяліся ў бясконцасці магічна прыцягальнай сіні. «Аказваецца за небам ёсць яшчэ неба…»

Сяргей ЧЫГРЫН

# ВАРШАЎСКІЯ ПІСЬМЫ ГАЛЬЯША ЛЕЎЧЫКА



*Гальяш Леўчык.*

Паэт, празаік, перакладчык, калекцыянер, мастак Гальяш Леўчык (Ілья Ляўковіч) нарадзіўся 20 ліпеня 1880 г. у Слоніме, куды пераехаў яго бацька з-пад Ружан у пошуках «шчасця-долі ў шырокім свеце». Гальяш скончыў Слонімскае гарадское вучылішча, служыў пісарчуком у каморніка, а пасля ў канцылярыі міравога суддзі.

Набыўшы на курсах прафесію чарцёжніка, ён у 1904 г. падаўся ў Варшаву. Спачатку ўладкаваўся на працу чарцёжнікам у гарадскі магістрат і наведваў лекцыі ў школе мастацтваў. За гэты час знайшоў у Варшаве шмат беларусаў, пазнаёміўся з імі, арганізоўваў сустрэчы, ладзіў вечарыны. Першую інфармацыю пра беларускую дзейнасць Гальяша Леўчыка і яго сяброў у Варшаве змясціла «Наша Ніва» 1 (14) снежня 1911 г. Аўтар Саўка Бурывой (Рамуальд Зямкевіч) паведамляў, што 21 лістапада адбылася вечарына студэнтаў-беларусаў Варшаўскага ўніверсітэта. Аўтар пісаў пра нейкага Пшчолко, які «гаварыў на сцэне сьмешных казак у расейско-беларускай гутарцы», пра маленькую дзяўчынку ў пекнай беларускай апратцы, якая мовіла словамі Янкі Купалы: «Чаго нам трэба» і «Чаго б я хацеў»... Пасля пра другую дзяўчынку, якая чытала вершы «Не цурайся мяне, панічок» і «Панская ласка». Потым на сцэну выйшаў Гальяш Леўчык, якога, як апісвае аўтар, «мы ўбачылі на лаўцы хвораго, слабого, ледзь жывога мальца беларуса, у згрэбнай сарочцы, прыкрытаго старэнькай сьвітай — тып праўдзівага беларуса-мужыка. Быў то малады песьняр Леўчык Гальяш. Ён слабым голасам пад гітару прапеяў: «Мне трэба ўмерці» і апрыч таго пасьля шмат чаго дэклямаваў. Усё выпаўніў шчыра і публіцы надта спадабаўся»[1]. Далей выступаў хор, які спяваў беларускія песні.

Жывучы ў Варшаве, Г. Леўчык сабраў вялікую і каштоўную бібліятэку. Ён калекцыяніраваў усё беларускае: кнігі, паштоўкі, творы мастацтва, музычныя інструменты, значкі, фотаздымкі. На жаль, у гады Другой сусветнай вайны ўсё гэта бясследна знікла. Але гэта было пазней. А тады кожнаму беларусу Варшавы і беларусам, якія прыязджалі сюды, Г. Леўчык з радасцю паказваў сваю калекцыю, дапамагаў матэрыяламі ў напісанні той ці іншай працы.

Тады ў Варшаве жыў і яшчэ адзін беларускі калекцыянер кніг і рукапісаў — Рамуальд Зямкевіч (1881—1944). Ён нават быў больш заўзятым калекцыянерам

[1] «Наша Ніва», 1 (14) снежня 1911 г., № 47—48.

і бібліяфілам, чым Леўчык. Кажуць, што Зямкевіч не прапускаў ніводнае старое беларускае кніжкі, асабліва, калі яна «дрэнна ляжала». У выніку сабраў найвялікшую калекцыю рарытэтаў, але, на жаль, і яго ўся калекцыя згарэла ў вайну. Добра, што Р. Зямкевіч хоць паспеў апублікаваць некаторыя рукапісы. Не ведаю толькі, як яны мірыліся і сябравалі — два калекцыянеры, два вялікія аматары беларускіх кніг — Р. Зямкевіч і Г. Леўчык.

У 1913 г. на курсы садоўніцтва, агародніцтва і пчалярства прыехала ў Варшаву Зоська Верас (Людвіка Войцік), дзе пазнаёмілася з Г. Леўчыкам. Аднойчы яе і Марысю Галубянку, якая ў Варшаве працавала настаўніцай у школе Вавэльбэрга, Гальяш паклікаў да сябе ў госці. «Жыў тады Леўчык на вуліцы Леапальдыны, 35, кв. 32. Кватэра была, здаецца, на трэцім паверсе», — успамінае Зоська Верас[1]. Далей яна прыгадвала: «Пакой здаваўся вузкім, таму што ягоная сцяна была абсталявана даволі шырокімі паліцамі ад падлогі да столі. І на іх стаялі кніжкі, кніжкі, кніжкі... Сапраўды, гэта была вялікая, цікавая і каштоўная бібліятэка. Сабранае было хіба што ўсё, што выйшла з друку ў беларускай мове... Усе паліцы былі ўпрыгожаныя партрэтамі пісьменнікаў, паштоўкамі, краявідамі. Шмат што было купленае, але й шмат падараванае аўтарамі ды знаёмымі. Тыя кнігі, што стаялі ніжэй, мы з Марысяй аглядалі самі, а тыя, што высока, Леўчык здымаў і паказваў сам. Не адну гадзіну гэты занятак забраў нам. Нарэшце Гальяш сказаў: «Ну й замучыў я вас... Пара адпачыць!» Мы адмаўляліся, не жадаючы клопату, але былі змушаныя пагадзіцца. Пілі добра прыгатаваную гарбатку, і да яе было сёе-тое смачнае. Пасля Леўчык прапяяў нам пару песняў пад акампаніямэнт гітары. Голас меў прыгожы. Пяяў і граў умела. Развіталіся мы з ім позна вечарам».

Калі я сустракаўся з Зоськай Верас у Вільні ў 1987 г., таксама запытаўся ў яе пра Леўчыка. Пісьменніца вельмі цёпла ўспамінала пра яго. Расказала, як ён у Варшаве пазнаёміў яе з многімі беларусамі. Яны часта ездзілі ў Ажарова, што пад Варшавай, да беларускай сям'і Сталыгваў, якія там мелі свой дом. Памятаецца, як Зоська Верас згадвала і пра тое, што Леўчык лічыў сваім абавязкам ведаць кожнага беларуса, які прыязджаў у Варшаву, прыцягнуць у сваю групу, каб ён не згубіўся ў людскім моры і не забываўся сваёй мовы. А калі беларусу не было дзе начаваць, клікаў яго да сябе ў маленькую кватэру на вуліцу Леапальдыны. Неяк Леўчык завёў Зоську Верас і да Міхала Федароўскага, які прыняў іх шчыра і ветліва.

У 1919 г. у Варшаве арганізоўваецца Беларускі камітэт. Вакол яго хутка згуртаваліся многія вядомыя беларусы Варшавы, якія актыўна пашыралі нацыянальную свядомасць. Часопіс «Беларускі летапіс» пісаў, што Беларускі камітэт выпісваў усе беларускія газеты і часопісы, а таксама кніжкі[2]. З іх была створана бібліятэка. А Гальяш Леўчык быў адным з самых актыўных сяброў камітэта. У Слонімскім раённым краязнаўчым музеі захоўваецца адзін фотаздымак. На здымку фатограф зрабіў надпіс на беларускай мове лацінкай: «Беларускія валасныя старшыны Слонімскага павету Гарадзенскай губерні». У кожнага з іх маецца на грудзях медаль. На адваротным баку здымка ёсць штамп «Беларускі камітэт у Варшаві» і круглая пячатка з такім жа надпісам. Магчыма, фотаздымак у Слонім трапіў праз Леўчыка[3]. Гэта ён фотаздымак прывёз з Варшавы пасля таго, як не стала там Беларускага камітэта ў 1922 г. Яго дзейнасць была спынена тадышняй польскай уладай.

У 1922—1930 гг. беларускі рух у Варшаве не быў актыўным. У 1928 г. земляка Г. Леўчыка — Паўла Крынчыка выбралі паслом польскага сейма па спісе, выстаўленым КПЗБ. Крынчык некалі згадваў, што быў добра знаёмы з Леўчыкам.

---

[1] «Рунь» (Літва), 3 жніўня 2000 г.

[2] «Беларускі летапіс», 1938, № 4, с.11.

[3] У родным Слоніме ў Гальяша Леўчыка была хата і вялікая калекцыя старых рэчаў, кніг, паштовак і г. д., большая нават, чым у Варшаве.

Гальяш часам заходзіў да яго ў беларускі пасольскі клуб «Змаганьне», які месціўся ў Варшаве на Маршалкоўскай, 76. Беларускія палітыкі ў Варшаве часам яму аказвалі фінансавую дапамогу.

У 1930 г. у польскай сталіцы ствараецца Саюз беларускіх студэнтаў у Варшаве. Разам з віленскімі студэнтамі беларускія хлопцы і дзяўчаты з Варшавы ладзяць розныя цікавыя мерапрыемствы: выступаюць з лекцыямі, дэкламацыямі літаратурных твораў, з тэатральнымі пастаноўкамі і г. д. Праіснаваў гэты Саюз усяго тры гады, пасля чаго дзейнасць была спынена польскай уладай. Леўчык у гэты час працаваў служачым у Найвышэйшым судзе ў Варшаве і актыўна перакладаў рэлігійную літаратуру метадыстаў на беларускую мову. Гэтыя пераклады з'яўляліся ў выданнях «Арфа Сіону», «Новае Жыцьцё» і «Дух Праўды». За пераклады, вядома ж, ён атрымліваў пэўны ганарар. Таму актыўнага ўдзелу ў Саюзе беларускіх студэнтаў у Варшаве не прымаў. Але там бываў, даваў кансультацыі, парады, выступаў перад студэнтамі.

Гальяш Леўчык вёў вялікую перапіску з беларускімі дзеячамі. З Варшавы ён слаў пісьмы ў Вільню, Гародню, Слонім, Пецярбург, Мінск, Прагу. Але найбольш лістоў дасылаў у Вільню. Ён перапісваўся з рэдакцыямі беларускіх газет і часопісаў, а таксама з Ігнатам Дварчанінам, Уладзіславам Знамяроўскім, Кандратам Лейкам, Зоськай Верас, Іванам і Антонам Луцкевічамі, Янкам Маразовічам, Эдвардам Будзькам, Вацлавам Ластоўскім, Янам Пятроўскім і іншымі. У пісьмах распавядаў пра сваё варшаўскае жыццё, пра калекцыяніраванне, пісаў, напрыклад, Луцкевічам, якія старыя кнігі і рэчы траплялі яму на вочы і ў каго яшчэ яны захоўваюцца ў Варшаве, колькі каштуюць, набываў іх і вазіў у Вільню ў беларускі музей Луцкевічаў, альбо дасылаў поштай. Вельмі хацеў у міжваенны перыяд выдаць кірыліцай свой зборнік вершаў «Чыжык беларускі»[1]. А таксама жадаў апублікаваць і свой новы паэтычны зборнік «Беларускі жаваранак».

Пісьмы Г. Леўчыка раскіданы па архівах Польшчы, Літвы, Беларусі, Расіі і ЗША. У Рукапісным аддзеле Бібліятэкі Нацыянальнай Акадэміі навук Літвы (фонд 21, справа № 286) захоўваецца вязанка варшаўскіх пісем Леўчыка да Луцкевічаў, да Вацлава Ластоўскага і Эдварда Будзькі, у рэдакцыі «Нашай Нівы» і «Беларускага Звону». Некаторыя з іх прапаную чытачам «Полымя».

## Пісьмы Гальяша Леўчыка ў рэдакцыі газет «Наша Ніва» і «Беларускі Звон»

Крыніца: Рукапісны аддзел Бібліятэкі Нацыянальнай Акадэміі навук Літвы, ф. 21, спр. 286.

(экстренно)
гор. Вильно
Виленская ул. № 20
въ редакцию газеты «Наша Ніва»[2]
Эд[варду]. Будзько[3] альбо В[ацлаву]. Ластоўскаму[4]
5/18/XI 1910 г. Варшава (Леопольдыны, 35, м. 32 Э[льяшу]. Левковичу)

---

[1] Зборнік вершаў «Čyžyk biełaruski» лацінкай пабачыў свет у Вільні ў 1912 г.

[2] «Наша Ніва» — беларуская газета, якая выдавалася ў Вільні з 10 (23).11.1906 па 7 (20).08.1915 г. і з 28.10 па 20.12.1920 г.

[3] Будзька Эдвард (1882—1958) — публіцыст, грамадскі дзеяч, кааператар. Нарадзіўся ў Будславе, памёр у Чыкага (ЗША).

[4] Ластоўскі Вацлаў (1883—1938) — пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч, гісторык, філолаг, літаратуразнавец.

Дзеля нашаго календара я тутака зьбіраю абвесткі. Здаецца ўдасцца мне здабыць з 4 вялікія фірмы «Альф[рэд]. Гродзкі»[1], «Спесс і Сын»[2], «К[шыштоф]. Брун і Сын»[3]і др., але яны кажуць, што трэба ім даці ўступку ад цэны абвестак. Напішыце, як найхучэй, сколькі дасьце % уступкі і назначце мне канцавы тэрмін высылкі абвестак, бо я ня ведаю, як зрабіці; раджу ім даць, бо яны абяцаюць кожны год даваць абвесткі. — Чакайце і на мяне мо з друкам — Гальяш Леўчык.

Ф. 21, спр. 286, арк. 2.

г. Вільно
Завальная вул. № 7
рэдакцыя газеты
«Наша Ніва»
Івану Луцкевічу[4] ў Вільні
15/28/IX 1911 г. Слонім (альбо хутчэй адпішыце),
чацьвер
Дарагенькі Братко!

Што за траф! Гэтаго п[ана]. Бубноўскаго[5] я сам добра знаю і ён мяне! Іх двох братоў — ён старшы Вацлаў, і другі малодшы гдзесьці ў дварэ ў якогасьці князя. Тутака жывець іх бацько — «падпольны адвакат». Яны з ім ня ў згодзі. У іх і сястра гдзесьці е. Але ў бацька Бубноўскага нічога нямашка, ёсьць толькі, казаў, стары гадзіннік ад караля Яна, але я яго яшчэ ня бачыў. Тым часам тутака ў мешчан адных я знайшоў у старой скрыні чыстую капальню, ажно высалапіў я вочы! Да 1000 старонак папераў — ад 1500 г. да 1800 г. Але ўсё аб Слоніме. Е каля 200 мо — і па беларуску (старым пісаным шрыфтам). Знайшоў з 5 каралеўскіх лістоў Стэфана Батораго[6], Казьмера[7], Ўладыслава[8], Яна III[9] — 5 каралеўскіх прывілегій з васковымі пячацямі ў бляшанках, на паргаміне — адна ў «кожанай» аправі (у шкуры). Шмат лістоў Радзівілаў[10], Сапегаў[11], Патоцкаго[12], е нават ліст Чарнэцкаго[13], 2 прыказы караля Яна друкаваныя; лісты Вішневецкаго[14]. Ажно мне валасы дыбам сталі, калі я іх разглядаў. Паскладаў я іх роўна ў горбы, абвязаў паперай і зноў улажылі мы іх у скрыню. Шмат е ад вільгаці пагніўшых і збутвеўшых. Але, каб не даць ім знаць, што гэта я сказаў: «А мо прыгадзіцца калісьці якому вучонаму, але трэба было б іх аддаці ў музэй да Вільні». Хаця яны, здаецца, змяркавалі, што гэта варта грошы. Ну, але, можна было б, здаецца, вымануць, хаця без грошай не абыйдзецца. Я цаны ім ня даваў, дзеля непазнакі. Вось сук,

---

[1] Склад сельскагаспадарчых машын, прылад і насення, рамонтныя майстэрні, Варшава, вул. Сенатарская, 33. Фірма была заснавана ў 1878 г.

[2] Фармацэўтычнае прадпрыемства, якое ў 1823—1944 гг. існавала ў Тархаміне каля Варшавы.

[3] Варшаўская купецкая фірма.

[4] Луцкевіч Іван (1881—1919) — пачынальнік беларускага нацыянальнага руху, беларускі археолаг.

[5] Бубноўскі Вацлаў (1865—1945) — кераміст, скульптар.

[6] Стэфан Баторы (1533—1586) — кароль Рэчы Паспалітай, вялікі князь літоўскі.

[7] Казімір IV Ягелончык (1427—1492) — вялікі князь літоўскі і кароль Польшчы.

[8] Уладыслаў III Варнэньчык (1424—1444) – кароль польскі і вугорскі.

[9] Ян III Сабескі (1629—1696) — польскі палкаводзец, кароль Польшчы.

[10] Радзівілы – літоўскі княжацкі род, прадстаўнікі якога займалі самыя значныя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім у XVI—XVIII стст. Адзін з самых уплывовых магнацкіх родаў у Рэчы Паспалітай.

[11] Сапегі — шляхецкі род герба Ліс у Вялікім Княстве Літоўскім.

[12] Патоцкі Ян (1761—1815) — польскі пісьменнік-рамантык, археолаг, падарожнік.

[13] Чарнецкі Стэфан (1599—1665) — вайсковы дзеяч Рэчы Паспалітай, палявы гетман каронны.

[14] Міхал Карыбут-Вішнявецкі (1640—1673) — кароль польскі і вялікі князь літоўскі.

як зрабіць, каб купіць усё гэта!? Чысты «скарб — клад». Я да панядзелка тут прабуду. Як зрабіць? Мо прыедзьце, братко, паглядзімо! Толькі, ціха, ша! Расход і карысьць папалам!

Ехаць на Баранавічы, да мяне, але без мяне не пакажуць!

Гальяш Леўчык.

Ф. 21, спр. 286, арк. 3.

г. Вильно

Георгиевский пр. № 4, кв. 10

«Техническая контора И[вана]. И[вановича]. Луцкевича и Д[оминика]. Семашко[1]»

Г[осподи]-ну Ивану Луцкевичу

Варшава, д. 23 верасьня 1911 г.

Дарагенькі і залаценькі Братко і Таварышу!

Я ўжо зноў у Варшаві. Аб гэтых паперах думаю «цо се одвлечэ — то не ўцечэ». Завіша — не Завіша, але вось, братко, што: усе гэтыя паперы, па мойму, варты каля паркі сот рублёў! Яны важны і цэнны асабліва дзеля Слоніма, бо ёсьць там унікаты. Аб іх я даўно ўжо ведаў! Брат цяперашняго мешчаніна — старэйшы, быў калісьці галавою ў думе слонімскай і жыў на нашай вуліцы, а як памёр, то скрынку з гэтымі паперамі забраў яго цяперашні брат, катораму ўжо будзе з 70 з гарою гадоў. Вось гэтыя паперы важны, асобенна дзеля мяне. Я ўжо даўно думаю і кратаюся напісаць і выдаць манаграфію Слоніма і павета ў асобнай кніжцы і сабіраю ўсё чыста, што датычыць Слоніма старога і новага. Перад выездам — у панедзелак — дай, думаю зайду туды да іх і папытаю, што будзе, ці згодзяцца аддаць іх у музэй. Ажно ж ён кажэ, што пакуль што, напіша да Вацюка Бубноўскаго, каторы летась у яго гасціў і перагледаў іх — як ён парадзіць. Гэты Бубноўскі, кажэ, успамінаў, што мае прыехаць адзін пан з Вільні (гэта пэўне Вы?!) і разгледзець, ці купіць! Калі яны напішуць да Бубноўскаго, то Бубноўскі пэўне напіша да вас. Дзеля гэтаго, братко, трэба нам будзе парадзіцца з сабою, каб якнібудзь умело іх адтуль выдабыць. Мо вы самые ўпярод нечакаючу напішэце да Бубноўскаго, (калі ён гэта вас мае ў думцы, а не другога), што мо вось знаеце мяне, што вось вы, альбо я за вас магу набыць дзеля музэя — усё раўно — не кажучы яму, разумеецца, аб іх цане і нашай змове! Каб хто другі ня ўлез у параду. Помнійце, братко, што гэтые паперы надта для мяне важны! Незабудзьце, братко, да мяне аб гэтым заўсёды скрыпнуць!

Гальяш Леўчык.

Ф. 21, спр. 286, арк. 4.

г. Вильно

Завальная ул. № 7

«Наша Ніва»

Яго Міласьці

Івану Луцкевічу

д. 24 жніўня/6 верасьня 1912 р. Варшава

Ўважаемы Дзядзька Іван!

Я, як толькі прыехаў да Варшавы, то зараз, па вашай просьбі, пачаў шукаці гэтага жыда, што сьцяпіў гэрб з вашаго старога жырандоля, Вільгэльма Бэрэнштэйна[2], ажно ж ён, падла, выехаў у Кіеў 31 мая, а я прыехаў 7 ліпеня.

Ён выбыў із Ордынацкой № 13. Цяперака я ізноў там быў — няма яшчэ. Мо калісьці вернецца — толькі невядома калі і ці вернецца. Калі б ён вярнуўся, то я

[1] Сямашка Дамінік (1878—1932) — беларускі і літоўскі грамадска-палітычны дзеяч.

[2] Бернштэйн Вільгельм — яўрэйскі калекцыянер з Варшавы.

яго злаўлю! Ведаеце, Дзядзька, што Зем[кевіч][1] проціў вас штосьці кнуе і я з кожным днём усё больш пераконваюся, што ў яго пагана натура — трэба, дзядзька з гэтых касовых кніжак добра палічыці, сколькі ён за той і гэты рок «бухнуў», каб меці довады пад рукою — мо прыгадзяцца! Але ж лгар так лгар, да яшчэ чмутар, зваднік і хвалько. Кажэ ён сам, што вы аб тым, які ён быў у Вільдэра[2], ведалі даўно перад прыездам яго да Вас. Ці гэта праўда? Ваш Гальяш.

Ф. 21, спр. 286, арк. 8.

г. Вильно
Завальная вул. № 7
«Наша Ніва»
Я[го]. М[іласці]. Дз[ядзьку].
Антону Луцкевічу[3]
д. 12/25 жніўня 1912 г.
Паважаемы Паночку!

Дзякуй Вам, паночку, за кніжкі, за памяць і за ўвагу да мяне дзеля страхоўкі і т. д.! Газэты Вам зараз заўтра вышлю — я нават і сам думаў пасланць іх вам. Да гэтай пары я быў вельмі заняты тутака ў выбарнай думе каля спіскаў, так што каля сябе ні пісаць, ні зрабіць нічога ня мог. А цяперака прыналягу і ўжо ўсе справы кончу. Я тутака пазнаў аднаго Йозэфа Луцкевіча — сваяка ўладара фабрыкі шчотак да зубоў Зелінскаго — ці ён часам ня будзе і ваш сваяк? Падзякуйце ад мяне таксама і пану I. за памяць і ласку і аддайце яму, а таксама брату Івану і Ўласту[4] паклоны!

Ваш Гальяш Леўчык.

Ф. 21, спр. 286, арк. 9.

г. Вильно
Завальная ул. № 7
«Наша Ніва»
в Редакцию

**Кукавала зазулячка...**

Кукавала зазулячка за акном,
заплакала дзяўчыначка за сталом...
Кукавала зазулька ў бярозе,
заплакала дзяўчынка ў дарозе...
Кукавала зазулячка на дубе,
заплакала дзяўчыначка пры шлюбе...
Кукавала зазулячка на елі,
заплакала дзяўчыначка ў пасцелі...

Слонім. Запісаў Гальяш Леўчык

Ф. 21, спр. 286, арк. 10

г. Вильно
Георгиевский пр. № 4
Е[го]В[ысоко-]Б[лагородию].
Антону Луцкевичу
Варшава, д. 17/30 студня 1913 г.

---

[1] Зямкевіч Рамуальд (1881—1944) — беларускі бібліёграф, гісторык літаратуры, публіцыст, перакладчык.

[2] Вільдэр Геронім (1876—1941) — вядомы варшаўскі антыквар і калекцыянер.

[3] Луцкевіч Антон (1884—1942) — адзін з пачынальнікаў, тэарэтыкаў і арганізатараў беларускага нацыянальна-вызвольнага і сацыялістычнага руху.

[4] Псеўданім Вацлава Ластоўскага.

Залаценькі Дзядзька Антон!

Часта мне прыходзіцца з варшаўскімі абрусеўшымі беларусамі-студэнтамі вясьці спорку і дыскусію на грунці беларускаго адраджэньня. Такая агітацыя часамі памагае зьдзерці ім з вачэй бельмо і я бачу, што многіе із іх чуюцца беларусамі, і з часам могуць быць і таксама наварочваць другіх. Але мала гэтаго — такая спорка змушае мяне зьвярнуцца да вас вось у якой справі:

1) Якіе толькі ёсьць яшчэ там у вас экзэмпляры вашай брашуры А. Новіны[1] «Белоруссы»[2] (па расійску) усе чыста выслаць мне, а яны зараз уміг будуць раскуплены, калі ў Вільні німаш, то мо ў Піцяры.

2) Трэба было б канешне вам, дзядзька, выдаць гэту брашуру 2-гі раз*), толькі, канешне, дапоўніць яе і ўставіць апіс: асобнасьці беларуса, яго характар, дадатнія стараны, чым ён рожніцца ад вялікаруса і маларуса, яго духовая спасобнасьць і т. д. Словам, высказаць, што беларус саўсім асобная натура і нацыя і павінна мець права да жыцця...

3) Прышлеце з 10 штук вашай адбіткі: «На дарозі да новаго жыцьця»[3].

Гальяш Леўчык

*) Гэта дапоўнена брашура (расійская) вельмі тут патрэбная. Сколькі 2 выданьне каштавала б?

Ф. 21, спр. 286, арк. 11.

г. Вильно
Виленская ул. № 29
въ редакцію газеты
«Наша Ніва»
Яго Міласьці
Антону Луцкевічу
ў Вільні

Варшава д. 12/25 чэрвеня 1915 р.

Шаноўны і Паважаны Паночку!

Пры грымотах і перунах вялікай Еўрапейскай буры, аткрываецца для ўсіх меншых славянскіх і неславянскіх народаў і нацый, новая страніца гісторыі, свабаднейшаго жыцьця і мысьлі сваёй роднай нацыі!!!(?)

Даведаліся і мы, што цяпер у Маскве выйшоў № 1 расейскай часопісі «Національныя проблемы», аб чым вы хіба ўжо ведаеце, дзе будуць выступаць пера прэдстаўнікоў усіх нацый і народаў, жывучых у Расеі, дзеля народна-культур(аль)ных патрэб сваёй нацыі!.. Вось мы, хаця і думаем, што вы, паважаны дзядзька, мо ўжо і бярэце (ці возьмеце) і сво́й нароўні з другімі ўдзел у гэтай расейскай часопісі, каб вырабіць і для Беларусаў лепшу будучыню, шлем вам сваё: «Памажы Божа!!!».

Беларусы, жывучыя ў Варшаві, Гальяш Леўчык і другіе.

Паклон усім! усім!

(Даўно, даўно ня бачыліся і ня гутарылі!! Як маецца Дзядзька Іван? Што ў Вас там агулам чуваць???)

Ф. 21, спр. 286, арк. 12.

Варшава д. 26 чэрвеня/9 ліпня 1911 г.

Браткі, Таварышы ў Рэдакцыі «Наша Ніва»

Жменька беларусаў у Варшаві хацела б пазнаці больш тутэйшых землякоў сваіх, каб лепш вязьці супольную справу.

---

[1] Псеўданім Антона Луцкевіча.

[2] Маецца на ўвазе адбітак «Белорусы» Антона Луцкевіча з кнігі *Формы национального движения в современных государствах* (Санкт-Петербург 1909).

[3] Маецца на ўвазе кніжка Антона Луцкевіча *На дарозе да новага жыцця* (Санкт-Петербург 1912).

Дзеля гэтаго просім Вас прыслаці нам іх адрасы і ўказаці нам нашых людзей, што жывуць у Варшаві і каля яе.

Пасылаючы Вам шчыры братні прывет, чакаем ад вас весткі аб тых беларусах, што вам ужо вядомы, і аб тых, што яшчэ будуць.

Гальяш Леўчык

Ромуальд Земкевіч

Язэп Гапуновіч[1]

Л. Дубейковскі[2]

В. Столыгво[3]

Ф. 21, спр. 286, арк. 13

## Пісьмы Антону Луцкевічу

Варшава 4/17 ліпня 1911 г.

Шаноўны і Паважаны Паночку!

Сваіх прыяцелёў і знаёмых я люблю тытулаваць ці празываць: «Дарагенькі альбо залаценькі Братко-Таварыш!» Але да Вас, пішучы першы раз, яксьці — нязручно. Ну, але калі вам прыдзе калі небудзь ахвота скрыпнуць часам крышачку слоў да маёй мізэрнае хвігуры, то ўжо я ня выцерплю, а адважуся назваці «Братко-Таварыш», а не «Паночку». Шмат да каго я пісаў, да і да мяне шмат пісалі, а вось, каб ня Земкевіч, то бы я і да гэтай пары няведаў, што вы есьце на сьвеці, да і больш тамака вас ёсьць (апроч п. Ўласава, Ластоўскаго, Будзькі, нашых паэтаў і др.), хаця, ведама, думаў, што мусяло б быці! Але ўсё ж такі вы тамака лепш і часцей чулі і ведалі аб нейкім Гальяшу Леўчыку і хутчэй маглі б рыпнуць да яго лісток, дзеля грамадзянскай справы. Ну, але цяперака я сам магу пачаць з Вамі гутарку, дзеля таго, што мой Власт[4] неадзываецца да мяне, ня ведаю чаму, ці хворы, ці выехаў, ці можа я яго чымсьці прагневаў, але здаецца, не?..*).

Часам вось кажу, што мова — серабро, а — «маўчок» — золата!

Перш наперш, даведаўшыся аб тым і сім, што дзякуючы Вам і брату, «Наша Ніва» радзілася і жывець, што вы тамака цэлай «спружынай», цэлым «маторам-машынай» беларускаго, хочацца мне з глыбіні сэрца падзякаваць Вам з братам за ўсе вашы труды, уложэны на цяжкай нашай ральлі, і за ўсю вашу працу дзеля адраджэння Беларускаго народу! І сьціснуць вашу працавітую руку! Няведаў я, што ёсьць такі сабе Земкевіч, каторы, прыехаўшы з Вільні, заглянуў да мяне. Будучы нексьці ў проф. Карскаго[5], я даведаўся аб ім і запісаў яго, ажно ж ён сам явіўся. Ну, і цікавы з яго, аднак, экзэмпляр, на сколькі я мог яго пазнаць. Но, бо як жэж? Хто тутака мог падумаць, што калісьці, нібы паляк, ды яшчэ радзіўшыся ў Варшаві, вось якую ідэю «злапаў»? Саўсім ён мяне здзівіў, асабліве дзеля знаньня беларускай бібльёграфіі. Ад яго я цяперака шмат чаго даведаўся. Калі ён не махлюе, ды духам няўпадзе і будзе ісьці крэпка, то сьмела можна сказаць, што вялікую карысьць з яго мы можам мець і аграмадную ўслугу ён калісьці Беларусі прынясе! Шкада, што нямаш яму, як там у Вільні альбо ў Варшаві пакуль што аперціся, каб матэрыальна яму было лягчэй, а то, бедны, саўсім ужо вытрасся!.. Я яму крыху памог, але даўжэй трудна!

---

[1] Гапановіч Язэп (1883—1961) — беларускі грамадскі дзеяч, прадпрымальнік.

[2] Лявон Вітан-Дубейкаўскі (1869—1940) — беларускі архітэктар, будаўнік, грамадскі дзеяч, педагог, паэт.

[3] Сталыгва Уладзіслаў (1874 — ?) — беларускі грамадскі дзеяч у даваеннай Варшаве.

[4] Псеўданім Вацлава Ластоўскага.

[5] Карскі Яўхім (1860—1931) — філолаг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнограф, фалькларыст, палеограф.

Але, здаецца, ён не махлюе, а кажэ праўду. Меў выдаць Власт цяпэрака сборную кніжку ў памяць Палуяна[1], ну і штосьці дзела загразло, пэўне грошай нямашака. Ён хацеў назваць яе «Вялікдзённая Пісанка» ці што, але Вялікдзень ужо даўно далёка ад нас, дзеля гэтаго «назова» гэта ўжо не гадзіцца. Але дзела гэта трэба было б давесьці да канца, бо на памяць нябошчыка-барца за Беларусь, толькі ўжо пад іншым «тытулам» («назовай»): «Беларускі Курган». Грошы на гэта: 25 рублёў прыслаў я (і як я чуў), Грыневіч[2] і Земкевіч па 25 руб. = разам 75 руб. Даведайцеся, так нібы няхочучы, сколькі гэта ўсё каштавала б? Я часам пад ахвоту на гэты цэль мог бы крышку і грошы сабраць. Вы тамака добра ведаеце Власта — на від з пісьмаў ён, здаецца, нязгоршы, толькі, бадай, больш гаворыць і піша, чым (аб чым піша) робіць. Я на яго крышку сярдзіты: ён мае творы і вершы страшэньне змалоў, да і меле, праўда, што я сам крыху вінаваты, бо «зарэкамэндаваў» сябе нібы як «самавучка», вось тагды рожные «самазванчые языкаведы» давай іх пілаваць у вас тамака на ўсе бакі, дай спілавалі. Эг філістры! Добра, што я на «амбіцыю» ня хварэю, а то крый Божа загарэлася б тагды страшэнная «палеміка», ды і з «адваротнай» крытыкай, бо і я ж такі, здаецца, бадай што ня згорш знаю родную мову, да і дарма праз 30 гадоў хлеба ня марнаваў. Вось і прыгадзіцца калісьці выцяхаць і іхніе «быкі» са свайго капшука, гдзе ажні шэлесьцяць і просяцца а «крытычные жорны». Ну, паглядзімо, пабачымо? Толькі не кажэце і не давайце пазнаць, што я да вас пісаў і што гаварыў, бо гэта можа нэрвам зашкодзіць. «Я сабе скраю — нічога ня знаю!» Эг, здаецца, каб гэта я ўжо ў Вільні мог жыць! Загудзеў бы, зайграў бы, ажні край весь танцаваў бы! Але «ява» ня такая, як паэтычны сон**)... Калі ж мы дачакаемо філологічнаго зьезду?? Напішэце мне аб вашых думках, проектах, што тамака ў вас дзеецца, як робіцца, мо часам усё такі то тым, то сім прыгадзіцца вам ваш новы прыяцель

Гальяш Леўчык

*) Калі я ўжо кончыў пісаць гэты лісток, то разношчык прынёс пісульку ад Власта.

**) «Тамака добра жывецца, гдзе нас немашака».

Варшава д. 13/31-Х лістопада 1912 г.

Залаценькі Дзядзька!

Такое канторы абвестак: «М. Гіммэльфарба» на Каралеўскай 25 у Варшаві ня было і нямаш — так сторож мне казаў, да і ў канторах абвестак аб такой фірме ня чулі і ў кнізе тэлефонаў яе нямашака. Будзьце асцярожны, дзядзька, бо тутака Жыды на ўсе рукі спасобны! Пры гэтым пасылаю вам распіску агентурную! Вось яшчэ, дзядзька, хуткая вельмі рэч: Тутака «Альф. Гродзкі» хочэ даць абвестку да Каляндара, але дае толькі тую самую цану 30 рублёў, што і ў прошлым року, за 1 страніцу ў двох выданьнях і на том самом месцы і тую самую абвестку, што і была (так што перакладу ня трэ рабіць). Дзеля гэтаго хутка адпішце, то ён прышле клішу! Я бы Вам радзіў прыняць, дзеля таго, што ён пэўне больш ня дасьць і што ў гэтым року менш будзе абвестак, ніж у том (я маю ўжо на 60 рублёў, а з ім то будзе 90-сят), і што ён ужо трэці раз абвешчваецца! Ён аб гэтым ужо пісаў быў да «Нашай Нівы» 22 кастрычніка, але вы адкажэце на маё імя, то я мо яшчэ патаргуюся! Але хутчэй! Ці не маглі б вы мне, дзядзька, пастарацца № 1 «Славянскія известія». Тамака есьцяка надруковано аб Беларусах — вы знаеце — рэдакцыя ў Маскве (вышоў толькі адзін, здаецца нумар). Буду дзякаваць!..

Прышлеце мне ўзор малюнка да календара на 1913 рок!

Я ня атрымаў апошняе газэты з прошлай нядзелі!..

Бывайце здаровы і кланяйцеся ўсім нашым блізкім і дальшым беларусам!

Ваш Гальяш Леўковіч

---

[1] Палуян Сяргей (1890—1910) — публіцыст, празаік, літаратуразнавец.

[2] Грыневіч Антон (1877—1937) — збіральнік музычнага фальклору, выдавец, педагог, кампазітар.

Варшава 13/26- II 1913 г.

Залаценькі Паночку!

У нашай справе канешне патрэба выпусьціць друкам на расейскай мове і асобна на польскай мове такую агітацыйна-інфармацыйную брашуру аб беларускам адраджэньні, як напрыклад вашые «Беларусы» (А. Новіны) і «Па дарозе...», толькі яшчэ дапоўніць характарыстыкай народнай, гісторыяй, бібліяграфіяй і асобнасьцямі беларускаго народа, штосьці ў духу стацьці проф. Пагодзіна[1] ў «Вестнике Европы»[2] аб беларускіх паэтах...

Такая кніжка нядорага каштавала б — грошы знашліся б — і яна была б надта вельмі памочна. Вы на гэта майстар! Калі ласка, адпішэце мне.

Ваш Гальяш Леўчык

Варшава — дн. 6/VIII — 1925 г.

Вельмі Паважаны Паночку!

Шчыра Вам дзякую за пісулю, што Вы мне прыслалі ў адказ на маю ў справе «Гасподняй Малітвы». Вашу параду я прыняў пад увагу. Но толькі Вы пішаце: «што тэкст, які ёсьць у Эвангельлі і які я ўласнаручна надпісаў Вам на экзэмпляры Вашага перакладу (пэўне яго Вы ўжо маеце), зусім узгоднены!!.. Дык ня ведаю і не разумею — я ніякага надпісу «ўласнаручнага Вашага» на сваём эгзэмпляры не атрымаў. (?) Ці вы мелі мне яго пераслаць, ці Дзякуць[3], ці ён пашоў да Лодзі ў «компас»? Мне вельмі трэба мець тэкст Вашай «Госп[одняй]. Малітвы» з грэцкага, бо гэта важна і цікава ня толькі ведаць і мець, но і ўжо разпаўсюджваць яе! Мне казаў Ўласаў[4], што Вам прыслалі з Лодзі да карактуры толькі адзін аркуш ці сшыток эвангельля, дык мо ў ём і ёсьць яна, а калі не, то мо будзеце ў рукох сваіх мець, дык прасіў бы ласкава мне прыслаць яе. Ваш Г. Л.

дн. 20 ліпня 1926 г.

Паважаны Дзядзька!

Даю Вам яшчэ «горбу» літарацкіх матар’ялаў сатырычных аб «слаўных», нібы «беларускіх» «дзеячах» — думаючы, што яны Вам, а калі не Вам, дык мо «Маланцы»[5] або «Б[еларускай]. Справе»[6] да друку (у абрэзцы) прыдадуцца, а нават хацяб хай ляжаць сабе ў музейнам архіве, калі ня будзе адвагі ці мо грошы іх выдаць друкам ці ў газэтах, ці ў аддзельнай брашурцы, як сатыры. Але, калі ласка, усё-ткі адкажэця, прачытаўшы іх, мне, бо я ўпярош быў паслаў некаторыя з іх (апрача аб: «Ляк.» і «Пав.») у рэдак. «Маланкі», ды там, відаць, баяцца зачапляць гэных асоб і нічога ня друкуюць і нават ня адказваюць мне, ці будуць друкаваць. А шкада! Бо матарыялы добрыя — проста гістарычныя! Праўдзівыя, узятыя з фактаў і жыцьця! Два толькі «Маланка» выдрукавала, а больш штосьці ня відаць — маўчаць, ня ведаю чаму? Каб штосьці ў аддзельнай брашуры, дык было-б разам у калекцыі 6 асоб — дый, думаю, што зараз разкупілі-б цэлы наклад! Трэба дадаць толькі рысункі карыкатураў. Была б знамянітая брашурка! Пад маім псэўданімам: «Гля-Гля-Бач». А мо нават і другіх іншых аўтараў да яе далучыць! (Аб другіх падобных ці іх-жа «Дзеячох»).

З пашанай — Г. Л.

Ф. 21, спр. 286, арк. 11-13.

---

[1] Пагодзін Аляксандр (1872—1947) — рускі гісторык і філолаг-славіст.

[2] «Вестник Европы» — расійскі часопіс, заснаваны ў 1802 г.

[3] Дзекуць-Малей Лукаш (1888—1955) – беларускі грамадскі і рэлігійны дзеяч.

[4] Уласаў Аляксандр (1874—1941) — беларускі грамадскі і культурны дзеяч, выдавец, публіцыст.

[5] «Маланка» — ілюстраваны сатырычны часопіс прагрэсіўнага кірунку ў Заходняй Беларусі. Выдаваўся ў Вільні на беларускай мове з 15 студзеня 1926 г. Выйшлі 43 нумары.

[6] «Беларуская Справа» — газета, выходзіла ў Вільні з 9 красавіка па 31 ліпеня 1926 г.

Вільно
Остробрамска 9
Рэдакцья газэты
«Беларускі Звон»[1]
в Вільне

Трыолет
Пасьвячаецца Ярашэўскаму за яго стацьцю: «Не….. [не разборліва]»

Жаваранкаў хоры цешаць нашу ніву,
Ўсюды Беларускі раздаецца стогн.
Режуць нам зямельку, мучаць голаў сіву...
Жаваранкаў хоры цешаць нашу ніву.

Беларус будуець вольную, шчасліву
Бацькаўшчыну родну, бацькаўскі загон —
Жаваранкаў хоры цешаць нашу ніву,
І чуваць нам ў сэрцы: «Беларускі Звон»».
1922. — || — Гальяш Л.....
P. S. Просіцца выдрукаваць у «Б[еларускім]. Звоні».
Ф. 21, спр. 286, арк. 13.

---

[1] «Беларускі Звон» — газета, якая выходзіла ў Вільні з 6 студзеня 1921 г. па 2 снежня 1923 г.

Мікола МІКУЛІЧ

# З ІДЭЯЙ СВАБОДНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ ДУХУ

У складаным спектры мастацкіх пошукаў і развіцця заходнебеларускай паэзіі асобнае месца належала духоўна-ірацыянальнай стылявой плыні. Яна была звернута да асэнсавання духоўна-філасофскіх, сацыяльна-маральных і душэўна-псіхалагічных аспектаў узаемадзеяння чалавека і рэчаіснасці, асобы і сусвету, да пазнання глыбінных асноў жыцця, яго складанай і супярэчлівай унутранай сутнасці. Гэтая плынь утварала своеасаблівую сакральна-містычную прастору, якая вызначалася энергетычным зарадам рэлігійнасці, раскрыццём духоўнага зместу падсвядомага.

Творчасці паэтаў духоўна-ірацыянальных памкненняў быў уласцівы характар апазіцыі заходнебеларускай рэчаіснасці з яе грубай эмпірычнасцю і ўтылітарызмам, несправядлівасцю і прыгнётам. Сацыяльна-гістарычная абумоўленасць жыцця цікавіла іх у значна меншай ступені, чым прадстаўнікоў папярэдніх стылявых плыняў, а то і зусім не цікавіла. Ідэйны, грамадска-палітычны аспекты імі фактычна не распрацоўваліся. Прадстаўнікі гэтай плыні адмаўлялі прынцыпы падпарадкавання паэзіі і ў цэлым літаратуры і мастацтва пэўнай сацыяльнай місіі, у прыватнасці, мэтам і задачам заходнебеларускай грамадска-ідэалагічнай барацьбы, народна-вызваленчага руху, лічылі іх цалкам самадастатковай духоўна-эстэтычнай субстанцыяй і каштоўнасцю. Яны зыходзілі з таго, што мастацкая творчасць развіваецца на асновах безумоўнасці і самазаконнасці, не служыць пэўнай карысці і выгадзе. Яна як бы знаходзіцца над рэчаіснасцю, над сацыяльнымі мэтаімкненнямі — нават самымі актуальнымі і прагрэсіўнымі, над грамадскімі інтарэсамі і запатрабаваннямі. Іх лірычны герой не прадуцыраваў сацыяльных ідэй, непасрэдна не залежаў ад грамадскага асяроддзя і не намагаўся падпарадкаваць яго сваім прынцыпам і перакананням. Ён звяртаў на сябе ўвагу характэрнай сканцэнтраванасцю на сваім унутраным суб'ектыўным свеце, які амаль не судакранаўся са светам знешняй рэчаіснасці, але быў уключаны ў прастору вялікага касмічнага цэлага. Галоўную задачу ён бачыў у сцвярджэнні высокага духоўна-эстэтычнага пачатку і разглядаў сацыяльнае асяроддзе як умову і крыніцу паўнакроўнасці ўспрыняцця жыцця, душэўна-псіхалагічнай раўнавагі і гармоніі.

Падпарадкоўваючыся законам вышэйшага натхнення і духоўна-эстэтычнай прасветленасці, услаўляючы дабро і красу як аб'ектыўную рэальнасць і вялікую мэту, мастацкая творчасць рэалізуе абсалютную ісціну, выяўляе радасць існавання, паўнату быцця і свету, служыць наўменальнаму, Дасканаламу, Вечнай сутнасці. Наогул, талент, дар паэзіятворчасці — гэта вялікая тайна, якая сваімі каранямі звернута да адвечных метафізічных асноў быцця. Ён даецца асобе вышэйшай трансцэндэнтнай сутнасцю з тым, каб яна адчула ў навакольнай рэчаіснасці, свеце натуральных бачнасцей і ўвасобіла ў слове праявы абсалютнага пачатку, водбліскі вечных ідэй і сэнсаў. Мастак авалодвае таямніцамі матэрыяльна-прыроднага асяроддзя, па-свойму развівае закладзеную ў ім творчую энергетыку, працягвае працу Сусветнай волі, Касмічнага духоўнага розуму.

Свету сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасці і прыгнёту паэты гэтай стылявой плыні супрацьпастаўлялі ідэі духоўна-маральнага ўдасканалення чала-

века і грамадства. На іх думку, рэальная сіла і задача мастацтва заключаюцца ў тым, каб прасвятляць і пераўтвараць жыццё на асновах праўды і міласэрнасці, цярпення і згоды, цеплыні і спагады, любові і ўсёдаравання як праяў боскай наканаванасці чалавечай душы. Яны разглядалі мастацкі твор не як сродак дасягнення пэўнай мэты, а як саму мэту, існаванне прыгожага ў прыгожым, арэол анталагічнай тайны, асвечанай інтуіцыяй.

Духоўна-ірацыянальная стылявая плынь заходнебеларускай паэзіі сцвярджала салідарнасць усяго існага, асновы і прынцыпы станоўчага ці ідэальнага ўсёадзінства як гармонію быцця і свету, дзе кожны кампанент існуе ў сістэме шматлікага многага, у бессвядомым імкненні да суладнасці і ўзгодненасці ўсяго з усім. Яго ўтварае ўзаемазвязанасць усіх космаэвалюцыйных працэсаў, узаемапранікненне астральнага, трансцэндэнтнага, прыродна-біялагічнага, сацыяльна-гістарычнага і духоўна-чалавечага пачаткаў, якія збіраюць сусвет у адзінае цэлае, абумоўліваюць у ім месца асобы. Тут дабро прадугледжвае існаванне зла як рэальнага суб’екта і дзейнай сілы ў сістэме ўсеагульнай раўнавагі. Яно не перамагае зло, а паслядоўна авалодвае ім, падпарадкоўвае яго служэнню сваім інтарэсам і каштоўнасцям. Чалавек і прырода па-сапраўднаму могуць выявіць і сцвердзіць сваю зместавую сутнасць толькі ў суаднесенасці з усёй паўнатой і разнастайнасцю станоўчых і свабодных ідэй святла і дабра, Вышэйшым сусветным сэнсам. Калі прастора натуральных бачнасцей паддаецца ўздзеянню пэўнай жыццёвай сілы, значыць, яна падрыхтавана да гэтага ўздзеяння, унутрана блізкая да гэтай жыццёвай сілы. Станоўчае ці ідэальнае ўсёадзінства прадугледжвае сувязь і ўзаемаабумоўленасць духоўнага і матэрыяльнага, матэрыялізацыю духоўнага і адухаўленне матэрыяльнага пачаткаў, раўнавагу і салідарнасць частак і цэлага, асобнага, індывідуальнага і агульнага як умову і вынік дабра, ісціны і красы. Мастацкія пошукі прадстаўнікоў гэтай плыні вызначаліся наяўнасцю характэрнай духоўна-інтэнцыянальнай эмоцыі, якая акрэслівала модус існавання лірычнага героя праз адметнае сінтэзаванне свету натуральных бачнасцей і адчуванняў як стыхіі абсалютнай усеагульнасці, матэрыяльнага ўніверсуму і творчай суб’ектыўнасці.

Дужа паказальнай у гэтым плане з’яўляецца асоба Казіміра Сваяка (сапр. — Кастусь Стэповіч) (1890—1926) — аднаго з пачынальнікаў духоўна-ірацыянальнага стылю, творчасць якога вызначалі асаблівасці містычнага, інтуітыўна-экстатычнага ўспрыняцця свету. Яго грамадска-эстэтычны ідэал вырастаў і фарміраваўся на аснове рэлігійных поглядаў, глыбокага ўсведамлення хрысціянскіх маральна-філасофскіх каштоўнасцей. З’яўляючыся каталіцкім святаром, К. Сваяк сцвярджаў духоўную сутнасць быцця як аснову дабра, ісціны і красы ў сусвеце. Яго мастацкае мысленне абумоўлівалася імкненнем да пераадолення зямнога і прыроднага пачаткаў, таго, што прынята разумець пад паняццем «фізічнага эгаізму», жывілася дабратворнай энергіяй любові, верай у сілу і несмяротнасць духу, маральнае ўдасканаленне чалавека і гармонію сусвету. Шырокай грамадскай няпраўдзе, сацыяльнай несправядлівасці і нацыянальнаму ўціску, бедам і няшчасцям народнага асяроддзя паэт супрацьпастаўляў станоўчы рэлігійна-хрысціянскі ідэал, перастварэнне жыцця ў любові і веры ў Царства Божае, высокую Божую праўду і свабодную згоду і адзінства.

Лірычны герой адзінага зборніка К. Сваяка «Мая ліра» (1924) дарэшты прасякнуты памкненнем да Бога, пазнаннем Яго высокай зместаваўтваральнай сутнасці («Ледзь толькі блысьне на небе зарніца, Дух мой, о Божа, на Цябе чакае»), прагне Яго, «як дожджу травіца». Ён сумуе па Богу, шукае Яго ў «дарозе блуднай», «Ў сухой зямельцы бязводнай і труднай, Залітай жагай палудняга сонца», багаславіць Яго «дзівы Ў формах праявы і ў зьменах часу». «Шляхам цярністым жыцьцё агартаю, Руку цалую Тваймо змілаваньня, — чытаем у вершы «Песьня на псальм 62», — Твой Огляд вечны гімнам апеваю І веру сёньня ў духа змертвыхстаньне».

На думку К. Сваяка, усе зямныя і нябесныя з’явы і прадметы знаходзяцца ў працэсе свабоднага руху, узаемадзеяння і ўзаемапранікнення, падпарадкаваны

пэўнаму і выразнаму касмічнаму ўсёадзінству, універсальнаму сусветнаму сэнсу, увасабляюць існаванне непадзельнай сусветнай ідэі. Якраз пазнанне вялікай і вечнай таямніцы, сусветнай ідэі, як духоўнага адзінства і ўзаемазвязанасці ўсяго з усім, гэтак званай цэласнасці прыватнага, калі адно адлюстроўваецца, рэалізуе свой патэнцыял у другім, атрымлівае ў ім свой працяг і развіццё, з'яўляецца галоўным прадметам чалавечага жыцця. Лірычны герой паэта імкнуўся да асэнсавання аб'ектыўна-матэрыяльных і суб'ектыўна-ідэальных частак і элементаў сусветнага цэлага, да ўзаемапранікнення і свабоднага існавання з імі. Натуральна, ён адчуваў на сабе ўздзеянне гэтага сусветнага цэлага («Пульс жывога ўсесьвету, творчы шопат чую…») і ў той жа час, рэалізуючы яго, сам уплываў на шматлікія навакольныя з'явы і працэсы. Цікавую і незвычайную, як у духоўным, так і мастацкім плане, карціну назіраем, напрыклад, у вершы «Душа мая»:

Матыль пышнакрылы купаецца ў зорах
З праменьняў сатканых, купаецца ў морах
З вадою цудоўнай. У неба ўзлетае
Арлом сьветавідам — і ў пекла спадае.

Тут не толькі адно не выключае другога, а, наадварот, прадугледжвае яго, салідарызуецца з ім, прадуцыруе яго развіццё і функцыянаванне. Адзінкавае і прыватнае існуюць на шырокай усеагульнай аснове, падпарадкоўваюцца высокай творчай сіле, прыроднай волі, касмічнаму розуму — Провіду Божаму. Верш прасякнуты адчуваннем асеабдымнай і ўсеагульнай адухоўленасці сусвету, напоўненасці яго цеплынёй і пяшчотаю, дабрынёй і любоўю. Ён сцвярджае светланосны пачатак, ідэю вечнага духу, які знаходзіць сваю рэалізацыю ў з'явах і прадметах матэрыяльнага свету, увасабляе прынцып «станоўчага ўсёадзінства», актыўнасць і дзейснасць гарманічнага цэлага. Мабыць, асаблівай зместавай насычанасці і пераканання аўтарская думка дасягае ў апошняй страфе твора:

Сьвет чароўны-цудоўны мяне ўзяў у абоймы,
Напаіўшы адвечнай журбай ідэалу,
Твораў дзіўных усюды віджу цэлы плоймы
І чую над сабою ўсебыту навалу.

Сэнсатворны змест і значэнне любой з'явы К. Сваяк успрымаў і разумеў як яе ўнутраную звернутасць да сусветнай ідэі, абсалютнай ісціны. Ён адмаўляў прыватную адасобленасць і злосць, эгаізм і карысць у жыцці чалавека і грамадства, а тым больш адкрытую барацьбу і супрацьстаянне, да якіх заклікалі, напрыклад, прадстаўнікі камуністычнай светапогляднай платформы. Паэт сумняваўся ў маральнай эфектыўнасці і дзейснасці радыкальна-рэвалюцыйных сродкаў і метадаў пераўтварэння рэчаіснасці, адхіляў сілу і прымус як спосаб выратавання свету. «Ці варта змагацца з нядолей крывавай? Ці варта вялічыць лік жэртваў зямлі? — разважаў ён у вершы «Чаму мне маркотна». — Ці ж сьвет пераробім рукою нямравай? Ці тым там ня лепей, што ў гробе згнілі?»

Паэтызацыя хрысціянска-каталіцкіх духоўна-маральных каштоўнасцей спалучалася ў творчасці К. Сваяка з выяўленнем актуальных грамадска-сацыяльных праблем і супярэчнасцей, сцвярджэннем нацыянальна-патрыятычнай ідэі, адраджэння Беларусі. Ён славіў Бога і адначасова ўсхваляў «родную старонку», яе чары, цудадзейныя сілы і магчымасці. «Ты цярпеньне душы гоіш І зьнямогу цела, — чытаем, напрыклад, у вершы «Чары Айчыны». — Жыцьцё творыш, песьні роіш, Вучыш жыць умела».

Духоўна-ірацыянальныя пошукі вялі да сцвярджэння прымату Абсалютнага, таго, што набыло жыццё раней за ўсё астатняе і надало яго ўсяму іншаму, што з'яўляецца закончаным, усёпранікальным, бясконцым і вечным. Паэты гэтай плыні развівалі асаблівасці аб'ектыўна- і суб'ектыўна-ідэалістычнага пазнання рэчаіснасці, прытрымліваліся думкі, што прадуцыраванне і функцыянаванне творчага пачатку забяспечваюцца, з аднаго боку, дзейнасцю Сусветнага духу,

Абсалютнай ідэі, Вышэйшай рэальнасці, а з другога, працай канкрэтнай індывідуальнасці, чалавечай душы. Якраз яны арганізуюць выяўленне дабра, красы і прыгажосці як адлюстраванне «ўнутранай духоўнай сутнасці свету», узаемапранікненне і паяднанне рэальнага і ідэальнага, асобнага, прыватнага і агульнага, бясконцага. Усе з'явы і прадметы матэрыяльна-прыроднай прасторы прасякнуты высокім боскім сэнсам, які раскрывае іх змест, красу і гармонію. У той жа час пазнанне рэчаіснасці залежыць ад характару і стану пэўнага індывідуума, яго духоўна-эмацыянальнага напаўнення. Іншымі словамі, успрыняцце суб'ектам канкрэтных грамадскіх працэсаў і рэчаў — гэта ўспрыняцце іх уздзеянняў, таго, пра што гаворыць Вечна жывая сутнасць, разам з тым свет бачнай матэрыі і цялеснага існавання — гэта свет уяўленняў чалавека. Пазнаючы навакольнае асяроддзе, асоба пазнае свае думкі, ідэі, пачуцці, свае ўражанні ад яго. Адсюль — аб'екты матэрыяльна-прыроднай прасторы з'яўляюцца вынікам адлюстравання свету Вечнай ісціны, ідэальнага пачатку космасу, Вышэйшай рэальнасці і адначасова духоўна-псіхалагічнай творчасці чалавека.

Асноў містычнага эвалюцыянізму ў поглядзе на жыццё чалавека і грамадства прытрымліваўся Вінцук Адважны (сапр. — Язэп Германовіч) (1890—1978), паводле слоў А. Станкевіча, «арыгінальны і даволі плодны беларускі пісьменьнік і паэт», які вёў свае мастацкія пошукі, у многім арыентуючыся на духоўна-эстэтычны вопыт аднадумцы і сябра К. Сваяка, хоць і ў прыкметна іншай стылявой манеры. Яго лірычная свядомасць таксама была звернута да хрысціянскай першакрыніцы, сцвярджэння ідэальнага пачатку свету, услаўлення веры ў Бога як бязмежнае і вечнае Дабро і Шчасце. Пра гэта сведчаць вершы, сабраныя ў зборніку «Беларускія цымбалы», які выйшаў у 1933 годзе.

Вінцук Адважны сцвярджаў духоўна-маральную напоўненасць чалавечага жыцця, выступаў за тое, каб сацыяльныя і нацыянальныя праблемы і супярэчнасці заходнебеларускай рэчаіснасці вырашаліся сілаю дабра і праўды, пераканання і справядлівасці. Грамадскаму ліху, граху і насіллю, канкрэтным людскім бедам і няшчасцям, на яго погляд, могуць і павінны супрацьстаяць душэўная цеплыня, усёдараванне і ўсёпрымірэнне. Паэт услаўляў цяжкую духоўна-маральную працу чалавека па ўвасабленні вобраза Божага, распаўсюджанні і ўмацаванні ў матэрыяльна-прыродным свеце пакоры і цярпення, любові і веры. Супрацьстаючы волі інстынктаў і выпадковых здарэнняў, яны ўплываюць на законы фізічнага жыцця людзей, адухаўляюць іх прыродную сутнасць, рэгулююць паводзіны і ўчынкі, а ў цэлым прасвятляюць грамадскае асяроддзе, насычаюць яго маральным зместам, прыдаюць яму ўнутраную цэласнасць. Любоў і вера не проста прадугледжваюць наяўнасць выразнага душэўна-пачуццёвага стану чалавека, яго эмацыянальна-псіхалагічную зараджанасць, а сведчаць пэўную перадыслакацыю ўнутранага «я» асобы на аб'ект ці аб'екты знешняга свету, выяўляюць адчуванне і бачанне іх асаблівых рыс і ўласцівасцей. Усё гэта знайшло сваё ўвасабленне ў такіх вершах В. Адважнага, як «Прарок», «Сірата», «Мудрасць Саламона» і іншых, прасякнутых рэлігійна-паэтычным сімвалізмам.

Лірычны герой верша «Прарок» з зямлі «быў узнесен на вышыны», туды, «гдзе пануюць серафіны», над якімі толькі Бог Усемагутны. Там ён убачыў, як яны стаялі «з паклонам ніж-глыбокім, Закрыўшы вочы», «Прад Божым тронам» і спявалі «песьню бязупынна: «Сьвяты, сьвяты, сьвяты навекі!» Апынуўшыся ў нязвыклай для сябе сітуацыі, лірычны герой паэта «маўчаў, як пень — нямова, Ня мог сказаць разумна слова». І тады Бог «Даў знак анёлу — серафіну» ратаваць неразумнага «дзяціну».

Й анёл узяў вуголь аўтарны
З агня, што там гарэў ахвярны,
І тым вуглём гаруч — гарачым
Язык мне чысьціў, вусны значыў.
І бачыў Бог — сьвяты навекі!

І стаў я чысты, стаў вясёлы,
І рады ўсе былі анёлы,
І прынялі мяне за брата:
Было з таго у небе сьвята —
І бачыў Бог — сьвяты навекі!

«Слабы і цёмны і пахілы», герой В. Адважнага праходзіць ачышчэнне і ахрышчэнне «Агнём нябесным» і самаахвотна выклікаецца ісці «на сьвет нікчэмны», «да таго народу, Што у грахох згубіў свабоду…» «Благія, цёмны тыя людзі, — разважае ён, — Але браты мае аднакжа — Там кроў мая жывая такжа».

«Ідзі!» мне кажа: «пасылаю;
Я тваю слабасьць добра знаю:
Ты маей сілай будзеш сільны,
Ты маей праўдай — непамыльны…»
Сказаў мне Бог — сьвяты навекі!

Лірычны герой паэта вяртаецца на зямлю і з гонарам і адказнасцю выконвае высокую місію, ускладзеную на яго Богам. Ён прасвятляе жыватворнай боскай ідэяй людскія душы і сэрцы, выкараняе з грамадскай рэчаіснасці грэх і зло, эгаізм і пыху ўздзеяннем дабра, веры і любові, імкнецца да таго, каб яны трывала ўвасобіліся ў свядомасці сучасніка, авалодалі яго ўнутраным светам.

Я скалы цьвёрдыя пакрушу,
Я сэрцы гордыя прымушу
Пазнаць ўсю праўду Божу з неба:
Што трэба нам, чаго ня трэба!
Сьвяты мой Бог — сьвяты навекі!

Грамадзянска-патрыятычны ідэал звязваўся ў свядомасці В. Адважнага з рэлігійным ідэалам, Праўдай Божай, верай Хрыстовай. Як адзначаў А. Станкевіч у прадмоўным крытычным нарысе да зборніка «Беларускія цымбалы», менавіта з «несьмяротных ідэалаў Хрыстовай рэлігіі і этыкі» ён «чэрпае поэтыцкае натхненьне, да іх кліча народ свой і ў іх бача непарушную веру ў поўнае зьдзейсьненьне беларускіх народных ідэалаў, бо справа народная ў В. А. гэта частка справы Божай». «Даўно мы запалі у летарг глыбокі. Дарэмна будзілі нас Божы пракрокі, — сцвярджаў В. Адважны ў вершы «Народ беларускі…» — Нам праўду казалі — мы праўды ня чулі. Нам ў вочы сьвяцілі, ад веку мы спалі, Сваіх-жа пракрокаў яшчэ не пазналі…» Абяздолены і прыгнечаны беларус-селянін, у якога «Ад працы, ад гора ўжо сьцёрліся сілы…», пакутліва б'ецца «на полі цярністым, На полі ад веку благім, камяністым» без асаблівага спадзеўку на плён і вынікі сваіх клопатаў і намаганняў. Выйсце з гэтага няпростага становішча паэт бачыў у духоўным адзінстве, пяднанні канкрэтнай асобы і народнай масы ў любові і веры ў Ісуса Хрыста, на глебе ўзаемапавагі і ўсёдаравання. Адраджэнне-ўваскрэсенне Беларусі адбудзецца ў адпаведнасці з Провідам Божым, на шляху святой праўды і справядлівасці, ахвярнага цярпення і міласэрнасці. Менавіта таму ён заклікаў:

Народ беларускі ўсё чэзьне, гібее…
Прыйдзі, Хрысьце Божа, Ты наша надзея!
Народ губіць розум, зракаецца волі!
Народ, што ня бачыў свабоды ніколі;
Народ, што адбіўся ад праўды, ад шчасьця;
Народ, што век плача, ня ўмее сьмяяцца,
Ніколі ня можа да дзела прыбрацца —
Папасьці на сьлед сваей долі ня можа…

Разглядаючы паэзію В. Адважнага ў згаданым крытычным нарысе, А. Станкевіч заўважаў: «Рэлігійны элемент у «Цымбалах» займае выбітнае і цікавае мейсца — ён для песьняра зьяўляецца — хоць на выгляд займае скромнае месца — першым і апошнім пунктам апоры, нягаснучым сьвятлом, у блеску якога ён піша

і снуе свае разважаньні аб жыцьці беларускім. Гэта на вершах В. А. кладзе асаблівы адпячатак суцэльнасьці, супакою, жыцьцёвай мудрасьці — бяз таго мучэньня, якім адзначаюцца вершы Каз. Сваяка». У сувязі з дадзеным слушным заключэннем варта падкрэсліць і наступную акалічнасць. У адрозненне ад творчасці К. Сваяка, у якой дамінаваў філасофска-медытатыўны, рэфлексіўны пачатак, якая была цалкам скіравана да выяўлення драматычнага свету асобы, ідэйна-мастацкія пошукі В. Адважнага вызначаліся большай ступенню сацыяльнай заангажаванасці, звернутасцю да канкрэтных праблем і супярэчнасцей рэчаіснасці. Паэт ішоў шмат у чым ад факта, падзеі, з'явы, аддаваў перавагу непасрэднаму руху думкі і перажывання, яго вобразныя абагульненні нярэдка мелі лірыка-апавядальны, публіцыстычны, сатырычна-выкрывальны характар. Дарэчы, у многіх сваіх вершах В. Адважны абмяжоўваўся традыцыйнымі для беларускай літаратуры матывамі і вобразамі, простымі, а часам і спрошчанымі сюжэтна-тэматычнымі калізіямі, іх мастацкая вартасць прыкметна зніжалася рытарычнай дэкларацыйнасцю і дыдактычнасцю, а таксама эстэтычнай нявыверанасцю.

Духоўна-ірацыянальная стылявая плынь цалкам адмаўляла асаблівасці нарматыўнасці і рэгламентацыі ў пазнанні жыцця і свету, выяўляла аўтаномію суб'ектыўнай аўтарскай здольнасці і мастацкага інтэлекту, свабоду і нязмушанасць творчасці, дух імправізацыі, рысы інтуітыўна-экстатычнага мыслення, даволі часта спалучанага з мэтанакіраванай рэфлексіяй. Яна сцвярджала духоўную рэальнасць суб'екта, яго прыярытэт як існага, асновы эстэтычнага індывідуалізму, па словах французскага даследчыка Ж. Марытэна, «той субстанцыйнай цэласнасці чалавечай асобы як асаблівага свету», «якая ў выніку духоўнасці душы здольна падтрымліваць сябе праз свае іманентныя акты і якая сярод усіх суб'ектаў, што пазнаюцца ёю як аб'екты, спасцігае толькі сябе саму ў якасці суб'екта».

Прадстаўнікі гэтай плыні былі перакананы ў тым, што духоўна-псіхалагічны свет чалавека як субстанцыйная рэальнасць, унутраная бездань яго свабоды, імкненняў і магчымасцей утрымлівае ў сабе сферу бессвядомай ці перадсвядомай душэўнай дзейнасці, на аснове архетыпаў паяднанай з высокай прыроднай воляй, ціхамірнымі глыбінямі адзінай сутнасці характэрнай звышпачуццёвай вітальнасці. Якраз у ёй, пазбаўленай рацыянальных разваг і лагічных канатацый, сканцэнтраваны першавытокі, таямнічыя сілы невытлумачальнага бачання, пазнання і адкрыцця, сапраўднага стваральнага духу, паэтычнага інтэлекту, прытоена карнявая творчая актыўнасць асобы. У ёй закладваюцца тыя адносіны і сувязі, якія пасля выходзяць на паверхню, набываюць абрысы рэальных уяўленняў і вобразаў.

Іх перажыванне зараджалася безадносна да пэўных грамадска-сацыяльных ідэй і фактараў на аснове адухоўленай эмоцыі ў жывых глыбінях быцця, вечнай першакрыніцы, у сферы бессвядомага ці перадсвядомага як нешта бясслоўнае і бязгучнае, зразумелае і блізкае толькі душы. Яно складвалася ў ахутаных цемрай дапаняційных абсягах інтэлектуальна-творчага жыцця асобы і было звязана з асаблівасцямі яе духоўна-інтэнцыянальнага ўзаемадзеяння з прыродай і светам. Яго развіццё адбывалася ў напружаным полі прасветленай працы інтэлекту, творчай актыўнасці духу, што вызначалася свабодным і нязмушаным рухам уяўлення і фантазіі, дыялогам вопыту і памяці, ведаў і здольнасцей, музыкі інтуітыўна-экстатычных імпульсаў і пластыкі ўмоўна-асацыятыўных вобразаў. Тут уяўленне і фантазія, натуральна, часткова з папраўкай на кампаненты паняційнага розуму і рацыянальных сувязей, фарміравалі канчатковую мастацкую карціну, якая была інтэнцыянальна прасякнута эмацыянальна-пачуццёвай празрыстасцю і адухоўленым імпліцытным сэнсам.

Творчасць паэтаў духоўна-ірацыянальнай стылявой плыні вызначалася характэрнай сугестыўнасцю мастацкага мыслення, у якім вялікая роля належала творчай інтуіцыі — неўсвядомленаму імпульсу, своеасабліваму летуценна-асацыятыўнаму ўгадванню сутнасці навакольных з'яў і прадметаў, характэрнаму

азарэнню, адкрыццю сябе і сапраўднай рэальнасці свету, таямніц сваёй і сусветнай душы праз глыбінную ўнутраную схільнасць і супрыроднасць, адчуванне старажытнага генетычнага кода, духоўнага інстынкту, вышэйшага пабуджэння. У гэтай сувязі міжволі прыгадваецца вядомае заключэнне В. Брусава, які ў сваім артыкуле «Ключы тайн» пісаў, што «вывучэнне, заснаванае на сведчаннях нашых знешніх пачуццяў, дае нам толькі прыблізныя веды. Вока ашуквае нас, прыпісваючы ўласцівасці сонечнага промня кветцы, на якую мы глядзім. Вуха ашуквае нас, лічачы калыханні паветра ўласцівасцю званочка, які звініць. Уся наша свядомасць ашуквае нас, пераносячы свае ўласцівасці, умовы сваёй дзейнасці, на знешнія прадметы». Сапраўднае пазнанне ажыццяўляецца з незаплямленых вышынь натхнення на аснове прасветаў «звышпачуццёвай інтуіцыі», якія ўтрымліваюць у сабе праблiскі і значэнні ідэальнай аб’ектыўнай рэальнасці як гармоніі дабра, ісціны і красы. Гэтыя «імгненні экстазу», азарэння і адкрыцця «даюць іншыя разуменні сусветных з’яў, што глыбей пранікаюць за іх знешнюю кару, у іх сарцавіну. Спрадвечная задача мастацтва і заключаецца ў тым, каб адлюстраваць гэтыя імгненні прасвятлення, натхнення. Мастацтва пачынаецца ў той міг, калі мастак спрабуе ўразумець для самога сябе свае цёмныя, тайныя адчуванні. Дзе няма гэтага ўразумення, няма мастацкай творчасці. Дзе няма гэтай тайнасці ў пачуцці — няма мастацтва». І далей: «Для каго ўсё ў свеце проста, зразумела, даступна, той не можа быць мастаком. Мастацтва толькі там, дзе адвага за грань, дзе парыванне за межы пазнавальнага ў празе зачэрпаць хоць кроплю Стихии чуждой, запредельной».

Як вядома, інтуіцыя грунтуецца на асаблівасцях самаатаясамлення аўтара з аб’ектам мастацкага пазнання і выяўлення. Светаўспрыманне паэтаў духоўна-ірацыянальнага стылю вызначалася адчуваннем блізкасці і нават тоеснасці свайго эмацыянальна-псіхалагічнага свету таямнічаму зместу з’яў і прадметаў, той унутранай рэальнасці, якую ўтрымлівае ў сабе ўсё актуальнае існаванне. У іх творчасці аб’екты матэрыяльна-прыроднай рэчаіснасці, сферы натуральных бачнасцей і чалавечае «я» своеасабліва ўгадваліся адно ў другім.

Іх творчая інтуіцыя нараджалася ў патаемных глыбінях бессвядомага ці перадсвядомага жыцця духу і вырастала на глебе прыродна-генетычнай свабоды і раскаванасці душэўна-псіхалагічнага раскрыцця, пасіўнасці інтэнцыянальнай эмоцыі. У адрозненне, напрыклад, ад паэтаў-рамантыкаў, якім былі ўласцівы асаблівасці актывісцкага тыпу светапогляду і мыслення, суб’ект-аб’ектных адносін, яны сцвярджалі непасрэднасць і спантаннасць адчуванняў і ўяўленняў, характэрную «гнасеалагічную пасіўнасць» як пэўную бяздзейнасць, спакойнае, незацікаўленае, адлучанае ў часе сузіранне. Сапраўдная «свабода творчасці, — адзначаў У. Салаўёў, — мае сваёй папярэдняй умовай пасіўнасць, чыстую патэнцыяльнасць розуму і волі, — свабода тут належыць перш за ўсё тым паэтычным вобразам, думкам і гукам, якія самі свабодна прыходзяць у душу, гатовую іх сустрэць і прыняць. І сама паэтычная душа свабодная ў тым сэнсе, што ў часіну натхнення яна не звязана нічым чужым і супраціўным натхненню, нічому ніжэйшаму не паслухмяная, а падпарадкоўваецца толькі таму, што ў яе ўваходзіць ці прыходзіць да яе з той надсвядомай сферы, якую сама душа тут жа прызнае іншаю, вышэйшаю і разам з тым сваёю, роднаю». Як вядома, з пасіўнай увагай, спакойным сузіраннем звязваў асаблівасці інтуітыўнага мыслення знакаміты французскі філосаф-ідэаліст А. Бергсон. У сваім даследаванні «Пытанні філасофіі і псіхалогіі» ён пісаў, што «актыўная ўвага, тая, якая суправаджаецца ці можа суправаджацца адчуваннем намагання, адрозніваецца… ад увагі пасіўнай іменна тым, што псіхалагічныя элементы, якія прыводзяцца ёй у дзеянне, не размешчаны ўсе ў адным і тым жа плане свядомасці. Ва ўвазе, якую мы праяўляем пасіўна, механічна, існуюць спрыяльныя для дакладнага ўспрымання рухі і становішчы, якія самі сабой каардынуюцца, з першым больш ці менш невыразным успрыманнем. Актыўная ж увага, здаецца, ніколі не бывае без «перадуспрымання»‥, г. зн. без уяўлення, якое

выступае то прадугаданым вобразам, то нечым больш абстрактным, гіпотэзай аб значэнні таго, што належыць успрыняць, і аб верагодных адносінах гэтага ўспрымання з іншымі фрагментамі мінулага вопыту».

Варта адзначыць, што ў іх творчасці бязмежны душэўны спакой раўнавагі і ціхамірнасці спалучаўся з яснасцю і вастрынёй светаўспрымання і мыслення, характэрнае пасіўнае разгортванне натхнення, затуманеная суб'ектыўная рэфлексія — з засяроджана-пранікнёным прасвятленнем незвычайнага, загадкавага і невядомага.

Паэты духоўна-ірацыянальнай стылявой плыні лічылі, што важнейшай крыніцай і першакаштоўнасцю творчасці з'яўляецца абумоўлены асвяжальнай імглой інтуіцыі свет суб'ектыўна-індывідуальных душэўна-псіхалагічных імпульсаў асобы. Яны былі звернуты да раскрыцця характэрных момантаў чыстага ўражання, пэўных імгненняў у настроі і светаадчуванні, даволі часта безадносна да таго, што ім папярэднічала, без выразнай сувязі з іншымі момантамі і імгненнямі. На іх думку, праўда і паўната быцця заключаюцца якраз у непаўторных імгненнях, якія нясуць зарады і праблескі духоўна-эстэтычнай энергіі, інфармацыі, шматлікіх эмацыянальных перажыванняў і інш. Сваю задачу прадстаўнікі дадзенай плыні бачылі ў тым, каб выхопліваць з кантэксту часу і вечнасці гэтыя імгненні, выяўляць іх адметны змест і значэнне. Іх вершы будаваліся на аснове характэрнай духоўна-эстэтычнай пранікнёнасці і ўражлівасці, своеасаблівых імправізацыйных імпульсаў і намёкаў, імпрэсіяністычна-сімвалічнага раскрыцця творчых імгненняў.

Паэты духоўна-ірацыянальнага стылю малявалі з'явы і прадметы свету натуральных бачнасцей не такімі, якімі яны былі ў рэальнасці ці якімі іх ведалі, а якімі ўяўлялі ці якімі гэтыя з'явы і прадметы ім у дадзены момант здаваліся. Яны імкнуліся скараціць адлегласць паміж аб'ектам і яго сапраўднай зместавай сутнасцю, а ў некаторых выпадках і зусім яе ліквідаваць праз пераадоленне і адмаўленне. У іх мастацкай свядомасці аб'ект і суб'ект пазнання як духоўныя субстанцыі знаходзіліся ў стане ўзаемнага прыцяжэння і адаптацыі, пэўным чынам пранікалі адзін у другі і ўраўнаважваліся.

Гэтая плынь вызначалася характэрнай тоеснасцю аб'екта і суб'екта мастацкага выяўлення, іх своеасаблівым растварэннем аднаго ў другім, сцвярджэннем рэальнасці ўмоўнага і аб'ектыўнасці ідэальнага. У сувязі з дадзенай акалічнасцю ў ёй адсутнічала строгая дыферэнцыяцыя ўнутранага і знешняга планаў. Адчуванні і ўяўленні лірычнага героя тут даволі часта не адаптаваліся ні да суб'екта, ні да аб'екта мастацкага пазнання, аб'ектыўнае і суб'ектыўнае, фізічнае і псіхічнае фігуравала без пэўнага і выразнага размежавання, у адным суцэльным духоўна-эстэтычным сэнсарадзе. З'явы і прадметы матэрыяльна-прыроднага асяроддзя, як правіла, пазбаўляліся канкрэтна-гістарычнага зместу, прасторава-часавых прыкмет і асаблівасцей, усяго фенаменальнага, выступалі «эмблематычным роспісам» адцягненых сутнасцей, сістэмай знакаў і сімвалаў, падпарадкаваных Адзіна-існаму розуму, таямнічай светаахопнай агульнасці.

В. Кандзінскі некалі заўважаў: «Не толькі паэзія, зоркі, поўня, дрэвы, кветкі, але і белы гузік, што блішчыць у лужыне на вуліцы… Усё мае сваю таемную душу, якая часцей маўчыць, чым гаворыць». Паэтаў духоўна-ірацыянальнага стылю цікавіла «таемная душа» прадметаў. Яны ў многім актуалізавалі міфалагічную сімволіку рэчаў, глядзелі на іх як на з'явы бытавыя і быційныя, носьбіты ўтылітарнага і духоўнага, таямнічага, сакральнага пачаткаў. У дадзеным плане варта звярнуць увагу на цікавыя разважанні А. Геніса, які ў сваім эсэ «Вавілонская вежа» адзначаў, што «напаўадушаўлёныя, напаўжывыя рэчы-кентаўры здольныя весці дыялог са сваім уладальнікам. На гэтым шляху рэч страчвае бяздушную серыйнасць і выяўляе сваю арганічную прыроду».

З'явы і прадметы навакольнай рэчаіснасці раскрываюць асаблівасці складанай метафізічнай сутнасці — Душы свету як аб'яднання ўсіх чалавечых душ, ядра Абсалютна-існага, якое фарміруецца за кошт суб'ектыўнага асобаснага пачатку. Яна лучыць і аб'ядноўвае матэрыяльна-прыродную і духоўна-ідэальную субстан-

цыі ў быцці і сусвеце. Чалавек з’яўляецца ўвасабленнем адначасова эмпірычнай і трансцэндэнтнай рэальнасцей, «цела» і Душы свету.

Фактычна яны не адлюстроўвалі з’явы і прадметы навакольнага асяроддзя і не дыстанцыяваліся ад іх, а своеасабліва ўбіралі ў сябе, натуральна, пераўтвараючы, вызваляючы з гэтых з’яў і прадметаў іх унутраную звышрэальнасць. Іх цікавілі таямнічыя глыбіні чыстай духоўнай сутнасці, энергія Сусветнай прычыны, тыя адчуванні, якія былі скіраваны за межы звыклай жыццёвай логікі і свядомасці. Яны зыходзілі з таго, што асоба заангажавана ў вечны боскі свет, уяўляе сабой унікальную субстанцыю, адзін з кампанентаў вялікага абсалютнага цэлага. У рэчаіснасці ўсё вызначаецца глыбока ўнутранымі памкненнямі чалавека да пераўтварэння і ўзбагачэння жыцця, абумоўліваецца яго загадкавымі і таямнічымі духоўна-псіхалагічнымі імпульсамі.

Духоўна-ірацыянальная стылявая плынь сцвярджала містычны провід духу. На аснове ідэалізму, біблейска-хрысціянскіх адчуванняў у ёй развіваліся міфатворчыя матывы і вобразы, якія выяўлялі прыкметы часу ў адцягненай, суб’ектыўна-абагульненай форме як заканамернасць, што выходзіла за межы пэўнага сацыяльна-гістарычнага перыяду. Яны былі звернуты да архаічнай першабытнастыхійнай свядомасці, народнай міфапаэтычнай археалогіі, духоўна-культурнай памяці асобы, сведчылі сувязі са старажытнымі ўяўленнямі чалавека пра дабро і ліха, лёс, жыццё, сусвет, неслі водбліскі далёкага касмагалагічнага мінулага.

Як вядома, міф з’яўляецца носьбітам метагістарычнай ісціны, а таму ён вышэй за эмпірычную рэчаіснасць. Міфатворчасць давала магчымасць прадстаўнікам гэтай плыні ўзняцца над светам бачнай матэрыі і цялеснага існавання, акцэнтаваць агульназначнасць законаў дабра і справядлівасці, адзінства і непераможнасць светлых сіл быцця. Іх паэзія несла таямнічы старажытны ўспамін, код міфалагічнага вопыту, пачуццё бясконцага, якія былі скіраваны да выяўлення гуманістычна-прасветленай праўды пра жыццё і чалавека, пастулатаў красы і гармоніі. Яна характарызавалася адчуваннем палёту свабоднага духу, наяўнасцю антрапаморфных фантастычных вобразаў, гіпербалізавана-сімвалічных карцін і малюнкаў. У адных аўтараў яны паўставалі як форма мастацкай рэакцыі на змрочныя з’явы і падзеі заходнебеларускай рэчаіснасці, у іншых раскрывалі асаблівасці пэўнай містэрыі, ідэальнай мары, універсальных містычных сэнсаў.

Асаблівасцямі ідэальнага пачатку ў многім характарызаваўся духоўны светапогляд Хведара Ілляшэвіча (1910—1948), аб чым пераканаўча сведчаць яго вершы «Часамі ў душы маёй дзіўнай мелодыяй...», «Вечар лашчыцца, быццам даль...», «Сонца гразне ў чырвоны кісель...», «Ноч прыйшла туманная...», «Казка», «Музыка» і інш. Чытаючы іх, мы бачым, што таямнічая і загадкавая Душа свету рэалізавала сябе і ў тым, як «Мігае лямпа. Ноч маўчыць... Бязлісты, голы сад шуміць...» («Штрых»), і ў тым, як «Каля рэчкі... агнямі сінімі Забаўляецца вечар — змрок...» («Навакол муры — простыя лініі...»), і ў тым, як «Ў каласы месяц-серп задзылінкаў — І вячорны вызваньвае псальм Пацямнеўшы мурожнік — клінкер...» («Казка»). «Ў жоўтым лісьці гарыць белы вечар, напудраны заравам раньня, — казаў паэт у вершы «Асенняя паэма». — А ўначы на драты начаваць разьлятаюцца зоркі ў тумане». Жыццё ў яго мастацкай сістэме раскрывалася ў якасці бясконцай зменлівай плыні ўзаемазвязаных з’яў і фактаў і адначасова як пэўная адносна замкнёная сфера, якая прадугледжвае іх паўтаральнасць, цыклічнасць, рытмічную перыядычнасць функцыянавання. Буднёвыя працэсы і рэчы навакольнага асяроддзя набывалі ў Х. Ілляшэвіча незвычайнае, ірэальнае, чарадзейна-казачнае выяўленне, адухоўлены змест. У той жа час мройліва-зыбкія, містычныя карціны і вобразы, наяўнасць якіх абумоўлівалася палётнасцю фантазіі аўтара, інтуітыўна-пачуццёвым успрыманнем свету, атрымлівалі ў яго прадметна-рэчыўнае напаўненне, рэалістычную афарбоўку. Дастаткова часта вобразна-метафарычны малюнак паэта разгортваўся такім чынам, што ў ім цяжка было распазнаць, дзе заканчваецца адно і пачынаецца другое:

Дрэвы шапочуць у боскай драмоце,
Зоркі гараць, зачапіўшысь ў галінах,
Пар лёгкаўздымны кадзіць на балоце,
Таюць ў начы ціхасьпеўныя гімны...
Гэта малітвы к прастору — Сусьвету
Ў сьветла-пяшчотным зямлі прабуджэньні...
Быццам крылатыя казкі-прыветы,
Быццам цудоўныя сьпевы-тамленьні...
Слухай... Маўчы...

Паводле некаторых міфаў, у зусім далёкім мінулым «неба і зямля былі бацькам і маці ўсяго існуючага на свеце... у самыя старажытныя часы яны былі злучаны і толькі пазней былі разлучаны». Іх звязваюць дзень і ноч, сонца і змрок, святло і цені, дождж і вецер. У вершы Х. Ілляшэвіча «Дрэвы шапочуць у боскай драмоце...» зямное і нябеснае, рэальнае і міфалагічнае, фізічнае і духоўнае знаходзяцца ў стане ўзаемаапладнення, абмену энергетыкай, жыццёвымі сіламі. У ім адно развіваецца і аб'ядноўваецца з другім, прадугледжвае наяўнасць трэцяга, а ў выніку сублімiруецца ў новую якасць — растварaецца ў Абсалютным. У той жа час уся ўніверсальная сутнасць свету натуральных бачнасцей выяўляе сябе ў канкрэтным, індывідуальным, чым забяспечваецца дыялектычнае адзінства і раўнавага паміж прыватным, асобным і агульным, касмічным.

Духоўна-мастацкае мысленне Х. Ілляшэвіча вызначалася псіхалагічным субстратам суб'ектыўнасці, ідэалізаваным характарам раскрыцця жыццёвых працэсаў, умоўнасцю і нечаканасцю фігуральных супастаўленняў і асацыяцый, няпэўнасцю і таямнічасцю вобразна-метафарычнага выяўлення. Шмат якія вершы паэта са зборнікаў «Веснапесні» (1929), «Зорным шляхам» (1932) і «Захварбаваныя вершы» (1936) звярталі на сябе ўвагу сімвалісцкай неадназначнасцю і мройлівасцю зместу — неакрэсленым і няўстойлівым сюжэтна-падзейным радам, няўлоўным і крохкім душэўна-псіхалагічным светам лірычнага героя. «Зноў я нечага жадаю, Зноў я нечага томлюсь... — чытаем у адным з іх. — Мо' з вішнёвым цьветабаем Цалаваць маці — зямлю?..» («У бярэзніку — зялёнцы...»).

Мы не знойдзем у Х. Ілляшэвіча падрабязных, насычаных, закончаных апісанняў і характарыстык, якім уласціва выразнасць зместавых контураў і абрысаў, кантраснасць ліній. Паэт меў схільнасць да пасіўнага светаўспрымання і душэўна-пачуццёвага выяўлення, да тонкіх, зменлівых ўражанняў, сведчыў акварэльную лёгкасць мазкоў і фарбаў, часам своеасаблівую фрагментарнасць і адасобленасць паказу з'яў і прадметаў. Яго мастацкая свядомасць была прасякнута настраёва-прачулым лірызмам, выразным музычным пачаткам і раскрывалася ў характэрным імпрэсіяністычным малюнку — жывым, рухомым, зрэдку нават дынамічным і ў той жа час умоўным, экзатычным, казачным (вершы «Гмахі плывуць у блакітныя змрокі…», «Сонца гразне ў чырвоны кісель…» і інш.).

Хведар Ілляшэвіч ствараў у многім ірэальныя, прывідлівыя, ілюзорныя малюнкі і карціны, у аснове якіх палягалі няпэўныя, хісткія, імпрэсіяністычныя адчуванні і ўяўленні: «Вечарам мглiста дымяцца вуліцы — Нехта разьліў у тумане жоўць... У вочы чаромхай электрыкі жмурыцца Места гулкае — фасфарачны воўк» («Дымнае места»), «Калышуцца дамы — катафалкі — у тумане йдуць павольным крокам людзі — зданьні... Навісла неба чорнай харугвай — На слупох гараць хаўтурныя паходні — сьвечы — а вецер паніхідзіць у вуглах...» («Яшчэ аб восені»). Творчасць паэта была звернута ва ўнутранае жыццё беларуса, яна сведчыла судакрананне з самым патаемным і загадкавым у душэўна-псіхалагічным свеце асобы, з мройлівасцю і летуценнасцю яе перажыванняў, мар і памкненняў:

Часамі ў душы маёй дзіўнай мэлёдыяй
Пышныя краскі цьвітуць...
Гэта час, калі ціхія-сумныя,
Свой адвечны праходзячы пуць
Зоры ў прасторную муць,

Таюць... плывуць...
Гэта час, калі журбою хворы я,
Калі сэрца так соладка тае
І, хапаючы згукі сусьветныя,
Чалавецтва усё абыймае...
І, як вечара фарбы ў маі,
Тае... тае...

Па ўсім відаць, Х. Ілляшэвічу была блізкая думка пра тое, што прырода — гэта мова, на якой Бог гаворыць з чалавекам. Адчуваючы ў пэўнай прыроднабіялагічнай з'яве канцэнтрацыю духоўна-эстэтычнай сілы, паэт ахінаў яе сваёй дабратворнай псіхаэмацыянальнай энергетыкай, раскрываў высокую зместавую напоўненасць і значнасць гэтай з'явы, яе скіраванасць да вечнай красы і гармоніі, Абсалютнага сэнсу. На багатым і шматстайным матэрыяле прыродных працэсаў ён будаваў эстэтызаваны ідэальны свет, ледзь не цалкам звернуты да адлюстравання асаблівасцей духоўнай сутнасці чалавека. Аб гэтым красамоўна сведчаць такія вершы паэта, як «Месячная ноч», «Бор», «Праз снежную муць льецца месяц-жаўток...», «Месячная казка» і інш.

Для паэтаў духоўна-ірацыянальнай стылявой плыні галоўнымі і вызначальнымі былі не дакладнасць і выразнасць карцін і малюнкаў, а каларыт, атмасфера, водар. У іх творчасці разнастайныя з'явы, прадметы, ідэі і вобразы ў складаным руху каларыстычнай перспектывы перапляталіся, камбінавалі і ўзаемадзейнічалі са сваімі ценямі, абрысамі, намёкамі, водблiскамі, утваралі своеадметныя і арыгінальныя сэнсарады і лініі містычна-прывідлівых, эзатэрычных прадказанняў і яснабачанняў. Мастацкае сузіранне прадстаўнікоў гэтай плыні характарызавалася адзнакамі пэўнай самотна-трывожлівай адлучанасці, прытоенай салодкай маркоты, калі зусім канкрэтныя аб'екты бачнай матэрыі і цялеснага існавання паўставалі ў вобліку паўмары, паўфантазіі, паўказкі. Яно грунтавалася на своеасаблівым тайнапісе невыказнага — руху невыразных суб'ектыўных адчуванняў, загадкава-стыхійных уяўленняў, неразгорнутых вобразна-сэнсавых значэнняў, якія раскрываліся ў сістэме ірацыянальных імпульсаў і адценняў.

Паэты гэтай стылявой арыентацыі зыходзілі з таго ўніверсальнага прынцыпу, што кожны аб'ект рэальна напоўнены быццём, а прыцягвае яго небыццё. З аднаго боку, ён звернуты да энергіі Сусветнай першапрычыны і ў той жа час жыве ў пастаянным узаемадзеянні, шматстайных сувязях і кантактах з іншымі аб'ектамі, якія па-свойму карэкціруюць і актуалізуюць пэўныя асаблівасці яго зместу і функцыянавання. Усё гэта абумоўлівае той факт, што гэты аб'ект перыядычна выходзіць за межы свайго існавання і сутнасці. У іх акце інтуіцыі адбывалася абуджэнне ўсяго патэнцыялу душы асобы, своеасаблівая актуалізацыя яе творчага інтэлекту, паяднанне матэрыяльнага свету падзей і фактаў і духоўна абуджанай суб'ектыўнасці, аб'ектыўнай рэальнасці і мастацкага ўяўлення.

Падпарадкоўваючыся таямнічым законам звышсвядомай сферы натхнення і інтуіцыі, яны імкнуліся пераадолець аспекты рацыянальнай логікі і разумовых ведаў, знешнюю абалонку эмпірычнай рэчаіснасці, выйсці за межы канкрэтна-гістарычнага часу і геаграфічнай прасторы, усталяваных адносін паміж з'явамі і прадметамі, пазнаць загадкавыя працэсы пазамежнага, асаблівасці свабоднай, дасканалай і вечнай красы і гармоніі. Далучаючыся да ідэальнай субстанцыі, усеагульнага адзінства і сэнсу быцця і свету, яны тым самым насычаліся трансцэндэнтнымі зместаваўтваральнымі сіламі і сэнсавобразамі, глыбокімі асацыятыўнымі імпульсамі мастацкага мыслення, дасягалі сапраўднага душэўнага прасвятлення і азарэння.

Варта яшчэ раз падкрэсліць, што творчая інтуіцыя паэтаў духоўна-ірацыянальнага стылю была звернута не да канкрэтных падзей і фактаў знешняй рэчаіснасці, а ў бясконцасць, да індывідуальна існага і прасветленага ў багацці і разнастайнасці быцця і свету. Праз асаблівасці натуральных бачнасцей і сутнасцей яна выяўляла глыбіні чалавечай суб'ектыўнасці і свабоднага творчага пачатку духу, знакі і сімвалы ўсёабдымнай пазамежнай рэальнасці, таямнічых сэнсаў і значэнняў. Пры гэтым апелявала да непаўторнага і няўлоўнага, таго, што лунае

над часам, канкрэтна-гістарычнымі з’явамі і прадметамі, да адвечных таямніц, скрытых, прытоеных уласцівасцей жыцця і космасу.

Гэта была паэзія не адмабілізавана-дзёрзкіх вывадаў і заключэнняў, не гарачкавата-палкіх лозунгаў і заклікаў, а няўлоўных, мімалётных адчуванняў, нязмушанага, часта выпадковага назірання, няпэўных, хісткіх уяўленняў, тонкіх намёкаў, трымтлівых сумненняў, нечаканага настрою, невыразных і спантанных перажыванняў.

Адзначаныя і некаторыя іншыя аспекты духоўна-ірацыянальнага асэнсавання рэчаіснасці адчуваліся ў вершах Анатоля Бярозкі (сапр. — Мацей Смаршчок) (1915—2008), якія пачынаючы з 1933 года друкаваліся пераважна ў часопісах «Шлях моладзі» і «Калоссе». Лепшыя з іх у арыгінале і на англійскай мове паэт выдасць зборнічкам «Адзінаццаць вершаў» толькі ў 1989 годзе ў Мантысэля (ЗША), пражыўшы ўсё паваеннае жыццё на эміграцыі.

Анатоль Бярозка быў звернуты да выяўлення пераважна духоўна-эстэтычнага, пачуццёвага, псіхалагічнага зместу жыцця прыроды, грамадства і чалавека, шматлікіх сувязей і дачыненняў, якія раскрывалі іх узаемадзеянне. Яго найперш цікавіла ўнутранае напаўненне працэсаў і фактаў, той універсальны і безумоўны пачатак, што вызначаў функцыянаванне ўсяго жывога і нежывога на зямлі. Гэты пачатак не заўсёды выразна акрэсліваўся на паверхні і не заўжды паддаваўся звыклым формам успрыняцця, але без яго ўсведамлення нельга было асэнсаваць сваё месца ў шырокай прасторы аб’ектыўных рэалій і патэнцыяльных магчымасцей. Асабліва ўвагай паэта карысталіся тыя з’явы і прадметы, якія раскрывалі, з аднаго боку, «пагранічны стан прыроды і душы», а з другога, далучанасць духоўнай свядомасці асобы да сусветнага адзінства, касмічнага цэлага («Фрагмент», «Туман разаслаўся над соннай зямлёю...», «Заснула ноч. Павіслі ціха зоры...» і інш.).

Значнае месца ў ягонай творчасці належала таямніча-загадкаваму, містычнаму пачатку, таму, што фактычна не ўтрымлівала ў сабе рэальнай асновы рэчаў, не было забяспечана канкрэтна-гістарычным грунтам. Мастацка-вобразныя структуры паэта не заўсёды выразна і дакладна адаптаваліся да з’яў і працэсаў, якія яны раскрывалі, іх сувязі з прадметным светам рэчаіснасці часта выглядалі калі не зусім парушанымі, дык істотна паслабленымі. А. Бярозка ствараў досыць неадназначныя, незвычайныя, непрасветленыя па сваім зместавым напаўненні малюнкі, якім была ўласціва прыкметная ступень містычнасці і арнаментальнасці. Гэта добра відаць на прыкладзе верша «Снягі... снягі... снягі... І шэры дзень зімовы...» Пачатак яго, здаецца, абяцае разгортванне тыповага пейзажнага эцюда ў лірыка-апавядальным ключы з характэрным псіхалагічным адценнем. Зіма, снег, маўклівыя палі, пануры лес, злосны вецер... Праўда, ужо тут кідаюцца ў вочы дэталі, якія паэт акрэслівае нібы незнарок, як нешта нязначнае і ўскоснае: «Аб нечым сэрца сьніць... На думкі вольныя нуда кладзе аковы». Дзеянне верша рухаецца далей, і паступова знешнія абрысы рэалістычнага малюнка змяняюцца яго ўнутраным, сімвалічным, планам, тым, што аўтар убачыў у зімовай завірусе. Вецер не проста «Мяце і круціць віхрам сьнежны пыл», ён выступае ў якасці непасрэднага ўдзельніка складанага містычнага акта: «з над глухіх курганаў, з над магіл Таёмны кліч са сьнегам ў даль нясецца...»

Ён кліча тых, што гнуцца пад цяжарам
Жыцьцёвых мук, на вечны супакой —
І бледны цень з іржаваю касой
Бясслоўна цягнецца асьнежаным папарам...

Што ж гэта за «цень з іржаваю касой», які цяжкою ступою маўкліва рухаецца заснежаным полем? «Ня бíся, сэрца!.. — кажа паэт. — Гэта сьмерці цень... Яго навёў зімовы шэры дзень...». Аб’ектыўнае, рэалістычнае пераплятаецца тут з суб’ектыўным, ірэальным, матэрыяльнае, рэчыўнае — з ідэальным, падсвядомым, інтуітыўным, тым, што не пазнаецца з дапамогай звычайных органаў адчування.

Духоўна-ірацыянальным пачаткам пазначаны верш А. Бярозкі «Адзінота...», у якім таксама раскрываліся містычныя перажыванні. Вечар, «Глуш... Цішыня...»,

адзінота... Душу лірычнага героя паэта агортвалі туга і бязвер'е, няпэўнасць і абыякавасць, усё здавалася яму шэрым, бязаблічным і бессэнсоўным. Ён настойліва шукаў унутраных магчымасцей, каб неяк ускалыхнуць свой духоўна-псіхалагічны стан, абудзіць у сабе цікавасць да жыцця, навакольных з'яў і працэсаў, надзею на дабро і шчасце («Можа зноў зварухнуцца у глыбях душы залатыя надзеі? Можа блескі апошнія дня Яшчэ блескаў апошніх у сэрцы ня стушаць?»), спадзяваўся на дапамогу знешняга свету («Можа голас якісьці ажывіць сьмяротную ціш? Мо хоць скрыпнуць вароты?»). Аднак не, наўкол панавалі глуш і «цемра бяз дна...» І раптам перад яго вачамі пачала разгортвацца незвычайная карціна, поўная таямнічай загадкавасці і сімвалічнага зместу:

Я там... з цемры ўстае здань-зладзейка
І паўзе па сьцяне; злудай нейкай
Свае доўгія пальцы снуе па кутах...
І на сэрца трывожнае падае страх.
Хто ты, мара праклятая? Хто ты?
Цемра ўкруг... Цішыня... Адзінота...

А. Бярозка быў звернуты ў сферу метафізічнага, ідэальных сутнасцей, да безумоўнага, абсалютнага пачатку, яго духоўна-маральны свет, мастацкія пошукі апладняліся і падтрымліваліся рэлігійна-хрысціянскімі каштоўнасцямі і прынцыпамі. Паэт быў перакананы ў тым, што ўсё матэрыяльнае імкнецца да сувязі і аб'яднання з духоўным, малое, недасканалае, часовае — з вялікім, дасканалым, вечным. Абсалютная сутнасць, Бог, — гэта вялікая, універсальная сіла, тая субстанцыя, якая ўсё ў сабе ўтрымлівае, усім валодае і ўсё вызначае. Для яе няма межаў і перашкод. Гэта мэта развіцця любой з'явы і працэсу, усяго прыроднага і гістарычнага руху і ўдасканалення. Бог супрацьстаіць стыхіі і хаосу, граху і насіллю, забяспечвае парадак і гармонію ў свеце, арганізуе яго ў адзінае цэлае на аснове высокага жыццядайнага пачатку, дабратворнага сэнсу. Дадзеная ідэя знайшла адметную рэалізацыю ў вершы А. Бярозкі «Шуміць Нёман...» Гудзе вецер, «Шумяць сухія асокі», мчыцца, імкне «ў бурлівай пяністых хрыбтоў чарадзе» «Ў бездарожны, далёкі прастор» гаманлівы Нёман. Што чакае яго наперадзе? «Мо' няма там нуды, Ні няволі, няшчасьця і сьлёз?» — ставіў рытарычнае пытанне паэт. Можа, яго напаткае ўдача і ён сустрэне праўду, роўнасць, дабро і шчасце...

Можа хвалі імкнуцца туды,
Дзе пад ціхімі іскрамі зор
Расьцьвітаюць вясны лятуценьні
І дзе сонца зіяюць ірдзеньні,
Дзе апошні енк болю заціх,
І дзе ў сэрцах людзкіх
Хрыстос ускрос?..

Як мы адзначылі, А. Бярозка быў скіраваны да ідэі эстэтызацыі з'яў і працэсаў рэчаіснасці, сцвярджэння хараства, духоўнай напоўненасці жыцця. Услед за іншымі паэтамі духоўна-ірацыянальнай стылявой плыні ён зыходзіў з таго, што ў красе ўвасабляецца ідэальны пачатак свету. Утрымліваючы ў сабе прыгожае, матэрыяльныя з'явы і прадметы выступаюць носьбітамі дабра і ісціны, якія ў сваю чаргу могуць рэалізавацца толькі ў святле, красе і гармоніі. Чалавек успрымае прыгожае, высокую эстэтыку жыцця і свету, і тым самым далучаецца да яго ідэальнай першаасновы — Праўды Божай. Шмат у чым паказальным тут з'яўляецца верш А. Бярозкі «Ноч навісла над соннай зямлёй...» «Як духаў рой, Чары ляглі Над даліной, Разаслаўшы імглы Палатніны... — чытаем у ім. — Сьпіць нябесны прастор... Вышы неба зіяюць брылянтамі зор, Як агністаю тысячай воч». Перад чытачом разгортваецца малюнак, які звяртае на сябе ўвагу таямнічай загадкавасцю зместу, духоўна-эстэтычнай прасветленасцю, насычанасцю біблейскай сімволікай.

Ударыў голас медзі ў склеп нябёс
І над зямлёй магутна абвясьціў:
«Хрыстос Ускрос!..»

Надзеі сьветлых дзён
Прабудзіў
У збалелай душы.
Усё замоўкла, самлела ў цішы...
Хрыстос Ускрос! — шапнулі ціха зоры;
Хрыстос Ускрос! — адклікнулась зямля
І ўсё заціхла у пакоры
Прад сьцягам неба караля.

Дабро, ісціна і краса стымулююць патэнцыяльныя сілы і магчымасці чалавека, актывізуюць яго жыццядзейнасць, накіраваную на пераўтварэнне рэчаіснасці. Місія Хрыста — аб'яднанне ўсіх і ўсяго на глебе праўды і справядлівасці, любові і міласэрнасці, дабра і шчасця, красы і гармоніі. Паэтызуючы ўваскрасенне Хрыста, А. Бярозка сцвярджаў ідэю ўсеагульнага ўваскрасення, неабходнасці дабратворных змен і пераўтварэнняў у бядовым лёсе спакутаванага заходнебеларускага народа, увасаблення ў грамадстве ўсёдаравання і салідарнасці, свабоды, роўнасці і брацтва. Слова паэта насычалася напружаным драматычным зместам, заклікавымі інтанацыямі:

Ці чуеш, брат-Крывіч?
Гудуць званы, гудуць...
Свабоды кліч!..
Збудзісь, Крывіч!
Званы ўскрасеньня б'юць.

У рэлігійна-хрысціянскай першакрыніцы, Веры Хрыстовай, А. Бярозка бачыў станоўчы грамадскі ідэал, у святле якога чалавек павінен весці сваё ўдасканаленне. Яна вучыць яго стрыманасці і цярпенню, любові і міласэрнасці, дае сілы і натхненне, надзею на дабро і шчасце. Іменна ў любові чалавек адчувае высокую Божую сілу, якая дазваляе яму рэалізаваць ідэю пераўзнаўлення свету.

Духоўна-ірацыянальная стылявая плынь заходнебеларускай паэзіі сцвярджала адзінства містычнай універсальнасці жыцця і свету, якой падпарадкаваны ўсе з'явы і працэсы зямной рэчаіснасці і касмічнай прасторы. Яна была скіравана да пазнання звышпрыроднага, Бязмежнага, той нябачнай — Вышэйшай і Адзінай — глыбіннай Рэальнасці, што ўвасоблена ў бясконцым сне сусвету, царстве спакою, міру і шчасця. Яе прадстаўнікі імкнуліся выйсці ў сферы падсвядомага, дзе канцэнтруецца гісторыя і перадгісторыя ўсіх працэсаў, закладваюцца і фарміруюцца варыянты разнастайных асацыятыўных сувязей і рашэнняў, услаўлялі Вечнае як праяву трансцэндэнтна-ідэальнай сутнасці быцця, вядучую стратэгічную сілу, якая пераўтварае жыццё чалавека і свету на аснове прынцыпаў праўды, дабра і красы. З'явы і прадметы матэрыяльна-прыроднай прасторы яны разглядалі як характэрныя «ўмоўныя знакі, намёкі і сімвалы», эманацыю невядомага, прытоеных сэнсаў і адпаведнасцей нябачнага і бясконцага ўніверсуму быцця і існавання, ідэальнага і несмяротнага касмічнага цэлага, а жыццё наогул — як адлюстраванне Вечнага. Часовае і канечнае асэнсоўвалася імі ў святле прысутнасці ў ім суцэльнага і адзінага, яго далучанасці да Бязмежнага і Вечнага.

Паэты духоўна-ірацыянальнага стылю стваралі сваю мадэль быцця, адметны містычна-таямнічы свет, асновай якога выступала адухоўленая, вытанчаная асоба лірычнага героя, метафізіка па характары мастацкага адчування і мыслення. Ён быў звернуты да пазнання ідэальнай прычыны з'яў і прадметаў, абсалютнай праўды існага, раскрываўся ў адпаведнасці і сугучнасці з усеагульнай салідарнасцю і Сусветным сэнсам, усім актуальным існаваннем. Іх творчасць сцвярджала ірацыянальныя сілы чалавечай душы, пастулаты вышэйшай рэлігійнай ісціны, хрысціянскай праўды народнага пачуцця. У сваёй аснове яна вызначалася абвостранай духоўна-псіхалагічнай, інтуітыўна-пазнавальнай успрымальнасцю, падкрэслена індывідуалізаваным характарам перажыванняў, музыкай унутраных настрояў. У ёй вобразна-сэнсавыя магчымасці слова пашыраліся за кошт развіцця пабочных адценняў значэння, якія забяспечвалі актывізацыю дадатковага асацыятыўнага зместу.

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

# ЛАНЬ — РАКА ПАЭТЫЧНАЯ

Помню Лань — не цяперашнюю, каналізаваную, дарэшты сапсаваную меліярацыяй, а тую — ранейшую, лясную, рыбную і ў прамым сэнсе раку паэтычную. На ўзбярэжжы ў сівую даўніну статкамі гойсалі дзікія малыя алені — лані, або даніэлі, дык і пытацца не трэба, адкуль у ракі такая прыгожая назва. Убаку ад вялікіх дарог, за сорак вёрст ад Ганцавіч, разумныя нашчадкі дрыгавічоў калісьці заснавалі на Лані па ўсіх мерках немалое паселішча, збудавалі з дрэва праваслаўную Юр'еўскую царкву, якая захавалася да нашых дзён, і назвалі гэты абжыты куток Палесся надта ж сімвалічна — вёска Чудзін. Ажно не верыцца: мінула ўжо амаль паўвека, калі я ўпершыню трапіў сюды ў якасці карэспандэнта раённай газеты. Аўтобусы тады яшчэ не былі ў модзе, таму ехаў спачатку да Будчы на спадарожнай машыне, а далей значную частку шляху, праз лес і балоцістыя перашыйкі, дабіраўся ў Чудзін пяшком. У ваколіцах вёскі ўразіла незвычайным хараством летняя Лань, і я доўга стаяў на вялізным драўляным мосце, любуючыся мясцовымі абшарамі, і з добрай зайздрасцю думаў: «Мне б у дзяцінстве такую блакітную Лань і такія боскія краявіды!» Аднак, як заўсёды здараецца, святое месца пустым не бывае. На той час у Чудзіне настаўнікам літаратуры працаваў Мікола Купрэеў, а лепшым вучнем у яго быў Алесь Каско, будучы выдатны беларускі паэт. Стоячы на мосце, зачараваны акварэльнымі пейзажамі, зразумела, я нічога гэтага не ведаў, але дапускаю, што ў гурце гарэзлівых хлапчукоў, якія дурэлі з дзяўчынкамі на квяцістым лузе, мог быць і юны, яшчэ не прызнаны нават аднавяскоўцамі пасланнік Апалона.

Нарадзіўся ён у мнагадзетнай сялянскай сям'і, што для таго часу было звычайнай з'явай. Бацька Канстанцін Рыгоравіч, працуючы на зямлі, лічыўся сярод вяскоўцаў майстрам на ўсе рукі, маці Аксення Васільеўна пры такой вялікай плойме дзяцей гаспадарыла ў хаце. Маленства паэта прайшло пад уздзеяннем дзіўнай прыроды Палесся, напоенага водарам песень і казак, легенд і паданняў. І да сённяшняга дня ў ягонай уражлівай душы самыя светлыя ўспаміны абуджаюць ваколіцы роднай вёскі. Свой бацькоўскі кут А. Каско згадвае надзвычай дакладнымі і ёмістымі словамі: «У маім дзяцінстве — гэта адно цэлае з першабытнай прыродай: вакол, не больш як за паўтары вярсты, — бары на высокіх узгорках, непралазныя беразнякі, алешнікі, лазнякі і ягаднікі ў лагчынах, вялікія, але не дрыгвяністыя балоты, парослыя мохам і чаратамі... Паўз самую вёску — прыгажуня Лань, што з лесу паяўлялася і ў лесе хавалася, паплавы з морам вады і красак увесну і густымі травамі ўлетку, бухматымі стагамі ўвосень і ўзімку. Тады сосны яшчэ «забягалі» і на вуліцы, раслі каля хат, чараты часам прарасталі на стрэхах (імі зрэдку крылі хаты), вада ў паводку заходзіла ў жытло, сарваўшы падлогу...» Канечне, такія адвечныя мясціны, поўныя замілавання і красы, не маглі абысціся без уласнага паэта. І ён аднойчы з'явіўся. Сур'ёзны, разважлівы, зусім не схільны да пустога красамоўства. Ды вось яшчэ істотны момант. Прыгажуня Лань, не маючы вартых паэтычных канкурэнтаў амаль на ўсім сваім працягу, непадзельна і, бадай, напажыццёва належыць аднаму Алесю Каско, разліваю-

чыся ў ягоных вершах дабрынёй і шчырасцю «на плёсах свежасці і чысціні». Чыстыя плёсы — балючая памяць. Родны кут «і карчавалі, і праполвалі», і капалі «шнуры канаў, з якіх вады не піць», тут знайшлі сабе прытулак і чарнобыльскія мутанты, дык і не дзіўна, што знявечаная, але яшчэ жывая Лань навявае паэту баладна-журлівы, элегічны настрой:

Быццам прожылак рукі —
след зімовае ракі,
ледзь відно,
як над стагамі
снег снуецца трапяткі.

Белы край,
ды светлай гамы
не стае яму,
на жаль,
вечна ён —
між берагамі,
доля па-над ім — кругамі,
і не бачна,
дзе мяжа.

Снег прысыпле берагі
і наблізіць той,
другі...

Тут на ўлонні маляўнічай палескай прыроды, аднолькава прывабнай і летам, і зімою, вучань выпускнога класа А. Каско напісаў свае першыя вершы і на пачатку сямідзясятых надрукаваў іх у газетах «Савецкае Палессе» і «Чырвоная змена». Потым, як звычайна, пачалася працоўная біяграфія, трэба сказаць, не такая ўжо і простая, як здаецца. Паэт скончыў Брэсцкі педагагічны інстытут, служыў у войску, працаваў у сельскіх школах выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры, быў тэлежурналістам, карэспандэнтам раённай газеты ў Жабінцы. Шмат гадоў ён паспяхова кіраваў Брэсцкім абласным аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў, і гэта пры ім належным чынам увекавечана памяць нашых літаратурных настаўнікаў Уладзіміра Калесніка і Міхася Рудкоўскага. Дзякуючы нястомным намаганням А. Каско сабрана і выдадзена асобнай кнігай спадчына вядомага нарысіста Васіля Праскурава. У полі зроку пастаянна былі і маладыя паэты, пісаў рэцэнзіі, прадмовы да іх зборнікаў, чым і заслужыў павагу ў берасцейскім літаратурным асяроддзі. Сам жа Алесь як у мясцовым, так і ў рэспубліканскім друку выступаў з вершамі не дужа і часта, аднак кожная публікацыя ці то ў «Полымі», ці то ў «Маладосці» рабіла імя аўтара адметным і запамінальным не толькі сярод равеснікаў. Першы верш пад назвай «Пралескі» ён, як я ўжо казаў, надрукаваў у ганцавіцкай раённай газеце, але сапраўдная вядомасць прыйшла пазней, і, безумоўна, пачалася яна з паэтычнай кнігі «Вестка», адной з лепшых у калектыўным зборніку «Нашчадкі». Для паэта, які ўжо меў за плячыма пэўны жыццёвы і літаратурны вопыт, гэта была важкая творчая праца, пра што ў адзін голас сцвярджалі шматлікія рэцэнзенты. Не дзеля чырвонага слоўца, а каб падтрымаць таленавітага ганцавіцкага аўтара, 15 красавіка 1980 года ў газеце «Савецкае Палессе» я таксама надрукаваў свой водгук на кнігу «Вестка», і хаця ўжо прайшло досыць часу, тую даўнюю рэцэнзію хацелася б тут паўтарыць цалкам, таму што ў ёй, на здзіўленне, сцісла і ўвогуле правільна ахарактарызаваны асноўныя напрамкі ў творчасці слыннага паэта, сённяшняга ўлюбёнца прыгажуні Лані. Рэцэнзія так і называецца — «Як прыходзіць сталасць»:

«Яшчэ школьнікам Алесь Каско, чарнявы сціплы хлапчук з вёскі Чудзін, даслаў у рэдакцыю свае вершы. Была ў іх і свежасць, і любоў да зямлі, і нейкая дамашняя ўтульнасць радкоў, якая адразу насцярожыла: паэт!

Не заснуў: душа мая балела.
Першы раз — як матчына.
Ад слоў...
Мо тады мне стала зразумела,
як прыходзіць сталасць да сыноў...

Алесь Каско скончыў Чудзінскую сярэднюю школу, вучыўся ў Брэсцкім педагагічным інстытуце, цяпер працуе ў Жабінкаўскай раённай газеце. Летась выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла ў свет калектыўны зборнік «Нашчадкі», у якім з неаслабнай цікавасцю чытаем вершы Алеся Каско.

Дождж такі — дымавая завеса,
як ракеты, успышкі маланак...
— Даражэнькая бабка Малання,
ты чаму не заходзіш у хату?
Не адкажа. Стаіць каля весніц...
Адчыніла іх шчэ ў сорак пятым.

Сярод сваіх равеснікаў, аўтараў гэтай кнігі, голас Алеся Каско гучыць упаўне самастойна, празрыста, з выразнымі адзнакамі творчага пасталення.

Я — зернейка ў коласе важкім,
жылка травінкі ў гаючай дуброве,
цёплае слова ў матулінай песні...
Так мала. Так многа мяне!

Маладое, гарачае пачуццё дыктуе паэту прачулыя строфы аб Радзіме, аб людзях працы, аб роднай зямлі.

Доўга цёплымі ад слёз вачыма
углядаўся ў родных соснаў медзь...
Я даўно адкрыў цябе, Айчына,
ды нядаўна здолеў зразумець.

Пільным зрокам паэт углядаецца ў малюнкі беларускай прыроды і бачыць навакольны свет па-свойму:

А дзед на стозе бровы хмурыць
і, гожа выпрастаўшы стан,
нібы адважны капітан,
вядзе свой стог насустрач буры.

Хвалюе ў Алеся Каско таксама і інтымная лірыка.

Не раз сустракаўся адзін на адзін
і з ветрам, калючым і злым,
і з кволай, пяшчотнай сасною...
Заўсёды знаходзіў агульную мову.
Чаму ж не знайду з табою?

Вершы, падараваныя чытачу, засведчылі, што на паэтычнай лесвіцы ў Алеся Каско ёсць сваё месца.

Першая прыступка пройдзена. Трэба падымацца на новую».

Здаецца, гэта было даўно, і гэта было нядаўна: шчырыя строфы, нашаптаныя гарачым пачуццём, строгія, патрабавальныя паклонніцы і паклоннікі, усё больш цвёрдыя і рашучыя крокі на паэтычных маршах. Як бы там ні шанцавала, творчая сталасць да паэта прыйшла своечасова, пара вучнёўства яго шчасліва абмінула, а прыступкі, узятыя ім, вядуць вышэй і вышэй, і, трэба сказаць, гэтых крутых прыступак налічылася даволі шмат. На сённяшні дзень А. Каско — аўтар кніг паэзіі «Вестка» (1979), «Скразная лінія» (1982), «Набліжэнне» (1989), «Час прысутнасці» (1994), томіка выбранай лірыкі «45» (1996), а таксама калектыўнага зборніка паэтаў Берасцейшчыны «Трохперсце» (2008). Між тым, сам паэт галоўнай сваёй кнігай лічыць паэтычную кнігу «Час прысутнасці», за якую ў 1995 годзе яму была

прысуджана Літаратурная прэмія імя Аркадзя Куляшова. За апошнія гады нямала і вершаў, і прозы сабралася ў выглядзе нявыдадзеных рукапісаў, але гэта не віна, а бяда не аднаго пакалення творцаў.

Паэтычныя зборнікі А. Каско ўяўляюць сабою своеасаблівыя кнігі-роздумы пра вечнае і мімалётнае, пра сутнасць розуму і месца чалавека ў вялікім свеце. Паэт верыць у свой народ і яго бяссмерце, імкнецца сцвердзіць хараство жыцця, дабрыню чалавечых адносін. Многія творы прысвечаны гістарычным падзеям на Беларусі, роднаму Палессю, найперш яго непаўторнай прыродзе і працавітым людзям (напрыклад, «Ты старонка — сама цішыня», «Буслоў не ведаю бяздомных», «Выток», «Палескі трыпціх», «Жанчына надвячоркам», «Маленства» і інш.). Вырасшы на ўлонні чароўных палескіх мясцін, А. Каско асабліва балюча перажывае, што прырода знаходзіцца пад пагрозай: «Я часцінка зямлі, і таму мне балюча, калі нішчацца дрэвы, высахаюць крыніцы», — хвалюецца ён у вершы «Адзінства». Бацькоўская зямля, пракаветная прыгажуня Лань з яе маляўнічай поймай не забыліся, як кажуць, праз дзесяцігоддзі і адлегласці, таму, згадваючы гэтую сваю зацяжную ростань, ужо вядомы паэт зробіць адназначную выснову:

Зусім не адзінокі я,
хоць і гнятлівы, бы ў скляпенні.
Душа захоўвае адценні
былых і гукаў, і выяў.

У ёй такая віднага,
што мрою белае аблічча,
блакіт вачэй, з якіх крынічаць
давер, цярплівасць, дабрата.

Канечне, гэта вялікая шчасце — пабываць дома, дзе «самому сабе не належыш», дзе «ў вёсцы і хвіля — для спраў». Кожнае лета родны Чудзін клікаў паэта да сябе, у свае пенаты, на тысячы разоў пройдзеныя сцежкі і дарожкі. Клікала хата, вабіў агарод. Вось ускапаны збуялыя за лета грады, пасечаны на дровы пасохлы алешнік, «шукаючы занятку любога», адпускнік «быў цесля, садоўнік, грыбнік» — якая ні ёсць, а падмога старэнькім бацькам. Ды ўсё ж лірычны герой верша «Дома» дужа патрэбныя гаспадарчыя справы лічыць за нейкі адробак. І тады прыходзіць крыўда — «ад горкае спробы знайсці апраўданне сабе». Родны дом маркотным стаўся, можа, яшчэ і таму, што на ўзгорачку дзірванным «далёкі свет мой пахаваны з суседам, дзядзькам, дружбаком...» З цягам часу апусцела, на жаль, і бацькоўская хата, якая калісьці ажно разрывалася ад дзіцячага смеху і шчэбету. Не радуе родны падворак, не кліча, не заве. На ўсе з'явы жыцця, радасныя і сумныя, А. Каско мае свой уласны погляд, свежую думку, і, хоць душа, акрамя «былых і гукаў, і выяў», захоўвае боль і пакуты, ён не кідаецца ў роспач. Гэты светлы настрой надта паэтычна выказаны ў вершы «О лёс мой...»

Дай новым песня узрасці:
на іх бацькоўскі край багаты.
Шчаслівы сейбіт і араты,
на жніва часу адпусці.

Не стане моцы — і няхай! —
у памяці, руцэ, у зрэнцы...
Усё вазьмі —
і толькі сэрца
пакінь і выказацца дай.

Усё ж яна шчодрая і невычэрпна багатая, гэтая дзіўная вёска Чудзін. Тут, як я ўжо згадваў, набіраўся моцы няўрымслівы настаўнік Мікола Купрэеў, у глыбокіх вірах пад мостам лавіў шчупакоў і зваблівaў вадзяных русалак гарэзлівы Алесь Каско, трохі пазней тут жа нарадзілася маладая паэтэса Ірына Дарафейчук, яшчэ

пазней свята-духоўнымі вершамі засведчыў сваю асобу Яўген Сергіеня. Палескі край і сапраўды шчодры на яркія дараванні. І не толькі паэтычныя. Паблізу чароўнай Лані, у лясной глушы на хутары Шарпутоўшчына калісьці жыла сям'я вядомага асветніка і фальклярыста Аляксандра Сержпутоўскага, які праславіўся тым, што рупліва збіраў у кнігі мясцовыя казкі, паданні, лагенды, прымхі. Чудзін — вёска мудрых казачнікаў, народных лекараў. Гартаючы аднойчы акадэмічную кнігу «Замовы», я са здзіўленнем падлічыў, што амаль трыццаць арыгінальных замоў ад усялякага ліха і напасцяў запісана менавіта ў Чудзіне. Думаецца, мудрасць продкаў перадалася і А. Каско. Ужо ў сталыя гады ён надрукаваў у выдавецтве «Юнацтва» цудоўную кнігу сучасных беларускіх казак «Усё чыстае нячыстага баіцца», большасць з якіх запісаў у родных надланьскіх ваколіцах, пацвердзіўшы простую ісціну: мудрасць народа перадаецца самым вартым і ўдзячным яго нашчадкам. У выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыла свет паэтава кніга для дзяцей малодшага школьнага ўзросту «Два сонцы». Абодва зборнікі, і першы, і другі, вельмі хутка ўвайшлі ў рэпертуар школьнай мастацкай самадзейнасці і лялечных тэатраў. Поспех як паэтычных, так і празаічных твораў пісьменніка, мне здаецца, у тым, што ён ніколі не фальшывіць, заўсёды гаворыць няхай горкую, але шчырую праўду. Лепш за ўсіх гэта разумее сам паэт:

Пабольш бы ў песні светлыні,
паболей звонкасці, спакою...
Ды стане песня не маёю,
не пра мае раскажа дні.

Сярод хлусні і мітусні
ёй сорамна перад сабою
ўзнікаць з прытворнага настрою,
з фальшывай слоўнае гульні.

Упэўнена валодаючы багатым арсеналам мастацка-выяўленчых сродкаў, скажам, той жа метафарай або алітэрацыяй, паэту няма ніякай цяжкасці «матыў вясёлкавы саткаць», аднак ён ні ў якім выпадку не жадае быць цынічным і збівацца на звычайную хлусню, таму што надта шчымлівыя болевыя кропкі душы — «атручаныя дождж, рака, плынь роднай мовы ледзь крынічыць...» Лірычны герой яго вершаў, як сцвярджаюць многія даследчыкі, заўсёды шчыры і адкрыты ў сваіх перажываннях, паслядоўны ў сцвярджэнні высокай духоўнасці, гуманнасці і дабрыні, часам схільны нават да глыбокай самаіроніі, бо што тут казаць: не ўсё задуманае збылося, не ўсё, аб чым марылася, пакінула свой след. Апяваючы раку дзяцінства, прыгажуню Лань, А. Каско помніць і свае вытокі, і нялёгкія шляхі-дарогі, па якіх вадзіў творцу няўрымслівы, і часта непадуладны волі пісьменніцкі лёс. Свой дзень народзін можна, аказваецца, убачыць і такім. Ідзе снег, растае ў лужынах, а «стрэлкі-нажніцы рэжуць і рэжуць на стужкі нябачную тканіну часу». Не стане снегу, пачарнеюць белыя палоскі, а стрэлкі гадзінніка будуць чахкаць і чахкаць. Гэта яшчэ не паніка, не роспач, гэта проста здаровая самаіронія сталага, прабеглага ў жыцці паэта. Варта дадаць: сапраўднага паэта, добрага, сур'ёзнага, таварыскага чалавека, законнага валадара прыгажуні Лані, аднаасобнага сейбіта журботна-светлых дум і кананічна-адмысловых метафар, што калі-небудзь нараджаліся ў акварэльна-зіхоткіх ваколіцах палескай вёскі Чудзін.

Уладзімір МАСТКОЎСКІ

# АД СВАЙГО — ДА АГУЛЬНАЛЮДСКОГА

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ. І марам волю дам. Літаратурная карта Пухавіччыны.** *Мінск, «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», 2011.*

Калі знаёмішся з некаторымі краязнаўчымі выданнямі, а іх сёння выходзіць нямала і ў дзяржаўных, і ў прыватных выдавецтвах (аўтары як сапраўдныя пісьменнікі, даследчыкі мінуўшчыны, так і людзі, часам зусім далёкія ад гэтай справы, а то і проста непісьменныя), звяртаеш увагу, што нямала якія кнігі і брашуры, расказваючы пра асобных знакамітых і не вельмі вядомых ураджэнцаў нашай зямлі, нібыта незнарок робяць акцэнт на тым, што славу ёй у мінулым складаў зусім не тутэйшы люд. Гэтым самым аўтары падобных выданняў неназойліва падкрэсліваюць, што ў нас быццам бы ніколі свайго нічога годнага не было і няма…

Найбольш «шчыруюць» у гэтым накірунку так званыя розныя незалежныя дзеячы, што імкнуцца ва ўсіх жыццёвых сферах — ад палітыкі да літаратуры і мастацтва, у дадзеным выпадку, гісторыі — узяць на сябе ролю безапеляцыйных суддзяў свядомасці цэлага народа. Прычым даць сваю, па іх меркаванні, неаспрэчную негатыўную ацэнку таму, што сёння робіць наш народ. Словам, імкнуцца ўзяць на сябе ролю, якая ім, па сутнасці, не можа належаць у прынцыпе.

Прыёмы не новыя, тэхналогіі — таксама. І, мабыць, тут пра гэта наогул не варта было б гаварыць, каб не адна акалічнасць, звязаная з рэцэнзуемай кнігай, назва якой вынесена на пачатак тэксту. А акалічнасць такая: літаратурна-краязнаўчае даследаванне вядомага пісьменніка, краязнаўцы, ці, дакладней, радзімазнаўцы і публіцыста Алеся Карлюкевіча, нястомнага працаўніка на гэтых творчых нівах, вось ужо на працягу ці не двух дзесяцігоддзяў мае дакладную публіцыстычную накіраванасць. Свой погляд наогул не так ужо і часта сустракаецца ў кнігах падобнага кшталту, якія часта замыкаюцца толькі на канстатацыі фактаў. Калі ж канкрэтна, то — мы, беларусы, а разам з намі людзі розных нацыянальнасцей, якія жылі і жывуць на нашай зямлі (у кнізе ўсё сфакусіравана на адным яе раёне, як сучаснай адміністрацыйнай адзінцы), у прыватнасці, пісьменнікі, гісторыкі, краязнаўцы, навукоўцы, сейбіты, воіны яднаціся і яднаемся адным памкненнем — рабіць дабро людзям, Айчыне, сваёй краіне. А дабро тое, яго дух, як сведчыць кніга «І марам волю дам» якраз і сягае ад свайго ўласнага да агульналюдскога… І тады высвятляецца, што мы ніякія не бязбацькавічы (гэта між іншым, несупынна насаджваецца нам рознымі «прыватсуддзямі», якія скажаюць і нашу гісторыю, і дзень сённяшні), мы сапраўды настолькі духоўна багатыя, што і ў мінулым, і ў сучасных справах вядомы ва ўсім свеце. Дарэчы, пра многіх славутых землякоў аўтар піша ў сваёй кнізе.

А землякі Алеся Карлюкевіча — пухавіччане. Аляксандр Мікалаевіч Карлюкевіч нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Зацітава Слабада Пухавіцкага раёна. Тут ён вучыўся ў школе. Адсюль пайшоў у некалі знакамітае Львоўскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча, каб стаць ваенным журналістам,

скончыўшы якое і набыў такую прафесію. Служыў у розных рэгіёнах некалі вялікай краіны, на Кубе. Знаходзячыся далёка ад Радзімы не парываў сувязь з роднай Беларуссю. У іншых краях займаўся даследчыцкай працай — адкрываў імёны знакамітых сыноў Айчыны, якія ў розныя часы нашай гісторыі на чужых землях, сярод чужых народаў сеялі дабро ў самых розных сферах жыцця: ад палітыкі да культуры… (Прозвішчы некаторых і канкрэтныя іхнія справы — у кнізе).

Цікава, кніга гэтая пазначана, як «Літаратурная карта Пухавіччыны». Але, хай будзе так: аўтару відней. Хаця і я, чытач, маю на гэты конт сваё меркаванне, якое і суадносіцца са сціплым пазначэннем пісьменніка і даследчыка ягонай працы, але ж, на маю думку, і сягае шырэй.

Карта і ёсць карта. Звычайная, і, скажам, геаграфічная, як вядома, у пэўным маштабе пазначае мясціны, сцяжыны, населеныя пункты нейкай тэрыторыі, «звязвае» яе з іншымі рэгіёнамі… Літаратурная ж карта Пухавіччыны адлюстроўвае, пазначае населеныя пункты, мясціны, аб’екты, якія суадносяцца з жыццём і дзейнасцю літаратараў: канкрэтных творцаў, якія некалі тут жылі, працавалі, адпачывалі, сустракаліся з пухавіччанамі. Да ўсяго, і зараз нямала хто з сучасных літаратараў, як паказвае аўтар, мае дачыненне да гэтай зямлі, яе людзей… І, канечне ж, калі «карта», дык успамінаеш, якія яе межы, які ахоп тэрыторыі, як яна наогул выходзіць да суседніх рэгіёнаў, з якімі мяжуецца, злучаецца…

Калі браць уласна кнігі Алеся Карлюкевіча, як такія карты, даследаванні, адлюстраванні, згадкі, адразу бачаш, што яны дапаўняюць адна адну.

А кнігі гэтыя такія: краязнаўчыя нарысы «За Цітаўкаю Слабада» (1997), «Блонь», выдадзеная ў тым жа годзе ў сааўтарстве з мясцовым краязнаўцам Баніславам Зубкоўскім, «Ігуменскі блакнот» (2000), «Сцежкамі Ігуменшчыны» (2008) і іншыя. Так што своеасаблівая творчая крынічка ведаў А. Карлюкевіча свайго роднага краю, якую ён адкрывае чытачам, як бачым, аднойчы забруяўшы з яго роднай вёсачкі Зацітавай Слабады, смела пачала пракладваць сабе рэчышча праз суседнія, потым аддаленыя вёскі і вёсачкі, праз увесь свой раён выйшла на землі суседняга з ім. А тут і там, як кажуць, скрозь жывуць людзі. А мы, староннія, для каго неабыякава наша гісторыя і дзень сённяшні, праз падзеі, якія апісвае аўтар, праз імёны, канкрэтныя асобы, дакранаючыся да таго духоўнага багацця, якое нам адкрываецца ў межах гэтай літкарты, спыняемся на думцы: раён то ўзяты адзін, а ў рэспубліцы іх ажно 118!.. І як бы цудоўна было б, калі б кожны з іх займеў такую ж кнігу!..

Што асабіста да мяне як чытача, чалавека з таго пакалення, якое мела гонар у дзіцячыя, юначыя, а затым сталыя гады знацца з сапраўднай кнігай, з высокім пісьменніцкім майстэрствам аўтара, бездакорнасцю мовы і стылю, дакладнасцю ў падачы фактаграфічнага матэрыялу і г. д., дык скажу наступнае… Алесь Карлюкевіч у сваім новым выданні таксама на годным моўным, стылявым і фактаграфічным узроўні нязмушана гаворыць пра патрыятызм не толькі пісьменніка, а кожнага, калі так можна сказаць, насельніка кнігі. Дарэчы, сёння грамадзяніну сваёй краіны, якой бы ён справай ні займаўся, быць патрыётам не менш важна чым у якія іншыя часы нашай гісторыі. Больш таго нагадаю, што б хто дзе (у нас ці за мяжой) не даказваў, нібыта такое паняцце, як патрыятызм, ужо ўстарэла і не можа існаваць (маўляў, глабалізацыя выключае), хто б не зводзіў каго ў зман, нібыта ідэалогія — рэч аджыўшая — гэта ні больш ні менш, як прапаганда свайго і на сваю карысць, часам зусім не адпаведнага нашай маралі, светапогляду, ладу жыцця, адносін між людзьмі, сваіх і чужых. Ды, калі ўжо так — у свеце няма нічога, што не мела б адпаведнай ідэалогіі, свайго інтарэсу, мэтанакіраванасці. Але ад «захлёбістай» рэкламы якіх-небудзь амерыканскіх ці іншых аўтамабіляў да выявы таго ж, скажам, штатаўскага сцяга або якога іншага сімвала пэўнай краіны ў канцы ці на працягу, напрыклад, нават нейкага іхняга, чужога нам па духу, «задрыпанага» фільма…

Алесь Карлюкевіч сваёй кнігай паказвае чалавека, як творцу, асобу.

Нашага. І беларуса, і прадстаўніка шмат якіх іншых нацыянальнасцей. Паказвае людзей, для якіх Беларусь была, або ёсць Радзіма, ці якія, па волі лёсу, спрычыняліся да Беларусі і назаўжды палюбілі яе. А паколькі, паўтараюся, кніга — «карта» літаратурная, то найперш гэтыя людзі — пісьменнікі, хаця ў ёй нямала прадстаўнікоў іншых творчых накірункаў…

Пухавіччыну любіў Якуб Колас. Да вайны ён летаваў на гэтай зямлі. Вудзіў рыбу, збіраў баравікі… Гаварыў з людзьмі, пранікаўся іх клопатамі і паўсядзённымі справамі. Нямала каму дапамагаў і словам, і справай. І сёння тут яшчэ, дзякуй Богу, жывуць людзі, якія памятаюць гэта. Тут пясняр натхняўся. Тут яму было думна… Сюды да яго і проста адпачыць, папрацаваць, прыязджалі Янка Купала, Максім Лужанін, Кузьма Чорны, Аркадзь Куляшоў, Міхась Лынькоў — усіх пералічыць цяжка — у кнізе яны таксама названы.

На беразе маляўнічай у любую пару года рэчкі Цітаўкі, у Мар’інай Горцы ў 30-я гады быў Дом творчасці пісьменнікаў. У той час у ім адпачывалі і тварылі не толькі беларускія паэты, празаікі, драматургі, публіцысты, але і творцы з іншых рэспублік нашай былой вялікай краіны.

Тут нараджаліся кнігі, п’есы, кінасцэнарыі, якія потым станавіліся агульным духоўным здабыткам беларусаў, рускіх, украінцаў, узбекаў, казахаў, яўрэяў… І, вядома ж, сягалі далёка за межы той краіны, якая тады ў нас існавала.

На гэтай зямлі падоўгу жылі і працавалі многія пісьменнікі, як старэйшых пакаленняў, так і майстры слова пасляваеннага пакалення, часоў адраджэння разбуранай вайной гаспадаркі, так і нямала хто з нашых сучаснікаў. (Зрэшты, гэтая зямля нарадзіла не адзін дзясятак слынных літаратараў.)

Тут бывалі, любаваліся гэтай прыродай Уладзімір Караткевіч і Янка Сіпакоў. Уладзімір Сямёнавіч, як я асабіста ведаю, не аднойчы праз Пухавічы ехаў у любімы Рагачоў да дзядзькі. А Іван Данілавіч неяк ехаў у маёй машыне ў Бабруйск па сваіх справах і мы, вясною, той яе парою, калі цвіла чаромха, спыніліся на беразе Свіслачы…

Анатоль Вольны, Рыгор Кобец, Антон Бялевіч, Янка Непачаловіч, Макар Паслядовіч, Пятрусь Броўка, Іван Чыгрынаў, Пятро Глебка, Эдуард Самуйлёнак, Валянцін Мыслівец, Алесь Бачыла, Таіса Бондар, Сцяпан Кухараў і многія многія іншыя беларускія літаратары, якія стваралі, па сутнасці стварылі тую нашу літаратуру, якой мы ганарымся, а таксама дзясяткі нашых сучаснікаў так або інакш звязаны, далучаны, спрычынены да гэтай зямлі (не пералічваю знарок, усе яны — таксама прысутнічаюць у кнізе).

Уладзіміра Караткевіча і Янку Сіпакова я назваў, гаворачы пра кнігу А. Карлюкевіча «І марам волю дам», не таму нібыта і яны пэўным чынам звязаны з яго роднай зямлёй, а найперш таму, што мне ўвесь час як чытаў гэтую літаратурную карту ўспаміналіся іхнія кнігі пра Беларусь.

Нагадаю, што ў свой час, а менавіта ў 1972 годзе, Уладзімір Сямёнавіч у Кіеве на ўкраінскай мове спецыяльна для юнага чытача гэтай рэспублікі выдаў нарыс «Зямля пад белымі крыламі». У ім ён расказваў пра Беларусь, тагачасную нашу рэспубліку, пра яе людзей, мінулае і тагачаснае. Кніга тая ў нас выйшла першым выданнем на некалькі гадоў пазней. Потым яна вытрымала некалькі перавыданняў. (Несумненна, Алесь Карлюкевіч, у той час школьнік з пухавіцкай Зацітавай Слабады, яе чытаў.) І, мабыць, дапытлівы хлапчук не мог не звярнуць увагу на тое, што У. Караткевіч шчыра і з захапленнем, расказваючы пра тую або іншую грань характару беларусаў, пра іх справы, справы людзей іншых народаў, што ладам з намі жылі на гэтай зямлі, пра ўсё казаў: «наша», «нашы», «наш»…

Перакананы, ці тады, ці пазней, але абавязкова, селькор, юны Алесь Карлюкевіч, пішучы ў райгазету свае першыя нататкі пра родны край, яго людзей ведаў прадмову да нарыса «Зямля пад

белымі крыламі», напісаную Васілём Быкавым. Перакананы, што яшчэ тады будучы даследчык літаратурнай Пухавіччыны, а цяпер вядомы пісьменнік, гісторык і публіцыст А. Карлюкевіч не мог не звярнуць увагі на палымяныя, прасякнутыя патрыятызмам словы прадмовы, і на тое, што яе напісаў вялікі пісьменнік. Цытую вытрымку: «Вартасць гэтай кніжкі не абмяжоўваецца толькі фактаграфіяй, якой бы займальнай яна ні была. Тут, што не менш важна, кожная думка аўтара сагрэта яго гуманістычным пачуццём, шчырай любоўю да Радзімы і яе жыхароў. Тут стрымана выказаны запавет пакаленням, якія ўваходзяць у жыццё і яшчэ ў яго ўвойдуць. Запавет любові і надзеі, спраўдзіць які належыць вам, цяперашнім і будучым чытачам кнігі».

Тое, што кнігу Алеся Карлюкевіча «І марам волю дам», як і ўсе іншыя, акрамя дарослых з захапленнем будуць чытаць юныя, і чытаюць (адзін з прыкладаў гэтаму — урок краязнаўства па яго «Радзімазнаўстве» ў Мётчанскай СШ Барысаўскага раёна, пра які «Полымя» пісала (№ 3 за 2011 г.), дык, як кажуць, факт! І — вельмі цікавы: «літаратурная карта» аднаго раёна, а цікавасць да яе — па ўсёй рэспубліцы…

Гаворачы пра Караткевіча, згадваючы Сіпакова, я не збіраюся ніякім чынам параўноўваць таленты іх з талентам Карлюкевіча — няўдзячная, непатрэбная і шкодная рэч: наогул таленты самі па сабе, усе яны такія непараўнальныя. Але скажу, што доўга ў нас пасля Караткевіча не было такой патрыятычнай, публіцыстычна адкрытай і захапляльнай кнігі пра Беларусь, пакуль не з'явілася кніга Я. Сіпакова «Зялёны лісток на планеце зямля».

У ёй Іван Данілавіч надзвычай выдатна, як пісьменнік і грамадзянін, пасвойму сказаў пра нашу родную Беларусь. Спачатку кніга выйшла ў свет некалькі гадоў таму ў выдавецтве «Харвест» без ілюстрацый, а затым у 2010 годзе, як «Партрэт Беларусі» ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Апошняе — багата ілюстраванае выданне з той або іншай выявай нашай зямлі. У ім паказаны яе дасягненні, гістарычныя адзнакі, вобразы людзей, нашы сімвалы і г. д. Кніга складаецца з 30 раздзелаў. 27 з іх пачынаюцца са слова «Нашы…», або «Наша…»: ад «Нашы людзі», «Наша мова», «Наша вада» і г. д. да «Нашы межы і нашы дзяржавы» і «Наша культура і літаратура». А зрэшты, і ў Караткевіча, і ў Сіпакова, і ў Карлюкевіча, калі ўдумацца, ёсць адно, што нас аб'ядноўвае: наша любоў да Бацькаўшчыны, яе гісторыі, дня сённяшняга… І тут не важна, як, праз што, праз каго, праз якія маштабы і ахопы падзей выказваецца гэтая любоў. Важна, што яна ёсць, і што яна агульная для ўсіх! І важна, што ёсць Пухавіччына з яе багатай літаратурнай спадчынай, што ёсць яе, Пухавіччыны, гэтая літаратурная карта. І яна годна ўваходзіць, вобразна кажучы, хай пакуль яшчэ рэчачкай, у рэчышча сіпакоўскай любові да Радзімы, а сіпакоўская — у караткевічаўскае. І, можа быць, такія «карты», як гэта, дакладныя, без скажэнняў гістарычнай спадчыны і фактаграфіі, без жадання аўтараў аддзяліць наша ад нашага і ад усяго добрага свету, па сутнасці, адрэзаць беларусаў і іх духоўныя і іншыя здабыткі ад агульналюдскога ў хуткім часе сальюцца ў адну шырокую плынь духоўнасці. Той нашай, роднай, чыстай, праўдзівай і сапраўды патрыятычнай, якая і робіць беларусаў адметнымі ў свеце.

Юрась МЕЛЬЧАНКА

# БАЛЮЧАЯ, ЖОРСТКАЯ ПРАЎДА

**Віктар ПРАЎДЗІН. Нелюбімыя гінуць. Проза.** *Мн.: Мастацкая літаратура», 2010.*

Вітаючы з'яўленне ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» серыі «Залатое пяро», з задавальненнем перачытваючы кнігі паэтаў, аўтарам якіх пашчасціла ўжо надрукавацца ў ёй, часам лавіў сябе на думцы, а калі ж у гэтай аўтарытэтнай бібліятэчцы нацыянальнай літаратуры, а згаданую серыю іначай і нельга ўспрымаць, будзе прадстаўлены хто-небудзь з сучасных празаікаў. І вось, нарэшце, такая кніга пабачыла свет — «Нелюбімыя гінуць» Віктара Праўдзіна. Менавіта яму выпаў гонар пачынаць, калі можна так сказаць, празаічны аддзел у «Залатым пяры». І, думаецца, невыпадкова. В. Праўдзін — празаік цікавы, самабытны.

Плённа працуючы ў літаратуры не адно дзесяцігоддзе, ён мае важкі наробак, які вызначаецца кнігамі «Візіцёр з Поўначы», «Боль», «Эксгумацыя», «Шлях на Галгофу», рускамоўнымі «Возвращение из преисподней» (нядаўна ў той жа «Мастацкай літаратуры» выйшаў беларускамоўны варыянт), «Танцевальный марафон» і іншымі. Магчыма, колькасна іх не так і шмат, ды гэта такія кнігі, што застаецца толькі парадавацца. В. Праўдзін мастакоўскую планку трымае нязменна высока. А піша толькі тады, калі не можа не пісаць. Пры гэтым абавязкова знаходзіць сваю тэму (адпаведна і сваіх герояў), нязменна застаючыся пісьменнікам ярка выражанай гуманістычнай традыцыі, той самай, што звязана з імёнамі ягоных выдатных папярэднікаў, сярод якіх і больш блізкія да нас Васіль Быкаў, Іван Мележ, Іван Чыгрынаў, Іван Шамякін. Не кажучы пра тых, хто працягвае плённа працаваць у літаратуры. Проза В. Праўдзіна цалкам патрапляе пад вызначэнне чалавеказнаўца. Аднак у яго асаблівы погляд на чалавека.

Не абыходзячы негатыўных момантаў у нашай рэчаіснасці, часам, магчыма, у нечым і празмерна засяроджваючы на іх увагу, як гэта назіраецца ў рамане «Нелюбімыя гінуць», які і даў назву аднатомніку В. Праўдзіна ў серыі «Залатое пяро» (чытацкай увазе прапанавана першая кніга пад назвай «Выпрабаванне»), ён дапамагае чалавеку, якога жыццё чымсьці, а то і многім абдзяліла, а яшчэ, што зусім ужо прыкра, запэцкала, як бы скінуць з сябе ўвесь той бруд, што наліпнуў, змыць, каб пастарацца забыць тое, што прыніжае яго, растоптвае як асобу. Паколькі ж галоўныя персанажы гэтага твора жанчыны, дык падобнае ачышчэнне тым больш неабходна. У няменшай ступені яно, калі прытрымлівацца не проста сюжэта першай кнігі рамана, а спасцігаць усю сутнасць аўтарскай канцэпцыі разумення прадстаўніц слабай палавіны чалавецтва, патрэбнае ўсім нам, самому грамадству ў цэлым.

Як дакладна зазначыў у канцы сваёй прадмовы да кнігі — «Пяшчотныя, чыстыя рукі Мадонны» Віктар Гардзей, В. Праўдзін «слушна давёў многім сваім паклоннікам, што ў кожнай, нават у змучанай жыццём жанчыны, як у той нябеснай мадонны, рукі самыя чыстыя, ласкавыя і пяшчотныя». Давесці гэта, дадам ад сябе, яму было няпроста. Яшчэ як няпроста, бо галоўнымі героямі свайго рамана ён узяў такіх

маладых жанчын, жыццёвы лёс якіх не тое, што нешчаслівы, а і драматычны, а гэтае драматычнае ў асобных выпадках знаходзіцца на мяжы трагічнага.

Хоць бы ў той жа маладой чэчэнкі Айшэ. Перад ёй адкрываліся светлыя перспектывы, бо скончыла сярэднюю школу з залатым медалём. Аднак над усім быў пастаўлены крыж, калі будучы муж гвалтам выкраў яе. За гэтае насілле яна і не магла любіць яго. А цяпер, калі Цімура не стала, а свякруха даводзіць, што «роду Баджыевых не сорамна за яго, і ты абавязана, павінна паводзіць сябе як жонка героя» — як цяпер яна ставіцца да мёртвага ўжо мужа...

Ды не толькі гэта трывожыць Айшэ. У большай ступені яна непакоіцца за лёс сына, які нарадзіўся пасля смерці бацькі. Вайна ж працягваецца, небяспека падсцерагае іх на кожным кроку і кулю можна чакаць ад каго заўгодна. Не ад адных федэралаў, якія, азлобленыя супраціўленнем баевікоў, у ёй таксама бачаць ворага, а і ад сваіх, бо сярод іх сустракаюцца тыя, хто ўспрымае Айшэ цяжарам для сябе.

У рамане паўстае жорсткая, агаленая праўда канца XX — пачатку XXI стагоддзя, калі многія, здавалася б, раней непахісныя маральныя асновы пахіснуліся, ледзь ні паўсюдна правяць баль грошы, а высокія і светлыя ідэалы падмяняюцца прагай нажывы. Ствараецца ўражанне, што сумленным і прынцыповым людзям проста немагчыма жыць. У першую чаргу жанчынам, якія, як ніхто іншы, адчуваюць сябе безабароннымі перад абставінамі, дый перад людзьмі, хоць хіба можна назваць тых, хто чыніць не толькі фізічны, а і маральны гвалт.

Нібыта ўвесь белы свет паўстае супраць персанажаў-жанчын з рамана «Нелюбімыя гінуць». Шасцёра прадстаўніц слабага полу ва ўзросце ад дваццаці да дваццаці трох гадоў сабраліся на заробкі ў Германію. На жаль, не ўсе з іх ведаюць, што за заробкі чакаюць іх у чужой краіне, за аказанне якіх паслуг ім будуць плаціць. Гэтае няведанне працягваецца да таго моманту, пакуль «рафік», у якім яны едуць, не спыняюць рэкеціры і патрабуюць з кожнага па 50 «баксаў». Адна з пасажырак, Кацярына, прадчуваючы, чаго ім можа каштаваць адмова, хапаецца за брытву. Другая, Ірына, якая шмат паспела пабачыць ужо і, канечне ж, добра ведае сэнс гэтай паездкі, знаходзіць іншы спосаб разлічыцца з вымагацелямі. Прытым паслугі рэкецірам аказвае тут жа, у іхнім «мерседэсе».

Сцэна, што адбываецца пры гэтым, не для цнатліўцаў. Пры жаданні В. Праўдзіна лёгка можна папракнуць у празмерным натуралізме. Але гэта зусім не смакаванне пікантных падрабязнасцей, а праўда, ад якой нікуды не падзенешся. Такая голая праўда — гэта і ёсць праўда В. Праўдзіна як пісьменніка, які імкнецца спасцігаць жыццё ва ўсёй ягонай складанасці, не абыходзячы вострых (і балючых!) момантаў. Ён прытрымліваецца той жорсткай праўды, без якой у дадзеным выпадку не абысціся. Застаючыся рэалістам, ён свядома засяроджае на гэтым увагу, каб паказаць, да чаго можа дайсці грамадства, калі ўсёдазволенасць падмяняе маральныя нормы. Праўда, робіць гэта не страчваючы пачуцця меры. Інačай згубіцца ў далейшым увесь сэнс аповеда пра тое, з чым сустрэнуцца гэтыя маладыя жанчыны, прыехаўшы туды, куды іх заманілі. Тыя ж з іх, хто яшчэ не здагадваецца, што іх чакае ў «райскім кутку» замежжа, дзякуючы гэтай «сцэне», якая адбываецца ў іх на вачах, мусяць прайсці праз такія своеасаблівыя аўгіевыя канюшні, каб быць хоць крыху гатовымі да «салодкага» жыцця.

У першую чаргу — гэта Люба Анікейчык. «Прывабная вясковая беларусачка», як кажа пра яе В. Праўдзін, яна ўцякла з роднай вёскі Верацеі, каб не бачыць пастаянна п’яных бацьку і мачыху. Дый дзеля таго яшчэ яна адправілася ў Германію, каб зарабіць грошай. Пасля пабачанага ў «мерседэсе», Люба ўжо не сумняваецца, што з яе хочуць зрабіць секс-рабыню. Праўда, усё ж недзе ў глыбіні душы яе і кволіцца спадзяванне, што такі лёс міне яе. Маўляў, гэта іншыя пройдуць праз выпрабаванні, а ў яе ўсё будзе добра. Аднак у доме багатага немца Ганса

даведваецца, што яе падманулі. Спробы дазваніцца ў паліцыю, ці ўцячы нічога не даюць. З'яўляецца падручны Ганса. Хто ён такі, добра відаць ужо па ягонай мянушцы — Бык. З такім лепш быць паслухмяным...

Каторую з гераінь В. Праўдзіна ні возьмеш — яна, па сутнасці, Мадонна з падрэзанымі крыламі. У падобным сцвярджэнні не трэба шукаць іронію, сказана гэта сур'ёзна. Мадонна, бо менавіта так ставіцца пісьменнік да жанчыны, успрымаючы яе ўвасабленнем усяго светлага, чыстага, нават святога на зямлі А з падрэзанымі крыламі таму, што ад рэчаіснасці, якая раскрываецца ў рамане, нікуды не дзенешся.

Аднак кожнай з тых, пра каго расказвае В. Праўдзін, ён, дае магчымасць знайсці сваё шчасце ў будучым, не сумняваючыся, што падобнае магчыма. Нават для мінчанкі Марыі, якая па віне п'янага мужа ў час мядовага месяца трапляе ў аўтамабільную катастрофу і застаецца без нагі. Яе ж адзіны, апынуўшыся ў турме, афармляе развод, пасля гэтага «развялі. Кватэру размянялі, маёмасць падзялілі...» Марыя не па сваёй волі становіцца на шлях распусты, але ў шпіталі сустракае гэткага ж бедалагу, як і сама — былога прапаршчыка Івана Сераду, які вярнуўся з Чэчні без ног. Іхнія лёсы перакрыжаваліся...

Майстэрства В. Праўдзіна-празаіка відавочна і ў тым, што нават эпізадычных персанажаў ён падае так праўдзіва і пераканаўча, што яны ўспрымаюцца неардынарнымі характарамі, да іх ставішся са спагадай нават тады, калі не падзяляеш тое, што яны робяць. Узяць, для прыкладу, снайпершу Вольгу. Былая біятланістка, якая пры Савецкім Саюзе «на чэмпіянатах займала прызавыя месцы», расчараваўшыся ў мужчынах, пачынае ваяваць на баку баевікоў, даўшы сабе слова забіць асабіста сто федэралаў, якія, зразумела, ніякага дачынення да яе бяды не маюць. Ніхто, тым больш сам аўтар рамана, Вольгу апраўдваць не збіраецца, але яе паводзіны — таксама падстава для роздуму, бо ёсць вытокі таго, што падштурхнула маладую жанчыну на шлях падобнай помсты, а такія выпадкі ў спорце, як і ў жыцці ўвогуле, калі-нікалі сустракаюцца.

У аднатомнік В. Праўдзіна ўвайшла і ягоная аповесць «Эксгумацыя». Гэты дэтэктыўна-прыгодніцкі твор ужо добра вядомы чытачу, у тым ліку і замежнаму, неаднойчы друкаваўся. Прыцягальнасць аповесці зноў жа ў праўдзівасці характараў, у вывераным адлюстраванні жыццёвых сітуацый і калізій. Што ў дадзеным выпадку асабліва важна, бо некаторыя аўтары, пішучы дэтэктывы, лічаць гэта для сябе неабавязковым, ставячы на першы план толькі дынамізм дзеяння, а яшчэ хаваючы да самага канца развязку, якая мусіць адбыцца ў апошні момант, пры гэтым такім чынам, што чытач загадзя не здагадваецца, што і да чаго. У гэтым сэнсе «Эксгумацыя» таксама апраўдвае самыя лепшыя спадзяванні, таму што В. Праўдзін дасканала валодае сакрэтамі жанру, а яшчэ, што таксама немалаважна, і ў гэтым выпадку ідзе ад самога жыцця, добра ведаючы спецыфіку работы супрацоўнікаў праваахоўных органаў.

Завяршае кнігу апавяданне «Пачалавечы...» Хоць, гэта, бадай, і не апавяданне, а навела з няхітрым сюжэтам. Ды сутнасць не ў гэтым, істотна іншае: В. Праўдзін, як у рамане, так і ў аповесці, перш-наперш застаецца тым чалавеказнаўцам (і чалавекалюбам), якому ў аднолькавай ступені балюча як ад усведамлення таго, што з-за абставін, але ў не меншай ступені з-за людской жорсткасці ламаюцца жаночыя лёсы, так і ад сутыкнення з гэтай самай жорсткасцю ў дачыненні да «братоў нашых меншых», да якіх можна аднесці не толькі жывёл, а ўсё жывое. Больш за тое, калі прытрымлівацца сітуацыі, пакладзенай у аснову гэтага твора, то боль гэты працінае яго і праз гады, на адлегласці часу не толькі не слабеючы, а нават узмацняючыся.

Ва ўсякім разе на падобную выснову падштурхоўвае выпадак, што адбыўся з галоўным героем у маленстве. Гэтага героя, думаецца, невыпадкова завуць менавіта Віцем. Хутчэй за ўсё і сам пісьменнік быў відавочцам таго,

як сусед, перш чым зарэзаць гусака, жорстка абыходзіцца з ім: «Ён паставіў гусака на зямлю каля плота, а сам усеўся на неслуха, заціснуўшы крылы паміж ног. Цяпер абедзве рукі ў дзядзькі Мішы вольныя, і ён пачынае накручваць гусакову шыю вакол штакеціны. Раз, другі — шыя доўгая». Хлапчуку ад пабачанага становіцца балюча і ў яго «ад гэтай шкадобы (гусака. — **Ю. М.**) па шчоках цякуць пякучыя слёзы».

Тое, што адбываецца, не праходзіць незаўважна і для дарослых:

«— Што ж гэта Мішка вытварае? — убачыўшы суседа верхам на гусаку, абурана гаворыць цётка Марыя. — Што ён за нелюдзь?.. Не можа па-чалавечы гусаку галаву адсекчы...»

За гэтым «па-чалавечы», калі мець на ўвазе ўсю творчасць В. Праўдзіна, хаваецца глыбокі сэнс. У любой сітуацыі можна застацца чалавекам, у чым і пераконвае сваімі творамі пісьменнік, застаючыся ў сучаснай беларускай літаратуры адным з тых нямногіх, хто, праўдзіва (ды і як жа інакш, калі ён Праўдзін) адлюстроўваючы сённяшнюю рэчаіснасць, нязменна прытрымліваецца рэалістычнага падыходу ў паказе чалавека ў найскладанейшых сітуацыях. Прынамсі, як засведчыў кнігай першай свайго рамана «Нелюбімыя гінуць», у паказе жанчын, якія найбольш ранімыя і якім розныя нелюдзі лёгка могуць прычыніць боль.

Такая яна, не ўспрыміце гэта таўталогіяй, праўда Віктара Праўдзіна. Дык пачакаем другой кнігі гэтага рамана «Нелюбімыя гінуць» (за першую В. Праўдзін, дарэчы, атрымаў прэстыжную літаратурную прэмію «Залаты Купідон», што ўжо само па сабе шмат гаворыць), каб даведацца, як далей пачнуць разгортвацца лёсы Любы Анікейчык, Айшэ, Марыі. Ці знойдуць яны сваё шчасце, якое, несумненна, ніякія грошы замяніць не могуць. Нават заморскія.

Няма сумнення, што далейшае разгортванне лёсаў герояў, якіх ужо ведаеш, так і тых, якія хутчэй за ўсё з’явяцца, прынясе сапраўдную асалоду чытачам, якія любяць прозу глыбокага рэалістычнага зместу, тую, што адлюстроўвае жыццё ва ўсіх яго складанасцях. Гэтыя чытачы лішні раз упэўняцца, што ў нас ёсць, кажучы словамі В. Гардзея, «цудоўны празаік гуманіст, празаік балючай сучаснай тэмы, і гэты празаік — вядомы нам па многіх папярэдніх творах Віктар Праўдзін».

Кацярына ГІГЕВІЧ

# СВАЁ СЛОВА ДЗЕЦЯМ І ДАРОСЛЫМ

**Ольга НИКОЛЬСКАЯ. «Мы — агенты «КолбаФир...» Современная повесть-сказка.** *Мн:, «Літаратура і Мастацтва», 2011.*

Для таго, каб стварыць цікавую і патрэбную дзецям кнігу, пісьменніку варта абапірацца на добрую літаратурную традыцыю, валодаць своеасаблівым талентам, умець глядзець на свет дзіцячымі вачыма, разумець псіхалогію юных, і пры гэтым памятаць вядомае: трэба пісаць так, як для дарослых, але крышачку лепш, ці наогул лепш. Усё гэта, несумненна, так. Аднак, як ведаем, сёння кожны, хто толькі хоча, можа за свой кошт надрукаваць любую непісьменную лухту і нават давесці сваю псеўдакнігу да крамы, а то і да бібліятэкі, дзіцячага садка, ці школы. Гэтым самым знішчаецца само паняцце кнігі як крыніцы ведаў, крыніцы, якая па словах аднаго нашага знакамітага паэта выклікае працу душы, выхоўвае чалавека, а калі ўжо гэта датычыць юнага, вучыць яго тым адвечным духоўна-маральным каштоўнасцям, якімі жылі нашы продкі і якія перадалі нам, а мы павінны перадаць сваім дзецям і ўнукам як самую дарагую спадчыну — аснову дабрыні, спагады, зрэшты, усяго таго, што сёння надзвычай патрэбна грамадству. І, выдаючы непатрэбшчыну, гэтым, з дазволу сказаць, аўтарам няма справы да таго, што ніякім талентам яны не надзелены, глядзяць на свет зусім інакш, чым дзеці (пісьменнікаў-прафесіяналаў, якія ў нас пішуць на беларускай і рускай мовах для дзяцей нямала, іх не называю, бо імёны гэтых майстроў шырокавядомыя), выкарыстоўваюць даўно «заезджаныя» сюжэты, «ствараючы» такое, што чытаць дзецям не тое, што не трэба, а часта шкодна — непісьменна, граматычных і стылістычных памылак у іх тэкстах процьма, ды і іншых хібаў зашмат. Але ж тыя нібыта кнігі бессаромна рэкламуюцца ў розных выданнях, як надзвычай непаўторныя і вельмі каштоўныя ў выхаваўчым працэсе і г. д.

Ну што ж, як кажуць, такія выдаткі, або адзнакі часу. А я дадам, што выдаткі тыя ўяўляюць сапраўдную небяспеку для выхавання юных, для станаўлення іх светапогляду, і з гэтым не павінны мірыцца не толькі бацькі, бабулі і дзядулі маленькіх чытачоў, але і выхавацелі дзіцячых садкоў, настаўнікі, грамадскасць: дзеці — наша будучае, і яны павінны выхоўвацца на ўсім тым лепшым, што ўжо створана для іх у айчыннай, замежнай, урэшце, сусветнай літаратуры. І, вядома, на тым, што выходзіць з-пад пяра сапраўды таленавітых аўтараў, як знакамітых, так і тых, хто толькі пачынае свой шлях у літаратуры. І, між іншым, пры гэтым мы павінна памятаць, што ў сусветнай дзіцячай літаратуры ёсць шмат твораў, якія па сваёй папулярнасці канкуруюць з класічнай літаратураю для дарослых.

Мяжа паміж дзіцячай літаратурай і літаратурай для сталых даволі ўмоўная. (Пра што сведчыць і кніга маладой пісьменніцы Вольгі Нікольскай «Мы — агенты «КолбаФир...».) Кнігі для дзя-

цей можна чытаць у любым узросце, яны прыносяць радасць першаадкрыцця, пачуццё цуду, гэтак неабходнага як дзецям, так і іх бацькам, бабулям і дзядулям. І ўжо зусім вядомае: дзяцей ашукаць цяжка. Яны вастрэй чым дарослыя адчуваюць ілжывасць і таму, каб напісаць дзіцячыя творы, то, паўтаруся, рабіць гэта трэба ад усяго сэрца, трэба мець талент і, што надзвычай важна — асаблівае пачуццё гумару. Можна напісаць «правільную» дзіцячую кнігу, але, калі ў ёй не будзе шчырага, па-добраму даверлівага дзіцячага погляду на свет, на жыццё дарослых людзей, калі не будзе зычлівай аўтарскай усмешкі, то яе, не чытаючы, адразу ж пасля выхаду ў свет можна смела выкідваць на сметнік, ці здаваць у макулатуру.

Здавалася б, што новага можа нам даць чарговая дзіцячая кніжка ў наш бурнаплынны час, пранізаны міжнароднымі крызісамі, татальным інтэрнэтаўскім лямантам, уяўным катэгарычным разуменнем жыццёвых ісцін? Ды і ці шмат сёння выходзіць у свет дзіцячых кніг, якія могуць захапіць увагу як дзіцяці, так і дарослых?

Кніга В. Нікольскай «Мы — агенты КолбаФир...» (раней аўтарка выступала ў друку пад прозвішчам Вольга Лешчанка) напоўнена вясёлымі і непаўторнымі прыгодамі двух катоў. Яна напісана ў жанры сучаснай аповесці-казкі. Каты атрымаліся запамінальнымі і «рэльефнымі» персанажамі. Многія іх рысы і характарыстыкі не старамодныя, а, наадварот, сучасныя. Галоўныя героі казачнай аповесці кот Каўбас і кот Кефір. Гэтыя незвычайныя імёны яны атрымалі пасля прыгод, якія адбыліся з імі на кватэрах, у якіх жылі малечы, і пасля якіх (маецца на ўвазе прыгод), гаспадыні выкінулі гарэзаў на сметнік, як непатрэбшчыну, зусім не думаючы, што каты, як і людзі, жывыя істоты, што і ім, як усяму жывому, балюча і крыўдна, і што яны маюць патрэбу ў дабрыні і ласцы. А прадгісторыя ўсяму такая: адзін кот, гарэзнічаючы, незнарок развярнуў бутэльку кефіру, другі, як можна здагадацца, умалаціў каўбасу — гаспадыня не надта яго карміла, і атрымалася, па сутнасці, што яны сталі нібыта шкоднікамі.

Знарок крышачку абазначу сюжэт, хаця і юныя і дарослыя чытачы, як кажуць, «увойдуць» у яго самі, але заўважу, як толькі каты пазнаёміліся, адразу ж паміж імі пачалі складвацца своеасаблівыя ўзаемаадносіны. Кот містэр Салямі (які з'еў каўбасу) крыху старэйшы за Кефіра, зведаў адзіноцтва, голад, нястачу, бяспеку, якая падсцерагае бяздомніка на кожным кроку. У яго ўжо ёсць сякі-такі жыццёвы вопыт у гэтым складаным, часта жорсткім свеце, дзе ў імкненні за выжыванне бяздумна разбураюцца законы дабра, справядлівасці, спагады, узаемадапамогі, тыя жыццесцвярджальныя, жыццядайныя законы, без якіх наогул існаванне немагчыма… Старэйшы, значыць, у пэўнай ступені «настаўнік». Хай вальяжны, выдаткі ўзросту: хай важны, але разам з тым, добры і спагадлівы, аптымістычны, разумны, своеасаблівы хітраван, і канечне ж, прыгажун.

Кот Кефір — малодшы кот, не тое, што антыпод свайму сябру, у яго своеасаблівы характар, ён вельмі адкрыты, сціплы, мяккі і добры. Старэйшы кот адразу так вызначае адносіны з малодшым: маўляў, давай сябраваць, мы з табою будзем жыць разам, але ж я буду галоўным, я ж старэйшы за цябе і кліч мяне проста: містэр Салямі...

Іх вобразы, як і вобразы многіх персанажаў гэтага казачнага твора В. Нікольскай, якімі яна насяліла сваю кнігу, атрымаліся вельмі жывымі, адухоўленымі, надзеленымі добрым мяккім гумарам, характары пададзены ў развіцці. Героі аповесці-казкі прыходзяць да разумення дабра ўсвядомлена, і гэтую іхнюю ўсвядомленасць аўтар ніякім чынам не навязвае чытачу, што надзвычай важна: як вядома, дыдактыка, якая насаджаецца, проста адварочвае юнага чытача ад кнігі. Канечне, тут важнымі з'яўляюцца сітуацыі, у якіх яны дзейнічаюць (сітуацыі не запазычаныя), а таксама тое, што В. Ніколь-

ская надзяляе сваіх персанажаў чалавечым мысленнем, чалавечымі якасцямі, і атрымліваецца ўсё гэта ў яе проста і натуральна.

Але Каўбаса і Кефіра мы ўжо ведаем. Каты… І тут жа — старая мыш Нехлямяжка, Вавёрка Семачкіна, качкі Кракушка і Пярэсценькая, сабака Рыжык, злосны сквапны і бяздушны Калекцыянер матылькоў, добры дзядуля ляснік, мядзведзь дзядзька Міша (гэта традыцыйна) і іншыя. Кожны са сваім характарам, сваімі асаблівасцямі. У кожнага свой вобраз.

У кнізе героі-каты, жывёлы і птушкі ўзаемадзейнічаюць між сабой і з людзьмі. Сярод іх — гарэзныя хлапчукі, якім так і карціць рабіць шкоду, каб сцвердзіць сябе. Толькі ці шкодай гэтага трэба дабівацца?.. Звяркі даюць ім урок дабрыні… На жыццёвым шляху казачных персанажаў трапляюцца розныя людзі — ад іхніх былых гаспадароў-крыўдзіцеляў да выратавальніка ўсіх лясных жыхароў дзядулі Цімафея Іванавіча.

У наш разбэрсаны час, калі вера ў дабро і справядлівасць для многіх людзей (на жаль, гэта часта бачаць дзеці ў паўсядзённым жыцці і пачынаюць успрымаць, як нормы: а як жа, так робяць бацькі, цёці і дзядзі...) становіцца нечым неабавязковым, маўляў, усё можна купіць за грошы. У гэты час Вольга Нікольская падняла ў сваім творы вельмі і вельмі важную тэму: захаваць лепшыя чалавечыя якасці, якімі людзі жылі спрадвеку: дабрыню і чалавечнасць.

Гаротныя каты-выгнаннікі якраз і аб’ядноўваюцца, каб не толькі выжыць самім, але і, што самае цікавае — дапамагаць іншым, гэткім жа няшчасным і гаротным.

Цяплом спачування і дабрыні да ўсяго жывога пранізана кожная старонка кнігі. І ў гэтым таксама бачыцца творчая адоранасць аўтара — нідзе няма маралізатарства, занудства, якіх так не любяць дзеці. Ды і дарослыя — гэтаксама.

Але жыццё ёсць жыццё. Многія з нас, становячыся дарослымі людзьмі, заклапочаны найперш, як нам здаецца, надзвычай важнымі, надзённымі справамі, за якімі часта не хапае часу засяродзіцца на прыгажосці і цэласнасці свету. У паўсядзённых клопатах мы нярэдка забываем, што з’яўляемся яго часцінкамі. Не заўсёды ўсведамляем, што сёння губляецца гарманічнасць адносін чалавека і прыроды, не звяртаем увагу на папярэджанні даследчыкаў і аналітыкаў, што ў рэшце рэшт гэтая згуба перарастае ў непаважлівасць у адносінах паміж людзьмі, у нездаровую зайздрасць, а то і непрыкрытую варожасць, увогуле ва ўсё тое сучаснае ўрбанізаванае, што, як кажуць, ірве чалавечую душу на шматкі…

Вольга Нікольская ў адкрытую нідзе ў кнізе не ўпамінае гэта, але нібыта за наіўнай прастатой аповесці-казкі, уласна сюжэта яе кнігі хаваецца глыбокі філасофскі сэнс, у прыватнасці, і гэтая састаўная ягоная частка: дабрыня і чалавечнасць кожнага з нас — жыццядайная аснова існавання ўсяго жывога на зямлі ўвогуле… Дарэчы, калі ўжо так, хочацца сказаць некалькі слоў пра «канструкцыю» твора.

«Серыйнасць» як прынцып структуры аповесці існуе, мабыць, столькі, колькі існуе сама літаратура. Ёю з розннай ступенню поспеху карысталіся і карыстаюцца многія пісьменнікі, як класікі, так і звычайныя шчырыя працаўнікі на ніве літаратуры, ды і пачынаючыя аўтары. Добра распрацавана яна і ў дзіцячым кінематографе, у прыватнасці, у мультыплікацыйным. І, канечне ж, у сучасных коміксах. Зварот В. Нікольскай да «серыйнасці» ў аповесці-казцы ўспрымаецца як натуральны, чаго патрабуе матэрыял твора, манера апавядальнасці, выбраная аўтаркай. Тут важна, што малады літаратар ведае законы літаратурных жанраў і строга прытрымліваецца іх. Не парушае пісьменніца і законы мовы, а ўспрыняцце яе ў В. Нікольскай натуральнае, а не слоўнікавае. Пры ўсім гэтым яна вядзе

свой аповед свабодна, раскавана, як сапраўдная казачніца і апавядальніца. Чытаючы твор, пачынаеш адчуваць прысутнасць аўтара, маляваць яе вобраз, рысы характару, зрэшты, уключаешся ў сам працэс усяго таго, што адбываецца на старонках кнігі, суперажываеш персанажам, што, як мне думаецца, вельмі важна.

У пасляслоўі да кнігі пісьменнік Алесь Карлюкевіч адзначыў, што аповесць-казка В. Нікольскай напісана жывой, сакавітай мовай, а персанажы не маюць аналагаў у вядомых літаратурных творах.

Калі далей абазначыць сюжэт, то ён такі (бяру з анатацыі да кнігі): два каты, выкінутыя гаспадарамі на вуліцу, стаўшы бяздомнікамі, сутыкнуўшыся са складаным і жорсткім жыццём, несправядлівасцю, якія акружаюць іх і ўсіх бяздомных жывёл гарадка Н., пачынаюць барацьбу з гэтымі праявамі рэчаіснасці…

Чытаючы гэтую аповесць-казку, я задавалася адным і тым жа пытаннем: няўжо нашы кінематаграфісты не звернуць увагу на захапляльны матэрыял, які можа стаць асновай цікавага прыгодніцкага, павучальнага мультфільма?.. Колькі нам яшчэ цярпець іншых, чужынскіх мультфільмаў, якія запаланяюць усё і ўся, дзе гвалт, насілле, стральба з дня на дзень?..

Кніга таленавіта афармлена знакамітым мастаком Сяргеем Волкавым. Але вельмі і вельмі крыўдна, што малюнкі ў ёй, акрамя вокладкі, чорна-белыя. Можна толькі ўявіць сабе, якой бы атрымалася кніга, калі б там меліся каляровыя малюнкі. Для дзяцей гэта вельмі важна. Толькі, не будзем кідаць папрок у адрас выдавецтва: яно ў не вельмі спрыяльны ў фінансавых адносінах час зрабіла ўсё, што змагло, каб кніга маладой пісьменніцы В. Нікольскай пабачыла свет.

**Генадзь АЎДЗЕЕНКА**

# АПАНТАНЫМ РЫФЫ НЕ СТРАШНЫЯ

Нарэшце, тое, чым жыў апошнія дзевяць гадоў Пётра Сергіевіч, здзейснілася: у кішэні чаканы дыплом аб атрыманні вышэйшай мастацкай адукацыі. Аднак і падумаць не мог, што гэтая падзея, якая прынесла столькі радасці, нечакана азмрочыцца. Хоць, калі быць шчырым да канца, мусіў здагадвацца, чым усё гэта калі-небудзь скончыцца. Аднак калі ў 1919 годзе пасля двухгадовага жыцця ў Петраградзе перабраўся да брата ў Вільню, не да таго было, каб своечасова стаць на ўлік як ваеннаабавязаны. Тым больш надта разважаць, якія вынікі пасля могуць быць. Асабліва, калі даведаўся, што адкрыўся ўніверсітэт, а ў ім мастацкі факультэт. Галоўнае было — своечасова паступіць. А пасля жыццё закруціла-завярцела. Дый лёгка сказаць — прапісацца, не маючы неабходных дакументаў. Каб жа атрымаць іх, значыць, найперш трэба вырашыць пытанне з ваенным улікам. А пойдзеш уладжваць гэтую справу, калі пра ўсё даведаюцца, па галоўцы не пагладзяць.

Як і трэба было чакаць, з радасцю прыйшло засмучэнне: у Вільні нікому непатрэбен, а з ёю якраз і не хацелася развітвацца. Дапамаглі мастакі, на якіх выйшаў выпадкова, калі неяк у пошуках жытла завітаў на вуліцу Ясінскага, дзе і ўбачыў вялікую будыніну, якая была не цалкам заселена. Раней у ёй размяшчалася крама, але пакупнікоў было няшмат, таму гаспадар зачыніў яе. Павёў роспыты далей, выйшаў на двух мастакоў, якія ў гэтым жа будынку мелі свае, няхай і не такія прасторныя, майстэрні. Яны і параілі яму асталявацца ў пустым пакоі, запэўніўшы, што наўрад ці хто здагадаецца аб з'яўленні новага жыхара. Іншага выйсця не заставалася. Праўда, селячыся, і падумаць не мог, што могуць узнікнуць непрадбачаныя акалічнасці.

Як высветлілася, памяшканне вартаваў нейкі стары гадоў пад 90, які пры знаёмстве назваўся Аляксандрам. Ён не пярэчыў, каб Пётра Аляксандравіч працаваў тут, але рэгулярна правяраў, ці не застаецца начаваць. Каб увайсці да старога ў давер, давялося маляваць яго партрэты. Аднак каб жа толькі адны прэтэнзіі вартаўніка: памяшканне аказалася зусім не прыстасаваным для жытла. Калі ўлетку, а таксама ў цёплыя дні ў іншыя поры года, у ім яшчэ можна было знаходзіцца, дык з надыходам зімы пачыналіся сапраўдныя выпрабаванні. Даводзілася нават вешаць на сцены свае старыя работы, каб пазакрываць вокны-вітрыны, што займалі ледзь не ўсю сцяну, праз якія пастаянна дзьмуў вецер. Але гэта мала дапамагала, бо печ амаль не грэла. Пастаянна існавалі і праблемы з палівам, не хапала грошай, каб яго купіць.

У такім жытле, зразумела, камфорт невялікі, але хоць крыху цяплей, чым на вуліцы, дзе скуголіў, завываў вецер, выклікаючы далёка не лепшыя думкі. Але яны паступова станавіліся больш радаснымі і не такімі трывожнымі, калі Пётра Аляксандравіч спакваля ў думках вяртаўся ў родныя мясціны. Перад вачыма, быццам наяву паўставалі знаёмыя краявіды. Дымчатая сцяна лесу падступала да самай вёскі. Асобныя дрэвы, быццам жадалі выбегчы на адзіную вуліцу вёскі, але ў апошні момант апамяталіся і цяпер здзіўлена пазіралі на пахілыя сялянскія хаты, якія неяк спалохана, нібыта тыя авечкі, збіліся ў гурт. Дый было ад чаго: лес акружаў вёску з трох бакоў, а з чацвёртага бачылася люстраная роўнядзь Багінаўскага возера.

З расказаў маці ведаў, што некалі сюды з-пад возера Дрысвяты ўцёк ад лютага пана яго прадзед, прыжыўся ў Стаўрове, пусціў у ім свае карані. З таго часу і з'явіліся ў гэтай вёсцы на Дзісеншчыне (сёння Браслаўскі раён) Сергіевічы. 10 ліпеня 1900 года нарадзіўся і ён, Пётра, стаўшы другім сынам дачкі мясцовага селяніна Янкі Сергіевіча Аляксандры. Пасля ў Пётры з'явілася яшчэ сястра, і маці трэба было выхоўваць траіх дзяцей. Цяжка даводзілася. Білася як тая рыба аб лёд, каб хоць неяк пракарміць іх. Дарэчы, рыба была добрай падмогай сям'і Сергіевічаў, як і для іншых жыхароў Стаўрова.

Пятро мала чым розніўся ад іншых вясковых хлапчукоў. Хіба толькі тым, што з маленства праявіў цікавасць да малявання, чым вельмі ўзрадаваў маці. Нягледзячы на тое, што жылі вельмі бедна і ашчаджалі кожную капейку, яна купіла сыну каляровыя алоўкі, сшыткі, а ў 1907 годзе аддала ў пачатковую школу ў Вільні. Праўда, правучыўся ўсяго год. Заняткі працягваў у царкоўнапрыходскай і фабрычнай школе. На гэты момант жаданне маляваць яшчэ больш узмацнілася. Падтрымаў яго і старэйшы брат, які ўжо працаваў. Ён прыслаў яму не толькі каляровыя алоўкі, але і акварэльныя фарбы. Пасля такога падарунка Пётра пачаў адчуваць сябе ледзь не сапраўдным мастаком. Маляваў, дзе толькі мог, і занатоўваў усё, што трапляла на вочы. Але рэчаіснасць была такой, што неўзабаве давялося выконваць куды больш празаічную працу. Два гады хадзіў з пугай за каровамі ў аднаго багатага гаспадара.

У вёсцы перажыў пачатак імперыялістычнай вайны. У Стаўрове сустрэў і Лютаўскую рэвалюцыю 1917 года. Начуўшыся аб зменах у жыцці, многія стаўроўцы вырашылі ў пошуках лепшай долі падацца ў сталіцу. Балазе некаторыя землякі паспелі асталявацца там яшчэ раней. Да жадаючых паспытаць шчасця далучыўся і сямнаццаццігадовы Пётра Сергіевіч. Пасяліўся на кватэры ў суседзяў са Стаўрова, якія ў сталіцы адчувалі сябе сталымі жыхарамі. Але на той няхітры заробак, які атрымліваў у майстэрні па вырабе вогнетушыцеляў, дзе ўладкаваўся на працу, пражыць амаль немагчыма.

Гаспадыня кватэры параіла паступіць на фабрыку Дзяржзнака, але там, прачытаўшы яго заяву, сказалі, што трэба пачакаць. Аднак больш чакаць Пётра не мог дый не хацеў. Вырашыў цвёрда: што будзе, тое будзе. Няхай пасмяюцца землякі, толькі ўсё адно ў Петраградзе не застанецца. Заяву, праўда, пакінуў, а сам, вярнуўшыся на кватэру, патлумачыў сваё рашэнне гаспадыні і паспяшаўся на чыгуначны вакзал.

У родных мясцінах ад пабачанага сэрца пачало трапятліва біцца. Так хораша было сузіраць вечную прыгажосць роднай зямлі. Лета ўступіла ў тую сваю часіну, калі тугое калоссе збажыны ўжо чакала руплівых хлебаробскіх рук. Пад лёгкім павевам ветру яна прабягала хвалямі, быццам запрашаючы да сябе, а з межаў даходзіў прыемны пах зёлак і кветак.

Чакаў да позняга вечара, пакуль сонца не пачало садзіцца за гарызонт. Толькі пасля гэтага пакінуў узлесак, на якім правёў не адну гадзіну. Калі ж наблізіўся да роднай хаты, у паўзмроку, які паспеў ахінуць зямлю, неяк зусім па-новаму і асабліва шчымліва адчуў вабнасць бульбоўніка, пакрытага кветкамі. На іх сціплую прыгажосць раней ніколі не звяртаў увагі, будучы ўпэўненым , як і ўсе ў вёсцы, што ў гэтым нічога асаблівага няма, а цяпер хацелася падысці, сарваць іх некалькі, каб удыхнуць водар, знаёмы і блізкі з маленства.

Магчыма, так і зрабіў бы, калі б на падворку не пачуліся крокі маці. Кінуўся насустрач ёй. Яна ад знячэўку нават спалохалася, але не даў магчымасці і слова прамовіць. Не саромеючыся, абняў, прытуліў на сябе.

Маці , плачучы ад радасці, запыталася:

— Як ты там, сыночак?

А Пётра і сам з цяжкасцю стрымліваў слёзы, але здолеў яшчэ пажартаваць:

— Не там я, мама, а тут...

Толькі пазней, калі на стол быў пастаўлены няхітры сялянскі пачастунак — адкуль яму ў гэтую пару шчодраму ўзяцца, калі ў агародзе яшчэ мала што паспела вырасці, — расказаў усё, як на споведзі.

— Ты сам сабе гаспадар, — супакоіла маці, паставіўшыся да пачутага з разуменнем. — І дома работу знойдзеш. Але па тым, як прамаўляла самотліва, нават апусціла вочы, здагадваўся, што ёй усё ж хацелася, каб жыў і працаваў у горадзе.

Але ні сам Пётра, ні тым больш яго маці і не здагадваліся, што пытанне наконт яго чарговага ад'езду ў сталіцу вырашыцца так хутка. А паскорыў усё ліст ад колішняй суседкі, які прыйшоў праз нейкія два месяцы. Яна паведамляла, што пытанне з уладкаваннем Пётры на фабрыку Дзяржзнака вырашана станоўча і што гэта адбылося не без яе дапамогі.

Працуючы ў Петраградзе, пайшоў на фабрычныя курсы, якія давалі сярэднюю адукацыю. Але не столькі агульнымі прадметамі цікавіўся. Як сведчыць у аўтабіяграфіі, напісанай у маі 1962 года, «самай мілай лекцыяй было для мяне маляванне». Курсы, аднак, так і не скончыў. У 1919 годзе вырашыў развітацца з Петраградам. Была вызвалена Чырвонай Арміяй Вільня, і ён паспяшаўся да брата, палічыўшы, што ўдвух лягчэй пражыць. Але калі дабраўся туды, горад ужо акупіравалі белапалякі. Ды не паварочваць жа назад: «Паступіў рабочым на вакзал у дарожны аддзел, у канторы якога працаваў ... брат. Першыя месяцы правёў на лініі: мяняў рэйкі, шпалы. Тады мяне назначылі табельшчыкам, насіў у кантору табель і рэшту дня праводзіў у канторы». Аднак па-ранейшаму не пакідала жаданне вучыцца, таму неўзабаве запісаўся на вячэрнія курсы ў Доме рабочага. Адначасова наведваў заняткі і ў «вольнай школе малюнка і жывапісу, якой кіраваў літоўскі мастак А. Варнас». Праўда, заняткі ў ёй хутка спыніліся, бо Варнас пакінуў Вільню. Вучобу ж на вячэрніх курсах працягваў, пакуль у тым жа 1919 годзе ў Вільні не адкрыўся ўніверсітэт.

Узрадавала нават не столькі сама па сабе гэтая вестка, колькі тое, што ў згаданай вышэйшай навучальнай установе адкрылі мастацкі факультэт. Хоць сярэдняй адукацыі па-ранейшаму не меў, тым не менш ён усё ж адважыўся пайсці да дэкана факультэта, а ўзначальваў яго прафесар, вядомы мастак Фердынанд Рушчыц: «Прыняў ён мяне ветліва, паглядзеў добрымі вачыма, сказаў: «Малюйце далей і паказвайце мне». Узрадавала, абнадзеіла Сергіевіча яшчэ і тое, што Рушчыцу спадабаўся адзін з яго малюнкаў — «Выява ўніверсітэцкага будынка» — і ён ахвотна купіў яе.

Рушчыц, відаць, запрасіў зайсці яшчэ раз, каб лепей пазнаёміцца з яго творчасцю. Праўда, пра запрашэнне ў аўтабіяграфіі нічога не гаворыцца, але яно было, інакш бы не напісаў Пётра Аляксандравіч: «Другі раз прыйшоў да прафесара Рушчыца ўжо з большым багажом», які дэкану спадабаўся. Таму той і зрабіў выснову, што гэты юнак, які мае несумненныя задаткі, абавязкова павінен вучыцца: «Колькі было радасці, калі сказаў мне прафесар сабраць дакументы на прыняцце мяне вольным слухачом на мастацкі факультэт! Падумаць толькі! Мара маіх маладых парыванняў здзейснілася, мне дадзена магчымасць вучыцца любімай справе».

Удзячнасць Рушчыцу за своечасовую падтрымку Пётра Аляксандравіч пранёс праз усё сваё жыццё: «...мне здаецца, што, каб не Рушчыц, не атрымаў бы я мастацкай адукацыі, не перамог бы тых перашкод, якія тады існавалі». Аднак была яшчэ ўдзячнасць і за тое, што менавіта Рушчыц стаў і першым яго сапраўдным настаўнікам у галіне жывапісу, а калі канкрэтней — пейзажу, курс якога і вёў на факультэце. Нямала дала і вучоба ў віленскага мастака Станіслава Богуша-Сестранцэвіча, які набыў вядомасць сваімі жанравымі, батальнымі палотнамі. А яшчэ былі ў Пётры Аляксандравіча ўрокі ў вучня Ільі Рэпіна, прадстаўніка рускай партрэтнай школы Бенядзікта Кубіцкага. Ён выкладаў не толькі партрэт, а і малюнак. Тры гады правёў Сергіевіч у яго майстэрні. Гэта былі і практычныя заняткі, і тэарэтычная падрыхтоўка.

Захапіўся Пётра Аляксандравіч і разьбярствам. Ахвотна наведваў лекцыі па прыкладным мастацтве, архітэктуры. Знаёміўся і з выдавецкай справай. Выкладалі на факультэце і фатаграфію, і гісторыю. Лекцыі па апошнім прадмеце вабілі не толькі таму, што чыталіся цікава, а з прыцягненнем разнастайнага фактычнага

матэрыялу, у тым ліку мясцовага. Дыханне мінуўшчыны ў Вільні адчувалася па сутнасці на кожным кроку. Аб днях былых, аб слаўных людзях, якія жылі ў гэтым горадзе ў розныя часы, шмат маглі б расказаць многія вуліцы, старыя муры.

Аднак, як бы ні любілі яны Вільню, у студэнцкім асяродку мастацкага факультэта знаходзіліся і тыя, хто часам наракаў, што мясцовыя ўмовы не спрыяюць шырокай, усебаковай падрыхтоўцы. Іншая рэч — вышэйшыя навучальныя ўстановы Варшавы ці Кракава. Там і выкладчыкі куды больш прафесіянальныя, і значна багацейшыя традыцыі падрыхтоўкі спецыялістаў. Восенню 1924 года ў Кракаў падаўся і Сергіевіч. Апынуўся ў групе студэнтаў-украінцаў, якія наведвалі заняткі ў майстэрні прафесара Панкевіча.

Прыемна ўразіла, што ў акадэміі як бы прысутнічаў дух самога Яна Матэйкі. А менавіта ён так шмат зрабіў, каб праўдзіва адлюстраваць мінулае свайго народа, па сутнасці вярнуўшы палякам праз мастацтва іх гісторыю. Неаднойчы думалася, як нестае падобнага стаўлення да сваёй даўніны на Беларусі. І неаднойчы даваў сабе зарок, што абавязкова пастараецца ў далейшым хоць у нечым выправіць падобную несправядлівасць.

Канікулы, як звычайна, правёў у роднай вёсцы, а пад канец іх цалкам вызначыўся. У аўтабіяграфіі чытаем: «Не маючы матэрыяльных магчымасцей, на другі год у Кракаў не паехаў, застаўся ў Вільні. Вярнуўся на мастацкі факультэт, дзе за год адбыліся некаторыя змены. Прыбылі прафесар Сляндзінскі на малярства, інжынер Нарэмбскі на архітэктуру, прафесар Марэлеўскі на гісторыю мастацтва». З іх яму асабліва імпанаваў Сляндзінскі, які ў свой час скончыў Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў, у сваёй творчасці прытрымліваўся традыцый класіцызму, з'яўляўся прыхільнікам эпохі італьянскага Адраджэння. Па словах Пётры Аляксандравіча, новы выкладчык жывапісу «стаяў на варце добрага малюнка і формы». Апошняе імпанавала Сергіевічу: «З натуры, будучы энтузіястам, я горача хапаў акружаючае мяне з'явішча, з экспрэсіяй маляваў партрэт або пейзаж».

Пачынаючы з 20-х гадоў мінулага стагоддзя, ён стварыў шэраг паліхромных (паліхрамізмамі называў роспісы) размалёвак касцёлаў. Гэтай працай (пры тым шмат) займаўся і ў 30-я гады. Відаць, рабіў роспісы не толькі з-за таго, што хацеў зарабіць грошай, а і па духоўнай патрэбе, бо працаваў натхнёна, з задавальненнем. У Заходняй Беларусі распісаў храмы ў Гародні (Бернардынскі), Смаргоні, Солах, Поразаве, Шарашове і іншых населеных пунктах. Працаваў таксама і на тэрыторыі Заходняй Украіны. Займаўся роспісам касцёлаў і ў самой Вільні, у Павільнісе...

Так працягвалася, пакуль, кажучы яго словамі, не сеў «на свайго каня» — скончыў універсітэт. Не мог падумаць, што «конь» гэты будзе такім наравістым. Праходзілі год за годам, а перспектыва па-ранейшаму заставалася бязрадаснай. Ніяк не мог прапісацца ў Вільні, а без гэтага, вядома, ніякай гаворкі не магло ісці аб атрыманні жылой плошчы. А каб прапісацца, трэба было ўладзіць справы з ваенным улікам. Да ваенных жа ўладаў ісці баяўся.

Ды тут надарылася, як ён казаў, «адно шчаслівае для мяне здарэнне». Хтосьці параіў яму намаляваць партрэт аднаго камандзіра палка. Ён «меў усе ордэны, якія толькі мог мець польскі афіцэр». Узяўся Сергіевіч за працу з вялікім натхненнем: «Бачу: палкоўнік да мяне цярплівы і ветлівы. Думаю, скажу яму ўсё. Прызнаюся, што занядбаў войска, не з'явіўся на рэгістрацыю, хаваўся. Палкоўнік уважліва выслухаў і сказаў: «Будзеш служыць у мяне ў палку».

Але служыць так і не давялося. Пасля праходжання ваеннай камісіі яго перавялі «ў запас без адбыцця ваеннай службы». А ў 1932 годзе, калі гэтыя непаразуменні зніклі і былі атрыманы неабходныя дакументы, змог і прапісацца. Адразу ж уступіў у «Віленскае таварыства незалежных мастакоў». Дый, маючы пастаяннае прыстанішча, лягчэй было адлучацца з горада. Выязджаў жа Сергіевіч у сваю родную вёску, дзе, як і ў гады студэнцтва, заўсёды знаходзіў тэмы для сваіх твораў. І ў такой магчымасці адуваў нязменнае задавальненне: «Добра сталася, што не парвалася мая сувязь з родным кутком. Родныя краявіды і людзі асабліва мне блізкія. Вёска наша, размешчаная на беразе Богінскага возера, так накарміла мае

дзіцячыя вочы, што і цяпер да возера маю вялікую ўвагу... Вельмі любіў рысаваць нашых суседзяў, мужчын і дзяўчат».

Настрой не магло азмрочыць нават тое, што ў вачах землякоў часцей выглядаў дзіваком, які не можа знайсці сабе больш сур’ёзнага занятку: «Суседзі глядзелі на мяне са шкадаваннем, кажучы: от, не маючы сваёй зямлі, забаўляецца рысаваннем. Не верылі, што малюючы, можна зарабіць кавалак хлеба». Ды каб жа толькі землякі! — «Сваякі не раілі маляваць. Цётка ўсё казала: «Каб ты навучыўся якому рамяству, то і мне нешта зрабіў бы патрэбнае». Ды быў адзін чалавек, які разумеў яго, як ніхто іншы, і ад гэтага разумення яшчэ святлей станавілася на душы: «Толькі маці казала: «Трымайся, сын, ужо аднаго».

«Партрэт маці» ён намаляваў яшчэ тады, калі ў Вільні знаходзіўся на ростанях, не ведаючы, як быць з прапіскай. Адлучыўся ў Стаўрова ненадоўга, але гэтага хапіла, каб адчуць сябе ўпэўнена, а там, дзе ўпэўненасць, і жаданне як мага больш пісаць. Спачатку выканаў некалькі малюнкаў алоўкам на розныя тэмы. А партрэт маці вырашыў маляваць алейнымі фарбамі. Немаладая ўжо сялянка была адлюстравана так, што быццам узіралася ў кожнага, хто глядзеў на яе. Позірк атрымаўся вельмі праніклівым і ад гэтага нейкім як бы ацэньваючым. Жанчына, шмат перажыўшы, пачынала выступаць свайго роду маральным суддзёй.

«Партрэт маці», хоць ён і быў яму вельмі дарагім, выставіў з іншымі сваімі раннімі работамі на выстаўку, дзе ён адразу ж быў куплены. Гэткі лёс напаткаў і шмат якія іншыя яго творы пачатковага перыяду. У шэрагу іх і «Вясковае вяселле» — урачыстая сцэна з вясковага жыцця, у якім бывалі моманты, калі збіраліся людзі, каб парадавацца з тымі, для каго наступіў жаданы момант. Яшчэ адна работа са шматзначнай назвай — «Жыццё» прымыкае да папярэдняга твора.

З перыядычным друкам ён супрацоўнічаў не толькі як мастак. У 1932 годзе выдаваў у Вільні часопіс «Нёман», з’яўляючыся рэдактарам яго. Выйшла ўсяго пяць нумароў, бо выпуск давялося спыніць з-за фінансавых цяжкасцей. Але і іх дастаткова, каб упэўніцца, што Сергіевічу ўдалося зрабіць цікавае літаратурна-мастацкае і навуковае выданне. Чытачы пазнаёміліся з запісамі народных песень, сабраных Рыгорам Шырмам і іншымі фальклярыстамі. Змяшчаліся рэпрадукцыі твораў як самога Сергіевіча, так і Язэпа Драздовіча. Пастаянна вялася рубрыка «Культурная хроніка».

Як мастака, яго ўсё больш вабіла гістарычная праблематыка. Прынамсі, задумаў напісаць карціну «Каліноўскі сярод паўстанцаў». Калі ў канцы 1935 года ладзіў сваю першую персанальную выстаўку, знайшлося месца ў прадстаўнічай экспазіцыі (усяго наведвальнікі змаглі пабачыць 20 партрэтаў і 40 малюнкаў) і невялікай карціне «Усяслаў Полацкі з воямі адпраўляецца на вайну», напісанай у 1932 годзе . Гэтыя два на дзіва значныя гістарычныя вобразы — Усяслаў Чарадзей і Кастусь Каліноўскі — як бы абрамілі сабой тую прастору асэнсавання Сергіевічам беларускай мінуўшчыны, у якой у пасляваенны час знойдзецца месца і іншым персанажам, якімі па праве ганарыцца цяпер нацыя.

Пакуль жа ён мусіў адысці ад гэтай тэматыкі. Відаць, хоць ніколі не прызнаваўся (ва ўсякім разе дакументальна гэта не засведчана) і па прычыне таго, што яна не была ў вялікай пашане. Дый з-за таго, што пастаянна знаходзіў тэмы ў сучаснасці. Працягваў пісаць партрэты землякоў. Многія па звычцы выконваў алоўкам, але карыстаўся і сангінай: «Цясляр», «Карчакоп», «Весяльчак», «Маладзіца», «Сялянскі актывіст з Жойдзішак» і ншыя. Як відаць з назваў, хоць і ствараліся гэтыя партрэты з натуры, яны не канкрэтызаваны. Пададзены як бы абагульнены вобраз людзей пэўнай прафесіі ці занятку. Калі што і звязвае адлюстраваныя воблікі з «арыгіналам», дык тое, што відавочны глыбокі псіхалагізм, а гэта сведчыць на карысць прафесіяналізму Сергіевіча. Куды больш уражваюць жывапісныя партрэты. Ёсць і работы, дзе мастак назваў тых, хто яму пазіраваў. Гэта студэнтка Валя Чэрнік, пазнаюцца Рыгор Шырма, Міхась Машара. А ўвогуле ў даваенныя гады Сергіевічам напісаны не адзін дзясятак жывапісных партрэтаў. Яшчэ больш алоўкам і сангінай.

Характэрна, што Пётра Аляксандравіч здатны быў не проста паказаць таго ці іншага чалавека, а, спасцігаючы ягоную душу, стараўся адчуць і перадаць тое,

што вылучае кожнага з шэрагу іншых людзей. Гэта, дарэчы, заўважыў, наведаўшы майстэрню Сергіевіча, Максім Танк, занатаваўшы ў сваіх «Лістках календара»: «Пётра Сергіевіч — своеасаблівы, з ярка выражаным нацыянальным характарам, мастак... Бачыў на сцяне некалькі новых партрэтаў яго браслаўскіх землякоў, на тварах якіх выразна выпісана іх класавая прыналежнасць, а ў вачах мужыцкая ўпартасць, упэўненасць у сваіх сілах і вера ў лепшую будучыню».

Душа ж самога Сергіевіча адпачывала, калі маляваў непаўторныя пейзажы Дзісеншчыны, на якой не было такога кутка, дзе б ні ступала яго нага. Любіў блукаць па наваколлі і ў пасляваенны час, калі звычайна лета праводзіў там, але найбольш свежыя ўражанні, бадай, меў тады, калі яшчэ не згасла дзіцячая і юнацкая памяць і сустракаліся людзі, знаёмыя з ранніх гадоў. Хацелася не толькі перадаць іх воблікі, а і краявіды, дзе жылі яны і дзе пашчасціла нарадзіцца яму самому. Але не абмяжоўваўся толькі фіксацыяй пабачанага. Пішучы той ці іншы пейзаж, абавязкова стараўся знайсці нейкі абагульняючы элемент, які надаў бы ўсяму завершанасць, цэласнасць. Гэта найбольш удалося ў «Забытай званіцы». Калі ўзіраешся ў пейзаж, занатаваны Сергіевічам непадалёку ад Богінскага возера, цябе ахоплівае элегічны настрой. Яго выклікае драўляная каплічка, што гатова паваліцца. Даўно не прыходзяць сюды людзі, і яна — свайго роду маўклівы сведка колішніх падзей. Ад пабачанага неяк самотліва, журботна. Але гэта таксама само жыццё, якое ніколі не бывае адной акрасы.

Не было яно аднолькавым і ў Сергіевіча. Вядома, у параўнанні з тымі, хто пакінуў вучобу на мастацкім факультэце, яму пашанцавала: «Мае таварышы з універсітэта, якія выйшлі з другога ці трэцяга курса, шукалі хоць якой працы — адзін стаў фатографам, другі — шафёрам, трэці — пісарам у канторы. Усе шкадавалі, што пакінулі мастацтва. І я мог бы працаваць пісарам, як мой брат, але тады мусіў бы развітацца з думкай стаць мастаком». Аднак, жывучы ў Вільні, далёка не заўсёды знаходзіў аднадумцаў.

Прытулкам у гады Вялікай Айчыннай вайны яму стала Стаўрова. Але знаходжанне ў роднай вёсцы прыносіла не толькі маральнае задавальненне. Не паехаць туды проста не мог: «Другая сусветная вайна зрабіла вялікі пералом у віленскім грамадстве. Першае — нястача прадуктаў з прыходам нямецкіх фашыстаў... Другое — замерла культурнае жыццё горада. Не маючы чаго есці, я выехаў у родную вёску Стаўрова і там маляваў сялян…» Творчыя набыткі ваеннага часу ў яго не такія і вялікія, а зберагloся і таго менш. Сярод твораў, што захаваліся, тэматычныя карціны «Над калыскай» і «У партызанскай кузні», некалькі пейзажаў, а таксама партрэты Міхася Забэйды-Суміцкага і мастачкі Фёдаравай, але апошнія былі напісаны ужо ў канцы вайны.

Калі Вільню вызвалілі, пайшоў працаваць у Беларускі музей — гэты, як казаў «бясконцы ... народны санктуарыум нашай старасветчыны і гісторыі». Работа ва ўплывовым асяродку нацыянальнай культуры, вядома, давала магчымасць пратрымацца, не памерці з голаду. А яшчэ шмат спрыяла пашырэнню кругагляду і лепшаму знаёмству з беларускай гісторыяй. На жаль, у музеі працаваў нядоўга, бо ў 1946 годзе яго расфарміравалі. Бібліятэка і асноўныя фонды, праўда, засталіся ў Вільні, былі перададзены ў Фундаментальную бібліятэку Літоўскай ССР і Літоўскі гісторыка-этнаграфічны музей, але частку вывезлі ў Мінск. Пры жаданні мог пераехаць у сталіцу Беларусі і сам — такое запрашэнне ён атрымаў ад сакратара ЦК КПБ Панцеляймона Панамарэнкі. Але вырашыў застацца ў Вільні, бо не проста паспеў палюбіць гэты горад, а як бы зросся з ім, стаў часткай віленскага культурнага асяродку.

Працаваць жа пайшоў у Дзяржаўны літоўскі мастацкі музей, з якім звязаў свой лёс па 1951 год. Сціпла прызнаваўся наконт гэтага: «Не меў я ад прыроды таленту, але стараўся добра вучыць студэнтаў». І дадаваў: «Засталіся і цяпер сяброўскія адносіны з некаторымі былымі маімі вучнямі, цяпер таленавітымі маладымі мастакамі. Прыемна мне было працаваць ужо настаўнікам у тых памятных мурах, дзе я зрабіў свае першыя крокі». Шмат далі гады працы і ў інстытуце. На гэты час прыпадаюць яго шматлікія паездкі па Савецкім Саюзе. Выбіраўся ў

дарогу і адзін, і са студэнтамі. Пабываў у знакамітых музеях Масквы, Ленінграда, наведваўся ў Рыгу, Талін. Прыязджаў і ў Мінск.

Пасляваенныя гады сталі вельмі плённымі ў яго творчасці і ў асноўным пазначаны далейшым асэнсаваннем беларускай гісторыі. Як праз вяртанне да знакамітых постацей, так і праз прачытанне вядомых твораў. Любімым жа пісьменнікам для яго нязменна заставаўся Купала, таму ўжо ў 1947 годзе Сергіевіч напісаў шэраг сваіх твораў, якія па сённяшні дзень з'яўляюцца аднымі з лепшых у нацыянальнай Купаліяне. Найперш гэта тэматычныя палотны «А хто там ідзе?» і «Званар». Да згаданых карцін добра стасуецца «А ты, сіраціна, жыві...», над якой Сергіевіч працаваў яшчэ ў гады вайны. Сюжэт падказаў аднайменны Купалаў верш. Адштурхоўваючыся ад канкрэтнага твора, мастак здолеў шырока ўвасобіць тэму. У вясковым хлопцу, які крочыць па пустыннай дарозе з торбай за плячыма, можна бачыць і саму Беларусь, да якой навакольны свет быў такім нявETлым. Глыбокі сэнс набывае і абламанае дрэўца на ўзбочыне. У 1959 годзе Сергіевіч зноў звярнуўся да творчасці свайго любімага паэта. Былі напісаны карціна «Гусляр» па аднайменнай паэме і два эцюды, у аснову якіх пакладзена паэма «Яна і я».

Пётра Сергіевіч — адзін з першых распрацоўшчыкаў у беларускім выяўленчым мастацтве і вобраза Францішка Скарыны. Карціны «Скарына ў рабочым кабінеце» і «Скарына ў друкарні» — удумлівае стаўленне да выдатнага першадрукара і асветніка, жаданне паказаць яго ў той момант, калі ён займаецца сваёй любімай справай.

Захацелася па-новаму асэнсаваць і падзеі 1863 года, таму: «У 1952 годзе вярнуўся да ўспомненай тэмы. Тры гады маляваў карціну «Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў у 1863 годзе». Мае таварышы-мастакі казалі: «Нічога не будзе, не намалюеш Каліноўскага». Але, калі скончыў і прынёс на выстаўку, віншавалі мяне з поспехам». Ды Каліноўскі па-ранейшаму не адпускаў яго ад сябе і ў 1959 годзе была завершана яшчэ адна карціна — «К. Каліноўскі і В. Урублеўскі робяць агляд паўстанцаў».

Да апошніх сваіх дзён (памёр 1 лістапада 1984 года) Сергіевіч жыў і працаваў у сваёй кватэры, дзе знаходзілася і яго майстэрня. Правільней — у Пётры Аляксандравіча была кватэра-майстэрня, а гэта ў прыгарадзе Вільні Антокалі. Ахвотна прымаў у сябе гасцей з Мінска — прынамсі, у яго неаднойчы бывалі Арсень Ліс, Генадзь Кісялёў, Віктар Шматаў і іншыя, хоць напачатку ставіўся і з некаторай насцярогай, а пасля яна знікала. Сергіевіч быў цікавым субяседнікам і чалавекам энцыклапедычных ведаў, калі гэта тычылася гісторыі Вільні і віленцаў.

Паступова, з гадамі і ён сам станавіўся свайго роду гісторыяй. Гісторыяй той часткі летапісу беларускага выяўленчага мастацтва, што звязана з заходнебеларускім перыядам. Канкрэтней жа — віленскім. Яму пашчасціла пражыць куды больш, чым тым, з кім пачынаў працаваць. Адпаведна і напісаў больш.

Што да прызнання, дык пры жыцці, на жаль, такога, якога заслугоўваў, не меў. Дый спачатку належным чынам заўважылі яго і адзначылі зусім не на Беларусі, а ў Літве, дзе ў сувязі з 60-годдзем з дня нараджэння ў 1960 годзе прысвоілі званне заслужанага дзеяча мастацтваў Літоўскай ССР. У Мінску ж знаходзіліся і такія, хто ўсур'ёз яго творчасці не ўспрымаў. Сведкам таму быў В. Шматаў: «Я бачыў, як незычлівыя, калючыя позіркі кідалі ў яго бок тагачасныя «народныя» і «заслужаныя мастакі БССР» на персанальнай выставе П. Сергіевіча ў Мінску, а ён схіляў перад імі белую галаву і з усмешкай гаварыў «дзякуй». І гэта не было бяспрынцыпнасцю — мастак добра ведаў, якія рыфы і валуны нагрувашчваюцца на яго творчым шляху, і, каб данесці сваю творчасць да народа, мякка і асцярожна іх абыходзіў». Праўда, у 1970 годзе ў выдавецтве «Беларусь» пабачыла свет невялікае даследаванне А. Ліса «Пётра Сергіевіч». Пазней былі апублікаваны асобныя артыкулы. Але толькі апошнім часам цікавасць да творчасці гэтага выдатнага мастака ўзрасла. І ён таго заслугоўвае.

**Васіль ТКАЧОЎ**

# ХАДЗІЦЬ ПА ІХ СЦЕЖКАХ

***Ніколі не ехаць***
***Хлапцу маладому***
***Да роднага гаю***
***Да блізкага дому.***
***...Ляжыць ён, як віцязь.***
***У стоптаным жыце,***
***Маці спаткаеце,***
***Ёй не кажыце.***
Мікола СУРНАЧОЎ

У кожнага чалавека ёсць месца на зямлі, якое яму асабліва дарага. У мяне гэта — вёска Гута, што на любай сэрцу Рагачоўшчыне. Там і сёння стаіць хата, у якой я нарадзіўся, а на мясцовых могілках спяць мае продкі. Сустрэча з землякамі, з роднымі мясцінамі — заўсёды свята. Свята душы. Калі я быў вучнем, то за свае невялікія ганарары, акрамя часопісаў «Бярозка» і «Вясёлка», выпісваў раённую газету «Камунар», з якой даведваўся шмат чаго карыснага для сябе. Тады я ўпершыню на яе старонках прачытаў, што ў вёсцы Старая Алешня нарадзіўся пісьменнік Мікола Гроднеў. Зямляк, значыць. Гэта ж зусім блізка! Пройдзе час, і мы не раз будзем сустракацца, я перачытаю амаль усе творы Мікалая Пятровіча, а калі пісьменніку споўніцца семдзесят год, то ў Гомельскай абласной цэнтралізаванай бібліятэцы імя Леніна адзначым яго юбілей. На той вечарыне, помніцца, мы разам прыгадалі, лёс якіх годных пісьменнікаў звязаны з нашай Рагачоўшчынай. Гэта, у першую чаргу, паэты Мікола Сурначоў і Алесь Жаўрук, якія не вярнуліся з вайны, народны пісьменнік Міхась Лынькоў і непараўнальны Уладзімір Караткевіч, літаратуразнаўцы і крытыкі Юльян Пшыркоў і Фёдар Куляшоў, літаратуразнавец і цікавы празаік Фёдар Янкоўскі, рускамоўны празаік і перакладчык масквіч Эдуард Карпачоў… І, вядома ж, народны пісьменнік Беларусі драматург Андрэй Макаёнак.

…Нялёгкі пасляваенны час. Толькі-толькі ўсталявалася ў Журавічах цішыня — дрогкая, недаверлівая, да яе не паспелі яшчэ прывыкнуць людзі. Неўзабаве пачалі вяртацца на роднае селішча вяскоўцы — тыя, хто ацалеў. Набірала разбег новае стваральнае жыццё. Адраджаўся калгас «12 год Кастрычніка», будавалі журавічане і жыллё: не ўсе хаты перажылі вайну. Як і людзі.

На ўскрайку вёскі рос-цягнуўся да сонца стромкі сасоннік. Дрэвы радавалі вока кожнага, хто праходзіў міма. Глянеш на вершаліны — шапка з галавы валіцца. А тут неяк азваліся ў прыгожым лясным закутку пілы і сякеры. Людзі разводзілі рукамі: «Навошта нішчыць лес? Вайна абмінула, а мы?» Іншыя маўчалі — не знаходзілі, мусіць, слоў. Але балела і ў іх сэрца. Няхай бы рос ён, сасоннік, каму замінае...

Якраз у самы разгар лесапавалу прыйшоў да соснаў Андрэй Макаёнак, сакратар Журавіцкага райкама камсамола, чалавек па складзе характару вясёлы, але ў той час, прыгадваюць людзі, яго твар быў як ніколі сур’ёзны, задумлівы.



*Стары і юны Рагачоў.*

Сакратара абступілі вяскоўцы, позіркаў не зводзяць: а як ты, Андрэй, думаеш — правільна робіцца? Не адразу адказаў Макаёнак. Правёў рукой па кары дрэва, паляпаў далонню па ствале, уздыхнуў, а потым толькі ўскінуў бровы:

— Іншага выйсця ў нас, землякі, няма, — прамовіў ціха, але цвёрда, пераканана, — будавацца ж трэба. А на чым у лес ехаць? Каб жа машыны меліся... Колькі тых у нас коней? Па пальцах пералічыш. І лесу не навозім, і іх замардуем. Так што неабходна пакуль браць той лес, які пад бокам. Ну, а замест гэтых соснаў-прыгажунь трэба маладыя пасадзіць дрэвы. Абавязкова. Гэта мы, моладзь, зробім.

З таго часу мінула шмат гадоў. Аднак у Журавічах помняць гісторыю з соснамі. Помняць і словы А. Макаёнка, якому было наканавана лёсам стаць славутым іх земляком.

А сосны растуць і сёння. Прыгожыя, стромкія.

Некалі мястэчка, а сёння проста вёска Старыя Журавічы. Маляўнічыя, прыгожыя тут мясціны. Выбіралі доўга, відаць, прашчуры, дзе быць іхняму паселішчу, не спяшаючыся, адумна, таму і стаіць вёска ў атачэнні лясоў, з возерам паблізу, ды і дарогі побач: старая Брэст—Масква паўз калгасны сад. Рукой падаць і да Доўска, а гэта, як вядома, — буйнейшы транспартны вузел. Заядлы ж рыбак можа скокнуць на Дняпро: там, як кажуць, не толькі клюе, але з’явіліся і ра́кі.

Журавічы пакінулі ў душы А. Макаёнка і светлы смутак, і радасць першых жыццёвых памкненняў. У яго было мала вольнага часу, але Андрэй Ягоравіч знаходзіў магчымасць, каб прыехаць да землякоў. Тут, у Журавічах, ён адчуваў сябе надзвычай шчаслівым чалавекам, бо яго адразу ж акружалі людзі, пра якіх пісаў. З многімі ў драматурга былі самыя цёплыя, таварыскія адносіны, пісьменнік шчыра дзяліўся з імі творчымі задумамі, не адмаўляўся пераступіць парог хаты, калі яго запрашалі ў госці. Для журавічан А. Макаёнак быў сваім чалавекам. Быў і застаўся назаўсёды.

Нарадзіўся будучы драматург 12 лістапада 1920 года непадалёку ад Журавіч — у вёсцы Борхаў, але неўзабаве бацькі пераехалі на пастаяннае месца жыхарства ў Журавічы, з якімі многае звязвала надалей Андрэя Ягоравіча. Пасля заканчэння ў 1938 годзе мясцовай дзесяцігодкі працаваў масавіком у раённым Доме культуры (на той час вёска Журавічы была раённым цэнтрам), сюды вярнуўся ён з фронту, дзе атрымаў цяжкае раненне. Працаваў сакратаром райкама камсамола,

памочнікам сакратара райкама партыі. Дзе б ні быў потым Андрэй Макаёнак — у Гродне, Магілёве ці Мінску — сэрцам ён знаходзіўся з землякамі. У Журавічах драматург чэрпаў матэрыял для новых п'ес, і амаль у кожнай з іх прататыпамі герояў станавіліся людзі, якіх ведаў — як з добрага боку, так і з адмоўнага, вядома ж. Калібераў Сцяпан Васільевіч, Антаніна Цімафееўна, Печкуроў Кузьма Прохаравіч («Выбачайце, калі ласка!)», Лушка, Лявон Чмых, Буйкевіч («Лявоніха на арбіце»), Цярэшка і Паліна («Трыбунал»), дзед Цыбулька і Васіль («Таблетку пад язык…»).

«…Любоў. Любоў з вялікай літары. Любоў да жыцця. Жыццё любяць усе, аднак любяць па-рознаму. Андрэй любіў яго, як змагар, даследчык, пераўтваральнік, нястомны барацьбіт за яго чысціню і прыгажосць»,— пісаў пра свайго лепшага сябра народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін.

У гэтым яшчэ раз пераконваешся, калі зноў звяртаешся да твораў Андрэя Макаёнка, калі знаёмішся з экспазіцыяй музея, дзе што ні экспанат — жывое сведчанне яго жыцця і творчасці. Перш, чым заглянуць у музей, які быў адкрыты ў мясцовай сярэдняй школе на пачатку 1986 года, варта адзначыць, што той дзень стаў значнай падзеяй не толькі ў жыцці журавічан, але і жыхароў навакольных вёсак. Задоўга сабраліся тады яны перад школай на вясковай плошчы, каб сустрэць дарагіх гасцей — у тым ліку і пісьменнікаў Івана Чыгрынава, Сцяпана Лаўшука, Пятра Васілеўскага, Міколу Гроднева, Галіну Васілеўскую, тэатральнага рэжысёра Барыса Луцэнку, дачку Андрэя Ягоравіча Алу Гаўрыловіч і сына Сяргея, братоў Івана Ягоравіча і Леаніда Ягоравіча. Перарэзаў тады чырвоную стужку І. Чыгрынаў разам з першым сакратаром ГК КПБ А. Андрэевым, і музей прыняў першых наведвальнікаў.

Прайшло амаль чвэрць стагоддзя з таго часу, а музей жыве, і я, бываючы на Рагачоўшчыне, абавязкова наведваю яго. Сярод экспанатаў, сабраных там, — дзясяткі афіш і праграмак спектакляў на мовах народаў былой нашай шматнацыянальнай краіны і свету, выданне п'ес, асабістыя рэчы драматурга. Вось здымкі. На іх Андрэй Ягоравіч з сябрамі-пісьменнікамі, з маці першага касманаўта планеты Юрыя Гагарына — Ганнай Цімафееўнай. Змешчаны ў музеі партрэты маці драматурга Маланні Міхайлаўны, бацькі Ягора Сяргеевіча. Прыцягваюць увагу рукапісы драматурга, а таксама кнігі з аўтографамі, якія ў свой час былі падараваны Андрэю Ягоравічу. Яны — ад сяброў па пяры: Івана Мележа, Янкі Брыля, Пімена Панчанкі, Максіма Лужаніна, Генадзя Бураўкіна… І. Шамякін падараваў свайму паплечніку і сябру ўсе свае выданні. Ім вельмі рана было наканавана стаць музейнымі экспанатамі.

Падоўгу затрымліваюцца наведвальнікі ля карцін, на якіх намалявана хата, у якой жыў Макаёнак, старая Журавіцкая школа, дзе ён вучыўся. Тут жа бюст драматурга, вялікі партрэт, з якога глядзіць удумлівы, прыгожы чалавек…

Пройдзе час, і на вясковай плошчы землякі ўстановяць помнік драматургу.

Ёсць у музеі і мой экспанат, чым я, безумоўна, ганаруся.

За два гады да акрыцця музея, у 1984 годзе, я таксама пабываў у Журавічах, занатаваў успаміны тых, хто добра ведаў Андрэя Макаёнка, каму было што прыгадаць. І таму сёння ўдзячны лёсу, што паспеў гэта зрабіць, бо людзі — не вечныя. Запісанае ж — застаецца…

Хвядос Цімафеевіч Румянцаў, на той час настаўнік-пенсіянер:

— Хоць я выкладаў не літаратуру, а хімію і біялогію, Андрэй у школьныя гады часта прыходзіў, пытаўся: «А не чыталі?..» Да чытання ён быў мастак. Пагаворым. Абмяркуем. Ён недалёка ад школы жыў. Тая хата і сёння стаіць. Яе купілі Макаёнкі, калі пераехалі з вёскі Борхаў. Бацьку, Ягора Сяргеевіча, прызначылі тады акурат старшынёй журавіцкага калгаса. Добра помню, як паказаў мне Андрэй сваю першую п'есу. Не цярпелася ведаць яму — ці спадабаецца? П'еса, шчыра скажу, мне спадабалася. Толькі некалькі пытанняў усё ж мелася… І адно з іх: «Чаму ты, Андрэй, пра французаў напісаў? Хіба ў нас герояў сваіх мала?»

Ён усміхнуўся, прамовіў у адказ: «І пра вас напішу!» Напісаў. І добра напісаў. А потым тая першая п'еса — «На досвітку» — была пастаўлена, і я парадаваўся за свайго былога вучня ад шчырага сэрца.

Любіў Андрэй Ягоравіч парыбачыць. Ехалі мы на Дняпро, ён там усе мясціны ведаў — нарадзіўся ж, лічыце, ледзь не на самым беразе ракі. У мяне звычайныя вуды, у яго — спінінг. Запомнілася, як аднойчы, падчапіўшы шчупака, крычаў Макаёнак на ўвесь бераг: «Злавіў!» Радаваўся, бы малое дзіця. Умеў ён радавацца… У мяне на кніжнай паліцы два томікі ягоных твораў стаяць. Часта бяру ў рукі, перачытваю. І быццам з самім Андрэем размаўляю…

Праскоўя Васільеўна Гатальская, на той час загадчыца мясцовай аптэкі:

— Помню сорак чацвёрты год. Я вучылася тады ў сёмым класе. Камсамольскі білет мне ўручаў Андрэй. Вы прабачце, што я ў размове ўсё Андрэй ды Андрэй… Яго ўсе ў нас так называлі. Нават тады, калі ўжо вядомым пісьменнікам стаў. Бо свой жа ён быў і ёсць. Прывёз неяк паказаць нам сваю п'есу. З Мінска артысты былі. Калі пачалі яны граць, адзін чалавек, пазнаўшы сябе ў адмоўным героі, дэманстратыўна падняўся і пакінуў залу. А выпісаны ж ён быў як на партрэце. У «Лявонісе на арбіце», да слова сказаць, мы ўсіх герояў пазналі, хоць былі схаваны яны драматургам пад іншымі прозвішчамі. Наш, наш ён пісьменнік. Журавіцкі.

Галіна Рыгораўна Мацвейчык, на той час настаўніца-пенсіянерка:

— У 1952 годзе памёр мой бацька, дырэктар мясцовай дзесяцігодкі. З Андрэем яны былі ў добрых адносінах. Таму паведамілі яму аб напаткаўшым нас горы, хоць і не спадзяваліся, што прыедзе. Калі яму там? Чалавек заняты. А ён прыехаў. На магілках слова сказаў, пасля нас суцяшаў. А бываючы ў Журавічах, абавязкова заглядваў. Паедзе — і сумна. Бы страчана нешта.

Вера Уладзіміраўна Волкава, на той час настаўніца-пенсіянерка:

— Андрэй сябраваў з маім братам Колем. Нярэдка разам урокі рабілі, а потым падоўгу разглядвалі картачкі, якія самі рабілі. Разглядваюць і смяюцца: «На каго гэта мы падобны, а?» А пазней і добра ў іх пачало атрымлівацца. Коля на Курскай дузе загінуў. Дваццаць тры гады было яму… І не помню я такога выпадку, каб, будучы ў нашай вёсцы, не забег Андрэй да нас. Пасядзіць крыху, Колю ўспомніць, разам з намі пасумуе-пабядуе і заспяшаецца. Вядома ж, багата ў яго людзей, да якіх хацелася зайсці. Яму ў кожнай хаце былі рады.

Успаміны, успаміны… Пра журавіцкі перыяд жыцця Андрэя Макаёнка расказаў мне ў свой час і былы сакратар РК КПБ Адам Васільевіч Кузьмянкоў, які тады жыў у Рэчыцы. У сваім пісьме да мяне ён апавядаў: «Здарылася так, што Андрэй Макаёнак стаў адным з маіх першых журавіцкіх знаёмых — у 1944 годзе я быў пераведзены з Кармы ў Журавіцкі РК КПБ. Былы камандзір партызанскага атрада імя Сталіна Я. І. Штапенка прадставіў мне зусім яшчэ маладога прыгожага хлопца. У камандзірскім кіцелі, апіраўся на драўляную кавеньку. Андрэй, прыемна ўсміхнуўшыся, паціснуў мне руку, па-вайсковаму коратка прадставіўся:

— Ваенрук сярэдняй школы Андрэй Макаёнак!

Я, помню, заўважыў, кіўнуўшы на кавеньку:

— А гэтая рэч не перашкаджае быць ваенруком?

— Не магу развітацца пасля шпіталя, — адказаў, крыху сумеўшыся, Макаёнак. — Магу і выкінуць. Прывычка. Хоць іншы раз… падтрымліваю ёй асколкі. Гэтага багацця ў маіх нагах хапае.

Быў красавік. А ў сярэдзіне мая ў раён прыехаў сакратар ЦК ЛКСМБ К. Т. Мазураў. Размова зайшла пра першага сакратара райкама камсамола. У мяне нарадзілася думка рэкамендаваць на гэтую пасаду Андрэя. Неўзабаве з нашым накіраваннем Андрэй паехаў у Нова-Беліцу, дзе знаходзіўся тады ЦК ЛКСМБ. Назад вярнуўся першым сакратаром. За новую работу ён узяўся з уласцівай яму энергіяй. Па ягонай ініцыятыве і пад ягоным кіраўніцтвам былі створаны атрады па дастаўцы з Рагачова зерня, насеннай бульбы. Вазілі на худых конях, насілі нават на плячах у звычайных торбах і клунках, а гэта ж амаль сорак кіламетраў



*На гэтай вуліцы першыя літаратурныя крокі Андрэя Макаёнка.*

у адзін бок. Аднойчы камсамольцы даставілі з Рагачова сорак тон бульбы. А потым перакопвалі рыдлёўкамі зямлю, цягалі плугі, бароны на сабе. Чым, калі не подзвігам, можна назваць усё гэта?»

Пазней шляхі-дарогі драматурга і Адама Кузьмянкова сыходзіліся і разыходзіліся. Андрэй Макаёнак быў накіраваны на камсамольскую працу ў Гродна, адкуль па сямейных абставінах перабраўся ў Магілёў, працаваў там загачыкам парткабінета гаркама партыі.

«Неяк быў у Журавічах, а ён заўсёды па-бацькоўску апекаваў сваіх сямейнікаў, завітаў да мяне, — працягваў Адам Васільевіч. — Расказаў, як у Магілёве яго абрабавалі і распранулі нейкія нягоднікі. Пасля гэтага працаваць у Магілёве, кажа, для мяне гнятліва. Я параіў вярнуцца ў Журавічы, прапанаваў яму пасаду памочніка сакратара райкама партыі. Андрэй пагадзіўся. Быў ён, заўважу, вострым, трапным на слова чалавекам, вялікім фантазёрам, знаходлівым, жыццярадасным. Добра маляваў. Асабліва ўдаваліся яму партрэты. У вольны час падзарабляў гэтым, чым дапамагаў сям'і матэрыяльна.Тады ж пачаў спрабаваць сябе і ў пісьменніцкай справе. Пісаў невялікія п'есы і адпраўляў іх у рэдакцыі газет і часопісаў. Адна з іх, пад назвай «Добра, калі добра канчаецца», запомнілася мне, была надрукавана ў газеце «Чырвоная змена». Гэта натхніла Андрэя, і ён стварыў п'есу «Жыццё кліча», адправіў на конкурс, аб'яўлены Міністэрствам культуры рэспублікі на лепшую аднаактовую п'есу для самадзейных калектываў.

Ішоў час. З Мінска ніякіх паведамленняў. Мне ж быў добра знаёмы народны артыст БССР Ісідар Балоцін. Звязаўся з ім. Неўзабаве ён даведаўся, што п'есе Макаёнка прысуджана другая прэмія.

З таго часу Андрэй пачаў займацца драматургіяй больш актыўна.

Праз пэўны час, а было гэта ў чэрвені 1947 года, мы атрымалі заяўку для накіравання ў партыйную школу пры ЦК КПБ свайго кандыдата. Я прапанаваў паехаць на вучобу Андрэю. Ён пагадзіўся. Адчуваў: яму цесна становіцца ў Журавічах, яго кліча сталіца, дзе добры тэатральны асяродак.

Праз год мы зноў сустрэліся: у партшколу быў накіраваны і я, у Мінску наша сяброўства працягвалася. У нас з'явіліся нават агульныя сябры і знаёмыя. Сярод іх — Іван Пятровіч Шамякін.

Пасля партшколы партыйным дзеячам Андрэй Макаёнак не стаў. Ён стаў народным пісьменнікам Беларусі. Як кажуць, і дзякаваць богу!»

Нейк падчас адной з сустрэч з Шамякіным (а мае інтэрв'ю з ім друкаваліся ў шэрагу газет і ўвайшлі ў кнігу успамінаў пра яго) зайшла ў нас размова і пра Андрэя Ягоравіча. Якія яны былі сябры — літаратурны свет ведае.

— З Андрэем, хутчэй за ўсё, мы сышліся як землякі, — прыгадваў Іван Пятровіч. — Калі я паступіў у партшколу, ён ужо год там правучыўся. А тады моцна звязалі нас пісьменніцкія справы, якія перараслі ў такое ж моцнае сяброўства. Андрэй быў смелым чалавекам, гарачым... Не ў брыво заўсёды рэзаў праўдуматку, а ў вока. Гэта якасць яго мне сімпатызавала. Такім, відаць, сатырык і павінен быць. Прывяду адзін прыклад. Нехта Каліберау, якога пасля Макаёнак «увекавечыў» у камедыі, вынюхаў, што слухач Дзялец Міхаіл Іванавіч, будучы старшыня Камітэта па друку, пры паступленні ў партыю на фронце скрыў, што ў калектывізацыю бацька яго «абкладаўся па цвёрдаму», лічыўся падкулачнікам. Мішу пагражала выключэнне са школы, з партыі. Андрэй рашуча выступіў у абарону Дзяльца. А як распаліліся страсці! Бегалі нават у ЦК. Але прыйшоў Зімянін, другі сакратар ЦК, і падтрымаў групу Макаёнка. Дзяльца ўратавалі. І Міхаіл пасля ўсё жыццё быў удзячны Андрэю. А так лёгка каліберавы маглі зламаць лёс чалавека.

Шкада, што Андрэя не стала так рана. І мне, яго сябру, прыемна, што ў мінулым годзе ў Журавічах адкрылі помнік вялікаму камедыёграфу і ўвогуле хораша адзначылі яго васьмідзесяцігоддзе.

Журавіцкі перыяд жыцця будучага народнага пісьменніка, трэба заўважыць, не быў усцяж усцелены ружамі. І ён шчыра прызнаваўся ў адным з пісьмаў сябру і таксама будучаму пісьменніку Пятру Васілеўскаму: «Жыццё дыктуе свае законы, даводзіцца падпарадкоўвацца». Прызнаецца словамі Міхаіла Зошчанкі. З тых жа пісьмаў не цяжка даведацца, што не надта падабаецца Андрэю Макаёнку райкамаўская пасада. Не Журавічы — работа… Хаця і Журавічы… у іх, гэта падкрэсліваў і Адам Кузьмянкоў у сваіх успамінах, рабілася цесна Макаёнку — яго вабіла прыгожае пісьменства, усё больш і больш авалодвала ягонымі думкамі і пачуццямі, моцна брала ў палон. І ён паедзе з гэтага прыгожага, дарагога сэрцу мястэчка. Але ж ці назаўсёды? Назаўсёды сюды ён вернецца. Вернецца славутым пісьменнікам.

* * *

Колькі год назад разам з аднакласнікам Міколам Бондаравым, які на той час працаваў дырэктарам саўгаса «Зарэчча», мы спыніліся паблізу в. Старае Сяло — якраз на тым месцы, дзе некалі была «будка» (звычайная драўляная хата) «на дзвесце трынаццатай вярсце» бацькі Міхася Лынькова, рабочага-чыгуначніка. Голае месца. Лапік зямлі. Падумалася: а можа б які слупок з шыльдачкай паставіць, каб жыла памяць даўжэй? Для нашчадкаў. Для тых жа турыстаў.

Народны пісьменнік Беларусі Міхась Лынькоў, як вядома, дзіцячыя і юнацкія гады правёў на Рагачоўшчыне. У 1907 годзе сям'я Лыньковых і пасялілася ў той «будцы». Міхась быў старэйшы ў сям'і. Будучы пісьменнік вучыцца пачаў у мясцовай школе, якую скончыў у 1910 годзе, атрымаўшы ў якасці ўзнагароды за добрую вучобу кнігу М. Гогаля «Вечары на хутары каля Дзіканькі». Па прапанове настаўніка бацькі пасылаюць Міхася ў двухкласнае вучылішча пры Рагачоўскай настаўніцкай семінарыі. А праз тры гады ён вытрымаў экзамены ў тую ж семінарыю. Намнога пазней, прайшоўшы полымя Грамадзянскай вайны і службу ў Чырвонай Арміі, перахварэўшы на тыф, Міхась атрымае прызначэнне на працу ў сямігадовую школу, што месцілася ў Свержні. К таму часу памёр ягоны бацька, таму, каб маці было крыху лягчэй, Міхась узяў з сабой брата Рыгора, які стаў вучнем той жа школы. Хлопцы самі сабе гатавалі ежу.

Былы вучань Свержаньскай школы Фёдар Лаўрэнавіч Бычынскі, палкоўнік у адстаўцы, успамінаў: «Я быў вучнем пятага класа, калі да нас у школу прыехаў малады настаўнік у чырвонаармейскім абмундзіраванні Міхась Лынькоў. Строгі і патрабавальны, скупы на павышаныя адзнакі, ён адразу заваяваў нашы сімпатыі. Мы палюбілі Міхася Ціханавіча за справядлівасць, павагу да нас, вучняў. Тады не хапала падручнікаў, твораў мастацкай літаратуры, таму Лынькоў наладжваў калектыўныя чытанні. Зімою гэта рабілася ў свабодным класе ці на кватэры настаўніка, якая была пры школе, а ў цёплыя веснавыя дні ўсе мы ішлі ў прыгожы бор, які пачынаўся адразу ж за школай. Міхась Ціханавіч патрабаваў ад нас акуратнасці і дысцыплінаванасці і сам паказваў ва ўсім прыклад, ніколі не спазняўся на ўрокі. Але аднойчы ў панядзелак не прыйшоў у школу. «Адаграваецца», — сказаў нам Рыгор. Аказалася, на выхадны дзень ён хадзіў да маці ў Старое Сяло, гэта кіламетраў каля дваццаці ад Свержня. Вяртаючыся назад, у лесе патрапіў на ваўкоў, і тыя загналі яго на дрэва, дзе наш настаўнік прасядзеў да раніцы».

На старасельскіх могілках пахаваны бацька і маці Лынькова. У маі 1925 года акруговы камітэт Кампартыі Беларусі накіраваў актыўнага селькора газеты «Камуніст» на працу ў гэтую рэдакцыю. Міхась Ціханавіч пераехаў у Бабруйск. Праз год ён забраў да сябе Рыгора са Свержня, які ў будучым таксама стане вядомым літаратарам. Рыгор Лынькоў не вернецца з поля бою Вялікай Айчыннай вайны.

Памяць пра аўтара шырокавядомай аповесці «Міколка-паравоз» жыве на Рагачоўшчыне. Яго імя носіць вуліца, а ў абласным цэнтры — каледж чыгуначнікаў.

* * *

Пра Уладзіміра Караткевіча і Рагачоўшчыну шмат напісана. Як адзначае адзін з даследчыкаў яго творчасці Анатоль Верабей, для яго Рагачоў быў такім месцам, як для А. Пушкіна Болдзіна ці для Я. Купалы Акопы. Тут была пачата яго ранняя паэма «Зямля дзядоў», напісаны шматлікія вершы, тут ён працаваў над многімі празаічнымі творамі. Заўсёды ўтульным і гасцінным для У. Караткевіча быў у Рагачове дом па вуліцы Чкалава, у якім жыў яго дзядзька Ігар Васільевіч Грынкевіч. У лісце да Янкі Брыля 21 жніўня 1959 г. ён пісаў: «Амаль месяц быў у Рагачове. Вось і ўвесь адпачынак. Зрабіў другую кнігу вершаў («Вячэрнія ветразі»), напісаў некалькі новых вершаў і, здаецца, не зусім дрэнных. І яшчэ рыбачыў, рыбачыў, рыбачыў…

Люблю Дняпро, як вершы, нават змялелы, абязрыбелы, з дубамі, якія паспяхова пускаюць на дравішкі.

Не бачыў Нёмна, але думаю, што Дняпро ля Рагачова не горшы. Ён, мне здаецца, больш першабытны. Глiністыя, пясчанікавыя, сланцавыя адхоны. Крыніцы выбіваюцца з-пад іх, шастае трава. Так і здаецца, што зараз з’явіцца над ракою табун дзікіх коней. І месяц чырвоны, нізкі.

А вышэй ад горада лясы ідуць і вёскі на адхонах такія, што сэрца заходзіцца ад замілавання. Адны Кісцяні чаго варты!

І мые ён берагі, мые. Дубы вымывае, старыя, варожскіх часоў. Я напэўна рыбаком стаў бы, каб не пісаў. Падабралася ў нас кампанія: я ды дядзька, ды два яго сябры, Мікола ды Пятро. І што мы нарагаталіся, што разыгралі адзін аднаго, што юшкі насёрбаліся!

І галоўнае, кожны дзень — гэта тысячы адкрыццяў».

Дарэчы, у рамане «Леаніды не вернуцца да Зямлі» пазнаецца Рагачоў, а дзядзька У. Караткевіча стаў прататыпам галоўнага героя Андрэя Грынкевіча. Тут напісаны многія раздзелы рамана «Каласы пад сярпом тваім», навела «Ладдзя роспачы», дзе расказвалася пра сярэдневяковага жыхара Рагачова Гервасія



*Вяртанне духоўных святынь.*

Выліваху. Тут ён заканчваў раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і аповесць «Чазенія». Тут… І гэты пералік можна працягваць.

Уладзімір Сямёнавіч маё Прыдняпроў'е таксама называў сваім. Што асабліва прыемна.

* * *

У канцы мінулага стагоддзя ў Рагачове быў створаны цудоўны літаратурны музей «Пісьменнікі-землякі». Гэтаму спрыяла не толькі шчодрая на таленты прыдняпроўская зямля, але і захопленасць аднаго чалавека — энтузіяста, таленавітага педагога і паэта Уладзіміра Немізанскага. Сам родам з Віцебшчыны, ён, выпускнік педінстытута, а потым камсамольскі работнік, пераехаў на радзіму жонкі. І прыжыўся тут трывала — назаўжды, як прызнаваўся сам. Доўгі час працаваў выкладчыкам беларускай літаратуры ў мясцовым педвучылішчы. Таму і літаратурны музей, вядома ж, быў створаны на базе гэтай навучальнай установы. Як жа ствараўся ён, гэты музей? Уладзімір Львовіч збіраў матэрыял па крупінках, гэта не сакрэт. Наведваў пісьменнікаў, іх сваякоў, сяброў, працаваў у рэспубліканскім архіве літаратуры і мастацтва, у галоўнай бібліятэцы нашай краіны. Вёў перапіску. Сачыў за перыядычным друкам. Набываў кнігі землякоў у крамах, кіёсках. Канечне ж, не ўсё лягло на плечы аднаго У. Немізанскага. Побач аказаліся і надзвычай своечасова сябры-аднадумцы: настаўнік Аляксандр Лейкін, супрацоўнік раённага музея Аляксандр Рыкуноў, настаўнік Уладзімір Бандарэнка, былы кіраўнік Рагачоўскага краязнаўчага цэнтра Марат Гаравы, загадчыца дзіцячай бібліятэкі Нінэль Падгурская. Дапамагалі, вядома ж, і навучэнцы педвучылішча.

Вельмі ўдзячны быў У. Немізанскі таксама сваякам пісьменнікаў — унучцы Міхася Лынькова Ірыне, брату Мікалаю Ціханавічу, сястры Уладзіміра Каратке-

віча Наталлі Сямёнаўне Кучкоўскай, цётцы Галіне Мікалаеўне Грынкевіч, дачцэ Фёдара Куляшова Наталлі Фёдараўне Паповай, жонцы Фёдара Янкоўскага Серафіме Андрэеўне і многім іншым.

Шырока прадстаўлены ў музеі, канечне ж, Андрэй Макаёнак. Афішы, праграмкі, кнігі… Уладзімір Львовіч перапісваўся з некаторымі тэатрамі, дзе ставіліся п’есы не толькі Андрэя Ягоравіча, але і іншых драматургаў-землякоў. Дык вось, напрыклад, з Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа даслалі, акрамя афіш, фотаздымкі са спектакляў па п’есах А. Макаёнка, з Брэста — газетныя рэцэнзіі, нават магнітафонны запіс размовы слыннага драматурга са стваральнікамі спектакля «Верачка».

Нарадзіўся ў Рагачове, як вядома, празаік і драматург Уладзімір Мехаў, аўтар шматлікіх пастановак на радыё і тэлебачанні, а ў в. Ямнае — паэт і празаік Мікола Купрэеў, у в. Старая Алешня — паэт Мікола Старчанка. Сярэднюю школу ў рабочым пасёлку Беліцкае заканчваў будучы лаўрэат шматлікіх літаратурных конкурсаў паэт Мікола Чарняўскі. У раённай газеце працаваў вядомы паэт Анатоль Вярцінскі.

Да самых апошніх дзён свайго жыцця У. Немізанскі (яго не стала ў 2000 годзе) перапісваўся з лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі, чалавекам шчодрай душы Аленай Сямёнаўнай Васілевіч, для якой Рагачоў, дзе яна скончыла настаўніцкі інстытут, застаўся самым светлым успамінам юнацтва. Яна шмат чым папоўніла фонд музея. І самы каштоўны, мусіць, экспанат — заліковая кніжка студэнткі А. Васілевіч 1939—1941 гг.

Пра ўнучку Міхася Ціханавіча Лынькова я згадваў. Ды не лішне будзе дадаць, што яна даслала ў музей такія асабістыя рэчы дзеда, як запісная кніжка, нататкі, прывезеныя з сесіі ААН, тры фотакарткі, зробленыя Лыньковым: ён, як вядома, быў заўзятым фотааматарам.

Размаўляючы неяк з Уладзімірам Львовічам, я, помню, пацікавіўся ў яго: відаць жа, трапляюць у музей экспанаты і самым непрадбачлівым, непрадказальным чынам? Ці былі такія выпадкі? Ён адразу ж неяк ажывіўся, усміхнуўся ў свае кароценькія вусікі і прамовіў: «Яшчэ колькі! І гэта вельмі шчаслівыя асабіста для мяне выпадкі. Вось колькі прыкладаў. Бабуля распальвае печ газетамі — старымі, пажоўклымі… Але што гэта за выданне? 1943 год. «Раздавім фашысцкую гадзіну!» Арыгінал. З фельетонам М. Лынькова. Ну дзе яшчэ можна было адкапаць такі матэрыял? А бібліятэкар нашага вучылішча Людміла Міхайлаўна Купрэева прынесла рэдкую (і, здаецца, адзіную ў пасляваенны час) кнігу Ядвігіна Ш. 1946 года выдання. Вельмі каштоўны, пагадзіся, экспанат. Хіба ж я разлічваў на яго? Безумоўна — не. Але жыццё паднесла прыемны сюрпрыз.

Мала хто можа пахваліцца, што мае кнігі аднаго з заснавальнікаў савецкай яўрэйскай паэзіі, кавалера ордэна Леніна Самуіла Галкіна (ён таксама нарадзіўся ў Рагачове). Мой добры сябра Уладзімір Бандарэнка адпачываў неяк у санаторыі, дзе ў размове з артысткай Гродзенскага абласнога драмтэатра даведаўся, што ў яе ёсць кніга Галкіна з серыі «Бібліятэка савецкай паэзіі». Пасля яна даслала яму гэтую кнігу, а ён перадаў у музей».

Асобна хочацца сказаць пра Міхаіла Расолава, члена Саюза пісьменнікаў Расіі, доктара юрыдычных навук, які нарадзіўся ў вёсцы Ціхінічы. Ён не толькі перадаў у музей свае кнігі, але і паспрыяў выданню кніг рагачоўцаў — таго ж Уладзіміра Немізанскага, а таксама Васіля Дружкова і Юрыя Арыстава ў Маскве, а пасля там жа пабачыў свет і калектыўны зборнік паэтаў-землякоў «Вдохновение».

У Рагачове доўгі час жыў і працаваў пісьменнік Мікола Янчанка, сёння там актыўна шчыруе на літаратурнай ніве Міхась Сліва (Кавалёў).

Не без гонару згадаю, што Рагачоўшчына — радзіма вядомага беларускага празаіка Валерыя Гапеева, а мая цётка, Лідзія Трафімаўна, бацькава сястра, вучыла яго ў пачатковых класах Балатнянскай сярэдняй школы. Як, дарэчы, ненамнога раней вучыла і былога губернатара Гомельскай вобласці Мікалая Рыгоравіча Вайцянкова.

* * *

Часта згадваю Аляксея Ігнатавіча Сількевіча, былога рэжысёра Рагачоўскага народнага драматычнага тэатра. Хударлявы, з прыгожым смуглявым тварам, разважлівы... Такім ён і застаўся ў маёй памяці. Ні жонка Марыя Сямёнаўна, ні самадзейныя артысты, ні многія рагачоўцы — а хто яго не ведаў у райгарадку, ды і ў самім раёне, скажыце? — не могуць і сёння змірыцца з думкай, што Сількевіч адышоў у іншы свет. Яшчэ хоць бы і таму, што ў свае семдзесят з невялікім выглядаў молада, сачыў за здароўем, як, можа, рэдка хто гэта робіць. А чалавека не стала. Гэта страта. Не толькі для сям'і і сяброў — для культуры, для мастацтва.

Аляксей Сількевіч быў трэцім рэжысёрам народнага тэатра раённага Дома культуры, які быў створаны праз два гады пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны. Званне народнага, вядома ж, адразу не даюць, яго трэба заслужыць, тэатр быў уганараваны ім у 1962 г., калі калектыў узначальваў вядомы на той час рагачовец, заслужаны артыст Марыйскай АССР К. Катлінскі. У 1972 годзе ён перадаў тэатр маладому і апантанаму Сількевічу. Перадаў, як і спадзяваўся ветэран прафесійнай і самадзейнай сцэны, у надзейныя рукі. Час паказаў: не памыліўся, так яно і атрымалася. І нават стаўшы пенсіянерам, Сількевіч яшчэ некалькі год узначальваў тэатр, дапамагаў у ходзе рэпетыцый карыснай парадай свайму пераемніку.

Так сталася, што ў народны тэатр як драматург я прыйшоў пасля прэм'ер у Магілёўскім («Сівы бусел») і ў Гомельскім («Вокны») абласных драматычных тэатрах. Для пастаноўкі Аляксей Ігнатавіч выбраў камедыю «Лесвіца». Я, вядома, быў на прэм'еры, захапляўся дзеяннем на сцэне і майстэрствам самадзейных артыстаў Людмілы Салавай, Яўгена Шыца, Юрыя Хаткевіча, Ніны Сурначовай і іншых. А потым да глыбокай ночы адзначалася прэм'ера. Рагачоўскія тэатралы стварылі свята для жыхароў горада і для саміх сябе. Трэба было бачыць, як радаваліся яны! Радаваліся поспеху на сцэне, радаваліся жыццю.

У рэпертуары тэатра рагачоўцаў за час яго існавання былі п'есы беларускіх і іншых вядомых драматургаў: «Прымакі» Я. Купалы, «З народам» і «Людзі і д'яблы» К. Крапівы, «Альпійская балада» паводле аповесці В. Быкава, «Выгнанне блудніцы» І. Шамякіна, «Трывога» А. Петрашкевіча, «Апошні ўзлёт» А. Дударава, «Вясёлыя, бедныя, багатыя» Г. Марчука, «Іван і мадонна» А. Кудраўцава, «Крык на хутары» У. Бутрамеева, «Барабаншчыца» А. Салынскага, «Валянцін і Валянціна» М. Рошчына, «Салдацкая ўдава» М. Анкілава, «Дзённік жанчыны» К. Фіна... Уражвае спіс шаноўных аўтараў і іх твораў, хіба не так?

Аляксей Сількевіч да апошняга дня вучыўся. У творчай дзейнасці няма межаў, і ён помніў пра гэта. Кожны раз, калі Гомелю выпадала праводзіць «Славянскія тэатральныя сустрэчы», ён сяліўся на час гэтага відовішча — за свой кошт, вядома ж — у гасцініцы, наведваў спектаклі, прымаў удзел у іх абмеркаванні. Збіраўся нешта ставіць і сам… Не паспеў...

* * *

На літаратурнай карце нашай краіны Рагачоўшчына, як бачым, займае годнае месца. Скрозь жылі тут таленавітыя людзі. І тым, хто нейкім чынам спрачыніўся да гэтага цудоўнага кутка беларускага Прыдняпроўя, застаецца не толькі ганарыцца гэтым, але і ўшаноўваць, берагчы памяць пра сваіх славутых землякоў. Бо гэта, пагадзіцеся, вялікае шчасце, — хадзіць па тых сцежках, па якіх некалі хадзілі і яны.